**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стыльрэдактар: *А.І. САЛАМЕВІЧ*

Падпісана да друку 20.06.2016. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 16,72. Тыраж 1450 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 22 100 руб. (2 руб. 21 кап.)

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

*Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.*
*Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.*




## Досця Звяздоўская

# Нашы на Аматэрасу

Вакол Палаца культуры прафсаюзаў — ажыўленне. Дзяўчына з сінімі валасамі стаіць на прыступках, пераступае з нагі на нагу. Чакае кагосьці. Ці не нас?

— Скажыце, — пытаемся, заўважыўшы белы бэйдж валанцёра. — Як нам прайсці на…

— Аматэрасу? — жыва падхоплівае дзяўчына. І падрабязна тлумачыць: трэба прайсці за будынак, праверыцца па спісе і атрымаць свае бэйджы.

Ідзём правярацца. Мы такія не адны — на школьную парту, засыпаную ламініраванымі квадрацікамі паперы, напіраюць ахвотныя. Побач, сціпла апусціўшы вочы, у доўгай пышнай сукенцы стаіць хуманізаваная поні з мультсерыяла пра магію сяброўства. На пляцоўцы за намі з крыкамі сходзяцца ў двобоі на катанах дзве дзяўчынкі ў матросках. Гэта фестываль, які кіпіць і бурліць за сценамі, патроху вылузваецца, выліваецца вонкі.

Між тым нас нарэшце знаходзяць у спісе. Чапляем на запясці жоўтыя палосы паперы, на шыі — бэйджы з паметай «СМІ», якія на сёння будуць ключом ад усіх дзвярэй. Пачуваемся так, быццам атрымалі Пулітцара, не меней.

***Даведка***

«Аматэрасу-2016» — фестываль азіяцкай культуры і анімэ, які праходзіў 22 мая ў Мінску. Гэты фестываль — пяты, юбілейны.

Суровы сек'юрыці адчыняе перад намі дзверы, прапускае ў вузкі калідорчык. Прабіраемся ў паўцемры, якая пахне лакам для валасоў і трошачкі — локшынай хуткага прыгатавання (усюды жыццё!). Ідзём на чалавечыя галасы, на рух, на тупат, на колеры і святло.

А галасоў ды руху, святла ды колераў — шмат. Аглушае, асляпляе, ашаламляе.

— …бачыш, вось таму рогі нельга проста на дрот прымацоўваць…

— Ды не хвалюйся ты, пройдзеш, пройдзеш. Бокам толькі.

— …людзі, а дзе тут пакой сто трыццаць пяць, а?

Прамінаем грымёркі. Зазіраем мімаходзь: там узбіваецца пяшчотная пена ніжніх спадніц, і смех гучыць, і хтосьці надзявае агромністыя белыя крылы, а камусьці на галаву падае велізарная сякера — дзякуй Богу, з кардону. Усе занятыя, усе апантаныя, радасныя, бадзёрыя і жывыя. Хвалююцца, спяшаюцца. Бегаюць, быццам метэоры, дзяўчаты і хлопцы з белымі бэйджамі валанцёраў, адных супакойваюць, другіх накіроўваюць.

— Вам дапамагчы? — гэта адзін з белых бэйджаў — нам.

За гэтую саломінку хапаемся з радасцю.

— Нам бы, — кажам. — Адсюль…

Лёгкім узмахам рукі нам пракладаюць шлях праз калідор. Праходзім праз шкляныя дзверы, прамінаем фотазону, дзе пакуль народу амаль няма, праходзім паўз стэнд з тэматычным хэндмэйдам ды вершамі (апошнія, зрэшты, ці не хэндмэйд таксама?). І, затрымаўшы дыханне, з разбегу даём нырца ў натоўп.

У вестыбюлі шуму, і смеху, і тупату яшчэ болей. Наладжваюць манітор для гульні «Dance Dance Revolution», і вакол п'едэстала ўжо патроху збіраюцца цікаўныя. Абмяркоўваюць танцавальны марафон, які мусіць у хуткім часе распачацца. Побач раскладваюць кніжкі коміксаў — і вочы разбягаюцца ад яркіх вокладак, ад назваў. Адразу ж кідаецца ў вочы томік «Братоў Карамазавых» з малюнкамі за аўтарствам Касуке Маруа, і рука сама цягнецца, каб узяць, паглядзець бліжэй.

Тут жа стракацяць разнастайныя фігуркі персанажаў, і маскі японскіх духаў-ёкаяў, і абавязковыя кашэчыя вушкі, і тэпці-лапы, і многае, многае, многае яшчэ. У адным куточку — маленькі

філіял раю, шчыльна запоўнены разнастайнымі японскімі прысмакамі ў каляровых абгортках. У другім — грувасцяцца постары з выявамі розных анімэшных герояў, і пухнатыя тотара са слыннага фільма Хаяа Міядзакі, і нават сам славесны Біл Сайфер, аднавокі жоўты трохкутнік, назірае за наведвальнікамі. У дальнім кутку вакол стала сабраліся аматары настольных гульняў «Dungeons&Dragons» і, здаецца, якраз змагаюцца з чарговым увасабленнем сусветнага зла. Ад усведамлення гэтага адразу ж пачуваешся ў бяспецы: сусветнаму злу сюды не прайсці.

А са сцен вестыбюля глядзяць малюнкі — конкурсныя фан-арты. У розной тэхніцы выкананыя, з рознымі персанажамі з самых розных фільмаў ды коміксаў, але нязменна — з цеплынёй. Увогуле, унутраная цеплыня, любоў да таго, што робіш, адчуваецца тут літаральна ўсюды. У кожным малюнку, у кожным старанна зробленым касцюме, у кожнай дэталі. Ад гэтага мімаволі хочацца ўсміхацца.

Побач нетаропка праходзіць вялікая, у чалавечы рост жоўтая плюшавая цацка. З-пад капюшона глядзіць мілы дзявочы тварык, выбіваюцца зялёныя валасы, а ў руках бялее шыльда «Абдымі мяне». І дзёрзка, і радасна вырашаем скарыстаць з абдымальнай магчымасці — і заадно задаць некалькі пытанняў.

Дзяўчынку ў жоўтым завуць Акі, і на Аматэрасу яна ўжо чацвёрты раз. Улічваючы, што фестываль 2016 года — пяты, юбілейны, нам пашчасціла натрапіць на сапраўднага тубыльца.

— Я сёння ў касцюме Міку Хатсунэ, — распавядае нам Акі. — З кліпа «Rolling Girl». Пабачыла персанажа — і зразумела: гэта маё. А пасля села за касцюм.

— А колькі часу патрэбна, каб утварыць вобраз?

— Ну, калі як, — Акі паціскае плячыма. — Часам месяц, часам і болей. Сёння я не зусім у касплэі, гэта — кігурумі (строй, выкананы накшталт піжамы або камбінезона. — Аўт.). А так на наступны фестываль планую поўны касплэй.

— Адкуль жа ўзнік сам інтэрас да анімэ?

— Я хварэла, — расказвае Акі. — І сяброўка маёй бабулі прынесла мне дыск з «Нарута». Я спачатку думала: ну, што за блазноцце, не буду глядзець. А пасля пачала, уцягнулася, і вось ужо досыць доўга гляджу анімэ.



Мерыда.

Каля адной з мармуровых калон ціхенька стаіць дзяўчынка з ліловымі валасамі, не без інтэрасу назірае за падрыхтоўкай да танцавальнага спаборніцтва. Мяркуючы па ладным касцюме, дзяўчынка — касплэер спрактыкаваны, таму рашаемся загаварыць.

— А для вас, — пытаем, — ці першы гэта фестываль?

— Трэці, — адказвае ліловавалосая прыгажуня. — Праўда, на першых двух я была ў якасці рэдактара, а гэтым разам — як касплэер. Некаторыя купляюць свае касцюмы ў інтэрнэт-крамах, прычым такія касцюмы могуць быць, скажам так, не дужа высокай якасці. А некаторыя шыюць самі. Вось, напрыклад, у мяне ўсё пашытае самастойна. І на вобраз у мяне пайшло недзе… месяцаў пяць. Плюс, яшчэ, канечне, парык і ўсё астатняе.

Тут мы не можам не здзівіцца ўголас: касцюм у нашай субяседніцы пашыты сапраўды прафесійна і якасна.

— Да касплэя я прыйшла, думаю, тады, — працягвае яна, — калі пабачыла фестываль «Хіган-2014». А анімэ… ну, анімэ люблю з дзяцінства, напэўна, яшчэ з серыяла пра пакемонаў.

Пакуль мы размаўляем, на пляцоўцы для танцавальнага марафону пачынаюцца першыя паядынкі. Грыміць музыка, таропка бягуць каляровыя стрэлачкі. На п'едэстале ўжо весела і бадзёра тупаюць, спрабуючы трапляць у рытм. Над натоўпам паціху разліваецца пах папкорну ды корндогаў, і каля латкоў з ежай амаль адра-

зу ж вырастаюць хвасты чэргаў. У чэргах стаяць дзевяціхвостыя лісы, і прыўкрасныя японскія панны ў кімано, і дзяўчаткі-лаліты, усе ў карунках і кудзерках, і суровыя збройныя рыцары, і — вось гэта тут рэдкасць — простыя смяротныя ў майках ды джынсах. Зрэшты, лёгкі голад, такая жыццёвая канстанта, усіх ураўноўвае.

— А ці ведаеце вы… — таямніча звяртаецца да нас хлопец у чырвонай кашулі. На шыі ў яго металічная ваўчыная галава — медальён ведзьмака з кніжнага цыкла Сапкоўскага (і аднайменнай серыі гульняў).

— Ведаеце, што ў нас тут і кансольная зона ёсць?

Мы дружна адказваем адно: не ведаем. Але даведацца хочам, вядома. Даведвацца пра ўсё, зрэшты, наша работа. Чырвоная кашуля з гатоўнасцю прапаноўвае нам тую запаветную зону паказаць і вядзе ўніз па лесвіцы, да гардэробных стоек.

Тут наладжаны мілы сэрцу любога аматара камп'ютарных гульняў куточак: стаяць вялікія экраны з прыладжанымі прыстаўкамі. На экранах — буяюць фарбы, скачуць і б'юцца каляровыя чалавечкі. Мы не вытрымліваем, хапаем джойсцікі, з апантанасцю змагаемся паміж сабой. На экране бялявы рыцар у сінім плашчы эфектна перамагае мажнога дзядзьку з цыгарэтай у зубах. Яшчэ адзін доказ таго, што паліць — шкодна.

Але наверсе ў галоўнай зале паднялі заслону, таму мы спяшаемся заняць свае месцы. З балкона добра відаць, колькі сярод гледачоў рагатых, і крылатых, і вушастых. Розных, непадобных знешне — але аб'яднаных унутрана. Усе гучна пляскаюць у ладкі, падтрымліваюць тых, хто на сцэне.

У дэфіле дэманструюць самыя розныя вобразы, прычым не толькі з анімэ або мангі. Пад апладысменты і воклічы з'яўляюцца персанажы з коміксаў Marvel, з дыснееўскіх мультфільмаў, з найноўшых анімаваных серыялаў і камп'ютарных гульняў. Дэманстрацыя вобразаў перарываецца песеннымі, танцавальнымі нумарамі. І святло бліскае, і дым паўзе па сцэне, і пяшчотны дзявочы голас прапявае лацінскія словы, упарта змагаючыся са словамі мёртвай мовы.

У перапынку зноў выходзім у вестыбюль. Ад канцэнтраваных уражанняў нават трохі круціцца ў галаве, але гэтае пачуццё радаснае, прыемнае. Міма якраз пралятае адзін з валанцёраўметэораў, і ў нас сяк-так атрымліваецца яго злавіць і разгаварыць. Мэтэора завуць Мікітам, і ён, аказваецца, сапраўдны ветэран анімэ-фэстаў: быў і валанцёрам, і ўдзельнікам-касплэерам не адзін раз.


Танцавальны марафон.

— Гэты фестываль, — расказвае Мікіта, — толькі на адзін дзень. А вось «Хіган» — на два, ён, канечне ж, большы. Там усяго намнога болей. Валанцёрыць жа, увогуле, і цікава, і карысна, бо часам, бывае, не хапае грошай на білет. А так можна быць у курсе ўсіх падзей на фестывалі. Пахадзіць амаль усюды, паглядзець, сфатаграфавацца. Шмат плюсоў, шмат новых знаёмстваў.

— А як для вас усё пачалося?

— Па праўдзе кажучы, нейкага аднаго «першага штуршка» і не было. Проста якраз на пачатку 2000-х паказвалі многа анімэ. Мне тады было чатыры. Першым маім серыялам быў «Sailor Moon», пазней «Круты настаўнік Анідзука» ды «Евангеліён». Пасля, калі мне было гадоў трынаццаць, калі пайшоў «Нарута», тады неяк і ўсё… пайшло. Пачаў даведвацца пра арыгіналы, пра агучку. Недзе ў 2014 годзе пайшоў на першую анімэ-сходку. І мне вельмі спадабалася.

Расказваючы пра касплэй як такі, Мікіта заўважае: многія касплэеры забываюць, што персанаж павінен падыходзіць чалавеку не толькі «па стане душы», але і па «фізічных параметрах». Калі пра гэта забыцца, атрымліваецца не надта добрае ўвасабленне жаданага вобраза.

— А ўвогуле, — раіць Мікіта. — Трэба сацыялізавацца. Знаёміцца. Не сядзець дома самнасам з серыяламі.

Танцавальны марафон зараз у самым разгары, і мы, перапоўненыя цікаўнасцю, вырашаем паспрабаваць уласныя сілы. Далучаемся да шумнай чаргі, не без хвалявання назіраем, як весела танцуюць наперадзе.

— А ў мяне, — дзеліцца з намі дзяўчына, што стаіць побач, чакаючы сваёй чаргі. — У мяне ўвогуле пачуцця рытму няма.

— Нічога-нічога, — супакойвае яе майстар атракцыёна. — Тут галоўнае нават не трапляць у рытм, а рухацца. Рух — гэта жыццё.

Чарга нарэшце даходзіць і да нас. І мы рухаемся, скачам паводле стрэлачак, бадзёра перасоўваючы ногі. Атрымліваецца, па шчырасці, не надта, але мы захоўваем добрую міну пры кепскай гульні і проста працягваем.

Пераводзячы дыханне, стомленыя (але задаволеныя), крочым далей. Зрэшты, крочыць, напэўна, і не абавязкова: здаецца, што натоўп сцісне з бакоў і панясе, нават калі не будзеш варушыцца. У фотазоне натоўп вірue, закручваецца ў спіралі. Паўсюль фота, фота, фота. І мы стараемся не адставаць, схопліваем кадры з цікавымі персанажамі, з побытам фестывалю, з яркімі эпізодамі. Успышка, успышка, успышка.

Ружовая каралеўна з тонкімі крыльцамі і вялікім мячом праплывае побач. Каралеўну, як выявілася, завуць Ліза, і свой досыць складаны касцюм Аўроры з гульні «Дзіця Святла» яна старанна майстравала прыблізна паўгода.

— Для мяне жаданне касплэіць пачалося з комікса «Хоўмстак», — усміхаючыся, успамінае Ліза. — Мне і маёй сяброўцы захацелася прымераць кагосьці з тамтэйшых персанажаў. Ну, а пасля знайшла свой касбэнд — і завірыла вясёлае касплэерскае жыццё…

Тут жа ловім яшчэ адну каралеўну — Мерыду з дыснееўскага мультфільма «Brave». Лук, зялёная сукенка, рудыя кучаравыя валасы. Лёгка можна паверыць, што перад намі той самы дыснееўскі персанаж.

— Мне дужа спадабаўся гэты вобраз, — дзеліцца Мерыда-Надзя. — Вось і захацелася яго прымераць, ён такі класны, такі пазітыўны, зусім як я. Рыхтавалася доўга, дробязі асобныя, калчан, стрэлы ды наканечнікі толькі ўчора заканчвала. Я яшчэ школьніца, вучуся шмат, то даводзілася працаваць над касцюмам у выхадныя дні, літаральна па некалькі гадзін, па частачках рабіць…



Хвост чаргі.

Самае ж галоўнае, лічыць Надзя, ніколі не губляць веру ў сябе, што б ні казалі іншыя людзі. Трэба толькі імкнуцца да сваёй мэты і намагацца з усяе сілы.

А на сцэне ўжо дэманструюць вулічную моду. Не проста адзенне, але — цэласныя вобразы. Арыстакрат-лаліта, класік-лаліта, байкер-лаліта. Апошняя ўражвае як пекнымі ружовымі валасамі, так і неймавернаю харызмаю. Вулічная мода перапыняецца танцамі, танцы — гумарыстычнымі сцэнкамі. Зала рагоча і пляскае, уражаная інтэрпрэтацыяй вядомых тэлешоу з удзелам анімэ-персанажаў.

Аб'яўляюць чарговы перапынак, і натоўп патроху зноў запаўняе вестыбюль і калідоры. Прамінаюць персанажы з нядаўняга мультфільма «Зверапаліс», побач з уваходам праходжваецца сіняя эльфійка з гульні «Warcraft». Чарнакрылы маленькі анёл чапляецца за ўсіх пер'ем,





прадзіраючыся да фотазоны. Фрэдзі Кругер у жаночай іпастасі, дабрадушна паглядаючы вакол, грызе карндог.

Тут жа сустракаем Мэйбл, гераіню вядомага мульт-серыяла «Gravity Falls». Характэрны «мэйблаўскі» світар, і спаднічка, і прычоска, і нават брэкеты. І апрача знешняга падабенства — падабенства ўнутранае.

А ў руцэ ў Мэйбл (што не можа не грэць сэрца) — абардажны крук.

— Я займаюся касплэем тры з нечым гады, — кажа Мэйбл-Саша. — «Аматэрасу» — гэта прасты фестываль, я на яго прыходжу «выгуляцца». А больш складаныя касцюмы раблю на «Хіган». Вось на гэты раз я проста прайшлася па сэкандах, знайшла патрэбныя мне рэчы. Увогуле, я выбрала персанажа не за складанасць касцюма, а таму, што вельмі сімпатызую Мэйбл. Ды і сам вобраз трапляе ў мой настрой.

Саша пазіцыянуе сябе болей не як касплэера, а як майстра-крафтара. Таму звычайна стараецца абіраць касцюмы з самымі складанымі дэталямі. З гэтай прычыны на падрыхтоўку касцюма Сашы звычайна трэба ад двух месяцаў.

— Запаяць, падклеіць, вытачыць, — пералічвае Саша. — На самы мой «цяжкі» касцюм пайшло недзе чатыры з паловай месяцы, прычым там была… лысіна, агромністыя крылы і зброя. Проста я з маленства любіла нешта ўтвараць сваімі рукамі. Зараз я магу рабіць розныя цудоўныя рэчы і аддаваць іх іншым людзям. І, напэўна, на фестывалях я паказваю не «сябе-ў-касцюме», а касцюм на сабе. «Глядзіце, што я магу!»

Парада ад Сашы такая: варта рабіць усё самастойна, не баяцца спрабаваць, перабіраць розныя варыянты. Ствараць-крафціць, шыць, рабіць упрыгожанні:

— Не перадаць словамі тое адчуванне, калі ты выходзіш у касцюме, які зрабіў уласнаручна. Гэта лепей за ўсё на свеце!

Паспяваем яшчэ раз збегаць уніз і пазмагацца за званне гаспадара над пакемонамі ў настольнай гульні. Падкідваем манетку, шпурляем кубікі, пляскаем картамі аб стол, быццам сапраўдныя заўзятыя гульцы. Практыкі, вядома, не стае, але, як мы цвёрда засвоілі яшчэ падчас танцавальных боек, галоўнае — рухацца.

Побач з фотазонай нам нечакана сустракаюцца вядучыя фестывалю — Юфі і Княжа Саталін: гэтая абаяльная парачка таксама вырашыла трохі адпачыць і прайсціся. Не дзіўна, улічваючы, якая на іхніх плячах сёння ляжыць нагрузка. Зрэшты, з гэтым выпрабаваннем яны спраўляюцца годна, нягледзячы на асобныя накладкі з відэа і аўдыярадам.

Падобныя накладкі, як успамінаюць вядучыя, заўжды бываюць на любых мерапрыемствах. У такой сітуацыі важна не згубіцца, стрымацца і працягваць выступаць.

— Ну, а быць вядучым — гэта новы асабісты выклік, — заключае Княжа.

— Гэта, вядома, складаней, таму што ўзнікаюць розныя пытанні з праграмай, розныя тэхнічныя праблемы, — ківае Юфі.

— І ўвогуле, калі ты проста касплэер, ты выйдзеш, тры хвіліны патанчыш — і пайшоў. А калі ты вядучы ты стаіш, стаіш, стаіш…

— …і кантралюеш кожны нумар. Правяраеш па праграмцы. Сочыш, каб усё было правільна, каб усё было добра.

У гэтым перапынку аб'яўлена галасаванне. На белых паперках трэба праставіць нумары тых, хто найболей уразіў у кожнай намінацыі. А намінацый шмат — з тузін. Мы спрабуем згадаць нумары тых, каго найболей упадабалі, некалькі нумароў нават удакладняем у саміх удзельнікаў конкурсу, каб не памыліцца. Патроху пачынаеш перажываць і хвалявацца за тых, хто напоўніцу выкладваўся на сцэне.

Журы раіцца наконт размеркавання месцаў, а таму ёсць вольны час, каб яшчэ раз паспрабаваць свае сілы ў танцавальным спаборніцтве або проста больш ўважліва разгледзець працы мастакоў. Да нашай цёплай кампаніі далучаецца невялічкі тотара.

— Толькі паабяцайце, што будзеце яго добра даглядаць, — просіць нас гандляр.

Мы, натуральна, абяцаем.

Нарэшце журы гатовае аб'явіць вынікі. Усе вяртаюцца ў залу, займаюць свае месцы. Хваляванне змешваецца са стомленасцю, але ўсмешлівыя вядучыя — вось загадка — па-ранейшаму бадзёрыя.

Пераможцы атрымліваюць прызы і авацыі. Яны гэта сапраўды заслужылі: фестываль — гэта толькі адзін дзень, а за кожнаю перамогай, як мы высветлілі, стаіць не меней за месяц-два напружанай, стараннай, нялёгкай працы.

Апладысменты сціхаюць, і чалавечы вір аціхае таксама. Усе пастпова разыходзяцца, знікаюць у пашчы метро, і будынак пусцее, так што пужлівае рэха ад крокаў прачынаецца ў калідорах, гучыць трошкі сумна і самотна.



Гэты фестываль — не проста касцюмы, музыка ды падрыхтаваныя нумары. Фестываль — гэта людзі. Апантаныя, адданыя, таленавітыя. Вельмі жывыя, вельмі яркія людзі.

Людзі, здольныя ўтварыць казку сваімі сіламі, зусім як капітан Грэй з «Пунсовых ветразяў». Прычым не толькі ўтварыць яе — але і дзяліцца ёю. Шчыра, ад усяго сэрца.

І мы, вядома, ні на што не паківаем, але калі раптам хтосьці запытаецца, ці хацелі б мы ў наступным годзе зноў пайсці на «Аматэрасу» па рэпартаж, то, ні на хвіліну не задумваючыся, гучна, у адзін голас мы выгукнулі б:

— Анягож!

Можа быць, нават з касцюмамі штосьці атрымаецца.

Галоўнае ж — старацца.

*Фотаздымкі Марыны Шэвель.*



**Канстанцін Касяк**

# Выжыць. Перамагчы. Перасягнуць.

Ад самага пачатку існавання беларусаў надзённым лозунгам для нашага народа былі тры словы, вынесеныя ў загаловак, — выжыць, перамагчы, перасягнуць. Уласна, гэтым і займаліся ўвесь час, цягам больш чым тысячагадовай гісторыі.

Апошнім часам мы шмат гаворым пра патрыятызм: трэба любіць, шанаваць, паважаць, …, …, …, ганарыцца. Але мала любіць, шанаваць, паважаць, …, …, …, ганарыцца — трэба адпавядаць. Каб не толькі на словах, але і на справах. Пацвярджаць сваю вартасць продкаў. А далей за прыгожыя словы пра любоў да роднага краю справы часцяком нешта не ідуць.

Калі казаць па праўдзе, мы неяк звыкліся з тым, што ў нас заўжды чагосьці не хапае, мы то адстаём, то не паспяваем. Вось гэта сапраўды трэнд — выкрываць, шукаць болевыя кропкі, паказваць хібы. Развучыліся радавацца…

Плаксівасць — гэта яшчэ з тых, нашаніўскіх часоў, калі пускаць нюні аб роднай старонцы было ў модзе. Праўда, розніца ў тым, што тады гэта часам і варта было рабіць — такі быў час, такія ўмовы. Эпоха фарміруе акалічнасці. Цяпер жа румзаць — гэта проста даніна традыцыі, дзіўны парадокс гісторыі, атавізм, які усё яшчэ чапляецца за актуальнасць. Праз, лічы, стагоддзе нічога быццам і не змянілася. Адно і тое ж, як спявае Іowa з Магілёва…

Але калі паглядзець на нашу нядаўнюю (а можна яшчэ і на даўнюю) гісторыю цвяроза, без пакутніцкіх стэрэатыпаў і ружовых акуляраў, то можа паўстаць зусім іншая карціна. Возьмем персанажаў таго самага нашаніўскага перыяду, якія вельмі імпануюць асабіста мне: Вацлава Ластоўскага і Язэпа Дылу. Гісторыя жыцця кожнага з іх — гэта фактычна гісторыя поспеху асобна ўзятага чалавека, які выхоўваўся, развіваўся і дабіваўся свайго ў межах асобна ўзятай нацыі, якая паўставала і заяўляла свае правы на жыццё на развалінах вялізнай і некалі вельмі моцнай імперыі.



Гледзячы на поўны спіс таго, што зрабілі Ластоўскі і Дыла за часы сваёй дзейнасці, воляй-няволяй прыходзіш да думкі, што гэтыя два чалавекі маглі б стварыць нацыю і дзяржаву не толькі на беларускай зямлі, але і дзе-небудзь падалей. Мне падаецца, што калі б такіх персанажаў выкінулі з парашутам над якой-небудзь экзатычнай зямлёй, дзе не бываў раней чалавек, то яны, азнаёміўшыся з бытам і культурай тамтэйшых, маглі б закласці для іх усе неабходныя асновы — ад дзяржаўных інстытутаў да культурных устаноў. Прыдумаць усе неабходныя міфы і паданні.

Але самае галоўнае не ў гэтым. Нават апынуўшыся пад прэсам сталінскай рэпрэсіўнай машыны, арыштаваныя, асуджаныя, у выгнанні — яны не спыніліся. Працягвалі сваю працу на карысць Беларусі. У далёкім Саратаве, у дзікім холадзе, у нечалавечых умовах Ластоўскі ствараў сваю крыўскую Калевалу. Язэп Дыла ў тым жа горадзе пісаў пад псеўданімамі дзіцячыя казкі, раманы, аповесці, успаміны і краязнаўчыя матэрыялы, якія слаў на вялікую Радзіму.

Жыццёвыя прыклады гэтых людзей лепей за любыя матывацыйныя кнігі і семінары (досыць папулярныя цяпер) сведчаць: не бывае ніякіх перашкод і абмежаванняў для творчасці. Галоўнае, правільна абраць мэты і дасягаць іх усімі даступнымі спосабамі. Ні на што не зважаючы.

Выжыць. Перамагчы. Перасягнуць. ■



**Яна Мусвідас**

## Усё яшчэ Яна

А ці любіце вы будаваць прагнозы на будучыню? Я — вельмі. Калі мне было адзінаццаць, я распрацоўвала для сябе нейкія «пяцігодкі». У свае часы ў такія планы-максімумы ўваходзіла: паступіць у Ліцэй БДУ, паступіць на факультэт журналістыкі і гэтак далей. Я была малайчынкай, таму «пяцігодка» за чатыры гады ў мяне заўсёды атрымлівалася.

Не так даўно ў інтэрнэце з'явіліся сайты, якія прапануюць даслаць ліст самому сабе ў будучыню. Сістэма працуе так: вы пішаце ліст, загружаеце яго на сайт, выстаўляеце дакладную дату атрымання, чакаеце.

Ідэя даслаць сабе такі ліст узнікла ў мяне не на пустым месцы. Гэта было дамашняй работай [тут павінна быць месца для падзякі добраму выкладчыку]. Пішу я заўсёды хутка, таму часу шмат не губляю. Тут адбылося як заўсёды. Пачала я з банальнага «Прывітанне», далей таксама нічога арыгінальнага. Праз радок слова «спадзяюся» і ўсё ў тым жа духу.

Пры напісанні я была вельмі асцярожная. Кожны раз лавіла сябе на думцы: а што, калі праз тры гады ўсё радыкальна зменіцца і гэты ліст зробіць мне балюча? Давялося абыходзіць бокам усю канкрэтыку, з-за гэтага атрымлівалася суцэльная вада. Упершыню ў жыцці я зразумела, якой была самаўпэўненай, калі будавала планы на дзесяцігоддзі наперад. Бо я не ведаю нават, што будзе заўтра. Горш за ўсё ад усведамлення таго, што блізкія людзі не заўсёды будуць побач. Не ўпэўненая, што праз тры гады мае прабабулі застануцца бадзёрымі, як сёння, дабрабыт іншых дарагіх мне людзей таксама ніхто гарантаваць не можа.

Няўжо «жывіце сённяшнім днём» — не проста фраза-клішэ?

У адным з маіх любімых фільмаў «Усё яшчэ Эліс» у жанчыны выяўляюць хваробу Альцгеймера, якая ў далейшым імкліва развіваецца. І тым не менш я лічу галоўную гераіню вельмі шчаслівай. У жыцці Эліс было ўсё: кар'ера, поспех, сям'я, а самае галоўнае — было каханне. Думаю, яе пяцьдзясят гадоў атрымаліся паўнавартаснымі, але разумею, што хвароба наўрад ці ўваходзіла ў яе планы і планы яе сям'і.

«Хочаш рассмяшыць Бога — раскажы яму пра свае планы», — гэтую фразу мы ўвабралі разам з першым малаком. Але як жыць без планаў?

Магчыма, я не маю рацыі, але спішам гэта на маю маладосць. Нягледзячы на ўсе высновы, якія я зрабіла ў той вечар, я планую планаваць і далей. Верагодна, я стану крыху менш радыкальнай, але гэта ўсё роўна буду Я.

Усе людзі розныя: хтосьці ўмее жыць «сённяшнім днём», а нехта, падобна да мяне, — толькі «сённяшнім планам». Гэта нармалёва.

Ліст я ўсё ж адправіла: перасіліўшы сябе, напісала пра родных. Папрасіла памятаць пра продкаў. Згадала дакументальны фільм «Фарпост» пра дзіцячы дом на базе манастыра. Ён заўсёды дапамагае мне ацаніць жыццё ў хвіліны засмучэння. Цяпер ліст не дасць мне забыць аб гэтай стужцы нават праз тры гады.

Я не думаю, што людзі мяняюцца, таму подпіс пад маім лістом абвяшчае: «Усё яшчэ Яна».

**Дзмітрый Шулюк**

# Безалкагольны зварот



Вы калі-небудзь слухалі Фрэнка Запу? Гэта штосьці чароўнае. Нават не, слова «чароўнае» гучыць вельмі проста. Самыя звычайныя і банальныя творы захапілі ў палон гэты эпітэт, і я не здолею вырваць яго з учэпістых аднадзённых ды аднахвілінных кіпцюроў. Таму я лепш растлумачу.

Фрэнк Запа — гэта не музыка. Фрэнк Запа — гэта тое, для чаго ў мяне няма слоў. Я накрываю вушы слухаўкамі і быццам трапляю на іншую планету. Туды, дзе ніколі не ступіць нага чалавека. Туды, дзе нават гукі іншыя. Звычайна ў гэты ж час я чытаю што-небудзь з фантастыкі. Але не магу не рабіць паўзаў, каб заплюшчыць вочы і падумаць.

Напрыклад, пра тое, якія дурныя людзі насяляюць зямлю. Яны ўжываюць наркотыкі для таго, каб вылецець з гэтай беднай рэчаіснасці. Каб атрымаць незвычайныя ўражанні і адчуванні. Ці ж не дурні? Гэтая «бедная» рэчаіснасць нашмат багацейшая, чым яны могуць сабе ўявіць. Напэўна, для іх застаецца адно апраўданне: іх асабісты бедны светапогляд, які і прывёў іх да першай дозы. А вось для спажыўцоў алкаголю такога апраўдання няма. Ці, можа, я мяркую вельмі прадузята.

Я ніколі не ўжываў наркотыкаў, таму мне не складана паверыць у тое, што гэтая звычка сапраўды з адной спробы, з аднаго дотыку звязвае чалавека тугімі петлямі і назаўсёды ператварае ў наркамана. Магчыма, так яно і ёсць, магчыма, не. Але я ведаю, што ў алкаголіка так хутка не ператворышся. Я ўпэўнены, што любы чалавек можа змагацца са сваім алкагалізмам — альбо проста з п’янствам.

Ва ўсіх вас ёсць памятныя моманты з дзяцінства. Але не ўсе яны і не ва ўсіх становяцца чымсьці большым, чым проста моманты. Я хачу расказаць адзін выпадак. Той, што вяртаецца да мяне кожную ноч, каб потым не адпускаць днём.

Гэта адбылося вельмі даўно. Дваццаць гадоў таму. Тата прыйшоў забраць мяне са школы. Насамрэч, трэба было зрабіць пэўны ўступ — для таго, каб вы зразумелі мае паводзіны. Хай яны і былі дзіцячымі, але я лічу іх адэкватнымі. І ад гэтага мне робіцца яшчэ горш. Ведаеце, заўсёды так. Адна справа, калі ты штосьці ўтварыў бяздумна, не разлічваючы на эфекты. Тады ў цябе ёсць апраўданне. Слабенькае апраўданне, якое гучыць: «Калі б я мог усё змяніць, я б змяніў». Іншая справа, калі табе вельмі балюча ад твайго ўчынку, але ты ўсё роўна нічога б не змяняў.

Прыкладна за тыдзень да гэтага дня п’яны тата ўпершыню ўдарыў маму. Самога ўдару, самой падзеі я не помню. Зусім. Ведаеце, напэўна, ёсць такія ўспаміны, якія ты не можаш прыгадаць. Разумееш, што гэта сапраўды адбывалася, але вочы адмаўляюцца прызнаваць, што яны гэта бачылі. Таму што помніш не тыя моманты, калі было, а тыя, калі ўжо помніў. Цяжкае нагрувашчванне слоў. Спадзяюся, што вы ўсё ж зразумелі мяне.

Тата ўдарыў маму. Я не ведаю, хто спужаўся больш: яна, я ці ён. Толькі ведаю, што ён амаль імгненна выскачыў за дзверы, а ў мяне застаўся на сэрцы шнар. Думаю, што гэта не зусім метафара. Некалькі дзён тата не прыходзіў дахаты, а потым раптоўна з’явіўся ў школе.

Ішоў апошні перапынак. Я рыхтаваўся да ўрока. Не помню, што гэта быў за ўрок. Помню толькі, як нечакана адчыніліся дзверы і настаўніца сказала:

— Арцём, па цябе тата прыйшоў.

Не ведаю, што ён ёй нагаварыў. Чаму ён збіраўся забраць мяне з урока, таксама не ведаю. І чаму яна адпускала. Кажуць, мы баімся

Дзмітрый Шулюк

***Фрэнк Вінсэнт Запа*** нарадзіўся 21 снежня 1940 года. Пражыў амаль 53 гады і пакінуў пасля сябе багатую творчую спадчыну. Трыццаці трох гадоў дзейнасці яму хапіла, каб праявіць сябе ў якасці мультыінструменталіста, прадзюсара, гукаінжынера, кампазітара, спевака, сатырыка і кінарэжысёра. Усе гэтыя ролі былі не адзінкавымі спробамі, а праяўленнямі выключнага, неабдымнага таленту.

За не самае доўгае жыццё Фрэнк Запа паспеў стаць адным з самых пладавітых кампазітараў: ён выпусціў больш за шэсцьдзясят альбомаў.

На жаль, не ўсім наканавана жыць сто гадоў. Колькі яшчэ мог бы стварыць гэты чалавек? З іншага боку, для каго? Далёка не кожны гатовы ўспрыняць неардынарнасць. А Фрэнк Запа быў сапраўды велічнай неардынарнасцю.

Калі я здолею каго-небудзь зацікавіць, рэкамендую пачаць сваё знаёмства з творчасцю Фрэнка Запы з 107-га выпуску аўтарскай радыёперадачы Барыса Грабеншчыкова «Аэрастат».

*Дз. Шулюк*

толькі невядомага. Часткова гэта так. Напрыклад, тым разам я сапраўды напужаўся. Маленькі хлопчык, я не думаў, не аналізаваў. Проста гэты «сюрпрыз» з'явіўся настолькі непрадказальным, што я заплакаў. Я глядзеў на гэтага чалавека. Глядзеў у яго вочы. У бацькавы вінаватыя вочы. Я плакаў і крычаў:

— Гэта не ён! Гэта не мой тата! Гэта не ён!

За слязьмі я не бачыў, як ягоныя вочы таксама сталі мокрымі. Як ён апусціў галаву і пабег прэч. Я ведаю, што так было. Я ведаю, што я выпадкова, па-дзіцячаму, адпомсціў. І я лічу, што зрабіў правільна. Бо дрэвы судзяць па пладах іх, а дзеянні чалавека па выніках.

Тата не кінуў піць. Але на маму больш рукі не падымаў. А мне спрабаваў не трапляцца п'яным на вочы. Быццам такі своеасаблівы рэфлекс узнік.

Прайшлі гады. Я скончыў школу. Паступіў у Гродзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Знайшоў сяброў. Сапраўдных. Чыя падтрымка на пэўны час ператварылася амаль у мыліцы. Гэта адбылося пасля смерці бацькі.

Быў вечар серады. Я рыхтаваўся да ўніверсітэцкіх спаборніцтваў па шахматах. Гуляў з дзяўчынай на курс вышэй і першую партыю пакінуў за ёй. Пры гэтым здавалася, быццам яна не прыкладае ніякіх намаганняў. Магчыма, ужо тады мая свядомасць затуманілася чаканнем трагедыі. Мы зноў расставілі фігуры на дошцы, я зрабіў першы ход, і ў мяне зазваніў мабільны. Нумар належаў маці, але калі я прыняў выклік, голас аказаўся чужым. Мне паведамілі, што тата памёр. Далей пайшлі дзясяткі слоў пра тое, як гэта адбылося. Пра тое, што зараз трэба рабіць. Я не слухаў. Калі чалавек памёр, то якая розніца, як ён памёр. Я не слухаў, бо я нічога не мог рабіць. Туман у свядомасці ператварыўся ў штосьці большае і захапіў маё цела ў палон.

Я не паехаў на пахаванне. Я не мог. Фізічна не мог. З цяжкасцю падымаўся з ложка, каб зрабіць кавы. Бо кава і сябры былі адзінымі праменьчыкамі для мяне на той час. Я піў каву, і яна адкрывала для мяне свет роўна настолькі, каб я бачыў гэтых блізкіх мне людзей побач.

Так прайшло тры дні. У нядзелю я прыехаў дахаты і адразу пайшоў на могілкі. Пакуль я ішоў, з галавы не выходзіла тая гісторыя, якую я расказаў вам вышэй. Я разумеў, што гэтая смерць — не мая віна. Але памяць балюча сціскала зубы, вочы, кулакі, сэрца. І, знайшоўшы свежую магілку, я не мог не закрычаць: «Гэта не ён! Гэта не мой бацька!»

Цяпер я не ўжываю алкаголь. І не буду ўжо ўжываць. І справа тут не ў здароўі, і, тым больш, не ў якіхсьці высокамаральных прычынах. Проста я баюся. Я баюся, што аднойчы прыйду на чыгуначны вакзал сустракаць сваю каханую. Буду доўга чакаць цягнік. А калі ён прыйдзе, радавацца. Глядзець на маё асабістае сонейка і радавацца. Я баюся, што яна пройдзе міма. Што яна не пазнае мяне. А калі я паклічу яе, паспрабую спыніць — яна заплача і закрычыць: «Гэта не ён!»

…Вы калі-небудзь слухалі Фрэнка Запу? Паслухайце. Нашмат лепей за алкаголь.



Наталля Скарынка

## Звышновая зорка

Выбух, які адзначае, мабыць, смерць…
старога. І нараджэнне чагосьці новага
прысвячаецца адчаю і адначасова —
марам, якія ўсё яшчэ здольныя дыхаць.

***

«… Адзін за адным знікаюць і адыходзяць,
адкажы, што мне рабіць,
я хутка буду тут адзін

адзін за адным згараюць,
усё ператворыцца ў пыл…»
*Akute — Špital*

Цяпер падумайце, каму жывецца цікавей — нам ці зоркам. І перш чым пачаць абражаць гэтыя бліскучыя далёкія нябесныя целы, успомніце, што мы самі пачыналіся менавіта з іх

Я стаю на краі абрыву, слухаючы, як ціха ў небе з'яўляюцца зоркі і млява, быццам з-пад палкі, падымаюцца ўгору густыя белыя аблокі, — такія, як калі б хтосьці іх вышмараваў неонавай фарбай. У галаве круцяцца радкі з Набокава аб тым, што ён бачыць, калі глядзіць у люстэрка пасярод ночы — як за час маруднай, манатоннай працы адвыкае ад сябе і бачыць ужо кагосьці іншага, новага, а праз хвіліну гэтае пачуццё знікае, і ён зноў глядзіць прама сабе ў вочы. Гэта страшна адчуваць. Асабліва — ноччу, у адзіноце.

Быццам бы сімфанічны аркестр прайшоўся па маёй свядомасці — усё грыміць, гарланіць, нешта цвыркае, я нервова тузаю галавой, каб гэта спынілася. Але гэта не адпускае. Адчуванне, быццам я стаю пасярод Салярыса, які вось-вось мяне зжарэ, паглыне з трыбухамі, і на месцы, дзе я толькі што стаяла, ужо назаўсёды застанецца толькі пустэча. Адчуванне, быццам я апошні чалавек у гэтым Сусвеце.

У гэты момант адразу і целам, і галавой цалкам авалодвае страх знікнення, і пачынаеш шанаваць кожную хвіліну жыцця яшчэ больш. Баішся зрабіць і крок у бок гэтага дэпрэсіўнага акіяна, каб не дай божа ён за якую чвэрць секунды на самай справе не пакінуў ад цябе ні пылінкі.

Гляджу ўгору, а там, нада мной, лётаюць касмічныя апараты. Ці, можа, мне падалося. Але не — калі б і падалося, я ўсё роўна ведаю, ды і вы ўсе, што там нешта ёсць, нешта заўсёды лётае, здымае абстаноўку ў бязважкасці і паверхні розных касмічных цел… Можа, яно каму і патрэбна, але як па мне — якая там абстаноўка, у пустэчы? Зараз я стаю пасярод нечага нерэальнага, чагосьці, можа, забароненага, і ўсё роўна гэта не больш, чым пустэча, не больш, чым халодная, чужая, іншародная прастора, якая ў нейкі момант раптам стала мне домам.

Наталля Скарынка

Звышновыя зоркі — відовішча цікавае. Я і прыйшла сюды, каб паназіраць за смерцю некалькіх сотняў зорак. Яны тухнуць і згараюць, а перад гэтым іх так смачна жарэ агонь фізічных і хімічных працэсаў, што немагчыма адарвацца. Такое пачуццё, што і я сама заўсёды ўзрываюся. Выбухі эмоцый і зараджэнне новага, — і толькі таго, што мне ніколі не вядома.

Калі браць нейкія тэорыі, то я павінна нараджацца нанова і рабіцца іншым чалавекам, а помніць усё тое, чым я жыла раней, — не. А калі браць рэальнасць, то ўсё, што са мной адбываецца, — не болей, чым звычайнае станаўленне асобы. Не болей за гэта. Цяпер падумайце, каму жывецца цікавей — нам ці зоркам. І перш чым пачаць абражаць гэтыя бліскучыя далёкія нябесныя целы, успомніце, што мы самі пачыналіся менавіта з іх.

Заўсёды мэтай майго жыцця, калі я канчаткова страчвала веру ў існаванне нечага большага, была сустрэча з ім. І вось ён стаіць каля мяне, дыхае мне ў патыліцу і напявае радкі з той самай касмічнай песні гурта A-ha. Атмасферна, нічога не скажаш. Ён мне таксама іншародны, чужы, як і ўсё навакол, але дзявацца няма куды, і я пачынаю адчуваць, як ужо амаль закахалася ў яго, нават у подых, яшчэ не пабачыўшы яго твару.

Астранаўт стаіць за маёй спінай, з разгубленым выглядам трымаючы ў руцэ букет фіялак. Нягледзячы на сваю цяжкую, грубую алюмініевую пальчатку скафандра, ён сціскае кветкі вельмі асцярожна — быццам хоча зберагчы іх для адзінай, апошняй жанчыны ў Сусвеце.

Там нешта ёсць, нешта заўсёды лётае, здымае абстаноўку ў бязважкасці і паверхні розных касмічных цел… Можа, яно каму і патрэбна, але як па мне — якая там абстаноўка, у пустэчы?

— У цябе цэлы космас у вачах.

— Табе лепш відаць.

*Сапраўды ж, лепш.* І адразу — увага: страшнае, поўнае цемры і маркоты пытанне. Наколькі ж гэты чалавек, які па прафесіі — астранаўт, расчараваўся ў жыцці, што бачыць яе сэнс толькі ў маіх вачах?

Нешта трымае мяне, не дае вырвацца з лапаў жаху штодзённасці. Гэта не для мяне, не па мне, і я ведаю, што павінна адляцець кудысьці далей, і я не кажу пра зоркі, бо гэта ўжо здаецца мне занадта блізкім і простым. Мне трэба на іншы бок Сусвету.

Стаць іншай істотай — большай нават за чалавека — і адляцець да невядомасці.

Калі ўжо я прайду працэс перараджэння, такі доўгі, што мне здаецца, быццам ўсё вакол перастала рухацца, і буду звышновай зоркай?

Псіхадэлічная ноч. Фіялетавы лёд. Я стаю, а гэта — пада мною — змёрзлая Нарач.

І пад яе ільдом плывуць мае першыя і апошнія кветкі ў гэтым жыцці — змёрзлыя фіялкі.

Звышновыя зоркі — відовішча цікавае. Яны згараюць, а перад гэтым іх так смачна жарэ агонь фізічных і хімічных працэсаў, што немагчыма адарвацца



## Міжнародны студэнцкі яўрэйскі цэнтр «Гілель»:

# «Дагэтуль змагаемся са стэрэатыпамі»

**У «Гілелі», які існуе ўжо два дзесяцігоддзі, ветліва сустракаюць усіх, зацікаўленых яўрэйскай культурай. Дырэктар цэнтра Алена Глазава расказала Хрысціне Чарнушэвіч, чым мінскі цэнтр адрозніваецца ад амерыканскага і як важна адчуваць сувязь са сваім народам. Фотаздымкі зроблены Змітром Шамятковым.**

**— Ці многа ў Мінску яўрэйскай студэнцкай моладзі?**

— Адмыслова статыстыкай ніхто не займаўся, магу сказаць, што ў базе нашай арганізацыі налічваецца каля 1600 чалавек ва ўзросце ад 17 да 30 гадоў. Нехта яшчэ ў працэсе навучання, нехта нядаўна атрымаў вышэйшую адукацыю. У Мінску, вядома, знаходзіцца большасць студэнтаў, калі параўноўваць з усёй Беларуссю. Таксама мы працуем з моладдзю, якая не мае яўрэйскіх каранёў, але трапіла да нас праз сяброў і зацікавілася.

**— З гэтых 1600 чалавек колькі найбольш актыўных?**

— Усё залежыць ад праектаў, якія ладзяцца. Ёсць вялікія мерапрыемствы, куды не страшна прыйсці за кампанію са знаёмымі нават сціплым людзям, ёсць камерныя сустрэчы, на якіх немагчыма застацца незаўважаным. За месяц мы маем 180—230 унікальных наведвальнікаў. Найбольш актыўных з іх чалавек дваццаць. Гэта тыя, хто прыходзіць у «Гілель» ад 5 да 15 разоў на месяц.

**— З часам колькасць наведвальнікаў павялічваецца?**

— Сёння на тое, каб прывабіць моладзь, патрэбна больш сіл, чым пяць гадоў таму. Тады на звычайнае, сярэднестатыстычнае мерапрыемства мы маглі з лёгкасцю сабраць 60 чалавек. Цяпер для гэтага варта яшчэ добра падумаць, што такое цікавае мы можам ім даць, каб яны наведалі нас, а не, напрыклад, боўлінг ці яшчэ штосьці, што прапануе ім сучасны свет. Я прыйшла працаваць сюды шэсць гадоў таму, і ў тыя часы не было столькі актыўнасцей па-за межамі «Гілеля». Сёння мы вымушаны быць цікавейшымі.

**— Як вы фарміруеце праграму мерапрыемстваў?**

— У нас няма стандартнай схемы. Работа звычайна падзяляецца на сезоны з верасня па чэрвень. Мы стараемся ладзіць разнастайныя праекты, але гэта залежыць і ад ініцыятыў, якія прапануюць самі студэнты. Існуюць два кірункі дзейнасці — яўрэйская адукацыя і агульная. Напрыклад, дзейнічаюць курсы англійскай мовы. Плануюцца мерапрыемствы, прысвечаныя канкрэтным святам і датам. Безумоўна, мы хочам рабіць акцэнт на праектах, прысвечаных менавіта яўрэйскай культуры, таму што ў іншых месцах іх няма. Апошнім часам мы больш звяртаемся да сістэмы разавых мерапрыемстваў, а не рэгулярных. Ёсць попыт на кулінарны майстар-клас — ён праводзіцца. Хоць, напрыклад, заняткі па яўрэйскіх танцах у нас адбываюцца па панядзелках ужо шэсць гадоў запар.

**— Што ўваходзіць у асноўныя задачы «Гілеля»?**

— Галоўнае, даць магчымасць яўрэйскай моладзі рэалізаваць сябе на базе яўрэйскай абшчыны. У розных праявах. Для кагосьці гэта проста адзначаць Шабат, для кагосьці — атрымліваць дадатковыя веды, якіх не хапае ва ўніверсітэце, побач з іншымі яўрэйскімі маладзёнамі. Адчуваць сябе часткай свайго народа — тое, што патрэбна і ўласціва яўрэям. Хоць заўсёды ёсць людзі, якія асімілююцца, забываюцца на карані і традыцыі і не вельмі гэтым цікавяцца.

**— З якімі праблемамі прыходзіць да вас моладзь?**

— Сёння для многіх людзей галоўная праблема — немагчымасць угнацца за часам. Ён так хутка мінае, а ад нас так шмат патрабуецца. Хочацца і атрымаць добрую спецыяльнасць, і знайсці працу па гэтай спецыяльнасці, і завесці сям'ю. Моладзь вымушана вучыцца ледзьве не 24 гадзіны на суткі! Калі б мы ні прызначалі мерапрыемства, заўжды нехта кажа: мы ў гэты час вучымся. Маладыя самі сябе развіваюць, мы ім дапамагаем, але гэта іх заслуга. Такія нефармальныя арганізацыі, як наша, дазваляюць запоўніць прабелы, якія ёсць у афіцыйнай сістэме адукацыі. Напрыклад, у нас праводзіліся карысныя трэнінгі па правілах размовы з патэнцыйным працадаўцам. Падобныя рэчы вельмі запатрабаваныя маладымі людзьмі.




**— Якая валанцёрская дзейнасць ажыццяўляецца «Гілелем»?**

— Цяпер самы яркі праект — гэта «Тыдзень добрых спраў», ён быў ініцыіраваны ізраільскімі студэнтамі сем гадоў таму. Пасля акцыя прыйшла ў Украіну і разраслася па ўсіх гарадах нашага рэгіёна. Сутнасць праекта ў тым, што кожны дзень праводзіцца як мінімум адна дабрачынная акцыя, накіраваная на дапамогу пэўнаму слою насельніцтва альбо закліканая звярнуць увагу грамадства на пэўную праблему, напрыклад, невыкананне правілаў дарожнага руху. Раней быў праект «Гілель» дорыць усмешкі», які мы ладзілі разам з прадстаўнікамі беларускай эстрады. Мы ездзілі ў дзіцячыя дамы з канцэртамі, праводзілі конкурсы. Таксама мы падтрымліваем сувязь з дзённым цэнтрам для людзей з асаблівасцямі развіцця «Востраў надзеі». Перыядычна збіраем для іх нейкія рэчы, прывозім цукар: яны гатуюць кампоты. Пяшчотныя ў нас адносіны з гэтым месцам, там вельмі добры дырэктар.

**— Ці ёсць нейкая спецыфіка мінскага цэнтра «Гілель»?**

— Амерыканскія калегі не разумеюць, як мы тут працуем, бо іх цэнтры дзейнічаюць пераважна пры ўніверсітэтах. Пакаленне, якое патрапіла ў ЗША пасля Другой сусветнай вайны, здолела захаваць народныя традыцыі і каштоўнасці. У Беларусі сітуацыя іншая. Пасля вайны было пры-

нята хаваць сваё паходжанне, прозвішча. Пакаленне нашых бацькоў амаль выпала з яўрэйскага жыцця. Людзі, якія арганізавалі тут абшчыну, пачалі працаваць з моладдзю з нуля. І дагэтуль даводзіцца змагацца са стэрэатыпамі. Часам людзям складана зрабіць першы крок і прыйсці сюды. Вось гэта асаблівасць працы на постсавецкай прасторы.

**— Як мінскі «Гілель» супрацоўнічае з філіяламі ў іншых краінах?**

— У першую чаргу мы працуем са сваім рэгіёнам, у які ўваходзіць яшчэ пяць краін: Украіна, Азербайджан, Грузія, Малдова, Узбекістан. З Украінай кантактуем шмат, маё непасрэднае кіраўніцтва знаходзіцца ў Кіеве. А наш рэгіён падпарадкоўваецца галоўнаму офісу «Гілеля» ў Вашынгтоне. Таксама мы стараемся прывозіць сюды моладзь з розных краін, каб яны бачылі, што такое Беларусь і што такое наша абшчына. І, вядома, мы супрацоўнічаем з Ізраілем. Прыблізна 60 чалавек у нас атрымліваюць магчымасць паехаць туды на дзесяць дзён і пазнаёміцца з краінай.

**— Ці заўважалі вы нейкія адметныя рысы яўрэйскай моладзі ў параўнанні з беларускай?**

— Не думаю, што тут можна рабіць нейкі падзел. Хіба што яна больш арыентуецца на традыцыі. Проста ёсць маладзёны больш творчыя, здольныя да гуманітарных сфер, ёсць людзі з тэхнічным складам розуму. Паколькі мы цесна супрацоўнічаем з Украінай, я шмат камунікавала з мясцовай моладдзю, і ў мяне склалася ўражанне, што ў Беларусі неяўрэйская моладзь больш добразычліва ставіцца да яўрэйскай, чым там. Тут дакладна менш шанцаў патрапіць у непрыемную сітуацыю, сказаўшы на вуліцы, што ходзіш у яўрэйскі цэнтр, чым у Расіі ці Украіне.

**— Якія яўрэйскія моладзевыя арганізацыі існуюць у Мінску акрамя «Гілеля»?**

— Ізраільскі культурны інфармацыйны цэнтр пры амбасадзе працуе з моладдзю. Ёсць прадстаўніцтва Яўрэйскага агенцтва ў Беларусі. Аднак суполак, якія мэтанакіравана працавалі б толькі з моладдзю, напэўна, няма. Мы такія адны.



## Вандроўкі ў мінулае без машыны часу з Паўлам Дзесюкавым

**Нядзеля, дзве гадзіны дня, каля Чырвонага касцёла збіраюцца людзі. Нібыта нічога дзіўнага, але толькі на першы погляд. Насамрэч усіх сюды прывяла прага да старадаўніх прыгод, інтрыг, таямніц і кур'ёзаў. Карацей — «Вандроўкі ў мінулае». Гэта дабрачынны адукацыйны праект, які прапаноўвае абысці сваімі нагамі ўвесь гістарычны Мінск.**
**У тую нядзелю ў лік аматараў падарожжаў у часе ўпершыню трапіла і Кацярына Захарэвіч, натуральна, скарыстаўшы магчымасць паразмаўляць з арганізатарам і экскурсаводам Паўлам Дзесюкавым, як расказаў пра…**

### …«Вандроўкі ў мінулае»

— Пачаў я вадзіць экскурсіі «для сябе» — каб паспрабаваць новыя методыкі аповеду… Першая экскурсія адбылася ў лютым 2013-га — я хадзіў па цэнтры горада, расказваў пра будынкі, якія стаяць навідавоку і пры гэтым маюць шмат цікавых гісторый. Папрыходзілі ўсе мае знаёмыя і сябры, было цікава здзіўляць людзей. Паступова гэта ўсё стала працай, ідзе ўжо чацвёрты сезон маіх

вандровак. Сярод дасягненняў — агульная колькасць падпісчыкаў у «ВКонтакте» і на «Фэйсбуку» больш за 9 тысяч чалавек.

Падрыхтоўка да экскурсіі пачынаецца з таго, што я знаходжу інфармацыю, запіхваю яе ў адзін вордаўскі файл, а пасля сяджу і думаю, што з ёй рабіць. Структурую, пазначаю істотнае, падбіраю ілюстрацыі. Большасць экскурсаводаў працуе без карцінак, што ў Мінску вельмі складана, бо значнай часткі таго, пра што расказваеш, ужо не засталося. І тады даводзіцца пачынаць людзям рукамі «маляваць»: тут быў такі будынак, тут такі. Таму я пачаў рабіць экскурсіі з якаснымі ілюстрацыямі, гэта дапамагае візуалізаваць інфармацыю. Людзі бачаць, пра што я расказваю. Я не сквапны, пакрысе ў сваіх суполках у «ВК» і «ФБ» выкладаю ілюстрацыі, якія выкарыстоўваю на маршрутах: раптам спатрэбіцца каму з экскурсаводаў ці проста людзям цікава будзе паглядзець.

Я імкнуся расказаць слухачам цікавае з нейтральнай пазіцыі, каб яны даведаліся нешта новае, адпачылі, пасмяяліся, бо ўсе розныя, хочацца працаваць з усімі, а не з пэўным сегментам людзей, якіх нешта цікавіць.

Цяпер у мяне 15 экскурсій: Ракаўскае прадмесце, Лошыцкі парк, тры экскурсіі, прысвечаныя ўсякім легендам, паданням, Кальварыйскія, Вайсковыя могілкі... Увогуле, абыходжу ўвесь гістарычны Мінск, разбіваючы яго на часткі, нібыта пазл. Прычым не прывязваю маршруты да нейкай тэмы, бо ў Мінску гэта складана, давядзецца кідацца з аднаго боку ў іншы, таму, калі ў мяне пракрэсліваецца маршрут, усё, што на ім трапляецца, я збіраю, і пра гэта распавядаю, бо так прасцей. Экскурсіі мае доўжацца паўтары гадзіны. Калі раней я ладзіў экскурсіі па 2,5 — 3 гадзіны, я бачыў, што гэта цяжка для людзей, і вырашыў, што паўтары — гэта максімум, каб паспець данесці тое, што я хачу. Да таго ж, прыходзяць школьнікі і студэнты, стомленыя пасля заняткаў, пенсіянеры, якія не могуць доўга хадзіць, таму трэба рабіць нешта сярэдняй дынамічнасці, каб добра было ўсім.

## ...наведвальнікаў

— Кожны раз прыходзіць розная колькасць людзей: ад дзесяці і больш. На Лошыцу аднойчы прыйшло сто, а потым яшчэ пазбіралі па парку выпадковых мінакоў і хадзілі 120 чалавек. Бывае, што ніхто не прыходзіць — калі ідзе дождж, холадна, вецер. Каб экскурсія адбылася, чакаю 10 чалавек. Але зараз надвор'е дазваляе збірацца, хадзіць. І зіма была даволі мяккая, таму штотыдзень былі слухачы. Нават першага студзеня сабраў групу, у дзве гадзіны дня пры –14 градусах, сабралася 30 чалавек, хоць у гэтую авантуру ніхто акрамя мяне першапачаткова не верыў.

Ёсць людзі, якія выходжваюць са мной усе маршруты, потым пішуць і пытаюцца, калі будзе нешта новае. Заўжды прыемна бачыць знаёмыя твары, бо такія турысты потым і сяброў прыводзяць, і водгукі пішуць. Аднойчы да мяне на экскурсію ў Лошыцкі парк прывезлі лысага ката, ад якога ўсю экскурсію шарахаліся мясцовыя сабакі. Прыносілі таксама маленькага дабермана на Кальварыю, яго насілі ў заплечніку, толькі галава тырчала.

## ...часы і месцы

— Я паездзіў-паездзіў і зразумеў, што люблю бываць у Міры і Нясвіжы, хоць, здаецца, месцы «заезджаныя». Таксама люблю бываць у Гродне, Віцебску, Полацку — вельмі прыгожыя гарады. Вось у Гродне атрымалася б зрабіць падобны праект, бо там шмат аб'ектаў, але трэба ведаць перыферыю. Я працую ў асноўным на ўнутранага слухача, і калі ў Мінску 2 мільёны, то людзі прыходзяць, а калі рабіць экскурсіі ў Нясвіжы, дзе 15 тысяч чалавек, то пытанне, ці будуць наведвальнікі.

Найбольш папулярныя экскурсіі ў Мінску — гэта Ракаўскае прадмесце, Лошыца, Кальварыя, а таксама касцёлы, легенды. Цяпер пішу пра музей валуноў і Усходнія могілкі.

Мне падаецца, што нам не хапае гістарычных раманаў, беларускага Барыса Акуніна, які б мог напісаць пра гісторыю Беларусі белетрыстычна. Патрэбны чалавек, які памесціць свайго героя ў XVIII—XIX стагоддзі, як Акунін зрабіў з Фандорыным, а Конан Дойл — з Холмсам. Мне падаецца, што такая серыя кніг прыцягнула б людзей, і аўтару было б добра, бо дэтэктывы прадаюцца заўжды.



Кацярына Массэ

**нарадзілася 19 лютага 1997 года ў Мінску. Студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, аўтарка паэтычных зборнікаў «Ліецца святло ў маё вакно» (2012) і «Двайковы код» (2015). Кожны яе верш прасякнуты ўслаўленнем абсурднасці чалавечага існавання, а сама паэтэса ўпарта працягвае верыць у існаванне вышэйшай гармоніі і пакланяцца адной з яе найбольш містычных праяў — слову.**

## Па-за дыскурсам значэнняў

***

ні верху, ні долу
космас не мае ні верху, ні долу
нашы шляхі замыкаюцца ў кола
нашы напрамкі не маюць напрамкаў
рамкі ламаюць уласныя рамкі

сцежкі пятляюць па зблытаных сцежках
ферзь і кароль пакараюцца пешкам
лёс не залежыць ад дзеяння лёсу
смерць заплятае раскошныя косы

Бог перад мніхам з усмешкаю кленчыць
вечнасць не верыць, што будзе жыць вечна
цемра не бачыць сябе ў гэткай цемры
мера так прагне пабыць непамернай

корань не хоча раструшчваць квадраты
карты гуляюць у нас, нібы ў карты
час дзёрзка хлусіць, што ён ёсць прасторай
пункты апоры губляюць апору

нам усё роўна, трыумф ці падзенне
мы без святла пазнаём прасвятленне
мы і ў зняволенні ведаем волю
космас не мае ні верху, ні долу

***

я дрыготкім агорнута сном над прадоннем —
птушанятка у зыбцы — у божай далоні.
крылы коўдрай эфіру накрыў небакрай —
не пускай, не пускай, не пускай…

рунь бурштынавых слёз з па-над хмарных скляпенняў,
ручаі галасоў з нематы падзямелля.
мяне сэрца твайго рытмы б'юць — цераз край —
утрымай, утрымай, утрымай...

у грудзях маіх спеюць духмяныя спевы —
гукапад блудных слоў з пракаветнага дрэва.
жыццяпад стромкіх душ у бяздонным быцці…
адпусці, адпусці, адпусці!

***

я закончуся, перш чым паспею нарэшце пачацца.
я запомню сябе чыстай думкай аб самабыцці.
я запоўню сябе чыстай воляй да вечнае працы
над нічым, што насупар нябыту павінна цвісці.

я пачнуся раней, чым уведаю, што сканаю.
я запомню сябе чыстым бунтам назло канцу.
я запоўню сябе чыстым словам аб творчым раі,
дзе тварэц-чалавек супрацьстане свайму творцу.

## няведа ў Бога

на чым стаяць, як выстаяць,
калі сама існасць не ёсць непахіснай ісцінай?
не веды, не вера —
а спазмы спазнання.
— ты веруючая?
— я няведаючая. такое ў мяне няведавызнанне.

## Маргінал

у зоне тэктанічных сутыкненняў
дзе бой трымаюць лініі жыцця
агонія ад самапазбаўлення
гарыць агменем самаадкрыцця

без сэнсаўтваральнае задачы
душа бы дрэва з выдраным карэннем
ёй цяжка навучыцца больш не значыць
нічога па-за дыскурсам значэнняў

пагразла маргінальная свядомасць
ў расколінах структур энергетычных
пакутлівая самадастатковасць
не хоча ні за што больш учапіцца

за радыусам сілы прыцягнення
прыцяг адзіны
да сябе самога
у змрочным гушчары безнапрамлення
адзін напрамак
да сябе самога

***

я прымаю жыццё. мне чым горш, тым лепш.
бо жыццё — гэта лечыва супраць сябе ж.

не крычу, не пытаю, на кім віна, —
бо нямею — нікога, каб чуць, — няма.

сірацее мой дух у нямой журбе —
ён і сын, і айцец
сам сабе.

***

узважаны дзвюма — далонямі Феміды.
ўкрыжаваны трыма — бакамі кругавіду,
к чацвёртаму — на ўсход — кладуся галавою —
ўстрывожана рунець бурштынавай раллёю.

узнесены пяццю — канцамі пентаграмы.
узвораны шасцю — знясіленымі днямі.
на сёмы дзень спачну — пад спелаю зарою —
узмроены табой —
адною.

## я пэўню цябе, што мне васямнаццаць год

я пэўню цябе, што мне васямнаццаць год,
хоць мне насамрэч дванаццаць мільярдаў семсот.
магчыма, я неарганічна ў ролі дзяўчыны
з-за звычкі часцей нараджацца ў плоці мужчыны.

памылак маіх і заслуг спіс аднолькава доўгі,
таму ў мяне й вырастаюць то крылы, то рогі.
свядомасць маю ўзурпуе то геній, то нонсэнс —
разважлівы пан Апалон ці распусны Дыёніс.

мільярды гадоў прыручала прастору і час,
ды толькі адносна нядаўна схапіла баланс.
вучуся жыццю — я даўно прэтэндую на «вышку».
працую на карму — маю заліковую кніжку.

сусветная субардынацыя — я кар’ерыстка!
змагаю спакусу вярнуцца ў дзяцінства калыску.
пакінь пры сабе фінціфлю філасофскіх пытанняў —
купі мне на дзень нараджэння грахоў дараванне.

я пэўню цябе, што мне васямнаццаць год,
хоць мне насамрэч дванаццаць мільярдаў семсот.
не трэба мяне навучаць — трэба проста прызнаць:
табе толькі восем мільёнаў шэсцьсот трыццаць пяць.





Дар’я Гарбацкая

**нарадзілася 6 красавіка 1994 года ў Іванаве. Журналіст па прызванні і па адукацыі, скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Жыве ў горадзе Брэсце, працуе ў буйной кампаніі. У прапанаваным апавяданні схаваная вялікая ўнутраная цеплыня — настальгіі, успамінаў пра лета першага кахання і першы палёт душы.**

## Арэлі

*… дзякуй табе за лепшае*

Арэлі ляцяць увысь, нібы думкі і мары. Скардзіцца бярозавая галіна, што паняволі трапіла ў абдымкі ланцуга. А ты моцна абхопліваеш рукамі гэты ланцуг, седзячы на вузенькай дошцы. Штосілы адштурхоўваеш нагамі паветра і падстаўляеш голыя плечы пад першыя нясмелыя пацалункі чэрвеньскага сонца. Так, як ніколі, адчуваеш пахнованароджанага бярозавага лісця і травы. І лета, быццам бясконцае і першы раз. І на душы так добра, што не выказаць.

Ты вышэй і вышэй, няма страху ўпасці, у неба ўзнялася б, каб не плот за спінай. Ты заплюшчваеш ад асалоды вочы, калі ляціш на арэлях і калі ўпершыню спрабуеш на смак нечыя малінавыя вусны…

***

Закінуўшы нагу за нагу, Кіра ляжала на канапе і накручвала на ўказальны палец пасмачку валасоў. Яна мела звычку рабіць гэта заўжды, калі доўга і нецярпліва чагосьці чакала. Дзяўчына кінула незадаволены позірк на насценны гадзіннік, бо ўжо пяць хвілін назад павінен быў пачацца серыял, але рэкламу, бы тую надакучлівую муху, ніяк немагчыма было сагнаць з экрана.

Напружанне ўмомант усталявалася ў хаце. Старая брамка насмешліва рыпнула, маўляў, забудзь, Кіра, пра серыял. Толькі-толькі ў галаве з’явілася думка хуценька выскачыць у акно, але ў дзвярах пакоя ўжо стаяла мама.

Яна працавала паштальёнкай у мясцовым аддзяленні сувязі і за дзень праязджала на веласіпедзе не адзін дзясятак кіламетраў. А гэта спыніся каля кожнай хаты, паштоўку ці газету ў скрынку пакладзі, а калі пенсію трэба выплачваць ці падпіску афармляць, дык увогуле — без намеру выпіць з гаспадарамі кубак гарбаты хоць у хату не заходзь! Тым не менш запас энергіі ў гэтай жанчыны быў невычэрпны.

Чаму ж вяртанне мамы з працы так сапсавала настрой? Бо для Кіры гэта азначала адно: сённяшняя серыя будзе прапушчана, а яна так і не даведаецца, што ж там у рэшце рэшт з адносінамі Тані і Вадзіма. Хоць радуе тое, што «ніхто не застанецца незаўважаным». Сястра (вось доўбня, чамусьці ігнаруе серыял і носіцца на двары са шчанюком Баксам) таксама зараз перастане лынды біць, па канюшыну для качак мама яе адправіць (ха-ха!). А Кіры, пэўна, ізноў роля Печкіна дастанецца, развозіць па вёсцы газеты будзе, што ў паштальёнскай торбе засталіся… Блін, мама, як ты нясвоечасова!

Мама перапыніла Кірыны разважанні менавіта такімі заданнямі. І не адмовіш жа ёй. Па-першае, у свае чатырнаццаць дзяўчына ўжо разумела, як мама стамляецца (па гаспадарцы ж яшчэ колькі клопатаў) і растрачвае сваю маладосць ды прыгажосць у цяжкай працы. А па-другое, Кіра толькі ўчора прасіла ў яе прабачэння за чарговыя свае *праяўленні пераломнага ўзросту*.

Адным словам, праз дзесяць хвілін ужо не чаканне серыяла займала дзяўчыну. Яна неслася на веласіпедзе па вузенькай сцяжынцы праз невялікі парк са зграбных маладзенькіх бярозак і падуладных смеламу чэрвеньскаму ветру асінак. З асалодаю кранапалася педаляў, што падатліва прагіналіся ад лёгкага націску. Павіталася са знаёмым салаўём — ён штовечар чакаў яе тут на персанальны канцэрт. Хацела спыніцца, ландышаў назбіраць, ды стрымалася, успомніла, што мама крычала ўслед, каб не забыла да бабы Мані па грошы за цукар заехаць.

***

Старая доўга корпалася ў летняй кухні, сама сабе пад нос нешта мармытала. Пакуль яшчэ заўважыла ды пачула, што нехта чужы на двары.

— Ах, гэта ты, Кірачка?! — адначасова і ўзрадавалася і напалохалася ад нечаканасці баба Маня. — А я ўсё ніяк маму тваю злавіць не магу, ды гэтыя няшчасныя дзесяць тысяч ёй аддаць! Лёшка, унучак, вынесі мне грошы, што на стале каля буфета ляжаць!

Але яе ўнук нешта не спяшаўся. «Ён, верагодна, серыялам ахвяраваць не прывык», — падумалася Кіры, і раздражнёнасць прамільгнула ў вачах дзяўчыны. Усё ж хвіліны праз тры-чатыры, гучна бразнуўшы клямкай, на ганак выйшаў хлопец, прыкладна яе аднагодка. Незадаволенасць Кіры прайшла. Зараз яна з цікавасцю разглядала ўнука бабы Мані, пакуль ён павольна ішоў да грушы, дзе стаялі дзяўчына са старой.

Кіра бачыла гэтага хлопца ўпершыню. Ён, як высветлілася, прыехаў да бабулі з дзядулем на лета з далёкага горада і гэтаксама, як і Кіра, скончыў восьмы клас. Калі Лёша наблізіўся, Кіра заўважыла, што ён не адзін. На фоне яго роўнага загару прыгожа выглядаў белы з дзвюма чорнымі плямкамі дэкаратыўны пацук. Звярок сядзеў на плячы ў свайго гаспадара, даверліва звесіўшы лысы ружовы хвост, але з яго маленькіх жвавых вочак, што няспынна бегалі па баках, насцярожанасць не знікала. Калі Кіра заўважыла, што Лёша з «сябрам», умомант пра грошы забыла, перапалохалася не на жарт. Нядзіўна, дзе ж гэта відана, каб пацукоў на плячах насілі?! Але дрыжыкі абнялі за плечы не толькі з-за гэтага. Больш за пацука яе ўразілі вочы хлопца.

Вочы былі вялікія, чорныя і бліскучыя. Здавалася, што нейкая самаўпэўненасць чыталася ў іх з першага позірку. Больш таго, яны былі абрамленыя доўгімі і густымі, бы ў першай

прыгажуні, павекамі (потым, калі дзеці пасябравалі, нават забаву прыдумалі: клалі запалкі па адной на Лёшавы павекі і лічылі, колькі штук адначасова ён можа так утрымліваць). Кіра чула ўжо пра такія вочы. У нейкім мастацкім творы пра першае каханне, здаецца, сустракала. Там было напісана, што ў такіх вачах лёгка патануць, што іх трэба асцерагацца.

Увогуле, Кіра да гэтага часу не бачыла такіх прывабных хлопцаў. Усё было гарманічна ў яго выглядзе. Нізкі, хутчэй за ўсё «паламаны» падлеткавым узростам і таму ўжо амаль мужчынскі голас цудоўна адпавядаў яго высокаму росту і ладнай паставе. Белыя зубы, што агаляла адкрытая ўсмешка, лепш за ўсё пасавалі да яго загарэлай, быццам старанна намазанай шакаладам, скуры. Малінавыя вусны з амаль непрыкметнай радзімкай.

Кіра зразумела, пра што вёў гаворку аўтар таго мастацкага твора.

***

Зранку, канечне ж, Кіра так і не паглядзела паўтор серыі.

Сёння мясцовая моладзь ды прыезджыя з горада ўнукі вырашылі «сезон палявання на чарніцы» адкрываць. І Кіра з сястрой ужо а сёмай гадзіне ранку былі на нагах: шукалі ў бабулінай кладоўцы гумавыя боты і хусцінкі, рыхтавалі кошыкі і літровыя слоікі, каб прывязаць на пояс у якасці набірушкі. Сустрэцца дамовіліся на нейтральнай тэрыторыі: каля старой раскіданай школы.

Кіра з сястрой, птушкі раннія, былі «на месцы» першымі. А вось прырода не спяшалася ачомацца ад сну. Раса з прыемным звонам клалася на боты. Паветра змешвала смелы кактэйль з пахаў хвоі і леташніх стажкоў сена, ад чаго прыемна казытала ў носе. Кіра нецярпліва пераступала з нагі на нагу, круціла паміж пальцамі вяровачку, што была прывязана да яе слоіка. Толькі яна хацела адкрыць рот, каб выказаць незадавальненне спазненнем астатніх, як з боку Кальцавой вуліцы пачуліся галасы. Кіра здрыганулася.

Метраў за сто ад іх з-за самага высокага стажка паказаліся дзве постаці. Хлопец і дзяўчына ішлі не спяшаючыся. Ён з запалам і смехам нешта расказваў, размахваючы пяцілітровым бітончыкам, а яна быццам з недаверам і нават насмешкай круціла галавой у адказ. Дзяўчыну Кіра добра ведала (гэта яна, Іра, прапанавала аб'яднацца і ўсім разам ісці ў лес), а хлопца… таксама.

То быў Лёша. Кіра для чагосьці сцягнула з сябе хусцінку, умомант схавала яе ў кішэню і некалькі разоў глынула бярозавага соку, бо нешта перасохла ў горле. Калі гэтыя двое падышлі зусім блізка, дзяўчына заўважыла, што Лёша змоўк, усмешка знікла з яго твару, а вуглі-вочы змянілі хітраваты бляск на халодны выраз. Хлопец кідаў кароткія позіркі ў бок Кіры, пазіраючы з-пад банданы колеру хакі, і яўна стараўся рабіць гэта непрыкметна. Павіталіся.

— Знаёмцеся, — сказала Іра. — Мой стрыечны брат Лёша. Напрасіўся з намі ісці ў лес.

***

У той дзень надвор'е не падзяляла намераў моладзі. Хмары над лесам ладзілі свае штодзённыя гульні з сонцам: бегалі наўздагон і першыя пакуль што перамагалі. Пасля чарговага забегу сонца нуднавата пазяхнула і зусім схавалася недзе ў шэрань. Затое лясная камарэча дружна аб'ядналася ў ансамбль і гудзела над самым вухам, імкнучыся станцаваць на чыёй-небудзь аголенай паясніцы.

Справа ішла туга, чарніцы, прадчуваючы дождж, старанна хаваліся ад людскога вока. Толькі паспелі ягаднікі закрыць першым літрам дно сваіх збанкоў, вядзерцаў ды кошыкаў, як зашумелі дрэвы і першыя кроплі непрыемна кранулі патыліцу.

— Ну, і што будзем рабіць? — з ноткамі радасці ў голасе першым адазваўся Лёша. За няпоўную гадзіну, што падлеткі былі ў лесе, ён паспеў нацешыцца чарніцамі і хітра бліскаў сваімі вялікімі вачыма, шукаючы якіх-небудзь прыгодаў.

— Думаю, трэба ссыпаць усё, што вы назбіралі, у мой бітончык. Мне якраз будзе трайная порцыя абеду, ды і вам лягчэй будзе несці пустую тару, — жартаўліва працягваў хлопец, зазіраючы ў чужыя пасудзіны з «ураджаем».

— Ага! Зараз! Зубы твае белыя не пачарнеюць ад трох літраў ягад часам? — раззлавалася Кіра. Дзяўчына не чакала, што надвор’е так сапсуе ўсе планы, а таму жарты гэтага выскачкі і балбатуна ёй зусім не спадабаліся.

— Не баюся! — з выклікам адказаў Лёша. — У мяне зубы моцныя. Я, між іншым, у іх магу несці ўсю дарогу тваё вядро з ягадамі! Не верыш? Глядзі!

Ён сапраўды нахіліўся над Кірыным вядром, абхапіў зубамі ручку, ганарліва расправіў плечы і з выглядам «а вам слабо» накіраваўся па дарозе з лесу. Дзяўчына ўсміхнулася і апусціла вочы, хаваючы нечаканае замілаванне, што абудзілася ў душы. Астатнія абмяняліся позіркамі і, крыху аддзяліўшыся адзін ад аднаго, таксама папляліся за Лёшам. Хоць дождж ужо і скончыўся, настрой збіраць ягады знік дашчэнту.

***

Ці можа стацца так, каб лета доўжылася паўгода або нават стала бясконцым? Для Кіры тады яно было менавіта такім. Толькі залежала гэта не ад надвор’я і нават не ад календара. Адны толькі чорныя вочы трэба былі — і сонца свяціла.

Ягадны сезон быў у самым разгары. Вяскоўцы вялі гутаркі аб тым, што чарніц у гэтым годзе менш, чым летась, а таму цана на іх будзе вышэйшая. Такія размовы грэлі душу, асабліва ягаднікам-падлеткам. Кожны з іх паставіў мэту, якую планаваў здзейсніць на зробленыя грошы. Кіра і Лёша планавалі купіць сабе мабільныя тэлефоны, каб стэлефаноўвацца, калі скончацца канікулы і хлопец вернецца ў горад. За кароткі час яны займелі вялікую цікавасць адзін да аднаго — і амаль увесь час бавілі разам.

Штораніцы Лёша заходзіў па Кіру ды яе сястру, і ўсе разам ішлі ў лес у чарніцы. Вечарамі, нягледзячы на стому, з невычэрпнай дзіцячай энергіяй і ахвотай яны ладзілі розныя гульні на дварэ: то агонь развядуць, сала з бульбай смажаць ды ў карты іграюць, пакуль не сцямнее, то Лёшавага пацука Мосю дрэсіруюць, то нечакана збяруцца і паляцяць на веласіпедах за пяць кіламетраў на рэчку купацца, а па выхадных і ўвогуле ранішнім сном ахвяравалі дзеля сумеснай рыбалкі…

Пасля чарговай з іх бясконцых прыдумак, на бярозавай галіне каля хаты Кірынай бабулі з’явіліся арэлі. Якраз напярэдадні, з гаража Лёшавага дзеда некуды бясследна знік кавалак ланцуга.

— Ну вось, гадоў пяць, не менш, праслужаць, — паставіў кропку ў справе Лёша, выціраючы рукі ад масла, што засталося пасля змазвання ланцуга.

Калі Лёша нешта рабіў, Кіра не таячыся любавалася ім збоку. Настолькі па-мужчынску спакойнымі і ўпэўненымі былі яго рухі, настолькі глыбокім было веданне любой справы, за якую б ён ні ўзяўся. Здаецца, у горадзе вырас, але нават не задумваўся, з якога боку падысці да касы ці плуга. У свае чатырнаццаць гадоў ён з лёгкасцю мог адрамантаваць DVD-прайгравальнік або без адзінай заганы зашыць разарванае веласіпеднае сядзенне. Ды каб толькі мужчынскія справы яго цікавілі! Лёша лёгка мог выдаіць карову (чаго Кіра, дарэчы, не

ўмела) або прыгатаваць варэнікі. Але самае галоўнае, што амаль да любой справы ён праяўляў цікавасць і імкнуўся ёй навучыцца. Вось і цяпер юнак з кропляй ганарлівасці паглядаў на новыя арэлі і яўна чакаў, каб яго пахвалілі, але лепшай падзякай для яго было тое, што Кіра, як заўжды, стаяла непадалёк.

А вечар гэты быў колеру закаханых дзявочых вачэй.

У сваім цудоўным шэкспіраўскім узросце яны не задумваліся пра тое, чаму ўвесь час хочацца быць разам. Чаму адзін з адным хацелася дзяліцца ўсім: і дыскамі з музыкай любімага гурта, і абедам у лесе, і нават цэлай жмені ягад было не шкада, калі прыходзіў час вяртацца дадому, а ў Лёшы, напрыклад, вядро было крыху няпоўнае.

А гэта было тое самае першае, чыстае і непаўторнае пачуццё, якое лёгка пазнаць, калі ідзеш па бутэльку вады па вузкай лясной сцяжынцы і сустракаеш на сваім шляху надпіс «Кіра, я цябе кахаю», акуратненька выкладзены маленькімі літарамі з бярозавых галінак.

І такое рамантычнае ды па-дзіцячы шчырае прызнанне наўрад ці сустрэнеш яшчэ калі-небудзь. Калі самыя наіўныя і смелыя фантазіі прыходзяць у галаву ў бяссонныя ночы. Тое пачуццё, якое зрывае з месца, умомант пераключае з адной справы на іншую. Вось юнак і дзяўчына збіралі чарніцы, а вось ужо праз дваццаць хвілін яны цішком ад усіх збеглі з лесу ў пошуках не менш смачных малін. Упершыню сарамліва трымаліся за рукі і менш за ўсё іх цікавілі маліны, а малінавыя вусны хацелася паспрабаваць на смак…

Тая старонка ў кнізе жыцця, на якой заўжды будзе ляжаць закладка. І перачытаць бы яе яшчэ раз, ізноў з чатырнаццацігадовым запалам даверху напоўніцца натхненнем… ды не, трапляеш на тую старонку толькі нечакана і толькі раз у жыцці.

***

Здавалася, бясконцае лета падыходзіла да канца. У тыя дні ў вёсцы было многа людзей. А ў апошнюю жнівеньскую нядзелю на адной з вуліц з’явілася незнаёмая машына з незнаёмымі Кіры дарослымі. Лёша паехаў у горад, нават развітацца пасля несур’ёзнага разладу не схацеў… не, канечне ж, ён проста не паспеў, бо дарослыя спяшаліся, а надвор’е псавалася.

Але непагадзь усё роўна разгулялася страшная. Злосная бура моцным ветрам і градам наляцела на гароды і двары, ірвала і круціла ўсё, што траплялася ёй на вочы. Бяроза стагнала, імкнучыся скінуць з сябе непатрэбны цяжар, але арэлі не хацелі адпускаць з абдымкаў тую родную галінку, да якой так моцна прыраслі душой ўсяго за тры месяцы.

Кожнае новае лета Кіра ляцела ўвысь разам з арэлямі, марамі і ўспамінамі, седзячы на вузенькай дошцы. Такіх летаў было сем, а потым зноў з’явілася бура і бязлітасна сарвала арэлі з галіны.

Колькі летаў, калі б не бура, могуць вісець на бярозе арэлі? І колькі летаў трэба дрэву, каб загаіць пасля іх свае шрамы?





## Настасся Нарэйка

**нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Працуе адказным сакратаром раённай газеты «Навіны Камянеччыны». Вершы піша з 10-гадовага ўзросту толькі па-беларуску. Аўтар зборніка вершаў «Магдэбургскае права маёй душы» (2013). Марыць напісаць акраверш, першыя літары радкоў якога складуцца ў любімую цытату Караткевіча «Чалавек носіць сваё неба з сабою».**

# Мы вяртаемся ўсе. Неадменна. Дамоў…

*Маладзечну прысвячаю.*

***

За намі ніхто не прыйдзе.
Мы ціха сядзем на прызбе
І будзем глядзець у вочы,
Якія не бачаць нас.
Па твары пацягне вецер.
І мы адчуем, што ў свеце
Няма такіх адзінокіх,
Як мы ў гэты ціхі час.

Сутонне абдыме за плечы.
Мы раны свае не лечым,
Мы помнім, што вінаваты,
І зноў, як заўжды, маўчым.
Ад холаду не скаланецца
Адмерзлае, звонкае сэрца.
Мы сёння прыйшлі дадому,
Вярнуліся мы ні з чым.

Хата за спінай пустая
У ночы цішком патанае.
І больш ужо немагчыма
Глядзець у вочы яе.
Нас ніхто не чакае.
Хата маўчыць пустая.
І шэрым туманам кволым
Надзея ізноў растае.

За намі ніхто не прыйдзе.
Яна не забудзе аб крыўдзе.
Вясна адшумела, лета…
Вось і яно — жніўё.
Вяртацца не позна, браце,
Калі ёсць жывыя ў хаце.
Моўчкі сядзім на прызбе.
Я і сумленне маё.

***

Як Рагнеда
Аберуч
Нож
Упэўнена,
Моцна
І цвёрда,
Так трымаю цябе.
І ўсё ж
Усміхаешся
Вольна і горда.

Як Прадслава
Аберуч
Крыж
Надзейна…
Спакойна…
Вечна…
Так трымаю цябе.
Маўчыш.
Пазіраеш.
Без страху? —
Бясспрэчна.

Як Барбара
Аберуч
Яд
Непарушна!
Адзіна!
Прагна!
Так трымаю цябе.
Без крат.
Мой каханы!
Мой морак і багна…

Я трымаю цябе.
Кайданы,
Ланцугі
І вяроўкі
Ты носіш,
Так, нібыта
Патрэбны яны,
І збавення
Ніколі не просіш.

Я ж пазбавіць цябе
Не змагу.
Лёс бяздумны
Садзіцца за кросны.
Я слабая, відаць,
На тугу.
Я кахаю цябе
Моцным.

***

Калі гавораць з вечнасцю
На роўных,
Калі гартаюць кнігу
Небыцця —
Ад побытавых казак
Да чароўных
Не крок адзін,
А ўвесь абсяг жыцця.

Калі гавораць з вернасцю
На роўных,
Калі штурхаюць човен
Забыцця —
Сякуць сякеры повязь
Продкаў кроўных
З нашчадкамі
На ўсіх вятрах жыцця.

Калі гавораць з вераю
На роўных,
Калі нясуць высока
Крыж быцця —
Вядзе святло малітваў
Нешматслоўных
Вятрамі і абсягамі
Жыцця.

***

*«Победила ль?*
*Побеждена ль?»*
*М. Цветаева*

Падначалены мне,
Ты нічога не змог
Ні змяніць, ні аддаць.
Мне шкада.
Я — каханне тваё,
Твой палон і астрог.
Я — твая
Залатая Арда.

Падначалены мне,
Ты бяссілы ля ног,
Ты маўчыш,
Твае вочы — жуда.
Схіліш голаў сваю —
Пераступіш парог,
І цябе пашкадуе
Арда.

Падначалены мне…
Не сагнуўся ты ў рог.
Плечы выпрастаў.
Хай. Не бяда.
Ты гаворыш:
З табою
Сумленне і Бог.
Што з таго?
А за мною — Арда.

Падначалены мне?
Не пазбегнеш суда!
Кроў тваю пралію
На мурог.
Толькі ў сэрцы маім
Прарастае жуда.
Любы мой!
Хто каго перамог?

***

У палацы маім ані гуку, ні руху няма.
Толькі вецер асенняй лістотай пакоі мяце.
Толькі дзверы рыпяць, нібы стогнуць. Ды гэта дарма.
Я вярнулася з болю, мой дом. І, на жаль, на шчыце.

Па палацы маім нібы бура нядаўна прайшла.
Толькі сцены і столь. Ды падлога, ды вокнаў правалы.
Я па свеце шукала сябе і, на жаль, не знайшла.
Я вярнулася з бою, мой дом. І паход быў няўдалы.

У найбольшае зале тваёй я агонь развяду.
Каб у цемры ты мог мне ў шалёныя вочы глядзець.
Мой пакінуты дом, я спазнала такую бяду,
Што абломкі свае пазбірала ў пустыні ледзь-ледзь.

Я цябе папрашу: не гані, не пакінь, не аддай
Гэтай ночы ў палон. Я баюся асенніх начэй.
Я пасплю ля агню пад пранізлівы твой ветраграй.
Я прачнуся ў лістоце. І будзе, магчыма, лягчэй.

Нам з табой не вярнуць ані баляў, ні шчасця, ні сноў.
І партрэты, дзе продкі жылі, знеслі нейкія людзі.
Ты прабач. Мы вяртаемся ўсе. Неадменна. Дамоў.
І партрэта майго на сцяне пачарнелай не будзе.

Бо на мне завяршаецца наш апаганены род.
Бачыш, недзе высока ў нябёсах так зоры гараць?
Гэта продкі мае на апошні збіраюцца сход,
Гэта ў бітву апошнюю сёння кіруецца раць.

Будзе сход? Будзе суд. Я ў іх вочы сівыя зірну.
І слязамі з мяне будзе здрада выходзіць у ноч.
Я ні словам, ні рухам не здолею, не падману.
Пад густым зарападам іх светлых і ласкавых воч.

***

Не адчуваю ў табе патрэбы,
Не варажу на горкім палыне,
Не сню начамі вочы ў колер неба,
Бо ведаю — не любіш ты мяне.
Стаю адна на беразе высокім,
Сукенка ўся намокла ад расы.
Трава ў сабе твае схавае крокі.
О, не кранай, як вецер, валасы!
О, адпусці! Я, пэўна, соль марская.
Я — карабель, які пайшоў на дно.
І нават шчасце рукі апускае
І ведае спрадвечнае адно.
Ты сядзеш ля мяне амаль нячутна,
Ты возьмеш за руку, нібыта ў сне,
Ты пацалуеш горка, як атрутна,
А ўсё адно — не любіш ты мяне.
Мае лісты не знойдуць адрасата,
А вершы дагараць сярод папер.
Настануць вызваленне і адплата
За «заўтра», і «ўчора», і «цяпер».
Зіма за летам, лета за зімою
Ідуць, ідуць — і вечнае міне.
Ты прыкаваны, звязаны не мною,
А лёсам, бо кахаеш ты мяне.

***

Што маё слова, калі не збавенне тваё?
Стаў пад прысудам свой подпіс.
Хай будзе, што будзе!
Высылка, шворка, турма? Пад пяра вастрыё.
Выберы сам, дарагі.
Мы нікому не суддзі.

Што маё слова, калі не збавенне тваё?
Я не спалю. Не прасі!
Не спалю свае вершы.
Яны — мой пясок, мой палон, адрачэнне маё.
За іх забіваць? Забівай.
Не апошні. Не першы.

Што маё слова, калі не збавенне тваё?
Пад вершам-прысудам мой подпіс.
Хай будзе, што будзе!
Каханне, надзея, святло пад пяра вастрыё
Слухмяна ляглі. Для цябе.
Мы нікому не суддзі…



Вераніка Ляўчук

**нарадзілася 23 сакавіка 1990 года ў Гомелі, жыве ў Мінску. Па адукацыі лінгвіст, выкладае англійскую мову, піша дысертацыю. Пры нагодзе выпраўляецца ў падарожжы, малюе акварэллю, танцуе кейлі-рылы ды полькі. Бае казкі.**

## На досвітку

Парадзіха крычала. Яе стогны бянтэжылі ўвесь маёнтак Бокша, што прыхаваўся ў лясах пад Смаргонню. З кожным стогнам мужчыны курчыліся, а жанчыны дзякавалі Госпаду, што іх такі лёс абмінуў. З кожным енкам каты скручваліся ў клубкі і забіваліся глыбей пад шафы. З кожным крыкам нават стары пан Богуш, валадар сядзібы, хрысціўся і касавурыўся на акно. З кожным крыкам малады муж торгаўся і кідаўся да зачыненых дзвярэй, за якімі памірала каханая.

Роды пачаліся на змярканні. Пан Богуш быў падрыхтаваны: ён загадаў зачыніць шыбы і дзверы, нявестку, павітуху і трох пакаёвак адвесці ў глухое памяшканне, дзе расставілі стос ручнікоў, вёдры вады, міскі, зёлкі, нажы, ніткі, Біблію.

Сям'я Богушаў славілася мужчынскім родам. Хлапчукі з'яўляліся на свет лёгка і хутка. Яны нараджаліся моцнымі і здаровымі, раслі разумнымі і прыгожымі і ў рэшце рэшт ператвараліся ў самавітых паноў. Але роды дзяўчат вось ужо апошнія тры пакаленні праходзілі цяжка. Жанчына пакутавала дзень і ноч, і на золку прылятала сінічка. Яна стукала дзюбай у акно, і неўзабаве паміралі і дзіцё, і матка.

Суседзі казалі, што ў сям'і завялася кікімара, бо з падпечка нібы чуўся візгат, які змаўкаў, калі маці пачынала песціць немаўля. «Але ж адкуль было ўзяцца кікімары?» — дзівіўся пан Богуш. Род Богушаў здаўна вызначаўся паважанымі і богабаязнымі людзьмі. Ад Бокшы-заснавальніка і да апошняга нашчадка, у якога яшчэ малако на вуснах блішчыць, — усе людзі годныя, выхаваныя і сарамлівыя. Ніводнай зневажальнай гісторыі ці бруднай плямы. За тое і шанавалі ва ўсёй ваколіцы Смаргоні. Кікімарамі ж, як вядома, станавіліся дзяўчаты, якіх маткі праклялі да нараджэння. А яны з Катажынай, з не менш богабаязнага роду Сінцэвічаў, пражылі шчаслівае жыццё, нарадзілі пяцёх сыноў і хутка адсвяткуюць залатое вяселле. У родзе Богушаў дзяцей любілі і з радасцю чакалі кожнага спадкаемцу. «Не можа быць ніякай кікімары. Глупства гэта, прымхі, бязбожная справа», — талдычыў суседзям стары пан Богуш.

Стогн парадзіхі перайшоў у лямант і змяніўся тужлівым плачам. Пані Катажына пляснула далонню па аконнай раме і накіравалася да сходаў. Прыступкі паскрыпвалі, свечкі кідалі слабыя цені на партрэты, некаторыя агеньчыкі згасалі, пакуль жанчына імкліва падымалася ва ўласны пакой для адпачынку.

Гладзенькія шыўкі блакітнай птушкі, якія яна старанная выводзіла ўдзень, працягнуліся недарэчнымі вузламі і прарэшкамі. Давядзецца параспорваць. І так кожны вечар! Спадарыня Богуш фыркнула і шпульнула пяльцы ў кут. Пачуўся тоненькі пакрыўджаны стогн.

— Што ты ад мяне хочаш?!

Паперы на стале зашамацелі, пяро выслізнула са шклянкі атраманту, запляміўшы няскончаны ліст, томік антычнай паэзіі грукнуўся на падлогу, пані Катажына ледзь паспела падхапіць вазу з хрызантэмамі.

— Хопіць! Хопіць. Тссс…

Нехта нябачны хлюпаў носам за комінам.

— Я не вінаватая.

Румзы не змоўклі.

У акно стукнула дзюбай сініца. Цікаўна круціла галавой.

Яна прыляцела.

Жанчына выцягнула хрызантэмы з вазы, выхапіла некалькі вугельчыкаў з коміна і рушыла на двор. З павеці яна прыхапіла дзве дошкі, цвікі і малаток.

У лесе начныя жыхары прыхаваліся пад веццем і корпаліся ў норах, вухкаў пугач і лопалі крыламі кажаны. Спадарыня Богуш не заўважала ні кустоў, што адрывалі вытанчаныя карункі са спадніц, ні цёмных постацей елак, падобных да лесуноў, ні маленькай жаўтагрудай блакітнай птушкі, якая пераскоквала з галінкі на галінку. Спадарыня Катажына пазнала высокую падсохлую асіну за паваленай бярозкай з вывернутымі каранямі.

Жанчына склала дошкі і прымерала да іх цвікі. Па лесе разнёсся няроўны грукат. Калі скончыла з цвікамі, раскапала малатком невялічкую ямку і паставіла туды ніз дошкі; засыпала зямлёй і ўпэўнілася, што замацавана надзейна. Яна апусцілася на дзірван і прыбрала расхрыстаныя валасы з ілба, пакінуўшы брудны след на скроні.

— Так, гэта праўда. Я цябе не хацела, — прашаптала спадарыня Катажына. — Але я не магла…

Пані Катажына малілася. Блакітная птушка назірала за ёй, пакуль шэры досвітак не прабіўся праз шчыльныя кроны.

— Прабач, — нарэшце вымавіла жанчына.

Спадарыня Богуш перахрысцілася і нешта чырканула вугельчыкам. Калі яна сышла, пад асінай высіўся крыж. Побач ляжалі хрызантэмы.

«Аўрора Сінцэвіч.

7.07.1770 — 7.07.1770»

Як толькі пані Катажына вярнулася ў маёнтак, да яе выбег пан Богуш са шчаслівымі воклічамі:

— Яны выжылі! І дзіця, і матка! У родзе з'явілася дзяўчынка! Больш ніхто не скажа, што ў сямействе Богушаў завялася кікімара.

## Жах прафесійны

Пад шафай жыў монстр. Карынка ніколі не бачыла яго, але па вечарах пакідала святло ў вітальні. Як толькі збіраліся на сон, дзяўчынка бегла ў ложак хутчэй за маму і тату. «Як добра, што ў нас такая выхаваная дачка!» — радаваліся бацькі. «Як добра, што не просяць выключаць святло!» — радавалася яна.

***Аўтар пра апавяданне «На досвітку»***

Кажуць, пісаць «на замову» немагчыма. Але ў выпадку з апавяданнем «На досвітку» ўсё атрымалася якраз наадварот. Школа маладога пісьменніка, якую я скончыла, абвясціла конкурс гатычнага апавядання. Для пачатку я начыталася, што ж гэта такое, і прыйшла да высновы, што гатычнае — значыць вельмі страшнае. Ніколі не захаплялася трылерамі ці хоць бы страшылкамі, якія любяць расказваць у летніках, так што конкурс стаўся для мяне выклікам.

Месяцы два я перабірала тэмы і сюжэты, ад сямейных гісторый да беларускага фальклору. У выніку, калі да дэдлайна заставалася некалькі дзён, на вочы трапіўся артыкул у энцыклапедыі міфаў: маўляў, на Беларусі дзяўчаты, якіх маці праклялі да нараджэння, становяцца кікімарамі. І ўсё стала на свае месцы! Сюды ж далучылася сямейная гісторыя пра тое, як памерла парадзіха, а на досвітку ў акно пагрукала птушка, і памерла немаўля — нібыта душа маці вярнулася за дзіцём.

Так што апавяданне накрэмзала ў нататніку на адным уздыху ў лепшых традыцыях гатычнага жанру: было за поўнач, на стале гарэў начнік…

Апошнія сказы напісаліся самі, і здзівілі нават мяне. А што да конкурсу, то гісторыі аддалі пачэснае другое месца.

Аднаго разу мама і тата сабралі валізку, пацалавалі Карынку і паехалі ў рамантычны адпачынак. Дачка не сумавала: яна збіралася слухаць рок-музыку, піць газіроўку, трушчыць шакаладныя цукеркі і ў адкрытую глядзець жахі на буйным экране без розных «што за поскудзь!» ці «ідзі палюбуйся, чым твая дачка захапляецца!», а калі ўсур’ёз захочацца есці, дык маці набіла лядоўню карыснай ежай.

Карынка засыпала столік markdownзнакаляровымі жуйкамі ды жэлацінкамі, пячэнькамі ды зефіркамі і ўключыла фільм. Пасля хрусцення абгорткі ад марозіва ў зале зашалясцела музыка першых кадраў. Потым пракраліся глухія барабаны, за імі выйшлі палюваць крыважэрныя басы, але ўсіх перарэзалі скрыпкі, а разам з імі — пашкрэбванне ў вітальні.

Дзяўчынка перарвала сеанс і прыслухалася. Яна азірнулася па баках, але вырашыла пакуль святло не запальваць, бо інакш які сэнс фільмы на вялікім экране глядзець? Але ў шафе відавочна нехта прачнуўся. Ён спатыкаўся на шчоткі для вопраткі, зачхаўся ад пшыкалкі для абутку і нават скінуў з вешалкі паліто.

Карынка застыла перад экранам. Яна баялася паглядзець у цемру калідора, яна баялася кінуцца ў вітальню і ўключыць святло, бо тады яна патрапіць уціскі жаху. Яна ўбачыць яго вялізную калматую пысу, вострыя іклы, агромністы нос з касцяшкай, закручаныя рогі і вострыя кіпцюры. Вось гэтымі кіпцюрамі Жах яе сцісне і ўгрызе за шыю.

З левага боку прыцерлася нешта цёплае. І дыхала. Карынка марудна-марудна, нібы ход канём старога настаўніка па шахматах, нібы стрэлка гадзінніка за пяць хвілін да канца ўрока перад сталоўкай, нібы чарга да стаматолага, калі ў сцішаным калідоры павісквае бормашынка, павярнула галаву. Чырвоная калматая пыса, вострыя іклы…

— А-А-А!

Жэлацінкі разляцеліся па зале і закаціліся пад канапу, марозіва апісала пятлю і пляснулася на светлую абіўку. Дзяўчынка збегла ў свой пакой, скокнула на ложак і забілася пад коўдру — адзінае месца, куды Жах не прабіраўся. У зале да апоўначы нешта крахтала і павісквала.

Два дні Карына старанна церла шакаладна-малочную пляму мылам, соллю, содай, крухмалам і нават дзіўным імпартным парашком, пра які прачытала на форуме ў інтэрнэце і на які давялося выцягнуць грошы са скарбонкі, куды траплялі падарункі бабуль. Але да відыка

не набліжалася. На трэці дзень дзяўчынка ўзброілася бацькаўскім дыванком з іголкамі, што выкарыстоўвалі, калі балела спіна, маміным рондалем на пяць літраў і швабрай. Хопіць баяцца, таму што зліваць дні, калі бацькоў няма дома, проста ганебна. Дыванок Карынка разаслала злева на канапе, рондаль і швабра чакалі справа.

Дзяўчынка націснула трохкутнічак на дыстанцыёнцы і прыслухалася. Праз паўхвіліны містычнай мелодыі фільма Жах закорпаўся ў шафе. Дзверы з глухім стукам прыадчыніліся, падлога рыпнула, і ў блакітны слупок святла пралезла чырвоная фізіяномія. Карынка абдымала рондаль і, быццам загіпнатызаванае куранятка, назірала, як набліжаецца монстр. Ён абмінуў калючы дыванок, падпоўз да дзяўчынкі і грэбліва прынюхаўся. Яна глядзела ў вялізныя круглыя вочы і вузкія зрэнкі, яна ўдыхала смярдзючыя хімікаты і пыл, якімі прапахла поўсць, і яна дачакалася, калі монстр прысеў каля канапы і азірнуўся на экран.

Дзяўчо жахнула рондаль монстру на галаву, яна дубасіла па рондалі швабрай, апантана, нібы бабулька, што выйшла ўзімку выбіваць дыванок са сцяны. Жах зароў, замахаў лапамі, біўся нагамі аб газетны столік, аднак рондаль з галавы скінуў. Жалязяка з грукатам упала і пакацілася па падлозе. Монстр злавіў і разламаў швабру. Ён схапіў Карынку і пачаў душыць, і ён гыркаў, шыпеў, роў, пакуль не…

— А-А-А!

Візгат Карынкі перарос ва ўльтрагук. Монстр зморшчыўся і зацiснуў калматымі лапамі вушы. Дзяўчынка пусцілася ў спальню і ўратавалася пад коўдрай.

Наступныя тры дні, калі вярталася са школы, Карынка на ўсялякі выпадак пакідала святло ў прыхожай і ваннай, і, ледзь толькі зрабіўшы ўрокі, клалася спаць. Жах засеў у шафе і не вылазіў.

У апошні вечар перад прыездам бацькоў дзяўчынка стала пасярэдзіне пакоя і з паўгадзіны глядзела то на канапу, то на экран. Трэба з гэтым скончыць. Яна выграбла рэшткі грошай са скарбонкі; набыла два гатункі чыпсаў — з папрыкай і з цыбуляй, высыпала кардонку кукурузных шматкоў у місу і заліла кока-колай, падрыхтавала пачак семак і сухароў. Выключыла святло, запусціла фільм.

У шафе было ціха.

— Жа-ах, ты тут? — паклікала Карынка.

Яна хрумстала чыпсы, калі ў слабым блакітным святле паказалася недаверлівая пыса. Жах бачком-бачком падышоў да газетнага століка, абмацаў канапу, азірнуўся на экран. У тэлевізары шамацелі дрэвы, і з-за перакошанай павеці выпаўзала слізкая маса. Жах прысеў на ўскраек канапы. Вылупіўся на экран. Працягнуў лапу па місу са шматкамі, пачаставаўся. Смачна. Карынка побач пасёрбвала газіроўку, і Жах зусім разваліўся на падушках. Разам фільмы глядзець весялей.

***Пра апавяданне «Жах прафесійны»***

Для мяне гэта мілая гісторыя пра дзяўчынку і яе жахі. Калісьці і мае бацькі паехалі ў адпачынак, а я цудоўна правяла час у кампаніі чыпсаў і відыка. Вось толькі цемры баюся… А пасля неяк убачыла ў сецiве малюнак: чырвоны монстр і дзяўчынка сядзяць на канапе, трушчаць папкорн, глядзяць тэлевізар. «Жах прафесійны!» — падумала я і напісала апавяданне.



Алесь Емяльянаў-Шыловіч

**нарадзіўся 23 студзеня 1987 года ў Крычаве, жыве і працуе ў Мінску. Паэт, перакладчык, рэдактар літпартала Textura.by. Пераможца міжнароднага конкурсу на найлепшы пераклад паэзіі Віславы Шымборскай на беларускую мову. Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць». Вершы перакладаліся на польскую, сербскую, украінскую, рускую мовы.**

## У замкнутай прасторы

***

раней з паштовай скрыні выпырхвалі
прастакутныя белыя галубы лістоў
рознакаляровыя калядныя качкі паштовак
цяжкія ад свінцу арлы газет

цяпер з-пад прыадчыненага вечка
вывальваюцца павы смецця
пярэстыя смярдзючыя каталогі зніжак
вокны і дзверы вокны і дзверы
рэкламных праспектаў

канверты прылятаюць зрэдчас
дый тое збольшага афіцыйныя
бяздушныя безаблічныя
фактычна таксама смецце

як штодня не праводзіць чыстку
дык зграя такіх падлаедаў
з часам можа праглынуць
каго заўгодна

## Коўна

тут балтыйская соль
расчыненая ў волкім булёне паветра
коле ноздры й міндаліны
раз'ядае зрэнкі
прыхадням-gudis'ам
якія акупавалі горад
і сноўдаюць тут і там
па бясконцых пагорках
гатэлях гандлёвых цэнтрах
музеях касцёлах
халодныя сцены
змрочныя вежы
нібы з пагардай гавораць
вы чужыя
горад Вітаўта ніколі не быў
і не будзе вашым
žmugas ведае слова Kaunas
žmugas славіць герб Výtis
žmugas кладзецца ў ложак апоўначы
а тым часам па вуліцах і падворках
ашалела носіцца здань Vytautas'а
апараная кіпнем ковенскага паветра

***

страшна застацца адному
ў гэтым панэльным пеклішчы
добраахвотна замураваным
у трохмернай сістэме
падлогі сценаў і столі
дзе толькі хуткабежнасць часу
і прадчуванне блізкай сустрэчы
не даюць зрабіцца шызафрэнікам
у гэтай замкнутай прасторы
не магу без цябе…

## сутычка

…яны сутыкнуліся ў цэнтры сталіцы
ілбамі
бо занураныя ў айфоны
не бачылі адно аднаго
у яго здох вінчэстар
перагружаны гігабайтамі
у яе заглючыла аператыва
яны сутыкнуліся і забыліся словы
якія звычайна кажуць
і кожны пайшоў у свой бок
пасля ён падумаў
дзеўка нішто сабе
а яна
трэба яго адшукаць
у VK…

## перасоўванне

кватэра пустая нібы Калахары
жоўты лінолеум і шпалеры
асабліва падкрэсліваюць
гэту метафару

апошнія дзесяць гадоў
я пачуваюся
бядотным беларускім бедуінам
які не першы раз
пакідае кавалак чужое прасторы

з нядаўняй пары
вандруйма ўтраіх
і ствараем чарговы аазіс
у чыёйсьці панэльнай пустэльні

## паэтычная кухня

— памый, калі ласка, посуд, —
кажа жонка паэту.
— я думаў скончыць вершык.
— ды гэта на пару хвілін.
— а як жа ж… вершык?
— я зранку да вечара, як катаржанка,
на гэтай трыклятае кухні —
зварыць абед і падлогу памыць,
пакласці дзіця і памыць галаву,
а сёння я напрала столькі бялізны,
што хопіць на цэлае войска,
паглядзі — мае рукі
шорсткія, нібы шмаргель.
памый посуд, кажу!
ды калі ты наогул штосьці рабіў?
у лазенцы хутка абваліцца мыйніца,
а зэдлік хістаецца так,
што можна званітаваць,
нібы ў гайданку на караблі.
памый жа нарэшце посуд —
апошняе папярэджанне!
— добра, — кажа паэт, —
але ж ведай:
ты забіла верш,
і я ўсім скажу —
мая жонка забіла верш!
цябе пакараюць прылюдна,
бо ты папусціла злачынства —
хаця ведаеш,
я пакараю цябе іначай.
вазьму й напішу паэму
пра тое, як ты, мая жонка,
забіла верш.
і паэт пайшоў пісаць паэму.

таго вечара паэзія не пацярпела.
паэт і ягоная жонка
таксама жывыя й здаровыя.
толькі няшчасны, закінуты посуд
і па сёння плеснее ў мыйніцы.

## вершык

— напішы шчымлівы вершык, —
просіць хлопчык пяцігадовы, —
пра тое, што снег пайшоў,
снег бывае пад новы год.
напішы, каб дзед мароз
падарыў мне сабачку,
можа, ён прачытае,
і мандарыны, канечне ж.
мне іх калісьці купляла матуля…
і пра матулю,
напішы пра матулю!
не трэба пра мандарыны, сабачку і снег —
напішы пра матулю,
можа, яна нарэшце прыедзе!..

я прачнуўся, увушшу звінеў
голас гэтага хлопчыка з дзіцячага дома.
чаму ён прыйшоў да мяне?
чаму я цяпер сяджу і крэмзаю вершык?



## Валеры Пазнякевіч



**нарадзіўся 10 красавіка 1968 года ў вёсцы Сінкевічы Лунінецкага раёна. Яго вершы ўвайшлі ў хрэстаматыю для сярэдніх школ «Сэрцам роднага слова краніся», анталогію аднаго верша «Агледзіны», анталогію беларускай хрысціянскай паэзіі «Насустрач духу», іншыя выданні.**

**У 2016 годзе запісаў два студыйныя альбомы: «Прызнанне Айчыне» і «На вакзалах». Захапляецца рыбалкай, любіць вандраваць па гістарычных мясцінах Беларусі. Сёлета спаўняецца 25 гадоў са дня першай публікацыі Валерыя ў часопісе «Маладосць».**

# Зямлі маёй сэрца

### Малітва за Беларусь

Малюся за ўсіх мёртвых і жывых,
За тых, хто Беларусь жыццём праславіў,
Каб мы шчасліва, радасна жылі,
Каб мары нашых дзён уваскрасалі.

Малюся за працоўны наш народ,
За ўсіх, каго Радзіма апантала.
Хто сее жыта, садзіць агарод,
Хто памятае тых, каго не стала.

За нашай з вамі памяці крыжы
Я свечку запалю і памалюся.
І ў Бога папрашу: беражы
Народ маёй пакутнай Беларусі.

Няхай людзей яднаюць дабрыня
І светлыя пачуцці да Айчыны,
Дзе першацвет вясною набрыняў,
Каб з ёю мы шляхі свае злучылі.

## Глыток вады

Айчына, ты чуеш, як сэрца тваё
Б’ецца ў маіх грудзях?
Як думкі твае штурхаюць кроў
І ў свет дабрыню нясуць.
З табою мне хочацца крочыць туды,
Дзе ёсць у дарог працяг,
Каб вочы спазналі тваю прыгажосць
І думак тваіх вясну.
Я сын тваіх пушчаў, пагоркаў, крыніц,

Замкаў, і спелых ніў.
Я мудрасць тваю з сабою нясу,
Бо ў ёй — чысціні выток.
Напіўся сягоння крынічнай вады,
Ды крышку ў зямлю праліў —
Каб сілаю ты налілася зноў,
Я даў і табе глыток.

## Вечар ля Нарачы

Па-над Нарачча вечар.
Па-над соснамі — ціша.
Маладзік, нібы ў вечнасць,
Ёй лісты свае піша.

Па-над Нарачча думкі
Шамацяць чаратамі.
Тыя дзіўныя гукі
Нас з табой апанталі.

Мая мілая Нарач!
Ты зямлі маёй сэрца.
Ты — надзея і мара,
Што з нябёсаў ліецца.

Я з каханай у лодцы
Твае думкі чытаю,
Дзе схавалася сонца
Майго любага краю.

А над Нарачча зоркі,
Баюць сны да світанку
Чыстым голасам звонкім,
Як мелодыя ранку.

## Завіруха

За акном правіць баль завіруха —
Плача, вые, скуголіць падвей.
Сыпле з неба то пер’ем, то пухам,
Каб сагрэцца ў час лютых завей.

Лес ахутаўся белай хусцінай —
Задуменна чакае вясны,
Калі кроны раскіне гасцінна
І расквеціць зімовыя сны.

Каля плоту сумёты, бы хвалі,
Што застыглі ў бягучай красе.
Люты нораў зіма не хавае,
Яна ў небе пярыну трасе.

***

Гарачы летні дзень змарыў мяне,
Каб я прылёг на ліпеньскія травы
І на зялёным мяккім дыване
Даў адпачыць касе ад важнай справы.

А вочы праглі дбайнага дажджу,
Пчалінай песні над квяцістым лугам,
Там, дзе зрання з касою я хаджу —
Траву ў валкі сплятаю цесна, туга.

Ды раптам — бачу ў купіне гняздо.
Я тут касіць не маю, браткі, права.
Тры яйкі ў ім... Касы маёй лязо
Ледзь трох дзяцей у птушкі не забрала.

І вось яна! — то жаўранак-вяшчун
Касца бясстрашна з лугу праганяе.
Ды так і быць — я сам таго хачу,
Каб птушаняткі вывеліся з яек.

## Дзе

Песня пачутая сэрца не радуе,
Толькі распальвае крыўду ўва мне.
Дзе ж ты, айчыннае, роднае радыё,
Дзе ты гучыш, у якой старане?

Што ў нас за мода пайшла на замежнае —
Хіба сваё мы забылі зусім?
Хто нашы думкі закрыў тымі межамі,
Хто ў пана Бога аб гэтым прасіў?

Дзе тая светлая песня купальская,
Дзе той вяночак, што плыў па вадзе?
Клямка на хаце збянтэжана ляскае:
Дзе той паэт, што народ павядзе

Цераз мяжу адчужэння да роднага,
Да тых крынічак, дзе песня гучыць:
Вечная,
Вольная,
Наша,
Народная!
Песня, з якою захочацца жыць…

## Паэтам

Няхай праменьчык веры грэе думкі
Для тых, хто славіць вершам родны кут,
Хто адчувае сэрцам тыя гукі,
Што свет аберагаюць ад пакут.

Паэтам, браце, трэба нарадзіцца,
Каб чуць зямлі дыханне і спадзеў,
Каб выказаць, аб чым пяе крыніца,
Хістаючы пачуцці на вадзе.

І толькі той, хто словы тыя чуе,
І ёсць сапраўдны сын сваёй зямлі.
Яго душа пад зоркамі начуе,
Што веру ад вытокаў узялі.

## Восень у Парыжы

Падняў свой крыж,
Пайшоў па той дарозе,
Дзе вера па-над лёсам узышла.
Маўчаў Парыж —
Там пазалоты восень
На глебе дзён прыстанку не знайшла.

А тое лісце, што яшчэ вісела,
Хацела над Парыжам пакружыць:
Над Эйфелевай вежаю і Сенай,
Ля храмаў тых, дзе свяцяцца крыжы.

Настрой той не адчулі парыжане —
Замкнёны мір не даў убачыць ім,
Як ліст апаў, як страпянуўся з жалем
Пад ім усходні вытканы кілім.

## Вясна ля татавай хаты

Расцвілі дзьмухаўцы каля хаты —
Жоўты колер вітае вясну.
Ды вясна гэта пройдзе без таты —
Без спадзеву, што ў сэрцы нясу.

Абарваліся повязі ніткі,
І вясна ўжо не тая зусім.
Не цвітуць ля акна аксаміткі —
Красаваць не хапае ім сіл.

Толькі ластаўкі дружна шчабечуць
У гняздоў'і сваім ля страхі:
Спрэчку з лёсам вядуць чалавечым
І замольваюць нашы грахі.



Сяргей Белаяр

# Расследаванні інспектара Сарвы

*Цыкл навукова-фантастычных апавяданняў*

(Заканчэнне. Пачатак у №3/2016, №4/2016, №5/2016)

Ні адзін твар не паўтараўся двойчы.

Інспектар абвёў доўгім позіркам робатаў і сказаў:

— Папрашу падняць руку тых, хто лічыць сябе несапраўдным!

— Што за трызненне? — Нахмурыўся галоўны інжынер, перш чым ускінуліся першыя рукі.

— У свой час Жабенцяй спавядаў панпсіхізм.

— Ніколі пра такое не чуў!

— Гэта прадстаўленне аб усеагульнай адушаўлённасці прыроды. Ад старажытнагрэцкіх слоў «παν» — «усё» і «ψυχή» — «душа».

— Чалавек вольны верыць ва ўсё, што заўгодна!.. Якое дачыненне ваш гэты панпсіхізм мае да андроідаў?

— Непасрэднае, спадар Гельмольд. Жабенцяй пазнаёміў андроідаў «Ціха Браге» з паняццем душы. І цяпер яны пачалі задумвацца аб уласнай сутнасці...

— Нешта я не зусім добра вас разумею, спадар Сарва.

Кіўнуў і Юдзін.

Сарва пачаў тлумачыць:

— Робаты запраграмаваныя паводзіць сябе як людзі. Яны і лічаць сябе людзьмі. Але варта толькі паказаць ім на тое, што яны іншыя... Сапраўдным людзям не патрэбныя ні татуіроўкі на твары, ні ідэнтыфікацыйнае адзенне!.. Адсутнасць душы ва ўяўленні андроідаў робіць іх толькі копіямі. А копія, якой бы цудоўнай ні была, заўсёды горш за арыгінал, спадары.

— І ўсведамленне гэтага факту аказалася для андроідаў шокам, — з разуменнем кіўнуў механік. — У такім выпадку навошта камусьці спатрэбілася нападаць на вас?

## Ідэнтыфікацыя

— Баюся, спадар Юдзін, што я не змагу адказаць на вашае пытанне, паколькі не маю ні найменшага ўяўлення аб тым, хто з шасцісот трох чалавек і сямідзесяці двух андроідаў мог на мяне рабіць замах.

— Вы лічыце, што наступствы карэкцыі праграмы могуць аказацца настолькі сур'ёзнымі, спадар Сарва? — Словы інспектара Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў галоўнаму інжынеру навукова-даследчай станцыі «Ціха Браге» відавочна не спадабаліся.

— Так, спадар Гельмольд. Андроіды — гэта ўсяго толькі чалавекападобныя робаты, аднак гэта зусім не азначае, што ім не хочацца стаць людзьмі... Спецыфіку чарвяка можа ведаць толькі яго стваральнік — Гербурт Жабенцяй.

На твары галоўнага інжынера адбілася заклапочанасць — Гельмольд прыкідваў, колькі «Ціха Браге» будзе каштаваць адладка андроідаў.

— Я неадкладна звяжуся з камісарам Айнбундам — няхай запатрабуе ў пракуратуры ордэр на арышт Жабенцяя.

Начальнік Дэпартамента патэлефанаваў першым:

— Як прасоўваецца расследаванне, Сарва?

— Скончана, спадар камісар. — З-за адлегласці, якая падзяляла Зямлю і Марс, сігнал прыходзіў са спазненнем. — У бліжэйшы час адпраўлю вам папярэднюю справаздачу.

— Вы выдатна папрацавалі, Сарва! Абяцаю адзначыць вас у рапарце... У мяне ёсць для вас новае заданне: вяртайцеся на «Джавані Скіяпарэлі». З дэтэктывам Ладо страчана сувязь.

— Зразумеў, спадар камісар.

— А што ў вас з голасам, Сарва?

— Проста крыху стаміўся.

— Спадар Замосцін ласкава пагадзіўся дазволіць спадару Юдзіну суправаджаць вас. Перадайце механіку, што яго садзейнічанне будзе ўзнагароджана.

— Абавязкова, спадар камісар. — Інспектар дакрануўся да піктаграмы завяршэння размовы і схаваў камунікатар. — Збірайцеся, спадар Юдзін, мы вяртаемся на «Джавані Скіяпарэлі».

— Вам бы адпачыць, спадар Сарва, — спагадліва заўважыў механік.

— У дарозе адпачну. — Інспектар сумняваўся ў тым, што стрымае слова: трэба было аднавіць па памяці даныя па справе пра агента-актыватара дафамінэргічных сістэм і скласці справаздачу аб расследаванні на «Ціха Браге». Разбіты планшэтны персанальны камп'ютар замяніць ноўтбук.

— Я пайду рыхтаваць усюдыход да выхаду.

Сарва адправіў паведамленне Айнбунду, пасля чаго вярнуўся ў жылую ячэйку, каб сабраць рэчы. Як заўсёды, іх быў мінімум. Сукупнасць фактараў — дзеянне лекаў, купанне ў метан-этанавай сумесі, удар па галаве, напружанне апошніх дзён — прывяла да таго, што прысеўшы перавесці дух інспектар, сам таго не заўважыўшы, пагрузіўся ў сон.

— Спадар Сарва! — Інспектар прачнуўся ад таго, што яго інтэнсіўна штурхалі. — Усё гатова. Можам ехаць.

Галоўны інжынер зайшоў у шлюзавы адсек, каб развітацца і яшчэ раз выказаць падзяку за дапамогу.

— Жадаю ўдачы, спадары!

Знешнія створкі самкнуліся, і ўсюдыход узяў курс на «Джавані Скіяпарэлі».

Пасля некалькіх безвыніковых спроб скласці справаздачу, інспектар папрасіў механіка пабудзіць яго праз чатыры гадзіны і дазволіў Марфею заключыць сябе ў абдымкі. Сон пайшоў на карысць — Сарва адчуў сябе нашмат лепш. Прыкласці саграавальны кампрэс да патыліцы, знаходзячыся ў скафандры, інспектар не мог, таму ён уключыў шыйна-пазваночны сегмент сістэмы абагравання на максімум.

Даўно адышлі ў нябыт часы, калі працаваць у жорсткіх шматслойных пальчатках, надзьмутых ціскам паветра знутры, было сапраўднай пакутай. Аднак пэўныя цяжкасці з працай на клавіятуры ноўтбука Сарва ўсё ж адчуваў. Трэніраваная памяць дазволіла інспектару аднавіць ход падзей, не выпусціўшы ні адзінай дэталі.

Навукова-даследчая станцыя паказалася на гарызонце бліжэй да вечара таго ж дня. Сарва загадаў Юдзіну спыніць машыну за кіламетр ад «Джавані Скіяпарэлі» і залез на дах усюдыхода, каб разгледзець станцыю ў лічбавы стэрэабінокль. Пры выглядзе дзіркі ў фурытавым купале модуля паўночнага крыла сэрца інспектара забілася часцей. Менавіта ў тэхнічным памяшканні, што страціла герметычнасць, і знаходзіўся рэзервуар, атручаны інжынерам-геадэзістам Майнцам.

шок — вялізныя памяшканні былі цалкам застаўленыя падобнымі на труны капсуламі падтрымання жыцця. І ў кожнай з іх ляжала маленькае дзіця.

Пры адной толькі думцы пра тое, які лёс прыгатаваны гэтым дзецям, у грудзях інспектара пачынаў клекатаць гнеў. Пагоня за грашыма ператварыла людзей у сапраўдных монстраў, якія не заслугоўвалі ніякай ласкі. Кадры атрымліваліся страшныя — Сарва рабіў над сабой намаганне, працягваючы фатаграфаваць.

Праз дзве гадзіны змрочны інспектар вярнуўся ў адміністрацыйны модуль і аддаў лейтэнанту вырваны з блакнота аркуш з паведамленнем.

— Адпраўце радыёграму на імя начальніка Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў камісара Еінара Айнбунда!

— Добра, спадар інспектар. — Лісток перавандраваў да аднаго з падначаленых Пагіна.

— Як прасоўваецца расшыфроўка?

— Крыптаграфічная стойкасць не самая высокая, аднак часу на падбор ключа патрабуе нямала. Райцэр кажа, што ў зашыфраваным кластары змяшчаецца інфармацыя аб пакупніках, а таксама банкаўскія рэквізіты навукоўцаў, якія задзейнічаны ў праекце.

— Тое, што трэба! — Аднаго толькі арышту выканаўцаў было мала. — Паведаміце мне, як толькі ваш чалавек скончыць працу.

— Абавязкова!

Далейшая прысутнасць Сарвы ў модульным комплексе была неабавязковай, таму інспектар вырашыў вярнуцца на катар і прыступіць да допыту гандляроў рабамі.

— Вы не забудзецеся пра сваё абяцанне?

— Можаце не хвалявацца, спадарыня Таранда! — Лісьлівы погляд капітана барка выклікаў у інспектара агіду. — Я сваё слова трымаю!

— Не падумайце чаго, спадар інспектар, — забалбатала жанчына, — мне і ў галаву не прыходзіла сумнявацца ў вашай шчырасці, але самі разумееце, патрэбныя гарантыі...

Апынуўшыся на борце катара, Сарва накіраваўся да Філюты.

— У вас выпадкова не знойдзецца лішняга планшэтнага персанальнага камп'ютара, спадар Філюта?





## Сандра Ньюман Sandra Newman

**Сандра Ньюман — сучасная амерыканская пісьменніца, аўтарка трох раманаў, якія пакуль не перакладзены на беларускую і рускую мовы: «The Only Good Thing Anyone Has Ever Done» (2004), «Cake» (2008) і «The Country of Ice Cream Star» (2014). Суаўтарка іншых шматлікіх кніг, намінавалася на прэмію «Першая кніга Гардзіен». Працавала выкладчыцай літаратуры ва ўніверсітэтах, публікавалася з артыкуламі і літаратурнымі мініяцюрамі ў шэрагу выданняў, сярод якіх «Тэлеграф» і «Мэйл он Сандэй». Чытачам «Маладосці» з дазволу самой Сандры прапануецца пераклад аднаго яе артыкула.**

# Мужчына ў слязах

### Гісторыя ведае шмат прыкладаў, як гаравалі рыцары, рыдалі манахі і плакалі закаханыя. Што стала цяпер з высакародным мастацтвам мужчынскага плачу?

«Мужчыны не плачуць» — вось адна з нашых найбольш укаранелых ідэй мужнасці. Хоць мужчыну дазваляецца выціснуць з сябе скупую слязу на пахаванні, альбо калі ён прышчэміць пальцы дзверцамі машыны, усё ж мяркуецца, што ён хутка возьме кантроль над сабой. Прылюднае галашэнне — выключна для дзяўчат.

Гэта не толькі чаканні соцыуму, але і навуковы факт. Усе сучасныя даследаванні сведчаць, што жанчыны плачуць значна часцей за мужчын. У 2009 годзе мета-даследаванне Германскага таварыства афтальмалогіі вызначыла, што жанчыны плачуць у сярэднім у пяць разоў часцей, і кожны эпізод доўжыцца амаль удвая больш. Гэта настолькі звычайная неадпаведнасць, што мы лічым яе біялагічна запраграмаванай. Мы лічым, што, хочам ці не, а гэта адно з гендарных адрозненняў, ад якога нікуды не дзецца.

Але на самай справе можа стацца, што гэты гендарны разрыў у плачы — толькі сучасная распрацоўка. Гістарычныя і літаратурныя крыніцы сведчаць не толькі тое, што мужчыны плакалі публічна, але і тое, што ніхто не бачыў у гэтым нічога жаночага ці сорамнага. Насупраць, мужчынскі плач лічыўся нормай амаль у кожнай частцы свету на працягу ўсёй запісанай гісторыі.

Успомніце «Іліяду» Гамера, у якой уся грэцкая армія заходзіцца аднадушным плачам не менш за тры разы. Цар Прыям не толькі плача, але дзярэ на сабе валасы і ад гора катаецца па зямлі. Зеўс плача крывавымі слязьмі, і нават несмяротныя коні Ахілеса няўцешна галосяць над смерцю Патрокла. Канешне, мы не можам лічыць «Іліяду» дакладнай крыніцай гістарычных падзей, але несумненна, што грэкі лічылі усё гэта мадэллю паводзінаў для героя-мужчыны.

Мужчынскія слёзы далей працягнуліся і ў Сярэдневякоўі, дзе сведчанні аб іх назіраюцца і ў гістарычных, і ў літаратурных крыніцах. У хроніках перыяду мы знаходзім, як пасол неаднаразова плача, звяртаючыся да Філіпа Добрага, і ўся аўдыторыя на міравым кангрэсе кідаецца на зямлю, плача і стогне на працягу выступаў.

У адзінаццатым стагоддзі ў французскім эпасе «Песня пра Раланда» паэт так апісвае смерць аднайменнага героя: «І ўладары Францыі горка плачуць, / І дваццаць тысяч млеюць і падаюць ад гора». Можна быць упэўненымі, што ўсё адбывалася не так, як напісана. Але ўсё ж прыкметна, што вобраз дваццаці тысяч рыцараў, якія страчваюць прытомнасць ад гора, лічыўся высакародным, а не смешным.

Больш за тое, мужчына са слязамі на вачах быў не толькі феноменам Захаду. Яго можна сустрэць і ў японскім эпасе. У «Аповесці аб доме Тайра», якая часта разглядаецца як крыніца прыкладаў ідэальных паводзінаў самурая, можна ўбачыць мужчын у слязах літаральна на кожным кроку. Вось тыповая рэакцыя на смерць галоўнакамандуючага: «І ўсе, хто пачуў аб тым, сябры і ворагі, — усе плакалі, пакуль рукавы іх не прамоклі наскрозь».

Камусьці можа падацца, што гэта ўсё публічныя, рытуальныя выразы гора. Мужчыны маглі плакаць у гэтай рытуальнай манеры, калі справа тычылася цяжкіх тэм смерці, вайны і палітыкі, але ж — ці былі слёзы кахання і расчаравання выключна жаноцкай рысай?

Адным словам — не. Сярэдневяковыя раманы поўныя рыцарамі, што плачуць у асноўным з-за суму па сваіх каханых. У творы Крэцьена дэ Труа «Рыцар калёс» (альбо «Ланцэлот») не хто іншы як сам Ланцэлот плача на працягу нядоўгага расстання з Гвіневерай. Потым ён плача на плячы ў дамы ад адной толькі думкі, што ў яго не атрымаецца патрапіць на вялікі турнір. Больш за тое, яна не проста не раздражняецца на яго слёзы, але і жадае дапамагчы, і Ланцэлот нарэшце трапляе на турнір. Рыцары караля Артура, Марка і якога-небудзь іншага караля рэгулярна плачуць кожны раз, калі ім расказваюць чарговую душашчыпальную гісторыю. Цяжка ўявіць, ці існавала наогул якая-небудзь ніша сітуацый, у якой выключна жанчыны павінны былі плакаць. Яшчэ больш надзвычайная з'ява — нідзе ў гэтых гісторыях не згадваецца, каб мужчыны хлусілі і спрабавалі схаваць слёзы. Ніхто не прыкідваецца, нібы нешта трапіла яму ў вока. Ніхто не просіць выбачэння і не сыходзіць з пакоя. Яны плачуць у перапоўненай зале, у натоўпе, з высока ўзнятай галавой. Іх кампаньёны не пасміхаюцца з гэтага плачу пры людзях. Паўсюдна гэта лічыцца прыгожай праявай пачуцця.

У Бібліі таксама багата прыкладаў падобных выпадкаў публічнага плачу — цароў, цэлых народаў і нават Самога Госпада (ва ўвасабленні Ісуса). Зразумела, што на працягу стагоддзяў слёзы былі сінонімам набожнасці. «Споведзь» святога Аўгусціна скрозь напоўненая апісаннямі нястрымнага плачу аўтара. Ліст святога Ераніма да Яўстахіі згадвае плач восем асобных разоў, дзе Еранім апісвае сябе як «у нястрымным плачы», «выплакаўшы ўсе вочы», і завяршае ліст, умаляючы вернікаў: «Кожную ноч абмыйце ложак свой і бялізну на ім слязамі сваімі». Святы Ігнацій Лаёла, заснавальнік ордэна езуітаў, апісвае 175 асобных эпізодаў плачу на сарака старонках свайго дзённіка.

Плач быў настолькі істотнай часткай пакланення, што ён нават быў прапісаны ў статутах манаскіх ордэнаў як неабходнае суправаджэнне да малітвы і пакаяння. На працягу Сярэднявякоўя адзіны від плачу, які асуджаўся, быў плач крывадушны, які аднолькава часта сустракаўся і ў мужчын, і ў жанчын. Іншымі словамі, да нядаўніх часоў дарослыя мужчыны нават прымушалі сябе плакаць, спадзеючыся стварыць уражанне.

Ёсць адно прыкметнае выключэнне сярод гэтага сусветнага фестывалю плачу. Як адзначыў медыявіст Сіф Рыкардсдоцір з Універсітэта Ісландыі, скандынавы захоўвалі спакой і сухія вочы ў эру плачу. У сваёй працы «Сярэдневяковыя пераклады і культурны дыскурс» 2012 года Рыкардсдоцір ілюструе гэта з дапамогай параўнання дзвюх версій сярэдневяковага эпасу, дзе герой-хлопчык губляецца ў лесе. Французскі герой кідаецца ў плач і самашкадаванне, у той час як ягоны ісландскі «калега» стаічна захапляецца краявідам і плануе свае наступныя дзеянні.

Апісанне з ісландскага тэксту выглядае надзвычай пазітыўна: «І было вельмі цудоўна і прыемна там сядзець. Ён саскочыў з каня і глядзеў на мора, і сядзеў так, пакуль да яго не прыйшло нейкае разуменне». Рыкардсдоцір каментуе: «Плач лічыўся сацыяльна неадпаведнай з'явай, асабліва для мужчын. За абвінавачванні мужчыны ў плачы маглі адказаць смяротнай помстай». І хоць такая рэакцыя можа падацца занадта жорсткай, усё ж чуллівасць да такіх абвінавачванняў нам усім сёння добра знаёмая.

Па-за межамі Скандынавіі мужчынскае хныканне працягвалася да самага перыяду ранняга Новага часу, і было яно распаўсюджана сярод парламентарыяў як сярод рыцараў і манахаў. У 1628 годзе англійскі палітык Томас Алурэд апісвае рэакцыю Палаты абшчын на ліст ад караля, у якім былі пагрозы распусціць парламент: «Сэр Роберт Філіпс гаварыў, і ягоныя словы змешваліся са слязамі. Эдварда Коўка прымусілі сесці ў самым пачатку прамовы яго нястрымныя слёзы — так, спікер… не мог устрымлівацца ад плачу і слёз».

Дык куды падзеліся гэтыя слёзы мужнасці? На самай справе, мы не ведаем дакладна. Не было аніякага руху супраць слёз. Не было трактатаў наконт мужчынскага плачу, царкоўныя лідары і кіраўнікі дзяржаў не ўводзілі абмежавальных мераў. Плач знікаў так ціха і павольна, што ніхто не заўважыў, як гэта ўрэшце адбылося. Ужо ў XVIII стагоддзі паслядоўнікі Культу Чуласці агітавалі мужчын быць больш чуллівымі, акцэнтуючы ўвагу на вольных слязах, што значыць, мужчыны ўжо тады былі, як лічылася, пазбаўленымі слёзных залоз. Падчас Рамантызму мужчынскія слёзы засталіся толькі для паэтаў. І засталося зусім крыху да з'яўлення непранікальных твараў герояў Хэмінгуэя, якія, нягледзячы на паэтычныя схільнасці, не маглі выказаць гора інакш, як напіцца альбо прыбіць раптоўнага быка.

Па-за межамі Скандынавіі мужчынскае хныканне працягвалася да самага перыяду ранняга Новага часу, і было яно распаўсюджана сярод парламентарыяў як сярод рыцараў і манахаў

Гэтая метамарфоза адбылася, найбольш відавочна, у выніку пераходу ад феадальнага, аграрнага грамадства да ўрбаністычнага і індустрыяльнага. У Сярэдневякоўі большасць людзей праводзілі жыццё сярод тых, каго ведалі ад самага нараджэння. Тыповая вёска налічвала толькі 50—300 жыхароў, з якіх большасць былі звязаны кроўным сваяцтвам альбо шлюбам. Гэта як пашыраная сям'я, што жыве ў бясконцым перааб'яднанні, адарваная ад усяго свету. Сярэдневяковыя суды таксама былі месцам надзвычайнай закрытасці, дзе суддзі праводзілі дні ў кампаніі адзін аднаго, і так год за годам. Каралі звычайна кіравалі справамі з ложка, побач з якім ноччу спала ўлюбёная прыслуга. Такую фамільярнасць можна назіраць у дзіўных дэталях каралеўскага жыцця, напрыклад, у тым, што судовая знаць многіх еўрапейскіх каралёў імкнулася атрымаць прывілею дапамагаць манарху з дэфекацыяй.

Але з XVIII да XX стагоддзя насельніцтва перажывала масавую ўрбанізацыю; у хуткім часе кожны чалавек жыў сярод тысяч незнаёмцаў. Далейшыя змены ў эканоміцы патрабавалі, каб людзі працавалі разам на фабрыках і ў офісах, дзе выражэнне эмоцый і нават прыватныя размовы лічыліся стратай часу. Том Лутз піша ў сваёй працы «Плач: прыродная і культурная гісторыя слёз» (1999), што кіраўнікі фабрык свядома навучалі сваіх рабочых стрымліваць эмоцыі дзеля павышэння прадукцыйнасці: «Непажадана, каб эмоцыі ўмешваліся ў плаўны ход рэчаў».

Хоць на фабрыках працаваў некаторы адсотак жанчын, усё ж часцей яны заставаліся дома. Займаліся шыццём, мыццём бялізны альбо здавалі жыллё. Іншыя наймаліся гувернанткамі альбо наймічкамі ў чужыя дамы. Калі хатняя

гаспадыня альбо пакаёўка пачынала плакаць, яе за гэтым маглі бачыць толькі жыхары дома. А часцей гэтага наогул не бачыў ніхто. Ніякі майстар не накрычаў бы на яе, і яна магла ціхенька плакаць над сваёй асабістай мыйкай, колькі душа пажадае.

Такія сітуацый значна паўплывалі на разуменне палягчальнай функцыі плачу. Дослед, зроблены Лорэн Балсмай, Эдам Вінгерготсам і Джонатанам Ротэнбергам, які быў апублікаваны ў «Journal of Social and Clinical Psychology» («Часопіс сацыяльнай і клінічнай псіхалогіі», Фларыда) у 2008 годзе, паказаў: людзі адчуваюць сябе значна лепш пасля плачу, калі яны плакалі ў адзіноце альбо побач з чалавекам, які іх падтрымлівае. Калі ж яны плакалі пры людзях, альбо ў кампаніі абыякавага чалавека, ім рабілася толькі горш. Пад падтрымкай яны разумелі простыя жэсты, як «словы падтрымкі» і «дотык, які супакойвае» — жэсты простыя і натуральныя, але так ці інакш малаверагодныя на фабрычных пляцоўках.

Застаецца пытанне: наколькі падаўленне мужчынскага плачу ў нашай культуры шкодзіць альбо ідзе на карысць. З пазітыўнага боку, большасць з нас пазбаўлена абавязку рэгулярна супакойваць слёзы калег. Нам няўтульна, калі побач з намі плачуць. Гэта непазбежны вынік нашай здольнасці да эмпатыі. Мы не можам не адчуваць боль плачу, але з-за гэтага ж плач часам і адштурхоўвае нас. Гэта можа быць непажаданая блізкасць, эмацыянальны эквівалент уварвання ў асабістую прастору. Імгненная рэакцыя большасці людзей на слёзы — зрабіць усё, каб хутчэй іх спыніць.

Далей, не трэба нават быць параноікам, каб разумець, што моц слёз дае дарогу выкарыстанню іх як інструмента маніпуляцыі. Псіхолагі прызнаюць ролю маніпуляцыйнага плачу, больш за тое, лічаць яго прыроджанай рысай. Дзеці натуральна плачуць, калі хочуць есці, альбо калі ім балюча і некамфортна — гэта актывізуе ў бацькоў інстынктыўнае жаданне клапаціцца. І, калі цікава, даследаванне Міранды ван Тылбург, Марыэль Унтэрберг і Вінгерготса, якое было апублікавана ў «British Journal of Developmental Psychology» («Брытанскі часопіс псіхалогіі развіцця») у 2002 годзе, устанавіла, што малыя хлопчыкі і дзяўчынкі плачуць у аднолькавых аб'ёмах да пубертатнага ўзросту.

Зразумела, што ў развіцці дзіцяці ёсць кропка, калі галодны плач ператвараецца ў плач з-за таго, што бацькі не набылі нешта жаданае. Гэты плач можа быць надзвычай эфектыўным: колькі «Плэй Стэйшн» было набыта на такія дзіцячыя слёзы! І любы, у каго сярод родзічаў ёсць аматары паплакаць, ведае, як дарослыя здольныя атрымаць жаданае, умела выкарыстоўваючы мора слёз. Калі б можна было карыстацца плачам у якасці маніпуляцыі на працоўным месцы, самыя слязлівыя работнікі мелі б перавагу над больш стрыманымі канкурэнтамі. І найбольш верагодна, што ў выніку за плач праз меру на працоўным месцы звальнялі б па е-мэйле.

Таму сацыяльная забарона на плач мае спрэчную карысць. Узрастае прадукцыйнасць працы, мы пазбаўлены трагедый незнаёмцаў, і абодва палы на працоўных месцах абмежаваны ў выкарыстанні слёз для маніпуляцыі.

Тым не менш чалавечая прырода не прыстасаваная, каб праглынаць эмоцыі, і ёсць нагода думаць, што стрыманне слёз можа быць шкодным для здароўя. У 1980 годзе Маргарэт Крэпо, тады прафесар сястрынскай спра-

Ліст святога Ераніма да Яўстахіі згадвае плач восем асобных разоў, дзе Еранім апісвае сябе як «у нястрымным плачы», «выплакаўшы ўсе вочы», і завяршае ліст, умаляючы вернікаў: «Кожную ноч абмыйце ложак свой і бялізну на ім слязамі сваімі». Святы Ігнацій Лаёла, заснавальнік ордэна езуітаў, апісвае 175 асобных эпізодаў плачу на сарака старонках свайго дзённіка

Мужчынская дэпрэсія можа праявіцца праз ужыванне алкаголю ці наркаманію, у якіх таксама ёсць асобная высокая статыстыка смяротнасці. Успомніце стаічную Скандынавію — апрача вышэйшых паказчыкаў працоўнай прадукцыйнасці, гэтыя нацыі таксама ўзначальваюць сусветную статыстыку па алкагалізме і самагубствах

вы ва ўніверсітэце Маркет у Мілуокі, вынайшла, што ёсць узаемазалежнасць паміж узроўнем захворванняў, выкліканых стрэсам, і ненатуральна стрыманым плачам. Таксама слёзы на інтуітыўным узроўні з'яўляюцца супрацьлегласцю, якая звязана са шчасцем. Вінгерготс, прафесар псіхалогіі ў Тылбургскім універсітэце ў Нідэрландах, вынайшаў, што ў краінах, дзе людзі плачуць больш, узроўні задаволенасці таксама вышэйшыя. Да таго ж, плач — істотная прылада для вызначэння пачуццяў. У 2012 годзе было праведзена даследаванне сярод пацыентаў з сіндромам Шэгрэна, якія не здольныя плакаць, і высветлілася, што ў гэтых людзей значныя цяжкасці з вызначэннем сваіх пачуццяў у параўнанні з кантрольнай групай.

Вы можаце пакутаваць нават з-за таго, што будзеце плакаць употай, як гэта цяпер прынята чакаць ад мужчын. Як мы бачылі, плач можа быць інструментам сацыялізацыі, які можа выклікаць людзей навокал на дапамогу. У той самы час як плач можа лічыцца непажаданым фактам для працоўнай характарыстыкі, усё ж ён можа быць спосабам папярэдзіць сяброў, сям'ю і нават калег, што вам патрэбна падтрымка. Табу супраць мужчынскай экспрэсіі значыць, што мужчыны з нашмат меншай верагоднасцю атрымаюць дапамогу ў выпадку дэпрэсіі, чым жанчыны. Гэта, у сваю чаргу, суадносіцца з высокім узроўнем самагубстваў: шанц мужчыны памерці праз сябе самога ў чатыры разы вышэйшы, чым у жанчыны. Мужчынская дэпрэсія можа праявіцца праз ужыванне алкаголю ці наркаманію, у якіх таксама ёсць асобная высокая статыстыка смяротнасці. Успомніце тую ж стаічную Скандынавію — апрача вышэйшых паказчыкаў працоўнай прадукцыйнасці, гэтыя нацыі таксама ўзначальваюць сусветную статыстыку па алкагалізме і самагубствах.

Таму, можа, прыйшоў час, каб мужчыны вярнулі сваю волю плакаць, што была ў іх у мінулым. Канешне, мы не можам вярнуцца да цесных вёсак Сярэдневякоўя, але мы можам адрадзіць іх братэрскі дух. Офісная культура робіцца ўсё больш нефармальнай, і, мабыць, мы можам дапоўніць «казуальныя» пятніцы, напрыклад, эмацыянальнымі панядзелкамі. Можам мы ўявіць свет, у якім аднолькава мужчыны і жанчыны маглі б заплакаць, пачуўшы несуцяшальныя лічбы на гандлёвай сустрэчы? Нас можа адштурхнуць вобраз сучаснага Ланцэлота, які, калі бос не хоча пасылаць яго на вялікую канферэнцыю, пачне плакаць, пакуль не даб'ецца камандзіравання. Але верагоднасць, што такое адбудзецца, выглядае такой нязначнай, несапраўднай у нашым свеце, дзе мы звычайна хаваем эмоцыі так, што нават перастаём іх распазнаваць.

Можна адкрываць шлюзы. Настае час, каб мужчыны пакінулі вобраз героя баевіка з каменным тварам і сталі больш падобнымі на эмацыянальных герояў Гамера, на рыцараў у слязах, на святых і дзяржаўных дзеячаў, якія існавалі на працягу тысячагоддзяў чалавечай гісторыі. Калі справы не ладзяцца, давайце ўсе — мужчыны і жанчыны — аб'яднаемся і будзем плакаць, пакуль рукавы не прамокнуць наскрозь. Бо і ў Старым Запавеце сказана: «Тыя, што сеялі са слязьмі, будуць пажынаць з радасцю».

*Пераклад з англійскай Маргарыты Пражога*

Крыніца: https://aeon.co/essays/whatever-happened-to-the-noble-art-of-the-manly-weep



## **Герман Гесэ** Hermann Hesse

# Die Kunst des Müßiggangs. Мастацтва бяздзейнасці

*Некалькі апавяданняў са зборніка*

**Чытачы знаёмыя з Германам Гесэ як з майстрам метафізічнай прозы, тонкім псіхолагам і філосафам. Такім ён паўстае ў сваіх позніх творах. Я знайшла зборнік ранніх апавяданняў пісьменніка і хацела б прадставіць на суд чытачоў «Маладосці» пераклады некаторых з іх. Напісаныя больш за сто гадоў таму, апавяданні гэтыя зразумелыя і актуальныя сёння. Дзіцячыя (і не толькі) успаміны, першае каханне, сяброўства, перажыванні аднаго мастака, філасофскія разважанні ўночы, а яшчэ вясна. Знаёмцеся — Герман Гесэ з новага боку: малады і рамантычны!**

*Надзея Марковіч*

## На катку

У той час я яшчэ бачыў жыццё па-іншаму. Мне было дванаццаць з паловай, і я жыў у рознакаляровым багатым свеце хлапечых радасцей і мараў. І вось першы раз нясмела і палка замігцеў мяккі блакітны далягляд пяшчотнага і шчырага юнацтва ў маёй здзіўленай душы.

Зіма была доўгая і лютая, і наша прыгожая Шварцвальдская рачулка на працягу многіх тыдняў была скаваная лёдам. Я не магу забыць тое незвычайнае пачуццё страшэннага захаплення, з якім я першым вельмі халодным ранкам прыйшоў на раку, бо яна была глыбокая, а лёд такім празрыстым, што можна было пабачыць пад сабой, як праз тонкае шкло, зеленаватую ваду, пясчанае дно з камянямі, фантастычна пераплеценыя водарасці і часам нават цёмную спіну рыбіны.

Цэлымі днямі я са сваімі сябрамі лётаў па рацэ з чырвонымі шчокамі і сінімі рукамі, з сэрцам, якое энергічна бухала праз хуткае, рытмічнае катанне на каньках і поўнілася цудоўнай бестклапотнай радасцю хлапечых гадоў. Мы трэніравалі хуткасны бег на каньках, скачок у даўжыню і вышыню, гулялі ў квача, і тыя, у каго былі старамодныя касцяныя канькі, што мацаваліся з дапамогай матузкоў да абутку, былі не самыя дрэнныя канькабежцы. Але ў аднаго з нас, у сына фабрыканта, была пара канькоў сістэмы «Галіфакс», якія мацаваліся без матузкоў ці рамянёў, таму іх можна было абуць і зняць вокамгненна. Слова «Галіфакс» з той зімы на працягу многіх гадоў было ў маім спісе падарункаў, якія я хацеў атрымаць на Каляды, але марна. А калі я праз дванаццаць гадоў хацеў набыць сабе пару сапраўды добрых канькоў і ў краме папрасіў «Галіфакс», мой ідэал і кавалачак дзіцячай веры быў страчаны, бо прадавец з усмешкай пачаў пераконваць мяне, што «Галіфакс» ужо старая і даўно не самая харошая сістэма.

Больш за ўсё я любіў катацца адзін, часта да прыцемкаў. Я гойсаў, вучыўся ў самым хуткім тэмпе спыняцца ці паварочваць у любым месцы, атрымліваючы асалоду ад катання і балансуючы ў прыгожых піруэтах. Многія з маіх сяброў выкарыстоўвалі час на рацэ для таго, каб бегаць


Ілюстрацыя Алены Зыбайла.

за дзяўчатамі і заляцацца. Для мяне апошнія не існавалі. Пакуль іншыя займаліся рыцарскім служэннем, з палкасцю і сарамлівасцю атачалі дзяўчат ці смела і спрытна каталіся з імі ў парах, я адзін атрымліваў асалоду ад катання. Да «рыцараў» я ставіўся спагадліва і з іроніяй, бо паводле слоў некаторых сваіх сяброў ведаў, якімі сумнеўнымі насамрэч былі іх рамантычныя жэсты.

У той час, амаль у канцы зімы, да мяне дайшлі школьныя чуткі, што Нордкафэр нядаўна зноў пацалаваў Эму Маер, калі яны здымалі канькі. Гэта нечакана ўсхвалявала мяне. Пацалаваў! Гэта было ўжо безумоўна нешта, што адрознівалася ад пахабных размоў і нясмелых поціскаў рук, якія раней лічыліся найвышэйшым узроўнем майстэрства ў заляцанні. Пацалаваў! Гэта быў водгалас чужога, зачыненага свету, існаванне якога я інтуітыўна адчуваў; свету, адкуль струменіцца духмяны водар забароненага плода; свету, які ўвабраў у сябе нешта таямнічае, паэтычнае, невымоўнае; свету, які з'яўляецца часткай таго прыкра салодкага і страшэнна прывабнага, што мы замоўчвалі, але ведалі на падсвядомым узроўні. Гэты свет часткова праявіўся дзякуючы легендарнай любоўнай прыгодзе Нордкафэра, героя ўсіх дзяўчынак, якому ўжо раней рабілі вымову ў школе. Ён быў чатырнаццацігадовым школьнікам з Гамбурга, які невядома якім чынам апынуўся ў нашай кампаніі. Я яго вельмі паважаў, і яго слава, якая далёка выйшла за школьныя сцены, часта не давала мне спаць па начах. А Эма Маер была, безумоўна, самай прыгожай дзяўчынкай у горадзе Герберсаў, светлавалосая, спрытная, ганарлівая і аднаго веку са мной.

З таго дня ў маёй галаве круціліся планы і хваляванні. Пацалаваць дзяўчынку — гэта перасягала ўсе мае тагачасныя мары, тым больш што гэта было забаронена і асуджалася школьнымі правіламі. Я хутка зразумеў, што ўрачыстае рыцарскае служэнне на катку было адзінай добрай магчымасцю. Перш за ўсё я хацеў зрабіць сваю знешнасць больш прывабнай. Я кожны раз старанна рабіў сабе фрызуру, педантычна сачыў за чысцінёй вопраткі, насіў футравую шапку з піетэтам, набок, і выстарцаваў у сваіх сёстраў ружовую шаўковую хустачку. Я таксама пачаў ветліва вітацца на катку з дзяўчынкамі, якія мне падабаліся, і бачыў, што гэтае нязвыклае шанаванне было заўважана, хоць і са здзіўленнем, але не без ухвалы.

Самым цяжкім для мяне было пачаць знаёмства, бо я ў сваім жыцці яшчэ ніколі не запрашаў дзяўчынку катацца. Я спрабаваў назіраць за сваімі сябрамі падчас гэтай важнай цырымоніі. Некаторыя з іх проста рабілі паклон і працягвалі руку, іншыя мармыталі нешта незразумелае, але большасць хлопцаў карысталася элегантнай фразай: «Ці маю я гонар запрасіць Вас?» Гэты выраз мне вельмі імпанаваў, і я рэпеціраваў яго ў сваім пакоі: рабіў паклоны перад печкай і прамаўляў гэтыя ўрачыстыя словы.

Дзень самага складанага першага кроку надышоў. Ужо ўчора ў мяне былі думкі пра заляцанне, але дадому я вярнуўся пануры, так і не адважыўшыся на што-небудзь. Сёння я вырашыў

у любым выпадку зрабіць тое, чаго так баяўся і палка жадаў. З шалёным грукатам у сэрцы і смяротна хвалюючыся, як злачынца, я прыйшоў на каток, і, здаецца, у мяне дрыжалі рукі, калі я надзяваў канькі. Потым я кінуўся ў натоўп, разганяючыся шырокімі крокамі і стараючыся захаваць у выразе твару рэшткі звычайнай упэўненасці і натуральнасці. Два разы я аб’ехаў доўгі каток у самым хуткім тэмпе, марознае паветра і імклівыя рухі дапамагалі супакоіцца.

Раптам пад самым мостам я з разгону наляцеў на кагосьці, і мяне, агаломшанага, занесла ўбок. А на лёдзе сядзела прыгожая Эма, відавочна, стрымліваючы боль, і з дакорам на мяне глядзела. У мяне перад вачыма паплылі кругі.

— Дапамажыце мне хутчэй! — крыкнула яна сваім сяброўкам. Тады я, ўвесь чырвоны, зняў сваю шапку, апусціўся перад ёй на каленкі і дапамог устаць.

Мы стаялі насупраць адзін аднаго, спалоханыя, разгубленыя і абодва маўчалі. Футра, твар і валасы прыгожай дзяўчынкі адурманьвалі нязвыклай блізкасцю. Я марна намагаўся ўспомніць словы прабачэння і ўсё яшчэ трымаў сваю шапку ў руках. І тут нечакана, пакуль мой позірк быў затуманены, я механічна зрабіў нізкі паклон і прамармытаў:

— Ці маю я гонар запрасіць Вас?

Яна нічога не адказала, але схапіла мае рукі сваімі тонкімі пальцамі, чыю цеплыню я адчуваў праз пальчаткі, і паехала са мной. Я адчуваў сябе быццам у нейкім дзівосным сне. Пачуццё шчасця, сораму, цеплыні, асалоды і сарамлівасці перахоплівала дыханне. Прыкладна чвэрць гадзіны мы каталіся разам. Потым каля прыпынку яна ціха вызваліла свае маленькія рукі, сказала «Дзякуй» і далей паехала адна, а я запознена зняў шапку і яшчэ доўга стаяў на тым самым месцы. Толькі потым я зразумеў, што за ўвесь час, пакуль мы каталіся, яна не сказала ніводнага слова.

Лёд растаў, і я не змог паўтарыць спробу заляцання. Гэта была мая першая любоўная прыгода. Але прайшлі гады, перш чым мая мара здзейснілася і мой рот крануўся чырвоных дзявочых вуснаў.

## У акуліста



Ілюстрацыя Алены Зыбайла.

Некалькі тыдняў таму я быў вымушаны адмовіцца ад чытання ўвечары, бо мае вочы аслабелі праз працу са старымі кнігамі і рукапісамі. На працягу дня я выконваў толькі самае тэрміновае. Але не дапамагала і гэта, і ў рэшце рэшт я вырашыў схадзіць да акуліста. Гэта было ў панядзелак зранку. Мае вочы зноў балелі, шлях быў няблізкі і пыльны, памяшканне для чакання ў клініцы — перапоўненым і душным, таму я, страшэнна стомлены і раздражнёны, уціснуўся на адну з лавак, на якой ўжо шчыльна сядзелі людзі, і пачаў нецярпліва прыкідваць, колькі давядзецца чакаць. На натоўп маіх маўклівых таварышаў па няшчасці я толькі кінуў няўважлівы позірк. Знаходжанне ў такіх памяшканнях даўно стала для мяне пакутай, і ўсе гэтыя твары, якія праз разнастайныя захворванні вачэй увабралі ў сябе нешта без-

надзейна прыдуркаватае, былі сумным відовішчам. У натоўпе я знайшоў толькі дзве прывабныя постаці: італьянца з параненым (хутчэй за ўсё ў бойцы) левым вокам, якое ён перавязаў вясёленькай хустачкай насычанага колеру, а здаровым правым вокам з абсалютным спакоем разглядаў сцены і ніяк не праяўляў заклапочанасць ці нецярплівасць, і яшчэ аднаго — прыгожага немаладога мужчыну, які нерухома сядзеў у куце з заплюшчанымі вачыма. Падавалася, што ён быў паглыблены ў прыемныя думкі ці ўспаміны, бо на яго зморшчаным твары з сівой барадой ззяла ціхая, мяккая ўсмешка. Але я быў занадта засмучаны і заняты эгаістычнымі думкамі пра вочы, каб звяртаць увагу на іншых ці спачуваць ім. Я падпёр галаву рукамі і ўтаропіўся ў падлогу. З кабінета ўрача і аглядавага пакоя даносіліся гучныя пытанні, мяккія словы суцяшэння і часам прыглушаныя ўскрыкі.

Калі мне стала сумна, я зноў падняў вочы, выпрастаўся і заўважыў хлопчыка, які сядзеў насупраць. Яму было, напэўна, гадоў дванаццаць, і спачатку мне падалося, што ён глядзіць на мяне. Але потым я зразумеў, што позірк яго чырвоных, запалёных вачэй мёртвы і скіраваны ў пустэчу. У астатнім яго твар быў прыгожым і здаровым, а цела — развітым і моцным. Я прыгадаў свае хлапечыя гады і вялікую радасць, якую ўжо тады прыносілі святло, сонца, лясы і паплавы, шпацыры ў мясцовыя горы. Я ўспомніў адзіную моцную жарсць у маім жыцці — сваё таемнае сяброўства з гарамі, палямі, дрэвамі, вадой, і са здзіўленнем зразумеў, што амаль усе чыстыя, сапраўдныя, каштоўныя радасці, зведаныя мной, я атрымаў дзякуючы вачам. Гэтае адчуванне было такім яскравым, што ў мяне з'явілася моцнае жаданне збегчы адтуль і легчы ў прасякнутую святлом траву дзе-небудзь за горадам.

А гэты амаль што сляпы хлопчык! У мяне не атрымлівалася глядзець паўз яго. Я мусіў увесь час зноў і зноў глядзець на яго прыгожы твар і бедныя, чырвоныя, хворыя вочы, з якіх адна за адной каціліся буйныя слёзы, якія ён выціраў аднолькавым цярплівым і сарамлівым рухам.

Прайшло больш за гадзіну. Цень вялікага суседняга дома пачаў спаўзаць са шклянога даху над намі, і праз адчынены люк на нас упаў шырокі сонечны прамень. Хлопчык, далоні і калені якога крануў прамень, спалохана паварушыўся.

— Гэта сонца, — сказаў я. Тады ён павольна пачаў выцягваць наперад галаву з паднятым уверх тварам, пакуль прамень не крануўся ягоных вачэй. Яго павекі ледзь заўважна ўздрыгнулі, па твары прабегла пяшчотная хваля лёгкага салодкага болю, ажывіла рысы і прымусіла адкрыцца маленькі рот.

Гэта працягвалася ўсяго адно імгненне. Потым малы адхіліўся назад на лаўку, зноўку выцер слёзы, што крапалі павольна і бесперапынку, і ўжо сядзеў ціха, як дагэтуль. Адразу пасля гэтага санітарка забрала яго. А ўся мая злосць і абыякавасць кудысьці зніклі. Момант, калі я бачыў, як суцяшальнае святло мімалётнай радасцю ўвайшло ў гэта маленькае, кволае жыццё, застаўся адным з самых важных і дарагіх мне ўспамінаў.

## Начное паўлінава вока

Мой госць і сябра Генрых Мор вярнуўся пасля свайго вечаровага шпацыру і цяпер сядзеў у маім кабінеце, які быў асветлены апошнімі промнямі заходзячага сонца. За акном распасціралася бляклае возера, рэзка акрэсленае ўзгорыстымі берагамі. Мой маленькі сын толькі што пажадаў нам добрай ночы, і мы размаўлялі пра дзяцей і дзіцячыя ўспаміны.

— Калі ў мяне з'явіліся дзеці, — сказаў я, — прачнуліся некаторыя з маіх асабістых дзіцячых захапленняў. Напрыклад, год таму я нават зноў пачаў калекцыянаваць матылькоў. Не хочаш зірнуць?



Ілюстрацыя Алены Зыбайла.

Ён пагадзіўся, і я выйшаў, каб прынесці дзве ці тры лёгкія кардонныя скрынкі. Калі я адчыніў першую, мы абодва заўважылі, што стала ўжо вельмі цёмна, ледзь-ледзь можна было адрозніваць абрысы выпрастаных матылькоў.

Я ўзяў лямпу, чыркнуў запалкай, і ў вокамгненне пейзаж звонку знік, а вокны напоўніліся непранікальнай цёмна-сіняй цемрай.

Мае матылькі раскошна паблісквалі са скрыні ў яркім святле лямпы. Мы нахіліліся над імі, разглядалі рознакаляровыя стварэнні і пералічвалі іх назвы.

— Гэта стужка ордэнская жоўтая, — сказаў я, — лацінская назва *fulminea,* лічыцца рэдкай у гэтых мясцінах.

Генрых Мор асцярожна, за іголку, выцягнуў аднаго матылька са скрыні і разглядаў ніжні бок ягоных крылаў.

— Дзіўна, — сказаў ён, — нішто так яскрава не абуджае ўва мне дзіцячыя ўспаміны, як сузіранне матылькоў.

А калі ён вярнуў матылька на месца і зачыніў вечка скрыні, дадаў:

— Ну, хопіць!

Ён сказаў гэта жорстка і паспешліва, быццам бы гэтыя ўспаміны былі непрыемнымі для яго. Пасля таго, як я занёс скрыні і вярнуўся, на яго смуглым і вузкім твары ўжо ззяла ўсмешка, і ён папрасіў цыгарэту.

— Не крыўдуй на мяне, — сказаў ён потым, — калі я няўважліва разгледзеў тваю калекцыю. У дзяцінстве ў мяне таксама была такая, але, на жаль, я сам сапсаваў сабе ўспамін пра яе. Магу расказаць табе гэтую гісторыю, хоць яна і ганебная.

Ён прыкурыў ад газавай лямпы, потым надзеў на яе зялёны абажур, і нашы твары патанулі ў змроку. Акно было адчынена, і ён сеў на падаконне так, што яго хударлявая постаць ледзь вылучалася з цемры. І пакуль я смаліў, а на вуліцы кваканне жаб, звонкае і далёкае, запаўняла сабой ноч, мой сябра расказаў мне вось што.

Калекцыянаваць матылькоў я пачаў гадоў у дзевяць і ўдзяляў гэтаму не так шмат увагі, як іншым гульням і захапленням. Але на другое лета, калі мне споўнілася дзесяць, гэты занятак

цалкам авалодаў мной і ператварыўся ў такую апантанасць, што бацькі неаднаразова хацелі забараніць мне гэтым займацца, бо праз матылькоў я забываў пра ўсё астатняе. Калі я лавіў матылькоў, я не чуў бою вежавага гадзінніка, які паведамляў пра час ісці ў школу ці на абед, а на вакацыях часта з лустай хлеба ў футарале для раслін ад раніцы да ночы быў на вуліцы і нават не прыходзіў дадому, каб паесці.

Часам я і цяпер адчуваю нешта ад таго запалу, калі бачу вельмі прыгожага матылька. У такія моманты мною зноў авалодвае неапісальнае, прагнае захапленне, якое ўласціва толькі дзецям і з якім я, калі быў хлопчыкам, злавіў свайго першага махаона. Потым раптам усплываюць у памяці незлічоныя моманты з дзяцінства, гарачыя абедзенныя гадзіны на сухім, духмяным лузе, прахалодныя раніцы ў садзе ці вечары на таямнічых узлесках, дзе я з сачком стаяў у засадзе, як скарбашукальнік, і кожнае імгненне быў гатовы лавіць найвялікшыя сюрпрызы і радасці. І калі я бачыў прыгожага матылька, неабавязкова вельмі рэдкага, калі ён сядзеў на сцяблінцы кветкі ў сонечных промнях і матляў сваімі стракатымі крыламі ўверх і ўніз, быццам дыхаючы, калі я падкрадваўся бліжэй і мог разгледзець кожную яркую пляму і кожную крыштальна тонкі прожылак, кожную карычневую варсінку на крылах, гэта было напружанне і асалода, сумесь пяшчотнай радасці і дзікага жадання, якія я потым па жыцці адчуваў вельмі рэдка. Сваю калекцыю я быў вымушаны захоўваць у звычайнай старой кардоннай скрыні, бо мае бацькі былі беднымі і не маглі падарыць мне што-небудзь больш прыстойнае. Я прыклейваў на дно скрыні круглыя пласцінкі з коркаў ад бутэлек, каб утыкаць туды іголкі, і так паміж скамечаных кардонных сценак я захоўваў свае скарбы. Па першым часе я з ахвотай паказваў сваю калекцыю сябрам, але ў іх былі драўляныя скрыні са шклянымі вечкамі, спецыяльныя скрыні для вусеняў са сценкамі, абцягнутымі зялёным батыстам, і іншыя прадметы раскошы, таму я не мог выхваляцца сваім прымітыўным прыстасаваннем. Ды і не было ў мяне такой патрэбы. Так я прывык замоўчваць нават значную і цікавую здабычу і паказваць яе толькі сваім сёстрам. Аднойчы я злавіў і прэпараваў рэдкую для нашых мясцін сінюю пераліўніцу, а калі яна засушылася, ува мне прачнулася жаданне паказаць матылька хоць бы суседу, сыну настаўніка, які жыў на супрацьлеглым баку двара. Галоўнай рысай характару гэтага хлопчыка была педантычнасць, што дзецям звычайна не ўласціва. Ён меў маленькую нязначную калекцыю, якая, зрэшты, дзякуючы сваёй мілавіднасці і акуратнаму захоўванню была сапраўднай каштоўнасцю. Ён нават валодаў рэдкім майстэрствам карпатліва склейваць пашкоджаныя і парваныя крылы матылькоў і быў ва ўсіх адносінах узорным дзіцем, з-за гэтага я з зайздрасцю, змяшанай з захапленнем, ненавідзеў яго.

Гэтаму ідэальнаму хлопчыку я паказаў сваю сінюю пераліўніцу. Ён разгледзеў матылька з веданнем справы, прызнаў яго рэдкасць і ацаніў яго кошт у 20 пфенігаў (Эміль умеў ацэньваць усе аб'екты калекцыянавання, асабліва паштовыя маркі і матылькоў, паводле іх грашовага кошту). Але потым ён пачаў выказваць крытыку, знайшоў маю сінюю пераліўніцу няякасна прэпараванай, правае крыло — пагнутым, левае — расцягнутым і справядліва выявіў яшчэ адзін недахоп: у матылька не хапала дзвюх ног. Я не лічыў гэты дэфект надта сур'ёзным, але прыдзіра ў нейкай ступені сапсаваў мне радасць ад майго матылька, і я больш ніколі не паказваў яму сваю здабычу.

Праз два гады, калі мы былі ўжо дарослымі хлопцамі, а мая жарсць усё яшчэ палымнела, да мяне дайшлі чуткі, што Эміль злавіў матылька «начное паўлінава вока». Гэта ўсхвалявала мяне больш, чым калі б я пачуў, што мой сябра атрымаў у спадчыну мільён ці што знайшліся згубленыя кнігі Ціта Лівія[1]. Начное паўлінава вока да гэтага не здолеў злавіць ніхто з нас, я ўвогуле ведаў яго

[1] Ціт Лівій (лац.: Titus Livius; 59 да н. э. — 17 н. э.) — рымскі гісторык, аўтар шматтомнай працы па гісторыі Рыма Ab Urbe Condita Libri (Кнігі ад заснавання Горада). Са 142 кніг «Гісторыі» да нашых дзён дайшло толькі 35 (заўвага перакладчыка).

толькі па малюнку ў адной старой кнізе пра матылькоў, што была ў мяне і чыя ўручную распісаная медзь была нашмат прыгажэйшая і дакладнейшая за сучасны каляровы друк. З усіх матылькоў, якіх я ведаў і яшчэ не меў у маёй калекцыі, я не жадаў злавіць ніводнага так палка, як начное паўлінава вока. Я часта разглядаў яго малюнак у кніжцы, і адзін сябра расказаў мне, што калі гэты карычневы матылёк сядзіць на ствале дрэва ці на скале, і птушка ці іншы вораг хоча схапіць яго, ён складвае цёмныя пярэднія крылы і паказвае прыгожыя заднія. Вялікія светлыя плямы на іх нагадваюць вочы і выглядаюць так дзіўна і нечакана, што спалоханая птушка пакідае матылька ў спакоі.

І гэтым дзівам завалодаў зануда Эміль! Спачатку, калі я пра гэта даведаўся, я адчуў толькі радасць ад таго, што нарэшце на свае вочы пабачу рэдкага матылька, а яшчэ — пякучую цікаўнасць. Потым з’явілася зайздрасць і зрабілася крыўдна, што менавіта гэты буркун здолеў злавіць такога таямнічага і каштоўнага матылька. Таму я авалодаў сабой і не аказаў яму гонар — не завітаў, каб паглядзець на здабычу. Але мае думкі ўвесь час круціліся вакол гэтага, і на наступны дзень, калі чуткі пацвердзіліся ў школе, я ўсё ж такі вырашыў схадзіць да Эміля.

Пасля абеду, як толькі змог вырвацца з хаты, я пабег праз двор на чацвёрты паверх суседскага дома, дзе паміж пакоем служанкі і драўлянай кладоўкай жыў адзін у маленькай каморцы сын настаўніка, праз што я часта зайздросціў яму. Па дарозе я нікога не сустрэў, і калі пагрукаў у дзверы, не атрымаў адказу. Эміля не было, а калі я ўзяўся за дзвярную ручку, то зразумеў, што дзверы адчынены, хоць ён звычайна заўсёды педантычна зачыняў іх, калі сыходзіў. Я ўвайшоў, каб зірнуць на матылька, і ўзяў дзве вялікія скрыні, у якіх Эміль захоўваў сваю калекцыю. Ні ў адной са скрыняў матылька не было, а потым я зразумеў, што ён, напэўна, яшчэ сушыцца. Тады я знайшоў яго: з карычневымі крыламі, нацягнутымі з дапамогай тонкіх палосак паперы, начное паўлінава вока ляжала на дошцы. Я нахіліўся над ім і пабачыў усё незвычайна блізка: пакрытыя валаскамі светла-карычневыя вусікі, крылы, элегантна і неверагодна тонка афарбаваныя па беражках, далікатны варсісты ўнутраны край ніжніх крылаў. Я не мог бачыць толькі вочы, якія былі закрыты палоскамі паперы.

У мяне гучна грукала сэрца, і я паддаўся спакусе зняць палоскі ды выцягнуў шпільку, што трымала паперу. На мяне глядзелі дзве пары вялікіх незвычайных вачэй, нашмат прыгажэйшых і дзівоснейшых, чым на малюнку, і пад гэтым позіркам я адчуваў такое непераадольнае жаданне валодаць гэтым цудоўным матыльком, што не раздумваючы ўчыніў першы ў сваім жыцці крадзеж, асцярожна выцягнуў шпільку і вынес матылька, які ўжо быў сухі і не страчваў форму, з пакоя. Пры гэтым я не адчуваў нічога, акрамя надзвычайнага задавальнення.

Схаваўшы матылька ў левай руцэ, я ішоў па лесвіцы ўніз. Потым я пачуў, што нехта падымаецца насустрач, і ў гэтую секунду прачнулася маё сумленне, я раптам зразумеў, што ўкраў і што гэта ганебна, адначасова мной кіраваў нейкі дзікі страх, што мяне зловяць, і я інстынктыўна сунуў руку з украдзеным у кішэню курткі. Я павольна ішоў далей, дрыжаў і адчуваў ганьбу і сорам, са страхам прайшоў міма служанкі, якая падымалася па лесвіцы, і застаўся стаяць каля дзвярэй на вуліцу. Сэрца шалёна калацілася, лоб сапрэў, а я стаяў разгублены і напалоханы сваім учынкам.

Хутка я зразумеў, што не магу і не маю права пакінуць матылька ў сябе, што я павінен аднесці яго назад і па магчымасці зрабіць усё так, каб ніхто нічога не заўважыў. І вось я паспешліва вярнуўся, нягледзячы на страх, што каго-небудзь сустрэну і мяне выкрыюць, стралой узляцеў наверх па лесвіцы і праз хвіліну ўжо зноў стаяў у пакоі Эміля. Я асцярожна высунуў руку з кішэні і паклаў матылька на стол, але перад тым, як зірнуць на яго, ужо адчуў бяду, і да горла падступілі слёзы, бо начное паўлінава вока было пашкоджана. Не хапала правага пярэдняга крыла і правага вусіка, і калі я паспрабаваў асцярожна выцягнуць з кішэні адарванае крыло, яно было ў такім стане, што пра аднаўленне можна было забыць.

Яшчэ больш, чым сам факт крадзяжу, мяне мучыў выгляд гэтага прыгожага, рэдкага матылька, якога я пашкодзіў. Я бачыў на сваіх пальцах лёгкі карычневы пылок і парванае крыло на стале, і я б ахвяраваў усім, што ў мяне было, любой радасцю, каб толькі матылёк быў зноў цэлы.

Засмучаны, я пайшоў дадому і рэшту дня прасядзеў у нашым маленькім садзе, пакуль на змярканні не знайшоў у сабе сілы ўсё расказаць маці. Я заўважыў, як яна спалохалася і засмуцілася, але, напэўна, адчула, што само гэтае прызнанне з'яўлялася для мяне страшнейшым за любое пакаранне.

— Ты павінен схадзіць да Эміля, — упэўнена сказала яна, — і сам яму ўсё расказаць. Гэта адзінае, што ты можаш зрабіць, і пакуль ты гэта не зробіш, я не магу табе дараваць. Ты можаш яму прапанаваць выбраць што-небудзь з тваіх рэчаў у якасці кампенсацыі і абавязкова папрасі ў яго прабачэння.

Мне было б лягчэй зрабіць гэта перад любым іншым маім таварышам, але толькі не перад гэтым узорным хлопчыкам. Я ўжо загадзя ведаў, што ён мяне не зразумее і, чаго добрага, увогуле не паверыць мне. Надышоў вечар і амаль што ноч, а я ўсё яшчэ не мог прымусіць сябе пайсці. Потым мама знайшла мяне ў прыхожай і сказала:

— Ты павінен зрабіць гэта сёння, ідзі зараз!

І вось я пайшоў праз двор і там на першым паверсе папрасіў паклікаць Эміля. Ён прыйшоў і адразу пачаў расказваць, што нехта пашкодзіў ягонага матылька, і што ён не ведае, хто гэта зрабіў, хуліган, а можа птушка ці кот. Я папрасіў дазволу падняцца з ім разам, каб паглядзець на матылька. Мы ўзняліся, ён адчыніў дзверы ў пакой, запаліў свечку, і я пабачыў пашкоджанае цельца, якое ляжала на дошцы. Я заўважыў, што Эміль спрабаваў ужо нешта зрабіць, паламанае крыло было старанна выпрастана і ляжала на вільготнай прамакатцы, але нічога ўжо нельга было выправіць, не хапала таксама і вусіка.

Потым я сказаў, што гэта зрабіў я, і паспрабаваў расказаць усё, як было, і патлумачыць.

Але Эміль толькі свіснуў, замест таго, каб раззлавацца і накрычаць на мяне, ціха, скрозь зубы, потым спакойна глядзеў на мяне некаторы час, а пасля сказаў:

— Так, так, значыць, вось які ты.

Я прапанаваў яму ўсе свае цацкі, але ён застаўся абыякавым і ўсё глядзеў на мяне з пагардай. Тады я прапанаваў яму ўсю маю калекцыю матылькоў, але ён сказаў:

— Дзякуй, я ўжо ведаю тваю калекцыю. А сёння мы яшчэ раз пабачылі, як ты ўмееш абыходзіцца з матылькамі.

У той момант я быў блізкі да таго, каб прыдушыць яго. Нічога нельга было зрабіць, я быў і заставаўся нягоднікам, а Эміль стаяў перада мной абыякавы, у зневажальнай слушнасці, як сусветная ісціна. Ён не накрычаў на мяне, а толькі глядзеў і пагарджаў мной.

Тады я ўпершыню пабачыў, што нельга выправіць тое, што ўжо сапсавана. Я сышоў і быў рады таму, што маці не распытвала мяне, а проста пацалавала і пакінула ў спакоі. Ужо быў час ісці спаць, бо было позна. Але перад тым, як класціся, я ўпотай прынёс са сталовай вялікую карычневую скрыню, паставіў яе на ложак і адчыніў у цемры. Потым я выцягнуў усіх матылькоў аднаго за другім і расціснуў іх у пыл.

## Бяссонныя ночы

Ты ляжыш уначы ў ложку і не можаш заснуць. На вуліцы ціха, вецер гуляе па садзе і часам кранае лісце на дрэвах. Недзе брэша сабака; па нейкай далёкай вуліцы едзе фурманка. Ты выразна чуеш яе і па пагойдванні разумееш, што гэтая фурманка на рысорах. Ты ў думках рушыш

за ёй, яна зварочвае за вугал, раптам едзе хутчэй, і паступова паспешлівае пагойдванне расплываецца ў велічнай цішыні. Потым запознены мінак. Ён ідзе хутка, яго крокі дзіўна гучаць на пустой вуліцы. Спыняецца, адчыняе дзверы, зачыняе іх за сабой, і вось зноў ўсюды велічная цішыня. Раз-пораз падае голас чарговы маленькі кавалачак жыцця, усё радзей, усё цішэй, а потым надыходзіць час, калі ўсё засынае, і добра чуваць кожны лёгкі павеў ветру ці маленькую кроплю, што ўпала недзе за сценкай, гукі становяцца мацнейшымі і хвалююць розум. А сон усё не ідзе. Толькі стома накідвае тонкі вэлюм на вочы і думкі; ты чуеш, як бесперапынна грукае ў вушах кроў, адчуваеш слабае ліхаманкавае ажыўленне ў хворай галаве, слухаеш раўнамерны, але блытаны рытм пульсу ва ўздутых венах.

І табе нічым не дапаможа, калі ты будзеш кідацца туды-сюды, уставаць і зноў класціся. Гэта адна з тых гадзін, у якія ты не можаш уцячы ад самога сябе. Думкі, хваляванні душы і ўспаміны кіруюць табой, і ў цябе няма суразмоўцы, з якім ты звычайна глушыш гэты гоман. У таго, хто жыве на чужыне, стаяць перад вачыма родная хата, сад і часы дзяцінства; лясы, у якіх правёў свае самыя вольныя і незабыўныя гады малалецтва; пакоі і лесвіцы, дзе адшумелі хлапечыя гульні. Вобразы бацькоў, чужыя, сур'ёзныя і састарэлыя, з любоўю, клопатам і ціхім дакорам у вачах. Ён працягвае сваю руку і марна шукае працягнутую яму насустрач, і такія смутак і адзінота ахопліваюць яго, што з'яўляюцца іншыя вобразы, і ў збянтэжаным і сур'ёзным настроі гэтай гадзіны амаль усе мы робімся сумнымі. Хто ў маладосці не ствараў сваім блізкім клопаты, не адрынаў любоў, не грэбаваў прыхільнасцю? Хто праз упартасць і фанабэрыю не ігнараваў шчасце, што прызначалася яму? Хто не смяяўся з чыёй-небудзь ці сваёй пашаны да каго-небудзь, альбо не крыўдзіў сябра неасцярожным словам, нявыкананым абяцаннем ці непрыгожым, да болю непрыемным жэстам? Зараз усе яны стаяць перад табой моўчкі і глядзяць спакойнымі і дзіўнымі вачыма, і табе сорамна перад імі і перад самім сабой.

Ты раптам разумееш, колькі начэй ты бесклапотна спаў у гэтым ложку ў перапынках паміж днямі, поўнымі руху, гоману і пераскоквання з аднаго на другое, і як неверагодна даўно гэта было, калі ты, так як і сёння, быў для сябе суразмоўцам, маўклівым і сапраўдным. Ты жыў няўцям, за гэты час ты бясконца шмат бачыў, гаманіў, слухаў, смяяўся, а зараз падаецца, быццам нічога гэтага не было, яно чужое і табе не належыць, у той час як блакітныя нябёсы твайго дзяцінства, даўно забытыя родныя краявіды і галасы даўно памерлых для цябе цяпер незвычайна блізкія і сапраўдныя.

Сон — адзін з самых каштоўных падарункаў прыроды, сябра і прытулак, чараўнік і пільны суцяшальнік, і ў душы я спачуваю кожнаму, хто ведае пакуты працяглага бяссоння, хто навучыўся задавальняцца ліхаманкавым забыццём на паўгадзіны. Але я таксама не змог бы палюбіць чалавека, калі б даведаўся, што ён за сваё жыццё не меў ніводнай бяссоннай ночы, таму што такі чалавек, хутчэй за ўсё, дзіця прыроды самай наіўнай душы.

У нашым хуткім, тлумным жыцці страшэнна мала гадзін, калі душа ўсведамляе сябе, калі існаванне пачуццяў і розуму адыходзіць на задні план і непрыкрытая душа стаіць насупраць люстэрка ўспамінаў і сумлення. Такое здараецца пасля перажывання моцнага болю, магчыма, каля труны маці, ці на бальнічным ложку, або пасля доўгага самотнага падарожжа ў першыя гадзіны пасля вяртання. Але гэта заўсёды здараецца на глебе непакою і засмучэння. Тут і месціцца каштоўнасць такіх бяссонных начэй. Толькі ў гэтыя ночы душа ў стане без гвалту звонку паказаць сваю існасць, дзіўна гэта ці жахліва, асуджальна ці прыкра. Тое асэнсаванае жыццё, якім мы жывём удзень, ніколі не бывае такім сапраўдным; пачуцці актыўна стараюцца рэагаваць на падзеі, розум апаноўвае ўсім, прычым ён спалучае эмоцыі з голасам прысуду, вытанчанай прывабнасцю

параўнання і хітрым, знішчальным пачуццём гумару. Душа, напаўсонная, дазваляе гэтаму здарыцца і бесклапотна існуе ў такой залежнасці дні і месяцы, пакуль яе час не надыдзе, пакуль яна не скіне кайданы якой-небудзь маркотнай бяссоннай ноччу, і не здзівіць ці не спужае нас фактам свайго своеасаблівага існавання. Для нас вельмі карысна часам разумець, што нашае жыццё — не толькі форма; што ў нас унутры — сіла, непадуладная любым знешнім уздзеянням і непадкупная; што там гучаць галасы, якімі мы не можам кіраваць. Сапраўдны чалавек, які ў нешта верыць, з ахвотай падпарадкоўваецца гэтым галасам, і яго позірк пасля такіх хвілін робіцца асэнсаваным.

Мне б хацелася таксама сказаць некалькі слоў пра бяссонне як хваробу, нягледзячы на тое, што гэта, напэўна, будзе лішнім, бо ўсе людзі, якія пакутуюць ад бяссоння, безумоўна, ведаюць, пра што я хачу сказаць. Але, магчыма, яны з ахвотай прачытаюць нешта ўжо вядомае ім, што ўжо мае форму, але яшчэ не выказана. Я маю на ўвазе ўнутранае выхаванне, якое дае вам бяссонне. Таму што кожны хваравіты стан і вымушанае чаканне — недвухсэнсоўныя настаўнікі. Але ўсё ж такі вопыт, які мы атрымліваем праз усе нервовыя пакуты, асабліва пераканаўчы.

— Ён дакладна шмат пакутаваў, — кажуць пра людзей, што ў сваіх рухах і маўленні дэманструюць надзвычай шмат стрыманай вытанчанасці і пяшчотнай асцярожнасці.

Нішто не навучыць так добра валодаць сваім целам і думкамі, як бяссонне. Далікатна дакранацца і шанаваць можа толькі той, хто сам адчувае патрэбу ў гэтым пяшчотным дотыку. Ласкава сузіраць і рупліва абдумваць акалічнасці, бачыць унутраныя прычыны і ставіцца са спагадаю да ўсіх слабасцяў, уласцівых чалавеку, можа толькі той, хто ў бязлітаснай цішыні самотных гадзін неаднакроць быў пакінуты сам-насам са сваімі думкамі. У жыцці не цяжка пазнаць людзей, што шмат начэй ціха праляжалі з расплюшчанымі вачыма.

Мне хочацца прывесці яшчэ адну выхаваўчую вартасць бяссоння, якая безумоўна заслугоўвае больш падрабязнага разгляду пры іншых абставінах. Бяссонне вучыць пашане — пашане да ўсіх рэчаў, той пашане, што можа ў самы сціплы лад жыцця прыўнесці ўзняты настрой, той самай пашане, што з’яўляецца галоўнай умовай паэтычнага і мастацкага росту.

Уяўляеш, як чалавек без сну ляжыць у сваім ложку. Ціха і вельмі марудна цякуць гадзіны, паміж ударамі гадзінніка ляжыць шырокая, чорная прорва невыноснай бясконцасці. Як часта мы чулі, як бегае мыш, праязджае фурманка, цікае гадзіннік, цурчыць крыніца, гудзіць вецер, рыпіць мэбля! Мы чулі гэта, не звяртаючы ўвагі. Але зараз, унутры гэтай адзіноты і магільнай цішыні, мы шалёна чапляемся за кожны подых жыцця, што пралятае побач. Гукі фурманкі надзвычай захапляюць нас, мы спрабуем вызначыць яе вагу і канструкцыю, наколькі стомленыя коні, мы стараемся адгадаць вуліцу, па якой яна едзе, і наступную, куды яна зварочвае. Ці цурчанне крыніцы! Мы слухаем яго ўдзячна, як мілагучную музыку, як уважліва прыслухоўваецца хворы да балбатні сябра, які прыйшоў наведаць яго і прынёс пах здароўя і мігценне жыцця з вуліцы ў яго адзіноту. Мы чуем, як падае струмень вады ў налітую ракавіну, як мякчэй і нераўнамерней шуміць яна па сцёку. Мы спрабуем злавіць рытм у безупынным цурчанні, ціхенька падпяваем у такт, потым змаўкаем і слухаем, як вада адна працягвае сваю песню. Мы мройліва ўяўляем далейшы водны шлях, праз ручаі і рэкі да мора і назад да калыскі спрадвечнага станаўлення, імкнення і пераўтварэння. З гэтага пачынаецца матэрыя душы, паўдумкі, нашае жыццё распасціраецца перад намі, сувязі і законы становяцца зразумелымі ў пражытым, што раней падавалася нам невытлумачальным і заблытаным.

Гэты шлях, ад слухання ручая да назірання за паслядоўнасцю ўсіх падзей, пашаны да схаванай апошняй таямніцы жыцця, мы ніколі не адсочваем так рупліва, уважліва і сур’ёзна, як у такія начныя гадзіны.

Пэўна, што ўсе людзі, якія пакутуюць на бяссонне, пераўтварылі гэты недахоп у вартасць. Я жадаю ім цярпення з гэтай хваробай і, дзе магчыма, выздараўлення. А ўсім легкадумным, што жывуць няўважліва і выхваляюцца здароўем, я жадаю час ад часу мець ночы, калі ляжыш без сну і мусіш змірыцца з дакорлівым праяўленнем унутранага жыцця.

## Мастак

Мастак Альберт у маладосці не змог сваімі карцінамі дасягнуць поспеху і аўтарытэту, якія ён так палка жадаў атрымаць. Ён кінуў гэты занятак і вырашыў проста быць задаволеным тым, што меў. На працягу некалькіх гадоў ён спрабаваў, але нічога не атрымлівалася і было зразумела, што ён не быў задаволены сабой; ён сядзеў і працаваў над партрэтам нейкага героя, і падчас працы ў яго ўзнікала думка: «Ці павінны ты ўвогуле рабіць тое, што цяпер робіш? Хіба не было б для цябе і для ўсіх лепш, калі б ты пайшоў прагуляцца ці выпіць віна? І зараз сваім маляваннем ты робіш нешта іншае, акрамя таго, што ўсыпляеш свае пачуцці, забываешся, забіваеш час?»

Такія думкі не спрыялі працы. З цягам часу Альберт амаль перастаў маляваць. Ён шпацыраваў, піў віно, чытаў кнігі, падарожнічаў. Але шчаслівым гэтыя заняткі яго не рабілі. Часта ён думаў пра тое, з якім жаданнем і спадзевам ён аднойчы пачаў маляваць. Ён прыгадаў: у яго была мара, каб паміж ім і светам з’явілася прыгожая, моцная сувязь, плынь, каб паміж ім і усім светам заўсёды лунала нешта магутнае і шчырае і ціха музіцыравала. Праз маляванне герояў і гераічных сцэн ён хацеў паказаць і задаволіць свой унутраны свет, каб звонку з дапамогай меркаванняў і падзяк людзей, якія будуць глядзець на яго карціны, гэты ўнутраны свет свяціўся насустрач яму, жывы і ўдзячны.

Так, ён усё ж такі не атрымаў тое, што хацеў. Гэта была мара, і нават яна паступова стала слабай і празрыстай. Потым, калі Альберт блукаў па свеце ці самотна туліўся ў далёкіх краях, плыў на караблі ці вандраваў праз горныя перавалы, гэтая мара ўзнікала ў думках, не такая, як раней, але такая ж прыгожая, такая ж прывабная, жаданая і зіхатлівая ў маладой сіле жадання.

О, як прагнуў ён адчуваць вібрацыю паміж сабой і светам! Адчуваць, што яго дыханне і подых ветру ці мора — адно і тое ж, што паміж ім і светам — братэрства і роднасць, любоў і блізкасць, сугучча і гармонія!

Ён больш не хацеў пісаць карціны, дзе былі адлюстраваны ён сам і яго жаданні, якія б прынеслі ўзаемаразуменне і любоў, растлумачылі б яго, апраўдалі і праславілі. Ён толькі прагнуў адчуваць усе хвалі, энергетычныя плыні, патаемныя глыбіні, дзе ён сам будзе нічым і пойдзе на дно, памрэ і народзіцца зноўку. І ўжо новая мара, новае, больш моцнае жаданне гэтага зрабіла яго жыццё цярпімым, прыўнесла нейкі сэнс, зрабіла больш прывабным, вызваліла.


Ілюстрацыя Алены Зыбайла.

Сябры Альберта (калі можна назваць іх сябрамі) не разумелі яго фантазіі. Яны толькі бачылі, што гэты чалавек усё больш і больш засяроджваўся ў сабе, што ён размаўляў і смяяўся цішэй і неяк дзіўнавата, што ён быў так далёка і яго зусім не цікавіла тое, што падабалася астатнім і што тыя лічылі важным — ні палітыка ці эканоміка, ні спаборніцтвы па стральбе ці гарматы, ні разумныя размовы пра мастацтва — нічога з таго, што прыносіла радасць астатнім. Ён стаў дзіваком і здзічэў. Ён хадзіў па шэрым, халодным, зімовым паветры і аддана ўсмоктваў колеры і пахі; ён бег за дзіцём, якое спявала «лалала»; ён гадзінамі сядзеў, углядаючыся ў зялёную ваду, на клумбу з кветкамі, ці паглыбляўся, як чытач у сваю кнігу, у лініі, якія знаходзіў на аскепку дрэва, карані ці бураку.

Больш ніхто не клапаціўся пра яго. Ён жыў у той час у мястэчку за мяжой і аднойчы зранку шпацыраваў па алеі ды пабачыў адтуль паміж стваламі дрэў маленькую, млявую рэчку, стромкі, жоўты і гліністы бераг, дзе нягледзячы на апоўзні і адсутнасць мінералаў разрасліся пыльныя хмызнякі і калючае кустоўе. Тады нешта загучала ў яго ўнутры, ён спыніўся і адчуў, як у душы зноў зайграла старая мелодыя з казачных часоў. Жаўцізна гліны і пыльная зеляніна, ці млявая рэчка і стромкія берагі, нейкія суадносіны колераў і ліній, гукі, адметнасць у спантаннай карціне былі такімі цудоўнымі, неверагодна прыгожымі, чуллівымі і надзвычайнымі, размаўлялі з ім, былі яму зразумелымі. І ён адчуваў хвалі і глыбокую блізкасць паміж лесам і рэчкай, паміж рэчкай і сабой, паміж небам, зямлёй, раслінамі. Усё існавала толькі для таго, каб у гэты момант разам адлюстравацца ў ягоных вачах і ў сэрцы, сустрэцца і павітацца з ім. Ягонае сэрца было месцам, дзе рэчка і трава, дрэвы і паветра сустракаюцца, зліваюцца ў адно, растуць і любяць адно аднаго.

Пасля таго, як гэта цудоўнае здарэнне паўтарылася некалькі разоў, мастаком авалодала пачуццё неверагоднага шчасця, моцнага і поўнага, як залаты заход сонца ці водар квітнеючага сада. На смак ён быў салодкім і густым, але мастак больш не мог трываць, бо водар аказаўся занадта багатым, запоўніў яго да напружвання, узбуджэння і ледзь не да страху і шаленства. Ён быў мацнейшы, чым Альберт, захапіў яго, панёс, і той пачаў баяцца, што патоне. Ніколі, ніколі ён так шчыра не хацеў жыць, як цяпер!

А потым ён з адчуваннем, быццам учора шмат выпіў, заўважыў, што сядзіць, ціхі і самотны, у нейкім пакоі. Перад ім стаялі фарбы і кардонка — скрозь гады ён зноўку сядзеў і маляваў. Усё тое, што ён зразумеў, засталося. А думка: «Навошта я гэта раблю?» больш не ўзнікала. Ён маляваў. Ён больш не рабіў нічога, акрамя таго, што глядзеў і маляваў. Ён ці шпацыраваў, згубленым у карцінах свету, ці сядзеў у сваім пакоі і выплюхваў тое, што назапасіў. Карціну за карцінай ствараў ён на сваіх маленькіх кардонках, неба перад дажджом і выган, агароджу ў садзе, лаву ў лесе, прасёлкавую дарогу, людзей і жывёл, істот, якіх ён ніколі не бачыў, герояў і анёлаў, якія таксама існавалі і жылі, як сцяна і лес.

Калі ён зноўку выйшаў у людзі, усе даведаліся пра тое, што ён малюе. Усе лічылі яго вар’ятам, але ім было цікава паглядзець на ягоныя карціны. Ён нікому не хацеў іх паказваць. Але яны не пакідалі яго ў спакоі, дакучалі, прымушалі. Тады ён даў аднаму знаёмаму ключ ад свайго пакоя, а сам з’ехаў, бо не хацеў прысутнічаць там, калі людзі будуць разглядаць яго карціны.

Людзі прыйшлі і паднялася мітусня, бо ўсе зразумелі, што ён геній у мастацтве, дзівак, але з талентам ад Бога, і шмат яшчэ як называлі яго знаўцы і прамоўцы.

Мастак Альберт у гэты час прыехаў у вёску, зняў пакой у сялян, дастаў свае фарбы і пэндзлікі. Зноўку шчаслівы, ішоў ён па далінах і гарах, і адлюстроўваў потым тое, што пераражыў і адчуў.

Потым ён з адной газеты даведаўся, што ўвесь свет ужо паглядзеў карціны ў яго пакоі. У карчме ён прачытаў за келіхам віна вялікі і прыгожы артыкул у сталічнай газеце. Зверху вялікімі літарамі было надрукавана яго імя і ў кожным радку сустракаліся словы пахвалы. Але чым далей ён чытаў, тым больш блытаўся.

«Як цудоўна зіхаціць на карціне з блакітнай дамай жоўты фон — новая, надзвычай смелая, чароўная гармонія!»

«Дзівосная таксама пластыка выявы ў нацюрморце з ружамі. — А серыя аўтапартрэтаў! Мы смела можам аднесці іх да шэдэўраў псіхалагічнага партрэтнага жанру».

Дзіўна, вельмі дзіўна! Ён не мог прыгадаць, што калі-небудзь маляваў нацюрморт з ружамі ці блакітную даму, і ніколі на сваёй памяці ён не маляваў аўтапартрэты. Але ён не знайшоў у артыкуле ні слова пра гліністы бераг ці анёлаў, неба перад дажджом і іншыя карціны, якія ён так любіў.

Альберт вярнуўся ў горад. У дарожнай вопратцы ён пайшоў у сваю кватэру, людзі ўвесь час заходзілі туды і выходзілі. Перад дзвярыма сядзеў чалавек, і Альберт мусіў набыць квіток, каб увайсці.

Там былі ягоныя карціны, добра яму вядомыя. Але нехта павесіў на іх цэтлікі, на якіх было напісана тое, пра што ён і не ведаў. На некаторых цэтліках было напісана «Аўтапартрэт», таксама і іншыя назвы. Ён у задуменні пастаяў хвілінку перад карцінамі і іх новымі назвамі. Ён бачыў, што можна назваць гэтыя карціны зусім не так, як гэта зрабіў ён. Ён бачыў, што ў карціне з агароджай у садзе ён расказаў нешта, што іншыя ўспрынялі як воблака, а трэшчыны ў камяністай глебе для некаторых людзей азначаюць твар чалавека. Зрэшты, гэта было няважна. Альберт вырашыў ціха выйсці, з'ехаць і больш ніколі не вяртацца ў гэты горад. Ён намаляваў яшчэ шмат карцін і даў ім шмат імён і быў шчаслівы, але больш свае карціны ён не паказваў нікому.

## Каля хаткі пастуха ў Бернскіх Альпах

Зноў я на світанку ўздымаюся па глыбокім снезе паміж горных хатак і пладовых дрэваў, якія паступова сустракаюцца ўсё радзей і ўрэшце рэшт застаюцца ззаду. Палосы хваёвага лесу акаймоўваюць магутную гару да самай вяршыні, дзе ўжо не расце ніводнае дрэва, дзе нерухомы і чысты снег будзе ляжаць аж да лета, разасланы роўным аксамітам у лагчынах, вісець на адхонах гору выглядзе фантастычных шуб і шапак.

Я падымаюся (пляцак і лыжы за спінай) крок за крокам у гару па стромкай лесавознай дарозе. Шлях слізкі і месцамі пакрыты лёдам, і сталёвы наканечнік майго бамбукавага кія з храбусценнем і неахвотай утыкаецца туды. Падчас хады мне становіцца горача і на вусах з'яўляецца шэрань.

Усё вакол белае і сіняе, увесь свет бліскучы халодна-белы і зіхатлівы цёмна-сіні, а абрысы гор жорстка і абыякава праколваюць чыстае, празрыстае неба. Потым я ўваходжу ў няўтульны, густы і цёмны бор. Лыжы за маёй спінай страсаюць мізэрныя рэшткі снегу з маўклівых галін. Вельмі холадна — я мушу спыніцца і зноў апрануць куртку.

Над лесам цягнуцца заснежаныя касагоры. Шлях стаў вузкім і нязручным. Пару разоў я правальваюся ў снег па пояс. З лесу цягнецца капрызлівы ланцужок лісіных слядоў, зараз ён справа, а вось ужо злева ад сцежкі, робіць элегантную гуллівую пятлю і паварочвае назад угару.

Тут уверсе я паабедаю і адпачну. Апошняя хацінка стаіць на вузкім адхоне выгану, дзверы і вокны старанна зачынены, з паўднёвага боку маленькая лаўка для адпачынку, на другім баку



Ілюстрацыя Алены Зыбайла.

крыніца, якая глыбока пад снегам цурчыць глухімі шклянымі гукамі. Я запальваю спіртоўку, набіраю снегу ў кацялок, шукаю ў поўным плецаку пакет з гарбатай. Сонца рэзка блішчыць на белым алюмініі, па-над спіртоўкай дрыжыць паветра і ў бурбалках падымаецца цяпло, крыніца ціха цурчыць пад снегам і больш няма ніякіх рухаў і гукаў у гэтай бела-сіняй зімовай казцы.

Вакол хаткі пад выступаючым дахам снегу няма, там ляжаць яловыя дошкі, палкі, пні, вельмі самотныя і голыя пасярод снежнай пустыні. Спакой, абсалютны спакой. Страшэнны шум для асіраценлага слыху, калі ў кацялку растае снег, калі знізу з калючых вяршынь далятае крык крумкача.

І вось раптам — я прыснуў седзячы, не ведаю, на хвілінку ці на чвэрць гадзіны — я чую бясконца слабы, бясконца пяшчотны і мяккі гук, дзівосны і чароўны. Немагчыма пазнаць, што гэта, але з ім усё стала іншым: бляклым — снег, цягучым — паветра, прыемным — святло і цёплым — свет. І зноў гэты гук, і зноў… Паўтараецца праз кароткія паўзы, і вось я пазнаю яго, я

ўсміхаюся і бачу, што гэта кроплі вады, якія падаюць з даху на зямлю! Упалі тры, шэсць, дзесяць адразу, весела, балбатліва, рупліва, і вось лёд крануўся; капеж з даху. У панцыры зімы сядзіць маленькі чарвячок, маленькі разбуральнік і свідравальнік, які папярэджвае — цік, так, так…

На зямлі ззяе шырокая вільготная паласа і некалькі прыгожых, круглых камянёў пачынаюць блішчэць, сухія яловыя іголкі круцяцца, быццам купаюцца ў маленечкай, менш за маю руку, лужынцы. З паўднёвага боку даху млява падаюць буйныя кроплі: адна ў снег, другая — празрыстая і халодная — на камяні, яшчэ адна глуха грукаецца аб сухую дошку, што прагна глытае яе, наступная — вялікая і сакавітая — на голую зямлю, якая зусім марудна можа ўсмоктваць, настолькі глыбока прамёрзла. Яна сагрэецца праз чатыры ці шэсць тыдняў, і тут узыдзе трава, што зараз ціха спіць, маленькая і сакавітая, і карлікавае пустазелле паміж камянямі з дробнымі кветачкамі, маленькія люцікі, яснотка, дуброўка, касматыя дзьмухаўцы.

Як змяніўся гэты маленькі кавалачак зямлі за гадзіну! Вакол усё яшчэ ляжаць гурбы снегу ў рост чалавека і будуць ляжаць яшчэ доўга. Але як дыхае вызваленая моц прагнага жыцця тут, каля хаткі!

Снег на складзеных штабелямі дошках ціха ператвараецца ў кроплі, што бязгучна адна за адной падаюць на драўніну, якая ўсмоктвае іх; а талая вада радасна пляскае з даху, адкуль снег яшчэ не збіраецца знікаць, і з вільготнай зямлі перад ганкам выпараюцца пад паўдзённым сонцам тонкія аблачынкі. Я паабедаў, зняў куртку, камізэльку і зараз грэюся на сонцы і таксама з'яўляюся часткай гэтай маленькай вясновай выспачкі, нягледзячы на тое, што ведаю: маленькае бліскучае азярко паміж маімі ботамі і кожная з гэтых зіхатлівых кропель праз пару гадзін будуць мёртвым лёдам — я ўсё ж такі пабачыў вясну за работай.

Бедная, сціплая вясна ў гарах, якая мае столькі ворагаў і такое цяжкае жыццё, яна хоча існаваць, і працаваць, і ўсведамляць сябе! І пакуль вясне няма чаго рабіць і яшчэ рана нават думаць пра траву, пчол, першацветы і мурашоў, яна гуляе, як дзіцё, непатрабавальна і шчыра з тым нешматлікім, што мае.

І вось зараз пачынаецца яе самая ўлюбёная гульня. У яе няма нічога, акрамя гэтай хаткі і таго, што побач з ёй, усё астатняе яшчэ ляжыць глыбока пад снегам. Тады вясна трымаецца за адзінае зараз жывое, за драўніну. Яна гуляе з бярвеннем і дзвярыма, дошкамі і дахам, калодамі і пнямі. Яна насычае іх сонцам, каб яны адчулі смагу, частуе талай вадой, адкрывае іх сонныя поры і драўніна, што была нежывой і падавалася назаўсёды выштурхнутай з кругазвароту пераўтварэнняў, пачынае адчуваць жыццё, успамінаць, як яно было дрэвам, прыгадваць сонца, рост і далёкія часы юнацтва. Яна спакойна дыхае ў сваім сне, прагна п'е вільгаць і сонечную цеплыню, цягнецца застылымі жыламі, храбусціць тут і там, і млява рухаецца. І калі я кладуся на дошкі і пачынаю драмаць, з нетраў напалову мёртвага дрэва ўздымаецца надзвычай лёгкі, пранікнёны водар, злёгку, па-хлапечы напоўнены чуллівай цнатлівасцю зямлі, пахам вясны і лета, імхоў і ручаёў, і суседствам з жывёльным светам.

І душу самотнага лыжніка, што прывык да людзей і кніг, музыкі, вершаў і вандровак, што з вірлівага чалавечага жыцця чыгункай, паштовым аўтамабілем, на лыжах і пехам дабіраўся сюды, маю душу кранае гэты лёгкі, дзіцячы водар нагрэтай на сонцы драўніны мацней і настойлівей, абуджае ўспаміны з далёкага ранняга дзяцінства лепш, чым усё, што мне за доўгія гады дало чалавецтва.

*Пераклад з нямецкай Надзеі Марковіч*

Крыніца: http://rutracker.org/forum/viewtopic.php?t=3590311



## Жан Жыано Jean Giono

**Жан Жыано нарадзіўся 30 сакавіка 1895 года ў горадзе Маноску (Францыя) у сялянскай сям'і. Бацька быў шаўцом, маці працавала ў прасавальнай майстэрні. У сям'і Жыано панавала згода, яго дзяцінства было бедным, але шчаслівым. Каб здаволіць прагу ведаў, вучыўся самастойна. Чытаючы класікаў (у прыватнасці, Публіюс Вэргіліюс Марон аказвае вялікі ўплыў на пісьменніка), ён вырашыў прысвяціць сябе літаратурнай дзейнасці. У 1929 годзе вялікі поспех мела першая апублікаваная кніга «Узгорак» («Colline»). Жан Жыано вырашыў спыніць прафесійную банкаўскую дзейнасць, каб займацца выключна літаратурнай працай.**

**Літаратурная спадчына Жана Жыано змяшчае шматлікія раманы, аповесці, хронікі, вершы, п'есы, лісты, пераклады. Многія яго творы прысвечаны селяніну. Натхнёны сваім бачаннем Праванса, ён пісаў раманы і раскрываў стан чалавека, які сутыкаецца з маральнымі пытаннямі. Сярод найбольш вядомых яго твораў — кароткае апавяданне-алегорыя «Чалавек, які саджаў дрэвы» («L'homme qui plantait des arbres»), напісанае ў 1953 годзе.**

**Маўклівы, немалады, адзінокі пасля смерці жонкі і дзіцяці правансальскі пастух Эльзеар Буф'е кожны дзень на працягу 35 гадоў цярпліва высаджваў у змярцвелых і закінутых пустэчах каля падножжа альпійскіх гор жалуды і насенне дрэў, з якіх з часам вырас велічны густы лес…**

*Хрысціна Філіповіч*

# Чалавек, які саджаў дрэвы

Для таго, каб чалавечая асоба раскрыла свае выключныя якасці, трэба мець магчымасць назіраць за яе ўчынкамі на працягу доўгіх гадоў. Калі гэтыя ўчынкі пазбаўлены эгаізму, калі думкамі кіруе бяспрыкладная шчодрасць і калі цалкам дакладна вядома, што ўчынкі здзяйсняюцца без разліку на якое-небудзь узнагароджанне і, больш за тое, калі яны пакідаюць прыкметны след у свеце, тады можна беспамылкова сказаць, што перад намі асоба, якую забыць немагчыма.

Амаль сорак гадоў таму мне давялося ажыццявіць доўгае падарожжа пешшу, па зусім незнаёмых для турыстаў вышынях у старажытным раёне Альпаў, неразлучным з Правансам.

Гэты раён абмежаваны на паўднёвым усходзе сярэднім цячэннем ракі Дзюранс, паміж Сістэронам і Мірабо; на поўначы — верхнім цячэннем Дромы ад вытоку да акругі Дзі; на захадзе — раўнінамі Комта-Венесэн і адгор'ямі горнага хрыбта Мон-ванты. Раён уключае ўсю паўночную частку дэпартамента Ніжніх Альпаў, поўдзень Дромы і анклаў Ваклюз.

Гэта быў той час, калі я доўга падарожнічаў па голай аднастайнай і пустыннай мясцовасці, што знаходзілася на вышыні 1200—1300 метраў. Там расла толькі дзікая лаванда.

Я перасякаў гэтую мясцовасць у самай шырокай яе частцы. Пасля трохдзённай хадзьбы я апынуўся ў абсалютнай пустыні, дзе нічога не расло. Я паставіў палатку побач з руінамі

пакінутага паселішча. Яшчэ з мінулага дня ў мяне не было вады, і трэба было яе адшукаць. Руіны дамоў у паселішчы груваціліся, як старое асінае гняздо, і мне прыйшло ў галаву, што калісьці тут маглі быць фантан альбо студня.

Фантан сапраўды быў, але высахлы. Пяць-шэсць дамоў без даху, прагніўшыя ад дажджу і ветру, каплічка са скрыўленай званіцай — усё гэта наводзіла на думку, быццам у паселішчы жылі людзі, але слядоў жыцця не засталося.

Быў цудоўны чэрвеньскі дзень, ярка свяціла сонца. Але ў гэтай пустыннай мясцовасці, пазбаўленай прытулку, невыносна лютаваў вецер. Ён грукатаў у абломках дамоў, нібы дзікі звер, патурбаваны падчас ежы.

Палатку прыйшлося зняць. Пяць гадзін пошуку вады не далі выніку, і не было ніякай надзеі яе знайсці. Усюды толькі засуха і здзірванелыя расліны. Раптам мне падалося, што здалёк я ўбачыў маленькі чорны сілуэт. Прыняўшы яго за ствол адзінокага дрэва, я наўздагад пайшоў да яго. Гэта быў пастух. Побач з ім, на гарачай зямлі, ляжалі тры дзясяткі бараноў.

Пастух даў мне напіцца з пляшкі, а потым мы пайшлі ў кашару, размешчаную ў расколіне на пласкагор'і. Ён чэрпаў вельмі добрую на смак ваду з глыбокага натуральнага калодзежа, над якім усталяваў няхітрую лябёдку.

Чалавек гаварыў мала. Такое часта здараецца сярод адзінокіх людзей, але нягледзячы на гэта, адчувалася яго непахісная ўпэўненасць у сваіх сілах. Гэта не было характэрна для такога пустэльнага месца. Жыў ён не ў хаціне, а ў сапраўдным мураваным доме. Было відаць, што ён сам аднавіў гэты дом з руінаў, якія застаў па прыбыцці.

Дах быў моцны і не прапускаў дажджу. Вецер стукаўся аб чарапіцу разам з шумам марскіх хваляў, што б'юцца пры беразе.

Яго гаспадарка была ў парадку, посуд быў вымыты, падлога падмецена, ружжо змазана; на агні варыўся суп. Я заўважыў, што ён свежапаголены, што ўсе яго гузікі трывала прышытыя, а яго адзенне зацыравана з такой дбайнасцю, што латак не было відаць.

Ён наліў мне супу, а ад прапанаванага тытуню адмовіўся, патлумачыўшы, што не паліць. Сабака, ціхі, як і сам гаспадар, быў добразычлівы без лішняй дагодлівасці.

Мы адразу ж дамовіліся, што я спынюся на начлег, бо суседняе паселішча знаходзілася за дзень хады ад яго. Да таго ж, я цудоўна ведаў нораў людзей, якія жывуць у невялічкіх паселішчах гэтай мясцовасці. Чатыры ці пяць вёсак былі раскіданы далёка адна ад адной, на схілах гор, у лесасеках, дзе раслі белыя дубы, аддаленыя ад шашы. Там жывуць лесарубы, якія нарыхтоўваюць драўнінны вугаль. У гэтых месцах жывецца цяжка. Сем'і, прыціснуўшыся адна да адной у гэтым надзвычай суровым клімаце, варацца ва ўласным эгаізме. Тут valadaraць безразважныя амбіцыі і пастаяннае жаданне збегчы адгэтуль.

Мужчыны развозяць вугаль на грузавых машынах у горад, а затым вяртаюцца. Нават самы моцны характар можа не вытрымаць бесперапыннага «шатландскага дажджу». Жанчыны ўвесь час затойваюць злосць на суседзяў. Усюды і ва ўсім канкурэнцыя: і за продаж вугалю, і за лаву ў царкве; паміж сабой ваююць і дабрачыннасць, і загана, а больш за тое, паміж дабрадзейнасцю і заганай ідзе пастаянная барацьба. І ў дадатак псуе нервы заўсёдны вецер. Самагубства і вар'яцтва са смяротным зыходам набываюць у гэтай мясцовасці характар эпідэміі.

Адмовіўшыся ад тытуню, пастух прынёс мяшочак, з якога высыпаў на стол кучку жалудоў. Затым ён пачаў уважліва вывучаць іх адзін за адным, адбіраючы добрыя ад дрэнных. Я паліў люльку. Потым я прапанаваў яму сваю дапамогу, але ён адказаў, што гэта яго справа. Насамрэч, гледзячы на руплівасць, з якой ён адбіраў жалуды, я не настойваў. Гэта і была ўся наша размова. Калі назбіралася

прыстойная кучка добрых жалудоў, ён іх адклаў па дзесяць штук. У дадатак ён адбіраў меншыя жалуды і тыя, што былі надтрэснутыя, бо ён разглядаў іх з вельмі блізкай адлегласці. Калі, нарэшце, перад ім ляжала сто выдатных жалудоў, ён скончыў свой занятак, і мы пайшлі спаць.

З гэтым чалавекам было спакойна. На наступны дзень я спытаў дазволу застацца адпачыць у яго яшчэ на дзень. Ён успрыняў гэтую просьбу абсалютна натуральна, або, хутчэй, у мяне склалася ўражанне, што нішто не магло яго патурбаваць. Я не меў вялікай патрэбы адпачываць яшчэ дзень, але мяне адольвала дапытлівасць, і я хацеў пабольш даведацца пра гэтага чалавека. Пастух выгнаў свой статак на пашу, але перш чым выйсці з хаты, ён паклаў у вядро з вадой мяшочак з старанна адабранымі і палічанымі жaлудамі.

Я заўважыў, што замест посаха ён насіў жалезны стрыжань таўшчынёй з палец і даўжынёй у паўтара метра. Я зрабіў выгляд, што не заўважаю яго, і пайшоў шляхам, паралельным шляху лесніка. Паша знаходзілася ў глыбіні невялікай расколіны. Ён пакінуў статак на свайго сабаку і падняўся да мяне. Я адразу спалохаўся, думаў, мабыць, ён стане папракаць мяне ў нясціпласці, але зусім не! Але ж, як аказалася, гэта быў яго шлях, і ён запрасіў пайсці з ім, калі ў мяне не было іншых спраў. Ён прайшоў метраў дзвесце ўверх па схіле.

Падняўшыся туды, ён стаў выкопваць жалезным стрыжнем невялікія ямкі, у якія клаў жалуды, а потым іх засыпаў. Ён саджаў дубы. Я спытаў, ці належыць яму гэтая зямля. Ён сказаў, што не. Ці ведае ён, каму яна належыць? Не, не ведае. Ён меркаваў, што гэтая зямля супольная, а можа быць, належыць людзям, якія яе не апрацоўваюць. Яго не вельмі цікавіла, у чыёй уласнасці знаходзілася зямля. З асаблівай дбайнасцю ён пасадзіў сто жалудоў.

Пасля абеду ён працягваў адбіраць насенне. Я пачаў задаваць пытанні з большай настойлівасцю, і, напэўна, таму ён стаў адказваць. Высветлілася, што ён саджае дрэвы ўжо тры гады, знаходзячыся ў адзіноце. Пасадзіў ён ужо амаль сто тысяч дубоў. З іх дваццаць тысяч узышлі. Ён разлічваў, што з гэтых дваццаці тысяч дрэў палова знікне з-за грызуноў або па задуме Божай, якую немагчыма прадбачыць. У выніку заставалася дзесяць тысяч дубоў, якія раслі ў мясцовасці, дзе раней нічога не было.

У той момант я зацікавіўся узростам гэтага чалавека. На выгляд яму было больш за пяцьдзясят. Пяцьдзясят пяць, — удакладніў ён сам. Звалі яго Эльзеар Буф'е. Калісьці на раўніне ён меў ферму. Там і прайшло яго жыццё. Спачатку ён страціў адзінага сына, а затым жонку. Ён адасобіўся, і яму падабалася жыць у адзіноце з авечкамі і сабакам. Ён прыйшоў да высновы, што гэтае месца памірае з-за таго, што тут няма дрэў. А паколькі ў яго не было іншых важных спраў, ён вырашыў выправіць становішча.

У гэты момант я і сам, нягледзячы на маладосць, вёў адасоблены лад жыцця, а таму ведаў, як далікатна дакрануцца да душы адзінокага чалавека. Тым не менш я зрабіў памылку. Мой малады ўзрост прымусіў мяне ўявіць сабе будучыню ў пошуках шчасця. Я сказаў пастуху, што праз трыццаць гадоў гэтыя дзесяць тысяч дубоў будуць уяўляць пышнае відовішча. На што ён мне адказаў, што калі Гасподзь Бог дазволіць яму пажыць на гэтай зямлі, то за трыццаць гадоў ён пасадзіць столькі дрэў, што гэтыя дзесяць тысяч здадуцца кропляй у моры.

Ужо тады ён вывучаў размнажэнне бука, а побач з яго домам знаходзіўся гадавальнік маладых букаў. Там красаваліся маладыя дрэўцы, агароджаныя ад авечак кратамі. Ён таксама марыў пра развядзенне бяроз на нізіне, дзе, як ён мне тлумачыў, вільготнасць знаходзілася на глыбіні некалькіх метраў ад паверхні глебы.

На наступны дзень мы разышліся.

Праз год пачалася вайна 14-га года, і мяне мабілізавалі на пяць гадоў. Салдату-пехацінцу не было калі думаць аб дрэвах. Шчыра кажучы, гэтая пасадка дрэў не зрабіла на мяне якога-небудзь глыбокага ўражання: для мяне гэта было хобі, як калекцыянаванне марак, і я забыўся пра гэта.

Вайну я скончыў з невялічкай прэміяй па дэмабілізацыі, але з вялікім жаданнем ўдыхнуць свежага паветра. Не думаючы нічога загадзя, я зноў адправіўся ў тую самую пустынную мясцовасць.

Там нічога не змянілася. Тым не менш за мёртвым паселішчам я заўважыў шэры туман, што рассцілаўся дываном па схілах гор. Яшчэ напярэдадні я ўспомніў пра пастуха, які саджаў дрэвы. «Дзесяць тысяч дубоў, — падумаў я, — павінны займаць велізарную тэрыторыю».

За пяць гадоў вайны я нагледзеўся на смерць, і таму мне было лёгка ўявіць смерць Эльзеара Буф'е, тым больш што, калі табе дваццаць гадоў, то на ўсіх пяцідзесяцігадовых глядзіш, як на старых, якім толькі і засталося што памерці. Але Эльзеар Буф'е не памёр. Наадварот, ён быў бадзёры і свежы. Ён змяніў працу. У яго цяпер было толькі чатыры авечкі, але затое цэлая сотня вуллёў. Ён пазбавіўся ад авечак, таму што тыя знішчалі яго плантацыі. Ён абсалютна не звяртаў увагі на вайну і спакойна працягваў саджаць дрэвы.

Дубочкам 1910-га года было дзесяць гадоў, і яны былі вышэй за мяне і пастуха. Відовішча неверагоднае. Я не мог вымавіць ні слова, пастух таксама маўчаў, і мы правялі ўвесь дзень моўчкі, шпацыруючы па лесе. Лес быў падзелены на тры ўчасткі: адзінаццаць кіламетраў у даўжыню і тры кіламетры па шырыні. Калі ўспомніць, што ўсё гэта зроблена яго рукамі і сэрцам без якіх-небудзь тэхнічных сродкаў, то разумееш, што людзі маглі б ствараць нароўні з Богам не толькі ў галіне разбурэння.

Эльзеар Буф'е не пакідаў сваіх задум, аб чым сведчылі букі, што разрасліся на гарызонце. Дубы былі моцныя і здаровыя і ўжо перараслі ўзрост, калі можна было баяцца грызуноў; а што да непрадбачаных задум Божых, то для таго, каб разбурыць створанае, цяпер давялося б звярнуцца да ўраганаў. Ён паказаў мне цудоўны пяцігадовы бярозавы гай, які быў пасаджаны ў 1915 годзе, у той час, калі я ваяваў у Вердэне. Бярозамі была засаджана ўся нізіна, дзе, як ён дакладна меркаваў, вільготнасць была практычна пад самай паверхняй. Бярозкі былі далікатныя, нібыта дзяўчаты, але раслі вельмі рашуча.

Пасадка дрэў ажыццяўлялася марудна. Але гэта не бянтэжыла Эльзеара Буф'е, і ён настойліва працягваў сваю працу. Спускаючыся ўніз праз вёску, я заўважыў бягучыя ручайкі, якія на чалавечай памяці заўсёды заставаліся сухімі. Гэта была найбольш выдатная дэталь, якую мне давялося ўбачыць. У старажытныя часы гэтыя сухія ручаі былі поўныя вады. Некаторыя з тых сумных вёсак, пра якія я казаў у пачатку аповеду, будаваліся на былых землях гала-рымскіх паселішчаў, сляды якіх яшчэ захаваліся. Па гэтых слядах археолагі шукалі і знаходзілі рыбалоўныя гаплікі на месцах, дзе ў XX стагоддзі людзі былі вымушаны прывозіць ваду цыстэрнамі.

Частку насення разнёс вецер. Разам са з'яўленнем вады адрадзіліся вярбняк, лугі, сады, кветкі і сам сэнс жыцця.

Але гэтае ператварэнне адбывалася так павольна, што ўваходзіла ў звыклае жыццё, не выклікаючы здзіўлення. Паляўнічыя, якія ездзілі ў пустыню ў пошуках зайцоў альбо дзікоў, сапраўды бачылі парасткі маладых дрэў, але адносілі гэты факт да натуральных цудаў прыроды. Вось чаму ніхто не чапаў працу гэтага чалавека. Калі хто-небудзь і пачаў бы яго падазраваць, то гэта хутка б абвергглі. Ён быў па-за падазрэннямі. Хто б мог уявіць, у вёсках або ў адміністрацыі, што бязмежная шчодрасць можа спалучацца з такой настойлівасцю?

Пачынаючы з 1920-га я кожны год наведваў Эльзеара Буф'е. Я ніколі не бачыў, каб ён здаваўся, ці сумняваўся. Бог ведае, на што ён здатны. Я нічога не сказаў пра расчараванні гэтага чалавека. Але можна ўявіць тым не менш, што для падобнага поспеху прыйшлося перамагчы няўдачу, што для таго каб дамагчыся перамогі такога запалу, трэба было змагацца з адчаем. У адзін год ён пасадзіў больш за дзесяць тысяч клёнаў. Яны ўсе загінулі. Праз год ён кінуў займацца клёнамі і зноў узяўся за букі, якія раслі яшчэ лепш, чым дубы.

Каб лепш сабе ўявіць незвычайную асобу гэтага чалавека, варта памятаць, што ўсё гэта ён рабіў у поўнай адзіноце, і да канца свайго жыцця ён страціў звычку размаўляць. А можа быць, ён не бачыў у гэтым неабходнасці?

У 1933 годзе Эльзеара Буф'е наведаў падлоўчы. Гэты чыноўнік даў указанне не разводзіць вогнішча знадворку, каб не падвяргаць небяспецы прыродны лес. Гэты наіўны чалавек сказаў, што ўпершыню бачыць, каб лес рос сам па сабе. У той час Буф'е збіраўся саджаць букі за дванаццаць кіламетраў ад свайго дома. Але паколькі яму было ўжо семдзесят пяць, і яму было цяжка дабірацца туды і назад, ён вырашыў пабудаваць мураваную хаціну на месцы сваіх пасадак, што ён і зрабіў на наступны год.

У 1935 годзе цэлая дэлегацыя прыехала вывучаць «прыродны лес». Прыехалі начальнікі з міністэрства лясных і водных рэсурсаў, адзін дэпутат, тэхнічныя спецыялісты. Было сказана шмат марных слоў. Вырашылі што-небудзь распачаць, але, на шчасце, нічога не было зроблена. Адзінае карыснае, што зрабілі: лес паставілі пад ахову дзяржавы і забаранілі там з'яўляцца нарыхтоўшчыкам вугалю. Усё таму, што перад прыгажосцю маладых і здаровых дрэў нельга было ўстаяць. Дрэвы пакарылі нават дэпутата.

Сярод членаў дэлегацыі быў і мой сябар ляснік. Я растлумачыў яму таямніцу. На наступным тыдні мы ўдвух пайшлі на пошукі Эльзеара Буф'е. Мы засталі яго ў самы разгар працы за дваццаць кіламетраў ад таго месца, дзе была інспекцыя.

Мой сябар ляснік быў чалавек надзейны. Ён ведаў цану рэчам. Ён умеў маўчаць. Я прынёс з сабой некалькі яек, мы перакусілі ўтрох, а затым некалькі гадзін правялі ў нямым сузіранні пейзажу.

Край, куды мы прыйшлі, быў пакрыты дрэвамі шасці-сямі метраў вышынёй. Я памятаў, як гэты край выглядаў у 1913 годзе — гэта была пустыня. Мірная, рэгулярная праца, жыватворнае паветра гор, умеранасць у ежы і асаблівая ціхамірнасць душы надзялілі гэтага старога урачыстым здароўем. Гэта быў атлет ад Бога. Цікава, думаў я, колькі яшчэ гектараў ён засее дрэвамі?

Перад ад'ездам, мой сябар даў адзіную параду наконт некаторых высадак, якім магла б падысці тутэйшая глеба. Але настойваць не стаў. «Відавочна, гэты чалавек ведае больш за мяне», — сказаў мне сябар пазней. А праз гадзіну хады дадаў: «Ён ведае больш, чым хто-небудзь. Ён знайшоў выдатны сродак быць шчаслівым!»

Дзякуючы майму сябру ўдалося захаваць не толькі лес, але і шчасце гэтага чалавека. Адзін ляснік прызначыў трох леснікоў для аховы лесу і так іх запалохаў, што яны былі цалкам абыякавыя да якіх бы там ні было хабараў лесарубаў.

Лесу не ўдалося пазбегнуць толькі аднаго непрыемнага здарэння падчас вайны 1939 года. Аўтамабілі ездзілі тады на газагенератарах, а дроў пастаянна не хапала. Высечку дубоў з пасаджаных пачалі ў 1910 годзе, але гэтыя ўчасткі лесу былі так далёка ад сеткі праязных дарог, што прадпрыемства аказалася вельмі нявыгадным з фінансавага пункту гледжання. Давялося яго пакінуць. Пастух нічога не заўважыў, бо яго плантацыі знаходзіліся за трыццаць кіламетраў ад таго месца. Ён мірна працягваў сваю працу, не звяртаючы ўвагі на вайну 39-га, таксама як і не звярнуў увагі на вайну 14-га года.

У апошні раз я бачыў Эльзеара Буф'е ў чэрвені 1945 года. Яму было восемдзесят сем гадоў. Я зноў пайшоў пешшу праз пустынную дарогу, але цяпер, нягледзячы на пасляваенную разруху, паміж далінай Дзюранс і гарой хадзіў рэйсавы аўтобус. Гэта быў адносна хуткі від транспарту, і з гэтай прычыны я не пазнаў мясцовасць сваіх апошніх вандровак. Мне таксама здалося, што маршрут праходзіць па новых месцах. Аднак, спытаўшы назву вёскі, я пераканаўся, што гэта ўсе-такі той самы край, раней разбураны і спустошаны. Аўтобус высадзіў мяне ў Вергоне.

У 1913-ым на гэтым хутары на тузін дамоў было тры жыхары. Яны былі сапраўднымі дзікунамі, адзін аднаго ненавідзелі і жылі за кошт лоўлі звяроў. Па сваім фізічным і маральным стане яны хутчэй паходзілі на першабытных людзей. Хаты, што знаходзіліся побач, цалкам зараслі крапівой. Становішча гэтых людзей было безнадзейным. Ім заставалася толькі чакаць смерці — сітуацыі, якая наўрад ці схіляе да дабрачыннасці.

Але ўсё змянілася. Нават паветра. Замест парывістага сухога ветру, які сустракаў мяне раней, дзьмуў лёгкі ветрык, напоўнены водарам. Зверху даносіўся шум ветру ў лясах, падобны на шум бягучай вады. І, нарэшце, самае дзіўнае: я пачуў сапраўднае цурчанне вады ў ручаі. Тут пабудавалі фантанчык, і ён быў поўны вады; што мяне больш за ўсё кранула, дык гэта тое, што побач з ім пасадзілі ліпу, якой ужо было гады чатыры, мяркуючы па таўшчыні ствала, — бясспрэчны сімвал уваскрашэння.

Акрамя таго, Вергон захаваў сляды працы, для аднаўлення якой неабходна была надзея. А значыць, надзея вярнулася. Месца ачысцілі ад руін, знеслі паўразваленыя сцены і аднавілі пяць дамоў. З гэтага часу вёска налічвала дваццаць восем жыхароў, разам з чатырма маладымі сем'ямі. Новыя, са свежай тынкоўкай дамы былі абкружаны агародамі, дзе ўперамешку на роўных градках раслі гародніна і кветкі, капуста і ружы, грушы, ільвіны зеў, салера і анемоны. Цяпер тут хацелася жыць.

Адтуль я ўжо пайшоў пешшу. Вайна, з якой мы ледзь выбраліся, не дазволіла яшчэ жыццю заквітнець ва ўсёй красе, але Лазар выйшаў з труны. На спадзістых схілах гор я бачыў невялікія пасевы маладога ячменю і жыта, воддаль вузкія даліны зелянелі пашамі.

Спатрэбілася ўсяго толькі восем гадоў, каб аддзяліць нас ад таго перыяду разрухі, і каб уся гэтая мясцовасць зноў напоўнілася здароўем і дастаткам. На месцы руінаў, што я бачыў у 1913-ым, стаялі цяпер чыстыя, добра абтынкаваныя фермы, якія з'яўляюцца сведкамі шчаслівага і ўтульнага жыцця. Ажылі крыніцы, якія папаўняюцца дажджавой вадой і снягамі, падтрымліваюцца лесам. Ваду правялі па каналах. Каля кожнай фермы з кляновым гаем вада з фантанчыкаў прасочвалася на дыван свежай мяты. Патроху аднаўляліся вёскі. Край засялілі людзі з раўніны, дзе зямля каштуе дарага. Яны прынеслі сюды маладосць, рух, дух прыгод. Па дарозе можна сустрэць заможных мужчын і жанчын, вясёлых хлапчукоў і дзяўчынак, яны зноў адчулі смак сельскіх свят. Калі палічыць разам са старым насельніцтвам, якое цяпер было не пазнаць з тых часоў, як яны ўтульна жылі сярод новапрыбылых, то ў агульным ліку Эльзеару Буф'е сваім шчасцем абавязаны больш за дзесяць тысяч чалавек.

Калі я разважаю пра тое, што самотны чалавек, магчымасці якога былі зведзены да яго ўласнай фізічнай і маральнай сілы, змог адрадзіць з пустыні гэтую «Ханаанскую зямлю», я прыходжу да высновы, што, нягледзячы ні на што, прызначэнне чалавека заслугоўвае захаплення. Але калі я пачынаю перабіраць у думках, колькі яму спатрэбілася ўпартасці ў веліччы душы і самаахвярнасці ў дабрыні, каб дамагчыся такога выніку, мяне ахоплівае пачуццё небывалай павагі да гэтага пажылога неадукаванага селяніна, якому ўдалося давесці да канца гэтую задуму, патрэбную Богу.

Эльзар Буф'е памёр у 1947 годзе ў прытулку для састарэлых у Баноне.

*Пераклад з французскай Хрысціны Філіповіч*

Крыніца: https://fr.wikisource.org/wiki/L'Homme_qui_plantait_des_arbres

**Наталля Скарынка**




# Трэба проста ўзняць галаву

**Гуляючы па праспекце Незалежнасці, я раптоўна спынілася перад нечым, што здалося мне даволі незвычайным. Гэта была афіша з выявай драўлянай лыжкі і срэбнага відэльца на ярка-чырвоным фоне з надпісам: «Дзве душы». Так, у Купалаўскім тэатры — чарговая прэм'ера. Пастаўлены новы твор. А галоўная праблема ў ім — ранейшая. На сцэне зноў гавораць пра самавызначэнне. І ў рамках невясёлага сюжэта.**

## Уступ

Недзе ўнутры я рэзка адчула, як адчайна гэты спектакль жадае быць убачаным. Як ён шукае, літаральна гукае свайго гледача, з надзеяй зазіраючы ў вочы прахожых з вялізнай глянцавай афішы.

Пасля знаёмства з аднайменнай аповесцю Максіма Гарэцкага ілюстрацыя на афішы становіцца зразумелай: чырвоны колер — гэта кроў, рэвалюцыя і трагедыя, нешта гучнае і трывожнае; срэбны відэлец — гэта пан, драўляная надтрэснутая лыжка — селянін. Гэта і вайна класаў у перыяд пасля Першай сусветнай вайны, і адначасова — раскол унутры галоўнага персанажа.

Мушу сказаць, што калі вы не чыталі твор, то хутка ўлавіць, хто кім каму з'яўляецца і навошта хто ўвогуле патрэбен, цяжкавата. Асабіста я аддаю перавагу грунтоўнай падрыхтоўцы да прагляду, каб падчас спектакля ў мяне было як мага менш пытанняў. Каб была магчымасць думаць. Нешта аналізаваць.

Хоць ёсць тут і «але». «Дзве душы» ўяўляюць сабой нарэзку сцэн, сітуацый і дыялогаў, і трэба падкрэсліць, што галоўнае падчас прагляду спектакля — разуменне праблемы. Калі ў гледача ёсць здольнасць бачыць сэнс таго, што адбываецца на сцэне, і калі ёсць у яго хоць мінімальныя веды па гісторыі нашай краіны, тады папярэдняе знаёмства з творам не такое ўжо неабходнае. Але — цікавае і карыснае. Ну, гэта я так, на заметку.

Звернемся да сутнасці спектакля «Дзве душы».

## Частка першая. Сэнс вобраза Ігната Абдзіраловіча

Я лічу, што размову пра пастаноўку лепш пачаць з галоўнага героя. Бо ён тут — тая самая нітка, якая распачынае разматваць клубок дзеянняў, думак, пачуццяў. Як сваіх, так і гледачоўскіх.

Ігнат Абдзіраловіч — асоба няпростая. Пошук самога сябе і разважанні пра сэнс усяго, што ў жыцці да яго дакранаецца, — тое, чым ён на працягу дзеяння займаецца. Галоўная яго праблема — адказы на пытанні пра самавызначэнне: ці ён беларус, ці ўся Расея яго радзіма; на якой мове трэба размаўляць; сяляне павінны быць кіруючым класам ці паны, — і вырашыць гэта складана, бо з розных бакоў Ігнат чуе шмат розных меркаванняў. Але менавіта Абдзіраловіч з усіх прысутных мае свежы, не запэцканы ніякім фанатызмам і чужымі ідэямі розум. І чыстыя думкі яго незалежныя ні ад каго, акрамя яго самога. Адсюль хвароба, якой Гарэцкі даў назву «раздваенне душы». Я магу параўнаць гэта толькі з захворваннем унутранага свету чалавека — калі той не ведае, хто ён насамрэч, што яму рабіць і куды ісці. Асабліва цяжка, калі гэты чалавек адзіны на пазіцыі нейтралітэту, бо навакол усе ўжо вызначыліся, ды хутка. А галоўны герой так не можа. Абдзіраловіч больш нагадвае чалавека, які апынуўся не ў сваім часе. Палёт думкі якога аказаўся значна даўжэйшы, чым у астатніх.

*«Так, свой ці чужы, — падумаў ён з нейкім сорамам ці каяннем. — Я не ведаю, хто мне свой і хто чужы. Я дзяржуся дзікога нейтралітэту і ашуківаю тых і гэтых і самога сябе. Няўжо панская кроў, каторая цячэць у маіх жылах, маець тут нейкае значэнне? Ату, што за дурныя думкі — гэтага не можа быць»,* — радкі з тэксту Гарэцкага. І вось так Абдзіраловіч і мучыцца на працягу ўсяго спектакля. А навіна аб тым, што насамрэч Ігнат ніякі не панскі сын, а звычайны мужык, толькі заблытвае яго яшчэ больш.

Каб пераканацца ў тым, што я не памыляюся, і на самай справе Абдзіраловіч ніякі не гультай, а інтэлектуал, я вырашыла звярнуцца па дапамагу да чалавека, які, мне здаецца, дакладней, чым хто-небудзь, можа разумець сэнс паводзін галоўнага героя. Аб сутнасці асобы Ігната Абдзіраловіча — у гутарцы з выканаўцам гэтай ролі ў спектаклі, акцёрам Купалаўскага тэатра Раманам Падалякам.

**— На вашу думку, Ігнат — пазітыўны герой, нейтральны ці негатыўны?**

— Пасля прэм'еры ў інтэрнэце напісалі так: «Падаляка ўяўляе сабой усю млявасць і абыякавасць беларускага народа, які вельмі замшэлы…» Шчыра кажучы, я не думаю, што вобраз Абдзіраловіча менавіта такі. Ён — чалавек, які проста ні на якім баку: не бальшавік, не прыхільнік царызму (хоць і служыць у царскім войску), але яго імкнуцца перацягнуць ці адны, ці іншыя на свой бок. Для мяне гэты чалавек проста сузіральнік. Ён не абыякавы. Проста ў складаны час перамен Абдзіраловіч знаходзіцца на крок назад і хоча паглядзець на сітуацыю збоку. Каб не рабіць адразу рашучых учынкаў, а ўбачыць і тых, і другіх пад павелічальным шклом. Хоць пісалі і тое, што ў майго героя няма ніводнай думкі… Што ж, колькі людзей — столькі меркаванняў.

**— Вам давялося прапусціць праз сябе такі неадназначны, складаны згустак энергіі ў выглядзе вобраза Абдзіраловіча. Якія ў вас эмоцыі, пачуцці, уражанні ад гэтай ролі і асобы персанажа?**

— Я б не быў такі красамоўны — не казаў бы, што ён згустак энергіі. Тыя людзі, напрыклад, якія адсочваюць маё развіццё як акцёра, напэўна, будуць крыху расчараваныя гэтай роллю. Як мне падаецца, яна больш знакавая, чым акцёрская. Як бы парадаксальна гэта ні гучала. Па-акцёрску кажучы, даволі складана знаходзіцца ў сюжэце, дзе ад цябе мала што залежыць. Ты актыўна не ўдзельнічаеш у яго стварэнні, а проста сузіраеш. Гэтая роля цяжкая тым, што яна неактыўная — чаму і ўзнікаюць млявасць, абыякавасць і г. д. Я не думаю, што тыя, хто бачыў мяне ў іншых ролях, знойдуць тут ува мне нешта новае, і я адэкватна даю сабе справаздачу, што я не зрабіў і не адкрыў тут для сябе па-акцёрску нічога новага.

**— Як чалавека, вы Ігната разумееце?**

— Вельмі разумею. Ведаеце, у канцы спектакля вы пачуеце фразу: «Паўсюль адна фальш». Мне часам сапраўды падаецца, што з усіх бакоў усе думаюць толькі пра сваю карысць і ўсякія матэрыяльныя штукі. Нягледзячы на ўсе палымяныя прамовы тыпу «мы за нацыяналізм», «а мы за патрыятызм», па выніку заўсёды атрымліваецца ўсё адно і тое ж.

**— Ці здольны Абдзіраловіч у рамках свайго часу і навакольных абставін усё ж-такі прыйсці да самога сябе, зрабіць выбар на карысць нейкага вернага шляху?**

— Ён фактычна яго і робіць — думаю, ён проста не хоча рабіць яго змушана. Яго прыцягваюць заўсёды кудысьці, а ён пачынае гутарку аб тым, што ўжо купіў беларуска-маскоўскі слоўнік, пачаў нешта вывучаць… Тыя, хто ідуць на спектакль і думаюць, што Абдзіраловіч вось такі супермен, герой, які зараз зробіць выбар, і ён такі класны, зараз усё пераможа — яны памыляюцца. У кожнага гэты выбар адбываецца па-свойму. У некаторых вельмі цяжка, у некаторых — увогуле ніколі не адбудзецца. Хтосьці прыйдзе да гэтага праз кніжкі, хтосьці — праз знаёмых, сяброў ці каханне. Гэта такая гама, таму нельга казаць адназначна: тут, маўляў, нашы, а тут немцы. Не тая сітуацыя.

## Частка другая.
## Акцёрскі ўклад у падачу героя

Напэўна, гэта і праўда — галоўны персанаж выконвае, у асноўным, функцыі сузірання і разважання. Але не ўсё так проста. Ігнат сапраўды ні ў якім разе не ставіцца да ўсяго, што чуе і бачыць навакол, абыякава. Можа, канешне, ён і не супермен у стэрэатыпным сэнсе гэтага слова, але асабіста для мяне ён як мінімум герой. Герой, бо пры тых акалічнасцях, што яго атачаюць, ён усё яшчэ **здольны думаць сам**. Ён не з'ехаў з глузду ад знешняга ціску чалавечай барацьбы адзін з адным і колькасці чужых меркаванняў наконт лепшага жыцця. Абдзіраловіч проста не паддаецца гэтаму націску і застаецца сам-насам са сваімі думкамі, да апошняга.

І гэта ўсё трэба было здолець паказаць са сцэны. Што насамрэч герой «не абыякавы». І галоўнае — дакладна і даходліва, каб гэта зразумеў кожны, а не толькі я. Падкрэслю, што акцёру дасягнуць разумення гледача, так скажам, па пстрычцы, яшчэ складаней, чым пісьменніку — са старонак аповесці. З кнігай у чалавека хоць бы ёсць час перавесці позірк на сцяну і падумаць. У тэатры гледачу даводзіцца схопліваць усё ў момант, у рэальным часе. Калі пісьменнік ці паэт бярэ чалавека словамі, то акцёру застаецца — сваёй пачуццёвасцю і дакладным пападаннем ігрой у характар героя.

Можа, Раман Падаляка як акцёр і не знайшоў у ролі Абдзіраловіча для сябе нічога асабліва новага. Калі не кранаць старонку прафесійнага развіцця і да т. п., гэта добра. Такая самавыснова можа падкрэсліць яго талент як акцёра і адэкватнасць у ацэнцы сваёй працы — як прафесіянала.

Трошкі асабістага. Хочацца чым-небудзь запусціць у аўтараў тых артыкулаў, дзе напісана, што Раман Падаляка грае дрэнна. Ці яшчэ горш — ніяк. Менавіта з-за тых эмоцый, якія я адчувала на працягу ўсяго спектакля. Ігнат Абдзіраловіч у выкананні Рамана Падалякі атрымаўся такі натуральны, жывы і шчыры, **што пачынаеш яму цалкам давяраць.** Не таму, што гэта проста вынік майстэрства акцёрскага ператварэння, якое можа загіпнатызаваць гледача. А таму, што акцёр добра разумее свайго героя — і адсюль відавочна, чаму роля даецца яму лёгка, і разам з гэтым не дае ні як асобе, ні як акцёру нічога новага: бо ў ім ужо і так усё гэта ёсць. Дзякуючы чаму, увогуле, у Падалякі атрымалася перадаць асноўную сутнасць вобраза Абдзіраловіча ў творы Гарэцкага, яго праблему; данесці героя да публікі **дастаткова** зразумела. Хоць я не магу казаць за ўсю залу Купалаўскага тэатра, але абсалютна ўпэўнена кажу гэта за сябе.

Роля ўсё ж складаная. Складаная, бо, на маю думку, патрабуе ад акцёра сапраўды шмат пачуццяў і разумення. Можа, яе выканаўца і лічыць, што яна неактыўная, што тут нельга самому нешта стварыць і можна толькі сузіраць… Але крыху пазней Раман Падаляка скажа: «Нельга адняць тую долю мяне, якая ёсць у мяне, і проста пакінуць вобраз. Каго б я ні іграў. Я ўсё роўна паказваю свае адносіны да персанажа». Нельга выкінуць частку сябе ні пры якіх акалічнасцях, ні ў якой сітуацыі. У выкананні галоўнай ролі ў спектаклі — таксама. І вось гэтая «частка сябе» ў Рамана, на шчасце, апынулася вельмі спачувальнай, разумеючай. Даволі праніклівай, і што галоўнае — глыбокай.

У нейкі момант мне падалося, што Раман нібы адцягваецца ад таго, што ён акцёр, і пачынае адчуваць свайго персанажа быццам да мозгу касцей; граць не Ігната Абдзіраловіча, а ў нейкай меры — частку самога сябе. Уражвае да дрыжыкаў. Здаецца, што гэты чалавек крыху вышэй ад звычайнага паняцця «акцёр». Ён не проста іграе. Ён адчувае. Менавіта такую выснову я раблю канкрэтна аб акцёрскім укладзе ва ўвасабленне ў жыццё са старонак твора Гарэцкага яго цэнтральнага героя, задуменнага сузіральніка Ігната Абдзіраловіча.

## Частка трэцяя. Аблічча краіны

Калі я чытала аповесць Гарэцкага, да мяне прыйшла ідэя аб тым, што Ігнат Абдзіраловіч — гэта агульны вобраз нашай краіны. Раскол яго душы на часткі выразна ўвасабляе падзел тагачаснай Беларусі на «паноў і Сцяпаноў», каталікоў і праваслаўных, руска- і беларускамоўных і гэтак далей. Але «немагчыма сыграць краіну», — сказаў мне Раман Падаляка ў адказ на такую думку. І шкада, што ён мае рацыю. Шкада, бо калі б гэта магчыма было ўвасобіць у сцэнічную гульню тут і зараз, у рэальным часе, можа, да большай колькасці людзей пачала б даходзіць уся трагічнасць сітуацыі ўнутры Беларусі — як тады, так і сёння.

Але калі «тэатар прымушае трошкі думаць» (у гэтым увесь яго сэнс), то выснова аб сімвалізме вобраза Абдзіраловіча павінна прыйсці да гледача падчас **самастойнага пагружэння ўнутр спектакля.** Так, я маю на ўвазе, не тады, калі Абдзіраловіч выйдзе і са сцэны крыкне: «Я — вобраз краіны! Мая двудушша — двудушша ўсяго нашага народа!», і для ўпэўненасці, што ўсе яго пачулі і зразумелі, яшчэ й перапытае. А калі па лагічным ланцужку глядач сам прыйдзе да таго, што галоўны герой — сімвал ключавых праблем Беларусі, рашэнне якіх, на жаль, вельмі зацягнулася.



Сцэна са спектакля.

Гэта актуальная пастаноўка. І ведаеце — шкада. Галоўная трагедыя нашай краіны застаецца і сёння той жа самай, што і сто гадоў таму. Заключаецца яна ў няздольнасці народа вырашыць пытанне самавызначэння. Страшна думаць аб тым, да чаго ў будучым можа прыйсці нацыя, калі столькі часу яна толкам не ведае, што з сябе ўяўляе.

Так, пытанне гэтае — неадназначнае, цяжкае, здольнае развязаць вайну паміж жыхарамі аднной краіны. І менавіта таму яно стала эпіцэнтрам твора Максіма Гарэцкага, а разам з тым, канешне, — і спектакля Мікалая Пінігіна, мастацкага кіраўніка Купалаўскага тэатра. На праблеме беларускай самасвядомасці ў пастаноўцы быў зроблены вялікі акцэнт праз выбар рэжысёрам з аповесці найбольш яркіх эпізодаў, якія папросту прабіваюць на слёзы.

Найбольш знакавай асабіста мне здалася сцэна з маленькімі Ігнатам-панам і Васілём-селянінам, у якой хлопцы не разумелі да канца адзін аднаго ўжо толькі таму, што іх хрысцілі ў розных веравызнаннях. Калі дзеці ў цэнтры сцэны пачалі адначасова чытаць малітву «Ойча наш», першы — у дарагім касцюме і па-польску, стоячы на адным калене, а другі — у звычайнай вышыванцы, па-руску, стоячы на двух, — гэта выклікала ўва мне сапраўдны жах. Сімвалічнасць эпізоду зашкальвала. Ён праняў наскрозь.

Выбар сцэн для спектакля, зроблены рэжысёрам, я думаю, дакладна трапляе ў цэль. Мэта ж — прымусіць гледача думаць. Глыбока і сур'ёзна задумацца пра тое, што значыць слова «беларус», як выглядае гісторыя яго Радзімы, наколькі прыгожая і асаблівая ў яе мова… Увогуле, усвядоміць каштоўнасць сваёй прыналежнасці да гэтай культуры.

Працягваючы размову пра спектакль, я задала Раману Падаляку некалькі пытанняў, якія датычацца канкрэтна магчымага ўплыву «Дзвюх душ» на свядомасць нацыі. Але цяпер ужо больш не як акцёру — хутчэй, як беларусу.

**— Чаму менавіта сёння і зараз — і «Дзве душы» Гарэцкага?**

— «Тутэйшыя», «Ідылія», «Пан Тадэвуш»… І вельмі лагічна тут могуць устаць «Дзве душы». Бо ва ўсіх гэтых творах адкрываецца так ці інакш адна тэма — самавызначэнне. Гэтае пытанне самае галоўнае.

**— Як лічыце, пастаноўка здольная перадаць гледачу сутнасць праблемы, якую разглядае Гарэцкі ў сваім творы, і даць пачатак думкам народа аб сваёй нацыянальнай свядомасці?**

— Думаю, так. Людзі павінны зразумець, што трэба зрабіць нейкі выбар. І калі ты не здольны сам, яго зробяць за цябе. І тады ад цябе нічога ўжо не будзе залежаць. Праблематыка гэтага твора таксама адначасова і перакрывае ўсялякія хібы спектакля, якія ў ім, безумоўна, ёсць.

**— Чаго, па-вашаму, не хапае як Ігнату, так і пэўнай колькасці беларусаў, каб ужо раз ды назаўжды зразумець, хто яны, да якой культуры насамрэч належаць і што з гэтым трэба рабіць?**

— На гэтае пытанне можна адказваць дзве ці тры гадзіны. А калі коратка — не хапае сям'і. Любы чалавек не існуе без таго, што ў яго заклалі бацькі. А калі большасць краіны не мае каранёў, калі людзі не разумеюць, хто яны і хто былі іх продкі, навошта яны тут увогуле, то іх існаванне знаходзіцца ў межах «праца, машына пасат універсал, чарка і скварка». Я не хачу нікога пакрыўдзіць, але гісторыю рухаюць не 90 працэнтаў, а ад сілы пяць ці шэсць. Адукацыя, безумоўна, патрэбна. Можна казаць бясконца аб тым, што патрэбна. Калі адным словам — трэба проста ўзняць галаву. Не пад ногі глядзець, а трошкі пацікавіцца, што там робіцца — у вышыні.

**— Як вы сабе ўяўляеце будучыню беларуса? Да чаго ён мусіць прыйсці, да якога жыцця і думак?**

— Пакуль што ўсё вельмі песімістычна. Можна чапляцца за некаторыя добрыя моманты, але пакуль няма разумення вельмі простых рэчаў, напрыклад, што ты мусіш выкідваць смецце ў сметніцу, не будзе і іншага. Гэта культура, якая ў некаторых народаў даўно сфарміравалася, а ў некаторых — не. Гэтая тэма таксама ўзнята ў спектаклі. Калі ў 1937 годзе расстралялі кучу людзей, проста адсеклі галаву ўсёй інтэлігенцыі, — дык што патрабаваць цяпер ад беларусаў? Што патрабаваць ад развіцця мовы, ад уяўлення сябе як нацыі? Я не ведаю, што. Хоць бы каб проста паважалі ўсё сваё, лічыліся з гэтым, каб ведалі наогул, што яно ёсць. А вось як рашэнне гэтых пытанняў будзе развівацца… Нехта кажа, што трэба дзвесце гадоў або трыста. Але мне, шчыра кажучы, шкада свайго жыцця на чаканне гэтых перамен. Я думаю, што яны павінны адбыцца хутчэй.

## Заключэнне

Седзячы ў партэры падчас антракту, я выпадкова пачула, як адзін малады чалавек (калі я правільна зразумела, студэнт рэжысёрскага факультэта) вельмі выразна, з інтанацыяй, сказаў свайму сябру адносна спектакля:

— Ведаеш, тут не хапае <…> моцы, не хапае падачы…

Нешта ўшчаміла мне слых. Я задумалася. І прыйшла да высновы, што нам не хапае мазгоў. Нам, як беларусам — перш-наперш, а потым ужо — як гледачам, сузіральнікам, чытачам і г. д. Цікавасці да саміх сябе, банальна — да працэсу мыслення.

У спектаклі быў момант, які кранаецца веравызнання нашага знакамітага першадрукара, Францыска Скарыны. З'явіўся момант раптоўна, нечакана для мяне, але вельмі прыемна — бо самую мяне доўгі час цікавіла гэтае пытанне. Доўжылася сцэна нядоўга, секунд дзесяць ці менш. Дыялог двух мужчын гучаў прыкладна так (можа, памылюся ў паслядоўнасці):

— Слухай, а вось Францыск Скарына, ён якой веры быў — каталіцкай ці праваслаўнай?

— Канешне, праваслаўнай.

— Ды не! Не мог ён быць праваслаўным.

На жаль, не памятаю дакладна, чым гэта гутарка скончылася. Хутчэй за ўсё, канешне, нічым. Бо на самай справе ніхто не ведае, якой веры быў Францыск Скарына.

Але тут паўстае іншае пытанне. Я ці хтосьці яшчэ не ведаем, ці ён каталік, ці праваслаўны, бо проста не можам ведаць, бо, дзякуй Богу і цікавасці да гісторыі, памятаем, што звесткі пра гэта не захаваліся

Аднак хто з астатніх прысутных у зале Купалаўскага проста дзеля той жа цікавасці пасля спектакля «загугліў» гэтае пытанне? А колькі чалавек хоць бы ўвогуле запомніла гэты момант?..

Спадзяюся, што мае страхі наконт адказаў — марныя.

**Андрэй Масквін**

# «М.арт.кантакт» 2016. Моладзь павінна руліць!

Міжнародны тэатральны форум «М.арт. кантакт» заўсёды прыцягваў моладзь, асабліва творчую. Бо ў яго праграме пазначана, што першая літара «М» расшыфроўваецца як «маладзёжны», гэта значыць «пра моладзь і для яе, бо менавіта моладзь — рухаючая сіла тэатра». Таму цалкам лагічна і абгрунтавана, што студэнты творчых ВНУ Беларусі, у першую чаргу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, імкнуцца трапіць на гэты форум. Што не так ужо і проста: квіткі на ўсе спектаклі раскупляюцца за некалькі дзён, і разлічваць на свабоднае мястэчка ў зале не заўсёды прыходзіцца. На шчасце, дырэкцыя форуму, у прыватнасці яго дырэктар Андрэй Новікаў, шануе жаданне студэнтаў, якія прыязджаюць у Магілёў, каб не толькі «патусавацца» ў прыгожым горадзе на Дняпры, але і паглядзець спектаклі, выказаць прафесійную ацэнку з нагоды кожнага ўбачанага выступлення. Толькі каму яе выказаць, з кім падзяліцца ўласным меркаваннем, якое не заўсёды супадае з меркаваннем масцітых і вопытных крытыкаў, запрошаных на фестываль? Як прафесійна зрабіць разбор спектакля, усіх яго складнікаў? Хто адкажа на не заўсёды простыя пытанні? Хто навучыць хутка пісаць міні-рэцэнзію? З усімі гэтымі пытаннямі і праблемамі крытыку-пачаткоўцу няма да каго звярнуцца на форуме. А ўдзел у абмеркаванні спектакляў разам з запрошанымі крытыкамі не прадугледжаны. Праўда, часам здараюцца сітуацыі, калі вядучая абмеркавання Людміла Грамыка дае такую магчымасць. Але, на жаль, гэта адбываецца вельмі рэдка і нерэгулярна, хутчэй з'яўляецца выключэннем з правілаў. Асноўная прычына — недахоп часу, прызначанага на абмеркаванне.

Таму ў мяне і ўзнікла ідэя правесці падчас форуму Лабараторыю маладога крытыка. Дадатковай падставай для гэтага была размова з прафесарам кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Вячаславам Іваноўскім за два дні да адкрыцця форуму. Ён папрасіў мяне «ўзяць апеку» над невялікай групай студэнтаў, якая прыедзе на форум. Гэтую просьбу падтрымала выкладчык кафедры рэжысуры Таццяна Траяновіч, якая сама некалькі гадоў запар наведвае гэты форум як шараговы глядач, а сёлета была запрошана са сваім спектаклем «Ілюзіі». Важна заўважыць, што ў Беларусі ў мяне гэта ўжо другі вопыт правядзення падобнай лабараторыі. Першы быў у 2008 годзе ў рамках міжнароднага тэатральнага фестывалю «Славянскія сустрэчы» ў Гомелі. Толькі тады яна доўжылася тры дні, а яе ўдзельнікамі былі студэнты аддзялення журналістыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ды і задача была трохі іншай: як журналісту навучыцца «глядзець» спектакль і яго апісваць. У Магілёве ж задача была значна цяжэйшай.

У выніку ў рабоце лабараторыі прыняло ўдзел 10 чалавек: Таццяна Януковіч, Аляксандра Фанарыкава, Антаніна Аляшкевіч, Марыя Матох, Карына Рыбак, Лізавета Машковіч, Карына Валабуева, Анастасія Васілевіч, Дара Арсаві і Марыя Таніна. Адна частка ўдзельнікаў — студэнты-тэатразнаўцы, а другая — студэнты-рэжысёры. Заняткі праходзілі ў памяшканні тэатра лялек штодня з 14.30 да 15.30. Часцяком яны расцягваліся да 16.00. Выбар месца і часу быў для мяне вельмі важны. Калі хтосьці па нейкіх прычынах не змог прыйсці ў адзін з дзён, то павінен быць упэўнены, што месца і час сустрэчы не зменяцца.

На кожных занятках абмяркоўваліся спектаклі, якія былі паказаны ў папярэдні дзень. Паколькі праграма была складзеная такім чынам, што паказ некаторых спектакляў праходзіў адначасова, то слухачы лабараторыі не мелі магчымасці пазнаёміцца з усёй праграмай форуму. Пры выбары спектакля звычайна кіраваліся інтуіцыяй, а часам і маёй падказкай. У выніку кожны атрымаў магчымасць за сем дзён пазнаёміцца са значнай часткай праграмы. Паколькі форум гэтага года не прадугледжваў журы і ўзнагарод, то мне падалося, што гэтую ролю маглі б узяць на сябе менавіта крытыкі-пачаткоўцы. Гэтая думка прыйшла да мяне ўжо пасля першых заняткаў. Я звярнуў увагу на добрую прафесійную падрыхтоўку студэнтаў, на іх уменне правільна «счытваць» спектакль, аналізаваць. Нават калі я не заўсёды пагаджаўся з некаторымі іх меркаваннямі, быў бачны ход

мыслення і ўражвала аргументацыя. Парадавала, што ўсе яны былі знаёмыя з творамі, якія бачылі на сцэне. Чыталі іх ці ў школьным узросце, ці спецыяльна, рыхтуючыся да паездкі на форум. Бо веданне першакрыніцы — адна з асноўных задач кожнага крытыка. Але самае галоўнае — кожны ўдзельнік лабараторыі меў свой, індывідуальны погляд, «сваю оптыку» на спектакль, а гэта, заўважу, усё радзей сустракаецца сярод прафесіяналаў. І важна, каб яны не страцілі яго, захавалі як мага даўжэй. На абмеркаванні ўздымаліся самыя розныя пытанні: структура спектакля, узаемаадносіны лялькі і чалавека ў лялечным тэатры, асаблівасці постдраматычнага спектакля, тэатр і інсцэнізацыі прозы...

На завяршэнне кожнага дня абмеркавання я прасіў, па-першае, даць ацэнку кожнаму ўбачанаму спектаклю (па дзесяцібальнай шкале), а па-другое, назваць кандыдатаў на намінацыі. У апошні, сёмы дзень фестывалю, прайшло абмеркаванне ўсіх прапанаваных кандыдатур і былі вызначаны пераможцы па сямі намінацыях:

1. «Лепшы спектакль» — «Жыццё за цара» (Тэатра ды Капуа, Санкт-Пецярбург, рэж. Джуліяна ды Капуа).
2. «Лепшы малады рэжысёр» — Ігар Казакоў (за спектакль «На дне» Магілёўскага абласнога тэатра лялек).
3. «Лепшы акцёрскі ансамбль» — «Васа» («Ведагонь-тэатр», Масква, рэж. Анатоль Ледухоўскі).
4. «Лепшая маладая актрыса» — Ірына Ткачэнка (за ролю Тамары ў спектаклі «Бракаваныя людзі» паводле п'есы В. Сігарава, тэатр «Залатыя вароты», Кіеў, рэж. Стас Жырко).
5. «Лепшы малады акцёр» — Максім Студзёнаўскі (за ролю Бальзамінава ў спектаклі «Мары любові альбо жаніцьба Бальзамінава» Тэатра «Майстэрня», Санкт-Пецярбург, рэж. Рыгор Казлоў).
6. «Лепшая работа мастака» — Таццяна Нерсісян («На дне» Магілёўскага тэатра лялек, рэж. Ігар Казакоў).
7. «Лепшая работа кампазітара» — Мікіта Залатар (за музыку да спектакля «Інтэрв'ю з ведзьмамі» Беларускага дзяржаўнага лялечнага тэатра, Мінск, рэж. Яўген Карняг).

> На форуме «Март.кантакт» на працягу некалькіх гадоў працавала маладзёжнае журы. Яго членамі былі пераважна аматары тэатральнага мастацтва, якія выпускаюць штодзённую газету «Веснік М.арт.кантакт»

Спектаклю «Жыццё за цара» ўсе ўдзельнікі лабараторыі паставілі дзесяць балаў. У чым прычына такога поспеху? Як мне падаецца, перш за ўсё ў тым, што ён быў зроблены ў тэхніцы дакументальнага тэатра, а па-другое, у правільна знойдзеным спосабе прэзентацыі гістарычнага матэрыялу (хронік, карэспандэнцый, дзённікавых запісаў, газетных артыкулаў, архіўных дакументаў). Такі спосаб работы не новы для рускага тэатра. Але для Беларусі ён усё яшчэ з'яўляецца навінкай. У першую чаргу варта прыгадаць пастаноўку «Бі-лінгвы» Цэнтра беларускай драматургіі. І хочацца верыць, што беларускія рэжысёры будуць адкрываць усё новыя магчымасці тэхнікі verbatim.

Варта адзначыць, што на форуме «М.арт.кантакт» на працягу некалькіх гадоў працавала маладзёжнае журы. Яго членамі былі пераважна аматары тэатральнага мастацтва, якія выпускаюць штодзённую газету «Веснік М.арт.кантакт». Але сёлета з невядомых прычын яно не працавала, да таго ж не было і прафесіянальнага журы. Абапіраючыся на вопыт працы з маладымі крытыкамі, смела і адказна магу заявіць, што студэнты-тэатразнаўцы маглі б скласці касцяк такога маладзёжнага журы. Бо шмат хто з удзельнікаў форуму ўжо прызвычаіўся атрымліваць ацэнку ўласнай работы, а гледачы хацелі б параўноўваць выбар журы з уласнымі ацэнкамі. Каму як не маладым крытыкам даць права выстаўляць адзнакі? Тым больш што зроблены імі выбар сведчыць аб добрым тэатральным гусце. Дарэчы, два з выбраных імі спектакляў, «Васа» і «Жыццё за цара», сталі лаўрэатамі прэстыжнай расійскай Нацыянальнай прэміі «Залатая маска» ў намінацыі «Драма. Спектакль малой формы» (адпаведна ў 2014 і 2015 гадах).

**Сяргей Піліпчэня**

# Новыя п’есы для беларускіх дзяцей

Заўсёднае пытанне айчынных рэжысёраў: дзе новыя цікавыя беларускія п’есы? Дзе знайсці арыгінальныя, незвычайныя п’есы для дзяцей самых розных узростаў? І вось — калі ласка!

У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача летась быў аб’яўлены конкурс «Новая назва», прысвечаны 60-годдзю тэатра. Свае п’есы прапанавалі такія вядомыя літаратары і драматургі як Зінаіда Дудзюк, Анатоль Кудласевіч, Дзмітры Марынін, Наталля Марчук, Алена Масла, Таццяна Сівец, Васіль Дранько-Майсюк.

Прыхільнікі дзіцячай драматургіі могуць пазнаёміцца на сайце http://beltuz.by/be/news/537.html Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача з цікавымі п’есамі сучасных айчынных аўтараў.

Кожная п’еса па-свойму цікавая. Разгледзім творы Зінаіды Дудзюк, Васіля Дранько-Майсюка і Анатоля Кудласевіча.

Зінаіда Дудзюк прапануе маленькім чытачам (5—6 гадоў) навагодні твор «Хлопчык-Лебедзь» — п’есу пра дружбу хлопчыка Янкі і лебедзя Лёшы. Дабрыня, цеплыня, узаемадапамога і любоў — вось тыя асноўныя эмацыянальныя чыннікі, якімі прасякнута гэтая казка. Хлопчык гуляе з Лебедзем Лёшам, расказвае яму пра цікавыя кнігі, іграе для яго на флейце. Разам яны праводзяць лета і восень, але калі наступае зіма і Янка з’язджае, то Лёша пачынае моцна сумаваць. Ён не ляціць у цёплыя краіны, а застаецца на абледзянелым возеры чакаць свайго сябра. Лёша мерзне і гатовы нават памерці, але нечаканае з’яўленне сінічкі яго ратуе. Сінічка паведамляе, што Янка захварэў, трэба ляцець да яго. Адбываецца гэта акурат пад Новы год. Сябры сустракаюцца — Янка рады ўбачыць Лёшу. Радасць спаткання вяртае яму сілы. Лёша таксама акрыяў.

Спадарыня Дудзюк напісала традыцыйную гуманістычную казку, якая можа смела ісці на сцэне Тэатра юнага гледача. У п’есе няма нечаканых драматургічных хадоў, але пры належным рэжысёрскім падыходзе можа атрымацца яркая сцэнічная рэч. Адзінае, што непакоіць, — канцылярская мова бацькоў Лёшы. І тата-лебедзь, і мама-лебедзь гавораць чыста літаратурнымі выразамі кшталту: «Не праспешвай падзеі…», «…якую адлегласць нам належыць пераадолець…», «Не хачу абмяжоўваць тваю волю…». Неяк слаба ўяўляеш сабе лебедзя (хай сабе і казачнага) з падобнай лексікай.

Васіль Дранько-Майсюк прапанаваў на конкурс твор для дарослых, які называецца «Сатурніянка».

Малады рэжысёр Юрка ставіць спектакль пра Язэпа Драздовіча. Мастацкая рада твор не прымае. Герой хоча кінуць рэжысуру, бо перастае верыць у свае сілы. Яго каханка Алена прымушае яго па-новаму паставіць гэтую гісторыю з удзелам сваёй сяброўкі, дзяўчыны з асаблівасцямі (ДЦП), якая сыграе загадкавую Сатурніянку. Адыгрывае важную ролю ў гэтай новай пастаноўцы і родны дзед Аленкі — асоба загадкавая, бо, як аказалася, ён быў вучнем не абы каго, а самога Драздовіча…

Драматург цікава спалучае два пласты — сучасны (пастаноўка п’есы) і сюжэт самой гісторыі. У гэтай гісторыі да мастака Драздовіча прыбывае Сатурніянка, якая хоча запрасіць яго на сваю планету на вечнае жыццё. Што лепей — жыць як у раі на Сатурне ці заставацца свабодным, незалежным, але бедным на Зямлі? Гэтую дылему вырашае Драздовіч.

У п’есе Васіля Дранько-Майсюка шмат яркіх, нечаканых вобразаў: гэта і сам Драздовіч, і яго сябра-паэт Міхась Машара, і Аранжава-лімонны Леў, які ўцёк з дывана Алены Кіш і шмат хто яшчэ. Калі чытаеш гэты твор, то складваецца ўражанне, што ўдзельнічаеш у фелініеўскім карнавале.

Безумоўна, п’еса вартая ўвагі і можа атрымаць цудоўнае сцэнічнае ўвасабленне, але пры ўмове, калі за яе возьмецца малады, нацыянальна свядомы і культурна дасведчаны рэжысёр, які не баіцца эксперыментаў.

Анатоль Кудласевіч прапануе інтэрактыўную казку «Чароўны Азбукоўнік». Перад намі хутчэй не п’еса, а сцэнарый для інтэрактыўнай гульні, у якой Вядучы знаёміць дзяцей з алфавітам. Задума і сама ідэя цудоўныя, але хацелася б большай увагі драматурга да ўзросту дзяцей. Да таго ж не выкарыстаны ўсе драматургічныя магчымасці. Гэта ж літары! Галосныя, зычныя, мяккія і цвёрдыя гукі, паміж імі ж можа ўтварыцца канфлікт, сцэнкі, стасункі…

Тым не менш пры належнай творчай супрацы драматурга і рэжысёра з «Чароўнага Азбукоўніка» можа атрымацца карысная рэч.

**Юлія Ваўчок**

# Перад сном

**Часцей за ўсё казкі дзецям чытаюць перад сном, і, безумоўна, «усыпляльную» функцыю можа ажыццяўляць кожная фальклорная адзінка. Але ёсць тэксты, якія ўжо ствараюцца з ухілам на чытанне перад сном.**

Такая адметнасць належыць кнігам Кацярыны Хадасевіч-Лісавой. «Казкі сіняй падушкі» — новыя прыгоды Стасіка, другая серыя гісторый, якія выйшлі следам за «Касмічнай адысеяй хлопчыка Стасіка». Абодва выданні складзены такім чынам, што ўсё незвычайнае з галоўным героем адбываецца ў яго снах, што для маленькага чытача можа быць асабліва цікавым вечарам, калі надыходзіць час класціся спаць.

Сюжэтныя лініі абодвух тэкстаў пачынаюцца са змен: у «Касмічнай адысеі» сям'я Стасіка пераязджае ў новую кватэру, у «Казках сіняй падушкі» ў пакоі хлопчыка адбываецца рамонт.

Кацярына Хадасевіч-Лісавая стварае персанажаў-праваднікоў у «іншы» свет — казачныя месцы. У «Касмічнай адысеі» памочнікам выступае Зорнічак — хлопчык, намаляваны на шпалерах у пакоі малога. А ў «Казках сіняй падушкі» — камячок, які жыве ў падушцы, — Пухлік.

У кожнага з незвычайных сяброў Стасіка ёсць свае прыёмы чараўніцтва: Зорнічак пляскае ў ладкі, камячок выкарыстоўвае серабрысты пылок. «Пухлік некалькі разоў пацёр свае далоні, а потым падзьмуў на іх. З яго рук зноў паднялося маленькае воблачка серабрыстага пылку» [1, с. 53]. Маюць яны і прадметы для чараўніцтва: «Пухлік, як сапраўдны штукар, дастаў з кішэні рагавічок хусцінкі, падзьмуў на яго і асцярожна пацягнуў. Лёгкая тканіна дасталася з кішэні з ціхім шолахам. Замест маленькай хусцінкі камячок выцягнуў вялікі абрус. Камячок падкінуў яго ўверх і тройчы пляснуў у далоні. Абрус разгарнуўся і павольна апусціўся ўніз, накрыўшы Стасіка і яго сябра. Камячок нешта прамармытаў сабе пад нос, падміргнуў Стасіку і рэзка скінуў тканіну» [1, с. 177]. Пасля падарожнікі апынуліся ў маёнтку князёўны Анастасіі. І калі ў «Касмічнай адысеі» хлопчыкі выкарыстоўваюць у якасці партала ў Чарадзейны свет сцяну, то ў «Казках сіняй падушкі» задзейнічаны кніжная паліца, прастора пад ложкам, сама мэбля і іншыя прадметы з пакоя. «З экрана пачало выпраменьвацца мяккае блакітнае святло. Яно хмаркай выплыла з манітора і павялічылася ў памерах. Утварылася нешта кшталту ўвахода» [1, с. 95].

У гісторыях сіняй падушкі расказваецца і пра незвычайныя транспартныя сродкі: мыльныя бурбалкі, стракозак у якасці верталётаў, парасончыкі, кнігу і г. д. Вось як апісвае аўтар адзін «казачны транспартны сродак: яркая кветка маку ў якасці карэты, колы — васількі, замест каня быў запрэжаны даўганогі зялёны конік, а фурманам быў чырвоны мураш» [1, с. 80]. У «Касмічнай адысеі» Стасік і Зорнічак катаюцца на санках з аленямі, а ў самой Краіне сноў іх, бывае, перавозіць Месяц. Прыгоды Стасіка і Зорнічка адбываюцца ў межах адной касмічнай прасторы, а кожная новая казка сіняй падушкі звязана з незнаёмым месцам.

Трэба адзначыць, што такія месцы Кацярына Хадасевіч-Лісавая стварае па пэўнай схеме. Кожная новая гісторыя Стасіка пачынаецца з перамяшчэння ў чарадзейны свет. Часцей за ўсё аўтар называе гэта краінай: Вясёлкавая, Кветкавая, Аблокавая і г. д. Прычым, назве казачнага месца адпавядае і створаная аўтарам пэўная структура. Напрыклад, «Кветкавая краіна складаецца з некалькіх раёнаў, якія маюць назвы адпаведна з тым, якія кветкі там растуць» [1, с. 68]. «Па крузе Рамонкавай плошчы месціліся акуратна дагледжаныя клумбы. На кожнай з іх былі пасаджаны буйныя рамонкі розных колераў» [1, с. 69]. Нават пабудовы адпавядаюць канцэпцыі Кветкавай краіны: «Сам будынак уяўляў сабою вялікую белую лілею, перавернутую ўніз бутонам. Кветка была зроблена з гладкага мармуру, па якім, нібы застыўшыя кроплі вады, былі раскіданы каштоўныя камяні. Сонца адбівалася ў іх, ад чаго кроплі-каменьчыкі іскрыліся вясёлкавым святлом. Велічныя пялёсткі лілеі, прыпаднятыя ўгору, абапіраліся на бліскучую каменную падлогу ярка-зялёнага колеру» [1, с. 70]. Між тым у кожнай краіне ёсць свае ўладары, у Кветкавай — кароль Фларыстыкус і яго жонка Кветніца. Для кожнага казачнага месца аўтарам распрацавана

пэўнае меню для падарожнікаў: «Кветніца прынесла вітамінны дэсерт з кветкавых пялёсткаў, мядова-мятнае жэле, піражкі з язмінавым джэмам і нектаравы квас» [1, с. 86]. Для параўнання, Кікімара, жонка Вадзяніка — гаспадара водных багаццяў, частавала гасцей «супам-пюрэ з чаротавых сцяблінак, журавінавым пірагом і ягадным морсам» [1, с. 121].

Але незалежна ад таго, дзе знаходзіўся Стасік і дзе адбывалася дзея — у «Касмічнай адысеі» ці ў «Казках сіняй падушкі», — аўтар роўна акцэнтуе ўвагу чытача на непаўторнасці пэўнага месца. Напрыклад, так апісваецца ў кнізе «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка» Клумба: «Гэтая галактыка падобна на вялікую аранжарэю, дзе сабраны самыя розныя расліны. Якія ж яны прыгожыя! Але самае цікавае тое, што кветкі жывыя, яны ўмеюць размаўляць» [2, с. 64]. Ці вось так расказвае аўтар пра тое, як знутры выглядае дом русалкі Наталкі («Казкі сіняй падушкі»): «Было вельмі прыгожа. Вабілі вока сцены, аздобленыя дробнымі ракавінамі, каменныя падлогі, высланыя мяккімі дыванамі з нейкай дзіўнай раслінай, мармуровая мэбля, пакрытая перламутрам» [1, с. 133]. У Віртуальным горадзе жыццё наладжана такім чынам: «Кіруе ўсімі працэсамі галоўны камп’ютар, які настроены за ўсім сачыць, усё рэгуляваць і запамінаць» [1, с. 95].

Падкрэсліваюцца таксама адметнасці пэўнай мясцовасці. Напрыклад, у Віртуальным горадзе: «Галаграфічныя жукі ўмелі лятаць. З-пад панцыра выпстрыквалі тонкія крохкія крыльцы» [1, с. 105]; «дрэва з шарападобнай кронай» [1, с. 106]; «грыбы, якія маглі хадзіць» [1, с. 105]. Аўтарам адзначаюцца і асаблівасці персанажаў: «Ганарыстасць, задзірыстасць ды фанабэрыстасць. Прыдумаў сабе новае імя, не захацеў быць звычайным пеўнем, менаваў сябе Певусем» [2, с. 1 11]; «Дрыва — адзіная з русалак, якая мае светлы колер валасоў. Звычайна ў гэтых істот яны зялёныя або сінія» [1, с. 136]; «Цела Вадзяніка было пакрыта луской, паміж пальцамі на руках былі перапонкі, ступні ног заканчваліся ластамі» [1, с. 117]. Аўтар апісвае персанажаў праз іх рэчы і жытло: «Лабараторыя Астранома ўяўляе сабой невялікі пакой, у якім панавала абсалютная бязладзіца. На падлозе былі параскіданы як цэлыя, так і парваныя на жмуткі лісты паперы, скрэмзаныя няроўнымі лічбамі і нейкімі незразумелымі знакамі. Працоўны стол навукоўца быў завалены стосамі спісаных сшыткаў і нататнікаў. Нават сцены лабараторыі былі ўпрыгожаны формуламі і ўраўненнямі» [2, с. 99].

Але ёсць месца, якое можна назваць проціглегласцю ўсёй структураванасці казачных краін Кацярыны Хадасевіч-Лісавой, — Чорная Дзірка: «Тут былі жывыя прадметы і незвычайныя істоты. Школьны пенал стаяў у абдымку з прывабнай дзявочай сумкай, каля іх гулялі ў чахарду незвычайныя шарападобныя насякомыя, а камп’ютарная мышка размаўляла аб нечым з маленькім чорным кацянём. Тэлефонны апарат пасадзіў у дзірачку на сваім дыску падобных на ружовых вожыкаў звяркоў і круціў іх, нібыта на каруселі. Плюшавы мядзведзік трымаў на плячы маленькую істоту, якая нагадвала стракатую птушачку, а фарфоравая лялька малявала партрэт рознакаляровага вусеня. Кніга казак разгарнула свае старонкі і ўладкавалася на лаўцы, а з дзясятак самых розных чытачоў паселі на сінюю траву і з цікавасцю прабягалі вачыма радок за радком» [2, с. 115]. А ўладарыць там певень Певус, якога калісьці засмактала Чорная Дзірка. Так ён сам расказвае сваю гісторыю: «Там, дзе жыў раней, я заўсёды будзіў наваколіцу на досвітку і, арыентуючыся па сонцу, абвяшчаў сваімі дзіўнымі спевамі дакладны час. Потым я трапіў у Чорную Дзірку, якая раптоўна ўтварылася каля нашага куратніка. Так я апынуўся тут. Напачатку я і тут дакладна, не гледзячы на гадзіннік, абвяшчаў час. Потым мой унутраны біялагічны рытм збіўся. Ды й не дзіва! Тут заўсёды пануе дзень. Тады я стаў арыентавацца па адзіным гадзінніку, які ёсць у маім палацы. Але ён зламаўся і я зусім не ўпэўнены, што вось цяпер ужо настала раніца і пара будзіць маіх падданых» [2, с .113].

Значнае месца ў кнігах Кацярыны Хадасевіч-Лісавой займаюць колеры. Па-першае, блакіт-

Гэтая галактыка падобна на вялікую аранжарэю, дзе сабраны самыя розныя расліны. Але самае цікавае тое, што кветкі жывыя, яны ўмеюць размаўляць

ны — любімы колер Стасіка, таму ён часта сустракаецца ў тэкстах: фіранкі ў пакоі хлопчыка блакітнага колеру, а таксама неба і матылькі, аўтар параўноўвае стракоз з блакітнымі самалётамі; мяккае блакітнае святло бачаць Стасік і Пухлік, калі праходзяць праз экран камп'ютара ў Віртуальны горад. Яшчэ адзін партал у чароўную краіну — кніга ў блакітнай вокладцы. Аўтар расказвае пра каляровыя сны, каляровых матылькоў, якія ўтварылі званочак, і сонечных зайчыкаў, што вадзілі каляровы карагод. Яшчэ мы даведваемся пра рыбак розных колераў і форм, каляровыя парасончыкі, якія хлопчыкі выкарыстоўвалі ў якасці транспартнага сродку.

А першая краіна з кнігі «Казкі сіняй падушкі», у якую трапляе Стасік, называецца Вясёлкавай. Жыхарам гэтага казачнага месца прыходзіцца ствараць сваю вясёлку з павуціны, бо сапраўдную забраў кароль краіны Хуліганіі — Злодзеюш. Але, каб вясёлка была падобная на сапраўдную, патрэбны фарбы. «Чырвоны — гэта колер макаў, аранжавы — кветак календулы, жоўты пазычылі ў дзьмухаўцоў, зялёны сабралі з сакавітай травы, блакітны ўзялі ў незабудак, сіні — у васількоў, а фіялетавы падарылі фіялкі» [1, с. 24]. Вясёлкаўцы стварылі сістэму вясёлкавых колераў па прынцыпе: ««ч» — чарапаха, «а» — аднойчы, «ж» — жабцы» [1, с. 28] і г. д. — каб было лягчэй запомніць парадак, у якім павінны ісці колеры.

Чарадзейства ў кнігах Кацярыны Хадасевіч-Лісавой праяўляецца па-рознаму. Што патрэбна для эліксіру, які дапамагае дзецям бачыць цікавыя сны? «Для эліксіру спатрэбіцца блакітны сіроп, сплюшкавае дражэ, срэбны зоркавы пылок, кроплі летуценняў і зярняты фантазіі» [2, с. 73]. А як працуе завод па выпрацоўцы аблокаў? «Для стварэння звычайных аблокаў нам спатрэбіцца чыстая крынічная вада і накрухмаленае паветра. А для колеру мы дададзім белы з срэбным адценнем напаўняльнік» [2, с. 46]. Персанажы выкарыстоўваюць у якасці чарадзейных розныя прадметы. Напрыклад: «Наталка дала ім (Стасіку і Зорнічку. — Ю.В.) маленькую свісцёлку і сказала, што як толькі ў яе падзьмеш, адразу з'явіцца хтосьці з яе сваякоў і дапаможа» [1, с. 138]. У «Касмічнай адысеі» можна даведацца пра незвычайны фантан, які пад гукі цымбалаў выпускае чароўны дымок: «Дзеці зачаравана глядзелі,

Значнае месца ў кнігах Кацярыны Хадасевіч-Лісавой займаюць колеры. Па-першае, блакітны — любімы колер Стасіка

як дымок ператварыўся ў гарэзлівую залатую рыбку, потым станавіўся пясочным гадзіннікам і перасыпаў бліскучы зорны пясок, затым апускаўся на самае дно і вырастаў залацістым снапом гнуткіх каласкоў, расцвітаў прыгожай кветкай, паўставаў грандыёзнай казуляй… Ён быў сонейкам, воблачкам, вясёлкай, рассыпаўся незлічонай колькасцю легкакрылых матылькоў» [2, с. 26]. Цымбалы прысутнічаюць і ў «Казках сіняй падушкі» — на іх іграе Кікімара. Там жа хлопчыкі агучваюць розныя заклінанні, адаптаваныя пад сучаснасць, напрыклад: «— Плыві, лодка, па возеры Дрывяты! Адвязі нас, лодка, да русальчынай хаты! — гучна сказаў Пухлік» [1, с. 131].

Такім чынам, прапанавыя вышэй кнігі можна аднесці да выданняў, якія арыентуюцца менавіта на чытанне перад сном, галоўны аргумент — усё чарадзейства ў тэкстах адбываецца з галоўным героем, калі ён спіць, а гэта нядрэнны стымул для маленькага чытача або слухача. Кацярына Хадасевіч-Лісавая ў сваіх кнігах стварае незвычайныя краіны, у якія падарожнічае Стасік. Пры гэтым насычае новыя месцы чарадзейнымі прадметамі, а персанажаў — незвычайнымі магчымасцямі. Аўтар даволі дакладна раздзяляе рэчаіснасць і чарадзейны свет, ствараючы дзве прасторы, якія дапамагаюць адолець персанажы-праваднікі. Да таго ж, Кацярына Хадасевіч-Лісавая стварае сваю сістэму колераў, што ў яе тэкстах даволі гарманічна стасуецца з прыдуманымі краінамі.

Літаратура

1. Хадасевіч-Лісавая, К. С. Казкі Сіняй падушкі: для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту / Кацярына Хадасевіч-Лісавая. — Мінск: Звязда, 2013. — 196, [1] с.

2. Хадасевіч-Лісавая, К. С. Касмічная адысея хлопчыка Стасіка: казачная аповесць: для сярэдняга школьнага ўзросту / Кацярына Хадасевіч-Лісавая. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 125, [2] с.

# Канфідэнцыйная размова ў кавярні

**Папярэдзім адразу, што гэтая размова хоць і безыменная, але не прыдуманая. Яна адбылася амаль два гады таму і стала пачаткам рэдакцыйнай ідэі напісаць пра нашу рэкламу ўсё самае патрэбнае. Усё, што мы маем сказаць.**




## Адной літарай: R

— Спачатку, парушаючы ўсе правілы інтэрв'ю, я ў вас хачу спытацца, — *прамаўляе вельмі прыгожая маладая жанчына, якая штодня займаецца рэкламай і якая не пажадала раскрыць сваё імя не дзеля стварэння інтрыгі, а… Зразумееце самі. Яна просіць («каб ведаць, у якім кірунку пойдзе гутарка») знайсці адно слова, сінонім ці метафару — нешта найбольш блізкае да слова «рэклама».*

— *Слова, якое найбольш дакладна перадае сутнасць з'явы? Драйв. Мне так хочацца. Добрая рэклама — вышэйшы пілатаж творчасці. Для мяне людзі, якія яе ствараюць, — касмічныя.*

— Зразумела. Я так і ведала. А рэклама, між іншым, ёсць бізнес. Калі адным словам, то так. І судакранаецца рэклама з бізнесам такім чынам, што калі бізнес маляваць як круг, то рэклама — яго сярэдзіна. То бок, яна не можа існаваць асобна, яна — яго складнік. І падпарадкоўваецца яго законам. І таму або свядома памыляецца, або свядома хлусіць той, хто, ствараючы рэкламу, хоча надаць сабе арэол нейкага там творцы. Некаторыя людзі так і кажуць: рэклама, маўляў, — гэта творчасць. Няпраўда. Бо тады што — і бізнес творчасць? Мэта рэкламы — прадаць тавар. Дык тады што — і цётка, якая крычыць: «Піражкі гарачыя!», і надпіс на плоце «Прадаю канапу» — гэта ўсё творчасць? Гэта ўсё рэклама. Звяно ланцужка бізнесдзеяння. Начныя клубы, якія ладзяць вечарыны, — яны ж не робяць гэта для таго, каб у горадзе было цікава жыць. Яны хочуць, каб да іх прыйшлі людзі і заплацілі грошы. І назвы вечарын прыдумляюцца так, каб адно слова ўжываць разоў дваццаць. Гэта рэклама. Вось мы з вамі што на нашым століку бачым? Часопіс? Мы думаем, што гэта часопіс. А гэта рэклама. Артыкулы туды ўстаўлены, каб чалавек думаў, што гэта часопіс. Нумар «Касмапалітэн» я магу адна напісаць за вечар. Пад дваццаццю псеўданімамі.

## Адной фразай

— Зыходзячы з таго, што рэклама — гэта частка бізнесу, яе становішча ў краіне знаходзіцца на тым самым узроўні, на якім знаходзіцца сам бізнес у гэтай краіне. У нас яго можна акрэсліць прымаўкай: «Якія тут святкі, калі лупяць падаткі». Хіба мы думаем, што ў Беларусі няма людзей, якія хадзілі б з келіхам віскі ўвесь дзень па сваім шыкоўным офісе і прыдумлялі тры тыдні запар рэкламную канцэпцыю гандлёвай маркі? Такія людзі, натуральна, у нас ёсць. Шмат хто хоча гэтым займацца, шмат хто хоча трапіць на такую вышыню. Таму што адчувае ў сабе патэнцыял і талент, і для яго гэта ў пэўным сэнсе творчасць: прадаць тавар так, каб людзі не здагадаліся, што гэта продаж тавару, а каб палюбілі гэты тавар шчыра, усім сэрцам. Такія та-

Або свядома памыляецца, або свядома хлусіць той, хто, ствараючы рэкламу, хоча надаць сабе арэол нейкага там творцы. Некаторыя людзі так і кажуць: рэклама, маўляў, — гэта творчасць. Няпраўда

Хіба мы думаем, што ў Беларусі няма людзей, якія хадзілі б з келіхам віскі ўвесь дзень па сваім шыкоўным офісе і прыдумлялі тры тыдні запар рэкламную канцэпцыю гандлёвай маркі?

ленты ёсць. Але хто з нашых кліентаў заплаціць ім такія грошы, каб яны цэлы месяц цэлай брыгадай працавалі на гэтага кліента? Тыя буйныя кампаніі, якія могуць сабе дазволіць купіць бігборды ва ўсім горадзе і ўсе рэкламныя плошчы на ўсіх платах і будаўнічых агароджах, бывае, што купляюць паслугі агенцтваў, якія ім гэта ўсё робяць: прыдумляюць слоганы ў сваіх галаўных філіялах. Рыхтуючы франшызу, рыхтуюць і правілы рэкламавання ў краіне. Усё адбываецца паводле правілаў франшызы. І калі вам удасца паразмаўляць з чалавекам, які з'яўляецца супрацоўнікам такой кампаніі, то вы пераканаецеся: там у іх побыт падобны да ідэалу. Там творчасць. Творчасць, якая мусіць быць добра аплачанай. Што ў нас? Цырульня на рагу, якая дзесяць гадоў яшчэ будзе выходзіць з мінуса, — яна што, пачне раптам траціць грошы на рэкламу? Не. І вось тут адбываецца ўсё самае цікавае, што адбываецца ў нашай рэкламе.

## Самае цікавае

— У нас ёсць так званыя рэкламныя агенцтвы. Яны проста называюцца рэкламнымі агенцтвамі. На самай справе ніякай творчасці там няма, там 25 прадаўцоў, якія бяруць у якога-небудзь завода, што вырабляе шмат гадоў, скажам, мэблю, замову, і нейкі маркетолаг прыдумляе якую-небудзь канцэпцыю, і яны проста артыкулы бяруць і распіхваюць ва ўсе рэкламныя друкаваныя пляцоўкі, якія толькі існуюць, — газеты, метро, часопісы. У малы бюджэт можна ўпіхнуць абвестку ў аўтобусе, на маладзёжным сайце, на сайце для старэйшых, яшчэ недзе. Які эфект ад такой рэкламы? А яго ніхто не пралічыў. Таму што няма на гэтым заводзе чалавека, які гэта будзе пралічваць, і нават пасады такой няма. І рэкламнае агенцтва гэтым не займаецца, бо яму не заплацілі за тое, каб яно займала-






ся даследаваннямі. І таму адсачыць, як рэклама паўплывала на выхаванне дзяцей і сямейны дабрабыт... Ну, не ведаю, ці можна. Эфект відаць, калі ў завода з'яўляецца прыбытак, лішнія грошы. Тады ж з'яўляюцца і дадатковыя «банцікі». Пра падрабязнасці дзейнасці адной з такіх дробных кампаній магу расказаць.

## Падрабязнасці

— Такога шыкоўнага рэкламнага рынку, які паказаны, напрыклад, у фільме «99 франкаў», у нас няма. Таму што не цягнуць на гэта рэкламныя бюджэты. Наняць дзяўчынку, якая адначасова называецца маркетолаг і піяр-менеджар, хоць гэта зусім розныя справы і розныя пасады, — гэта адно. Атрымаць на гэтыя пасады людзей з адпаведнай адукацыяй — зусім іншае. А адукацыю такую можна будзе атрымліваць, калі ў нашых ВНУ з'явяцца такія спецыяльнасці. А з'явяцца яны тады, калі будуць запатрабаваны працадаўцамі. Усё ўзаемазвязана і немагчыма аддзяліць адно ад другога, і расказваць пра якую-небудзь адну ўдалую рэкламную кампанію, раскручаны, напрыклад, сок з хлопчыкам, — гэта як расказаць пра вяршыню айсберга, а астатняе — утаіць. Можна з бульбай параўнаць. Мы бачым на расліне кветачкі, быццам гэта галоўнае, а галоўнае — пад зямлёй.

Натуральна, што найперш абразаецца бюджэт на рэкламу. Таму што прадавец мяркуе, як яму выплаціць заробкі супрацоўнікам, а яшчэ некалькіх наняць, ды каб спецыялістамі былі добрымі, а добрыя ўжо, між тым, з'ехалі на больш хлебнае месца або яшчэ не нарадзіліся. Таму адбываецца кур'ёз. Часта гэта звязана з тым, што рэкламай займаюцца самі ўласнікі бізнесу. Яны самі прадаюць сябе на ўсіх пляцоўках, рэкламных парталах, у ліфтах… Яны самі выбіраюць,

Мы таму на кожным этапе сустракаем непрафесіяналаў, што прафесіяналам няма адкуль брацца. Іх або не выхоўваюць, або ім не плацяць столькі, каб яны працавалі

Сярэдні чалавек хоча цывільна назваць сваю фірму. І ён назаве яе як заўгодна, з якімі заўгодна памылкамі з французскай ці англійскай, абы толькі не чэрпаць з таго кола, што сябе ўжо вычарпала

дзе ім з'явіцца, самі думаюць, самі сабе ўяўляюць. Натуральна, што яны не спецыялісты ў рэкламе, бо займаюцца бізнесам. Адны з іх ведаюць, як стварыць школу танцаў, іншыя — пра ежу і як яе гатаваць ці стварыць рэстарацыю. Спецыфічных ведаў у рэкламе ў такіх людзей няма, але яны ёю займаюцца. Яны нават не абавязаны пры гэтым быць пісьменнымі. Яны ўпэўнены, што свой бізнес ведаюць супер як, а на самай справе добра, калі нехта з іх ведае, як пісаць літары. Вонкавае перайманне без разумення сутнасці назвалі некалі карга-культам. Вось такім карга-культам мы грашым шмат у якіх сферах — калі пераймаем культурныя традыцыі Захаду праз Расію, напрыклад. Зразумела, толькі таму, што ведаем рускую мову. Затыражаванае і пераваранае, там гэта не тое што другасны прадукт, а чацвёртага і далей гатунку. Таму зноў узнікаюць кур'ёзы. Людзі прэтэндуюць, вось гэтыя ўласнікі бізнесу, на тое, каб іх установа была шыкоўнай, каб нагадвала кабарэ «Мулен руж». І імітуюць. І выказаць нават не могуць, што ім хочацца. Ім, напрыклад, не падабаецца пэўны рэкламны артыкул, створаны для таго, каб чалавек, азнаёміўшыся з тэкстам,




зразумеў, які кошт, як знайсці і ў чым адрозненне прадукцыі ад канкурэнтнай. Не, яны адкідаюць гэты артыкул — і пішуць свой, уласнаручна, у якім пахабна кампануюць самыя вядомыя штампы пра раскошу. Я не кажу ўжо пра тое, што гэта робіцца непісьменна, што людзі гэтыя не ведаюць нават склонаў і пунктуацыі. Настолькі шмат у іх опусах клічнікаў, прапісных літар… Што гэта як не карга-культ? Адзін клуб, не памятаю, дзякуй богу, яго назвы, адкрыўся ў нас дзесьці пад небам. Нацягнулі тэнты, купілі дарагое абсталяванне, хтосьці з іх супрацоўнікаў на сайт напісаў артыкул з такім запытам, каб да іх прыходзіла багема (а што гэта, калі папытаць у таго чалавека, ён не адкажа), і нешта пра свецкае жыццё (і «свецкае» па-руску — праз «Ц»), маўляў, нашы госці — круцейшыя людзі гэтага горада. Арыстакратыя нейкая. А арыстакратаў тут няма, ёсць нашчадкі пралетарыяту, а господа все в Париже. Вось гэтыя нашчадкі — мы ўсе, нават паўсталая інтэлігенцыя, не дабітая за два пакаленні, таму і з'яўляюцца такія пачвары. Таму што людзі на ўсім эканомяць. Ён нават не разумее, уласнік гэты, патрэбы ў тым, каб гэта было больш-менш культурна. А ўсё таму, што попыт стварае прапанову. Бо купляюць, прыходзяць. А навошта рабіць лепш, калі і гэта дае прыбытак? Няма такой патрэбы — працаваць на больш культурную публіку, бо яе складае вельмі нязначны адсотак. Не будуць вечарыны ў клубе рабіць сабе афішы з партрэтамі пісьменнікаў, там будуць голыя жанчыны, намаляваныя пульверызатарам. Нічога дрэннага, калі вышыванкі на стрыптызёрах. Цудоўна. Калі тыя, што да Парыжа не даехалі, такія як я, што ўвесь час абураюцца, пачынаюць крычаць, што ў нас жахлівы ўзровень вонкавай рэкламы, што яна непрыгожая, што абвесткі з памылкамі, што ўсё пярэстае, стракатае і безгустоўнае страшна, пачынаюць патрабаваць забараніць, прыўнесці нейкія спосабы, каб неяк усё ўніфікаваць, рэкламу ў метро праз мастацкую камісію ўводзіць… Нельга эканоміку рэгуляваць рычагамі вонкавымі, таму што так яна зламаецца. Яна павінна самастойна нараджаць і прыбытак, і людзей, якія будуць займацца чысценькай працай у белых пальчатках. Пакуль дробныя рэкламныя бюджэты існуюць, да таго часу рэклама будзе такой вось абы якой. А людзі, патэнцыял для добрай рэкламы, у нас ёсць.







Бывае, што нават у тэатры няма мастака, і афішы стварае паліграфія. А там сядзіць хлопчык, які толькі што скончыў школу і вырашыў заняцца бізнесам. Мы таму на кожным этапе сустракаем непрафесіяналаў, што прафесіяналам няма адкуль брацца. Іх або не выхоўваюць, або ім не плацяць столькі, каб яны працавалі.

*— Але ж у нас праводзяцца фестывалі рэкламы. Само паняцце, сама з'ява гэтая павінна распісвацца пад тым, што ў нас ёсць рэклама, якая мае ўзровень для канкурэнцыі. Інакш навошта праводзіць фестывалі?*

— Смех. Калі ласка. Фестываль беларускамоўнай рэкламы «…». Абсалютна закрытая, так бы мовіць, тусоўка, на якой 20 дыпломаў збірае студыя «…» і 20 нейкая …, якая робіць малюнкі. Прытым пытанне «А судьи кто?» Неяк далі прыз рэкламе страўні «…», а страўня гэтая рэкламавала сябе спёртай карцінай мастака …, сучаснага, які вельмі актыўна прадаецца. Пытанне: што за ўзровень у журы, калі яно не ведае папулярнага мастака, які зарабляе грошы? Яны не займаюцца такімі справамі, бо яны займаюцца іншым. Таму гэта фэст для абмежаванай тусоўкі. Хоць там і сустракаюцца якасныя працы. Зноў жа, у спісе не толькі праекты, якія прынеслі грошы, але і проста праекты, якія былі створаны. А рэклама, сэнс яе, паўтаруся, у тым, каб прадаць. І яна павінна працаваць так, каб людзі і праз дзесяць, і праз дваццаць гадоў згадвалі яе і на слоганы рэагавалі. Мы ж ведаем «есть время — есть меллер», «сделай паузу, скушай твикс», «не тормози, сникерсни».

Бізнесмены любяць казаць, што лепшая рэклама — сарафаннае радыё. Рэклама мусіць прадаваць ваш тавар, а не толькі быць прыгожай. Гандаль — кроў эканомікі. Якой бы добрай ні была ваша рэклама, яна дрэнная, калі людзі на ёй нічога не зарабілі. Калі фестывалі — гэта штучна створаныя вяршыні, то яны такімі і застаюцца.

## У дадатак

— Мы вось яшчэ пра брэндынг не пагаварылі. Вечарыны называюцца так, што можна зламаць язык. Я не разумею, чаму я мушу вымаўляць назву вечарыны на англійскай мове, калі я ў школе вучыла французскую. Больш паловы назваў — па-англійску або трасянкай. Гэта не мова, гэта абырвалг. Такое адчуванне, што мы нікуды не ідзём. І мы сапраўды нікуды не ідзём, у нас няма ніякіх ідэалаў, мы не будуем светлае мінулае, нам не акрэслены ніякія мэты развіцця, калі мы можам толькі «Back in USSR» зрабіць ці вярнуцца ў нейкае «рэтра». Канстатуецца абсалютная адсутнасць ідэалогіі. На што людзі ідуць? На тое, на што іх заманьваюць. Возьмем назвы цырульняў, школ танцаў. Кожны хоча назвацца па-замежнаму, амаль ніхто не хоча па-беларуску, быццам не ведае, што гэта такое і што гэта магчыма. Між іншым, і рускай мовы ніхто ўжо не хоча. Сярэдні чалавек хоча цывільна назваць сваю фірму. І ён назаве яе як заўгодна, з якімі заўгодна памылкамі з французскай ці англійскай, абы толькі не чэрпаць з таго кола, што сябе ўжо вычарпала. Гэта я пра дэвальвацыю рускай мовы ў прынцыпе. Пра беларускую не ведаюць, ужо забыліся. Ад рускамоўнага свету як прасторы метраполіі, ад якой доўгі час прымалі пераваранную культурную ежу, пакрысе адмаўляюцца. На нашай глебе можна сеяць. І што на ёй узыдзе?

# In other words

**Ірына Сідорская, загадчык кафедры тэхналогій камунікацыі Інстытута журналістыкі БДУ, Павел Салаўёў, кіраўнік Медыяцэнтра БДУ, а таксама Ксенія Каравая, выкладчык згаданай кафедры і спецыяліст па сувязях з грамадскасцю згаданага медыяцэнтра, — суразмоўцы галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Святланы Дзянісавай. Мэта размовы — развейванне міфаў пра нашу рэкламу і ўсталяванне рэальнага ведання пра яе будучыню.**



Ірына Сідорская.

## Кандзішнз

І.С.: — Пачну з таго, што, па сутнасці, рэкламістаў у Беларусі сапраўды не рыхтуюць нідзе. Маю на ўвазе, канешне ж, грунтоўную адукацыю, якую даюць вышэйшыя навучальныя ўстановы. Хіба толькі на базе перападрыхтоўкі выпускаецца менеджар па рэкламе. Але гэта профіль для дарослых людзей, якія ўжо маюць вышэйшую адукацыю, працуюць у рэкламнай сферы і адчуваюць патрэбу ў сістэматызацыі ведаў. Што да падрыхтоўкі студэнтаў, то рэкламістаў як такіх у нас, паўтару, не рыхтуюць.

**— Ці можна гэта нечым тлумачыць?**

— З аднаго боку, лічыцца, што рэклама — гэта вельмі крэатыўная сфера, што тут ты або ўмееш, або вучы не вучы цябе — усё аднолькава. З іншага боку, трэба разумець, што такое рэклама з пункту гледжання нашага часу. Рэклама — гэта камунікацыі, іх разнавіднасць. Менавіта такога падыходу прытрымліваюцца спецыялісты нашай кафедры. Навучальныя ўстановы эканамічнага профілю таксама выпускаюць спецыялістаў па камунікацыях, але гэта маркетынгавыя камунікацыі, і іх выпускнікі — гэта хутчэй маркетолагі, якой бы там ні было спецыялізацыі ў галіне рэкламы яны не маюць. Атрымліваецца, што дагэтуль рэкламу ў нас ствараюць хай сабе і ў рэкламных агенцтвах, але вельмі розныя людзі, аб'яднаныя хіба толькі тым, што не маюць у сваіх дыпломах адпаведных запісаў: іх як спецыялістаў у галіне рэкламы ніхто ніколі не рыхтаваў. Між тым рэклама, паўтару, — гэта камунікацыі. У вытворцы рэкламы могуць узнікаць нават вельмі крэатыўныя ідэі, але як іх данесці да мэтавых аўдыторый? Працэс гэты даволі няпросты, паміж адправіцелем і атрымальнікам вельмі шмат перашкод, і калі не ведаць «кухні», то самыя цудоўныя ідэі могуць недзе завязнуць і да спажыўца не дайсці. Разумеючы гэта, мы бяром на ўзбраенне мадэль навучання рэкламнай камунікацыі.

Наша спецыяльнасць («Інфармацыя і камунікацыя») існуе з 1996 года, у дыпломах выпускнікоў пішацца: «спецыяліст па інфармацыі і камунікацыі». То бок, не «піяр-спецыяліст» і не «спецыяліст па рэкламе». Спецыяліст па інфармацыі і камунікацыі — гэта значна шырэй. Як нам уяўляецца, гэта больш правільная мадэль, чым сказаць: мы вось тут рэкламай займаемся, а вы займайцеся піярам. Мы проста перакананы, што такое дзяленне — на рэкламу, піяр і маркетынгавыя камунікацыі — у многіх сэнсах ужо састарэла. Мы павінны рыхтаваць універсальных камунікатараў, якія, трапіўшы на пэўнае прадпрыемства, у пэўную галіну гаспадаркі, змаглі б падладзіцца пад існуючыя там патрабаванні.

Да 2013 года ў агульнадзяржаўным класіфікатары пасадаў служачых такіх фармулёвак, як спецыяліст па рэкламнай камунікацыі і спецыяліст па сувязях з грамадскасцю не існавала. Існавала пасада агента па рэкламе, але гэта, мы разумеем, чалавек, які, умоўна кажучы, ходзіць па арганізацыях і прапануе размясціць рэкламу. Спецыяльна дзеля сваіх



Ксенія Каравая.

студэнтаў пасля доўгай эпапеі нам удалося ўвесці ў згаданы класіфікатар пасады, патрэбныя для будучага размеркавання выпускнікоў.

## Тудэйка

І.С. — У нашай рабоце, канешне, вельмі многае залежыць ад сувязі студэнтаў з практыкамі. Абавязкова павінна панаваць занепакоенасць прафесійнай рэкламнай супольнасці падрыхтоўкай новых спецыялістаў. Гэта значыць, што самыя дасведчаныя прадстаўнікі сферы рэкламы павінны прыходзіць у вучэбныя класы і весці заняткі, няхай не з цэлымі курсамі, а хоць бы ў форме майстар-класаў, паасобнымі выступленнямі — каб увесь час існавала вось гэтая так усім неабходная сувязь тэорыі з практыкай. Але прафесіяналы ад рэкламы не заўсёды хочуць гэта рабіць. Зразумела, што яны загружаныя, як усе людзі, якія маюць асноўнае месца працы і адказную, складаную работу, якую трэба выконваць штодня. Але, будзем шчырымі, яны пры гэтым трошачкі баяцца канкурэнцыі. Яны ж разумеюць, не меўшы некалі такіх магчымасцей (бо адукацыя ў галіне камунікацыі расце літаральна на вачах), што з-за гэтых вось юных ім самім праз колькі гадоў давядзецца пацясніцца.

Рэкламная супольнасць Беларусі сама па сабе не надта кансалідаваная. Ёсць у гэтым асяродку розныя ігракі з рознымі ўяўленнямі пра тое, якім павінен быць рэкламны рынак. Часам ствараецца адчуванне, што самі прадстаўнікі рэкламнага рынка канструююць негатыўныя стэрэатыпы. Бо яны такія веды калісьці ад кагосьці атрымалі... Пакуль жа рэкламную культуру фарміруюць менавіта яны. Тут ідзе размова пра высокую сацыяльную адказнасць рынка. Калі адштурхоўвацца ад упэўненасці, што рэклама павінна прадаваць і што гэта галоўны ці ледзь не адзіны крытэрый, па якім яна ацэньваецца, то працы ў нас непачаты край. Так, рэклама, безумоўна, павінна прадаваць. Але адначасова гэта і сацыяльна-культурны прадукт, і паказальнік узроўню развіцця грамадства, і своеасаблівы яго зрэз. Яна яскрава паказвае, што ў грамадстве прынята, што не прынята, што цэніцца, што не цэніцца. Можна трапіць у іншую краіну, размешчаную на другім канцы зямнога шара, зірнуць там на рэкламу і зрабіць высновы наконт гэтай краіны літаральна пра ўсё. Рэклама не можа быць незалежнай ад знешняга асяроддзя. Але яна можа і павінна ісці на паўкроку наперадзе, выконваючы выхаваўчую і культуртрэгерскую ролі. Яна павінна фарміраваць мадэлі паводзін, і тыя, хто ёю займаецца, павінны гэта адчуваць і несці сацыяльную адказнасць. Мы, прынамсі, студэнтаў сваіх выхоўваем так. Мы гаворым, што ім пашанцавала: яны могуць набыць унікальныя веды. І мы адказныя перад усімі, хто такіх ведаў не атрымаў. Увогуле, мы імкнёмся апеляваць да свядомасці. І ёсць нават вельмі добрыя прыклады супрацоўніцтва нашых студэнтаў з рэкламістамі-практыкамі.

Для знаёмства з імі я перадаю слова калегам.

## Паляпшайзінг

К.К. — Мы даволі плённа супрацоўнічаем з рэкламнымі агенцтвамі, якія паводле рэйтынга marketing.by уваходзяць у дзясятку лепшых агенцтваў Беларусі. Іх спецыялісты, у прыватнасці, выступаюць у нашым праекце «Акадэмія камунікацый», заняткі ў межах якога праводзяцца ў вячэрні час кожную сераду з кастрычніка па сакавік і будуюцца па прынцыпе чаргавання актуальных тэм з абедзвюх абласцей — піяру і рэкламы. На такія заняткі запрашаюцца слухачы з ліку не толькі студэнтаў, але і маладых практыкуючых спецыялістаў, якія жадаюць паглыбіць свае веды ў рэкламе і сувязях з грамадскасцю. Каштоўнае тое, што кожнае мера-

прыемства «Акадэміі камунікацый» ад пачатку да канца арганізуецца студэнтамі. Яны расказваюць аўдыторыі пра тое, чаму змаглі навучыцца самі ў выкладчыкаў нашай кафедры, а пасля прадастаўляюць слова госцю. Іх штотыднёвая задача — запрасіць на заняткі «Акадэміі» эксперта з вобласці рэкламы або сувязей з грамадскасцю, у залежнасці ад тэмы, каб той выступіў з адпаведным актуальным майстар-класам. Праблемы пошуку крэатыўных ідэй і навейшых тэндэнцый у рэкламным бізнесе — гэта тое, на што сёння, у прыватнасці, робіцца акцэнт.

П.С. — Тут, у Інстытуце журналістыкі, на кафедры тэхналогій камунікацыі мы робім стаўку на развіццё, так скажам, цэлага блока — карпаратыўныя стратэгічныя камунікацыі. У тым ліку — і ўзмацненне карпаратыўнай культуры, і этыка. Мы разумеем, што ёсць канечны прадукт — рэклама ў вачах абывацеляў, у тым стылізаваным выглядзе, у якім яе бачаць з экранаў, ці такая, якая дастаецца пачкамі з паштовых скрыняў, але мы рыхтуем тут прафесіяналаў для рынку рэкламы, маючы на ўвазе, што рэклама — гэта не толькі прадукт, але і працэсы яе стварэння, планавання, праектавання, і трэба пачынаць з глыбінных даследаванняў і працаваць, грунтуючыся на ацэнцы эфектыўнасці гэтых працэсаў. Усё разам мы называем рэкламнай камунікацыяй. І вучым студэнтаў усяму разам, а не «голаму крэатыву»: сядайце, маўляў, перад белым аркушам паперы і разважайце, як фарміраваць брэнд. Канкурэнтная перавага нашых студэнтаў на рынку працы ў тым, што імі лёгка засвойваюцца новыя веды, бо яны атрымалі грунтоўную падрыхтоўку пры кампетэнтнасным падыходзе. Яны ўмеюць рабіць усё тое, што ім давядзецца рабіць, трапіўшы на працу ў камунікацыйныя, маркетынгавыя, піяр-агенцтвы. Яны могуць займацца інтэрнэт-маркетынгам, сацыялагічнымі даследаваннямі, нават HR-менеджментам, бо па сутнасці гэта тая самая камунікацыя, толькі ўнутрыарганізацыйная. Мы рыхтуем спецыялістаў з вялікім багажом кампетэнцый. Па-першае, фарміруем фундамент, без якога ўсё іншае не мае сэнсу, а па-другое, нагружаем канкрэтным наборам інструментаў, рэпертуарам дзеянняў. Гэта азначае, што нашы студэнты маюць два тыпы заняткаў: традыцыйныя ўніверсітэцкія лекцыі і семінары — адзін блок, а другі — вельмі-вельмі практыкаарыентаванае навучанне, якое выходзіць за межы традыцыйных заняткаў. Тое, пра што расказала Ксенія, «Акадэмія камунікацый», калі роўны вучыць роўнага — самі студэнты вучаць іншых студэнтаў таму, што ведаюць самі, ды яшчэ на кожныя заняткі запрашаюць эксперта, — гэта дакладнае прытрымліванне прынцыпу Канфуцыя: скажы мне — і я забуду, пакажы мне — і я запомню, дай мне гэта зрабіць — і я навучуся. Наш студэнт сам робіць тое, чаму яму трэба навучыцца. Другі прыклад такога падыходу ў навучанні — студэнцкі форум «PR-кветка». Гэта практыка для студэнтаў на ўсё жыццё, пасля якой ім не будзе страшна нідзе і ніколі, бо праз гэтае мерапрыемства з большым ці меншым удзелам праходзяць літаральна ўсе студэнты. Форум суправаджаецца і піяр-кампаніямі, і распрацоўкамі сайтаў, і пошукамі спонсараў, і ўсімі іншымі камунікацыйнымі актыўнасцямі, якія сустрэнуць у працоўнай рэальнасці. І ўсё гэта ладзіцца студэнтамі самастойна. Пра паспяховасць нашага навучання сведчыць тое, што нашы студэнты не маюць праблем з размеркаваннем. Ужо на 3—4 курсе знайсці студэнта, які б працаваў не па спецыяльнасці, вельмі складана. У нас ёсць выпадак, калі выпускніца адразу атрымала пасаду начальніка аддзела ў прэстыжным агенцтве.

## Рызон ту білів

**— Хочацца, канечне, мець чароўную палачку, каб узяць і на лік «раз-два-тры» прывесці сённяшнюю рэкламу ў поўны парадак. Каб ніякіх трайных клічнікаў з прабеламі паміж імі, ніякіх дэфісаў замест працяжнікаў, каб коскі пасля назвы вуліцы перад нумарам дома стаялі абавязкова, каб назва станцыі метро ў двукоссе бралася…**

І.С. — Але ж рэклама — прадукт масавай культуры і, адпаведна, яе люстэрка. І калі мы бачым у аб’явах памылкі — граматычныя, пунктуацыйныя, стылістычныя, — мы павінны разумець гэта як сведчанне нашай рэальнасці. Гэта гаворыць і пра якасць школьнай падрыхтоўкі, і пра вартасць цэнтралізаванага тэсціравання, і пра розныя іншыя праблемы. Яны выплываюць на паверхню праз рэкламную аб’яву. Адукаванаму чалавеку, канечне, балюча, што нацыя ў цэлым не такая

пісьменная, а з іншага боку, рэклама — гэта наводка на тое, што пакуль дрэнна і трэба паправіць.

З майго месца загадчыка кафедры вось яшчэ што відаць з таго, што неабходна рабіць універсітэту: патрэбна асаблівая ўвага да светапогляду ў камунікацыйнай дзейнасці. Каб студэнты задумваліся пра тое, што рэклама фарміруе каштоўнасці, лад жыцця. Каб яны рэфлексавалі над гэтым і адчулі ўласную сацыяльную адказнасць яшчэ да таго, як самі пачнуць такія кампаніі праектаваць і рэалізоўваць.

К.К. — У межах сёлетняй «PR-кветкі» мы паставілі задачу абмеркаваць даволі актуальную сёння тэму гендару ў рэкламе. У размове, якая праходзіла ў фармаце ток-шоу, прынялі ўдзел прадстаўнікі рэкламных агенцтваў, то бок, вытворцы рэкламы, грамадскіх арганізацый, якія адказваюць за правы жанчын у прыватнасці і выступаюць за гендарную роўнасць увогуле, а таксама Міністэрства гандлю, якое ўзгадняе рэкламу і стаіць на варце этыкі. Абмеркаванне, трэба сказаць, ішло востра. Продаж тавараў і паслуг праз чалавечыя вобразы і іх падача ў сучаснай рэкламе — тэма сур'ёзная і набалелая. У нас стаяла задача не проста скарэкціраваць падачу такой рэкламы, а нават раскрыць вочы аўдыторыі і прадстаўнікам рэкламнага бізнесу на этычнасць некаторых яе ўзораў, накіраваць іх думку на тое, што яна павінна быць карэктнай, правільнай з пункту гледжання роўнасці правоў мужчыны і жанчыны. На мой погляд, мерапрыемства прайшло з размахам, дыскусія атрымалася жорсткай, і па выніках яе мы заўважылі, як памянялася меркаванне аўдыторыі пра рэкламу, падыход да гуманнасці ў ёй.

**— Мне б хацелася яшчэ пагаварыць пра рэкламу як мастацтва. Гэта ж таксама важна: ролік ці старонка ў часопісе, якія закліканы вырашаць сацыяльную задачу ці спрацаваць з мэтай продажу, — яны ж павінны быць выкананымі з густам і па законах эстэтыкі, і выклікаць хваляванне ў душы ці не такое самае, як гукі чароўнай музыкі або жывапіс.**

І.С. — Рэклама ствараецца для пэўнай мэтавай аўдыторыі. Калі мы, праходзячы па вуліцы, бачым білборд, які нам не падабаецца, гэта не азначае, што ён дрэнны. Можа быць, ён проста для іншай мэтавай аўдыторыі. А калі нас ён зусім не чапляе, дык гэта, можа быць, таму, што мы не тыя, да каго ён звяртаецца.

К.К. — На нашай кафедры вучаць і дызайну таксама. Гэта якраз для таго, каб у выніку выходзілі рэкламныя прадукты, роўныя творам мастацтва. Нашы студэнты вывучаюць прадметы культуралагічнага і мастацтвазнаўчага кірункаў і ў абавязковым парадку дысцыпліну пад назвай «візуальная культура». Адна з задач прадмета — паказаць ім, што яны праз рэкламу ўплываюць на культуру, удзельнічаюць у фарміраванні светапогляду грамадства, адыгрываюць ролю ва ўсталяванні нацыянальнай ідэнтычнасці. Гэты прадмет сапраўды прызваны навучыць студэнтаў выдаваць якасны прадукт з пункту гледжання камунікацый. Гэтым прадуктам можа быць што заўгодна, пачынаючы ад звычайнай афішы і завяршаючы застаўкамі да фільмаў і праграм. Мы выходзім за межы традыцыйных носьбітаў, гаворым, што ёсць рэклама, пабудаваная на асацыяцыях з прадметамі асяродка. У нас з'яўляюцца рэкламныя клумбы, рэкламныя лаўкі... З аднаго боку, гэта прадае паслугу, фарміруе брэнд, стварае імідж для пэўных кампаній. З іншага боку, гэта робіць горад прыгажэйшым і цікавейшым. Вось такая культуралагічная падрыхтоўка, прывіццё пачуцця прыгожага, этыкі і маралі — гэта ўсё дае веру ў тое, што мы ў хуткім часе пазбавімся рэкламы нізкага гатунку. Хацелася б верыць, што мы выконваем такую місію. Мы рашаем тактычныя задачы — развіваем інтэлектуальны крэатыў і пазбаўляем прымітыўнага мышлення.

**— Як спажывец я заўважаю, што з'яўляецца ўсё больш якаснай айчыннай рэкламы. І рэкламы на беларускай мове таксама становіцца больш.**

І.С. — Раней было шмат рэкламы, звязанай са славянскай культурай, на матывы рускіх казак і былін, вершаў і твораў мастацтва. Цяпер жа, сапраўды, дакладна відаць беларускае. То бок, самаідэнтыфікацыя беларусаў праз рэкламу вельмі добра выяўляецца.

К.К. — За апошняе дзесяцігоддзе працэнт адчування сябе беларусамі як прадстаўнікамі асобнай нацыі значна вырас. Беларускае робіцца трэндам. А рэкламны бізнес заўсёды імкнецца або адпавядаць трэндам, або апярэджваць іх. Вельмі

прыемна, што многія кампаніі, нават замежныя, выбіраюць у якасці кірункаў развіцця падтрыманне трэнду беларускасці ў сваёй камунікацыі: перакладаюць сайты на беларускую мову, выпускаюць рэкламныя плакаты і ролікі па-беларуску, хоць іх прадукт можа быць не абавязкова беларускім, а мець міжнародную накіраванасць.

П.С. — Калі Беларусь аднаго дня стала незалежнай суверэннай дзяржавай, ад таго дня і пачаўся адлік у развіцці беларускай рэкламы. Гэтую чвэрць стагоддзя наша рэклама істотным чынам прагрэсіруе. Мы гаворым не толькі пра колькасць, але і пра якасць. У нас створаны галіновыя асацыяцыі рэкламы, існуе рэйтынг крэатыўнасці рэкламных агенцтваў, які вылічваецца па складаных формулах па ўдзеле беларускіх рэкламных агенцтваў у фестывалях рэкламы. Калі вы ўдзельнічаеце ў фестывалях рэкламы нароўні з іншымі краінамі, вы, безумоўна, арыентуецеся на сусветныя ўзоры. Так, я таксама лічу, што ў Беларусі, асабліва за апошні год, з'явілася шмат добрай і вельмі добрай рэкламы. Яна эстэтычная і выканана з улікам самых апошніх тэндэнцый. Галоўнае — не перашкаджаць рэкламнаму рынку развівацца.

## ІМХО пра сацыялку

П.С. — Згодна з законам аб рэкламе ініцыятарамі сацыяльнай рэкламы могуць выступаць дзяржаўныя органы. Галоўным чынам гэта міністэрствы або выканкамы. Але гэта не азначае, што ідэі, датычныя сацыяльнай рэкламы, не могуць належаць грамадскім аб'яднанням. Тут толькі маецца на ўвазе, што са сваімі ініцыятывамі ім трэба звярнуцца ў дзяржаўны орган, адпаведнае міністэрства, а ўжо яно вырашае, ці вартая ідэя падтрымкі. Уся сацыяльная рэклама, якая падлягае распаўсюджванню на тэлебачанні, радыё, білбордах, праходзіць абавязковае абмеркаванне на Міжведамасным савеце па рэкламе, які працуе на базе Міністэрства гандлю і ўключае прадстаўнікоў розных міністэрстваў, прафесійных асацыяцый, рэкламных агенцтваў, людзей з акадэмічнай сферы. Міжведамасны савет даволі сур'ёзна ўплывае на стан сацыяльнай рэкламы, яго задача — не дапусціць выхаду рэкламнага прадукту, які не адпавядае нормам і палажэнням з прычыны сваёй неэтычнасці або неналежнасці, неадпаведнасці. Такі рэкламны прадукт адпраўляецца на дапрацоўку. Я прымаю ўдзел


Павел Салаўёў.

у пасяджэннях рабочых груп Міжведамаснага савета. Два разы на месяц мы разглядаем вялікую колькасць узораў рэкламнай прадукцыі сацыяльнага кірунку. За апошні год я назіраю і колькасны, і якасны рост сацыяльнай рэкламы. Хоць, канешне, ёсць яшчэ вялікая прастора для дзейнасці. Я за тое, каб рэкламай — любой, камерцыйнай ці сацыяльнай, — займаліся выключна прафесіяналы. Варта адзначыць, што можа існаваць і рэклама сацыяльнай накіраванасці, якая размяшчаецца на ўмовах рэкламы камерцыйнай. Яе заказчык — камерцыйныя або грамадскія арганізацыі. У такім выпадку мы будзем мець заключэнне Міжведамаснага савета менавіта па сацыяльнай рэкламе. Хоць сэнс сацыяльнай рэкламы ў тым, што яна размяшчаецца бясплатна. Па законе на яе адводзіцца пяць працэнтаў ад эфіру рэкламных паведамленняў. І запэўніваю вас, што праз Міжведамасны савет па рэкламе праходзіць вялікая колькасць цудоўных узораў сацыяльнай рэкламы найвышэйшага прафесійнага ўзроўню. Проста сацыяльную рэкламу у прайм-тайме не ўбачыць, яе часцей паказваюць у той час, калі эфір не надта дарагі.

**— А гэта ж гіганцкая недапрацоўка. Калі мы жадаем сацыяльнай рэкламе развіцця і павагі, так быць не павінна.**

— Але я пра іншае. Тут сапраўды ёсць яшчэ поле для развіцця, але сама па сабе якасць сацыяльнай рэкламы ўзрастае. Усё часцей дзяржаўныя органы пачынаюць прыцягваць для мэт стварэння сацыяльнай рэкламы прэстыжныя рэкламныя агенцтвы, якія атрымліваюць для гэтага дадатковае фінансаванне і выдаюць вельмі якасны прадукт. Можна пахваліць працу Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Міністэрства абароны. Ёсць, што ні кажыце, добрыя работы. Але, канешне, прысутнічае і тое, што, вобразна кажучы, зроблена на калене, зьярстана ледзь не ў вордзе. Агульная ж тэндэнцыя — станоўчая.

К.К. — Мяне пакуль што ў некаторых выпадках сацыяльная рэклама вельмі абурае. Не падабаецца, прынамсі. Чаго хочацца? Двух момантаў. Першае — каб нашы студэнты актыўней размяркоўваліся ў органы дзяржаўнага кіравання. Пакуль яны з прычыны ўзросту прагнуць размеркавання ў прэстыжныя камерцыйныя месцы, каб працаваць у рэкламных агенцтвах «з іменем», а ў органы дзяржкіравання, натуральна, не ідуць. Мы ж тлумачым ім, як гэта важна, што за імі, магчыма, застанецца самае важкае слова ў развіцці культуры Беларусі, што атрыманыя ў нас веды яны павінны прымяняць там, дзе прымаюцца ключавыя рашэнні ў галіне рэкламы.

Другое. Хочацца звярнуцца да насельніцтва, папрасіць, каб нашы грамадзяне былі сацыяльна актыўнымі, бо яны *могуць* уплываць на тыя працэсы, якія адбываюцца ў краіне: даносіць свае меркаванні да названага Міжведамаснага савета, звяртацца ў Міністэрства гандлю, пісаць лісты з заўвагамі і крытыкай існуючай сітуацыі і праз грамадскія аб'яднанні станавіцца ініцыятарамі якаснай і цікавай рэкламы. Мне здаецца, чым больш зваротаў, чым больш неабыякавых да сацыяльных праблем людзей, тым вышэйшая якасць сацыяльнай рэкламы.

**— Мне хацелася пачуць яшчэ ваша меркаванне пра надпісы на цыгарэтных пачках. Калі, напрыклад, чалавеку ўжо за шэсцьдзясят, а курыць ён, скажам, з пятнаццаці, то яму, мабыць, смешна чытаць, што курыльшчыкі паміраюць маладымі. Гэта прыклад дыскрэдытацыі сацыяльнай рэкламы, ці не так? Ёсць яшчэ меркаванне, што гэтыя надпісы могуць дзейнічаць як нейралінгвістычныя праграмы. То бок, маўляў, чытаючы штодня слова «рак», ёсць рызыка атрымаць гэты дыягназ не так ад цыгарэты як ад надпісу.**

П.С. — Тады трэба са слоўнікаў павыкрэсліваць назвы дыягназаў. Размова пра тое, што сама па сабе рэклама вельмі рэдка можа быць рэальным інструментам для вырашэння праблем. Тут спатрэбіцца комплекс мер, на ўсіх узроўнях дзяржавы і ўлады, грамадскага будавання. Тое, што дзяржава ўзялася сур'ёзным чынам за рэгуляванне рынку тытунёвай прадукцыі, — вельмі добра. Такія надпісы на пачках — гэта правільна. Тое, што цыгарэты прыбралі з агульнадаступных месцаў продажу і зачынілі ў боксы —таксама правільна. Калі табе трэба купіць цыгарэты, табе трэба падысці ў спецыяльнае месца і прамовіць назву маркі, якая табе патрэбна, а прываблівааць да сябе яркімі пачкамі яны ўжо не могуць, і гэта таксама вельмі правільна. Гэта адна з мер, каб вырашыць праблему. Другая мера — паступовае павелічэнне кошту цыгарэт. У канчатковым выніку яны могуць стаць настолькі дарагімі, што нямногія змогуць іх сабе дазволіць. І гэта, на маю думку, таксама правільна. Бо тут важна, каб не курылі падлеткі. І фінансавыя абмежаванні могуць спрацаваць вельмі добра.

**— Ведаеце, мне думаецца, што трэба стварыць сацыяльную рэкламу, якая дэманстравала б, што курыць — гэта сорамна.**

— Выключна сацыяльнай рэкламай, паўтару, праблема не здымецца. Трэба пачынаць мо з праграм для дзіцячых садкоў, каб бацькі пачалі адчуваць сорам за курэнне перад сваімі дзецьмі, настаўнікі — сорам перад вучнямі, урачы — перад пацыентамі і калегамі… Калі адзін ад аднаго пачнуць з-за гэтай справы хавацца, тады мо што і зменіцца. Толькі як давесці, што гэта сорамна? Гэта недапушчальная і невытлумачальная мера сацыяльных паводзін, але ніхто яе пакуль што не саромеецца.

К.К. — Мо таму, што сама дзяржава дазваляе нам курыць і ўжываць алкаголь. Той простай акалічнасцю, што і вытворчасць такіх рэчываў, і гандаль імі ў нашай краіне дазволены…




**Маргарыта Дзяхцяр**

# All rights reserved

**«Гэта твая Coca-Cola, разумнік!» — цяпер не так часта, але ўсё ж сустракаем мы банкі з вядомым напоем і падобнымі надпісамі ў крамах. Здавалася б, што незвычайнага? Кола ж засталася той самай, дадалі толькі некалькі слоў. І гэтыя словы змянілі лік у рэкламнай гульні з пакупнікам.**

## Паляпшаць свет праз... рэкламу

Штогод у Беларусі ладзіцца фестываль рэкламы «Белы квадрат». Сёлета ён быў надзвычай папулярным — цікавасць да рэкламы з кожным днём толькі павялічваецца. Яна стала для нас не проста нейкім «стымулам» для пакупак, але і неад’емнасцю — мы нават сталі наведваць фестывалі рэкламных ролікаў, у Мінску праходзіць «Ноч пажыральнікаў рэкламы». Гэтая сфера, хочам мы таго ці не, прарасла ў наш свет вельмі моцна — да каранёў ужо не дастаць.

Якімі б пазітыўнымі ні былі відэаролікі, на рэкламным рынку (прынамсі, у Беларусі) даволі шмат праблем — арганізатар фестывалю «Белы квадрат» Алена Усціновіч адзначае, што беларуская рэклама перажывае не лепшыя часы.

Нягледзячы на гэта, у маладых рэкламшчыкаў цяга да творчасці ёсць — гэта паказвае і той факт, што на «Белы квадрат», які з’яўляецца яшчэ і конкурсам работ, даслалі свае працы 768 чалавек. Хіба гэта не шмат? Кожны з іх марыць, як кажуць арганізатары, «прынесці ў свет чысціню і добрыя думкі».

Разумеюць неабходнасць прасоўвання рэкламы і ў Міністэрстве гандлю Рэспублікі Беларусь. Фестывалю ўжо восьмы год, і арганізатары вырашылі, што трэба рабіць нейкія крокі — аб’ядноўваць рэкламшчыкаў краіны, напрыклад. І ў гэтым дапамагае Міністэрства гандлю — ужо створана АКМА — Асацыяцыя камунікацыйных і маркетынгавых агенцтваў.

Гэта вельмі сур’ёзная справа — такая арганізацыя дапаможа змяняць рэкламнае заканадаўства, развіваць сацыяльную рэкламу і ўплываць на яе эфектыўнасць, рабіць яе не толькі цікавай, але і вырашаць з яе дапамогай сацыяльна-значныя пытанні.

У Беларусі каля 800 арганізацый па рэкламе — гэта даволі шмат і сведчыць пра яе запатрабаванасць. І гэта не мяжа. А дзе ж яшчэ, як не ў рэкламе, прадпрыемствы могуць пра сябе заявіць?

## Занадта прыгожа

Але ёсць у рэкламы і рысы адмоўныя. Лола Цэхнэр, дырэктар Эстонскай асацыяцыі маркетынгавых агенцтваў, адзначае, што ў відэа ці на постарах мы бачым занадта прыгожы свет, — і гэта праблема. Рэклама часам надзвычай прыгожая — кожны з нас хоча жыць такім жыццём, якое мы бачым там. Успомніце, ці бачылі вы хоць адну непрыгожую рэкламу?

На «Белым квадраце» тэме прыгажосці рэкламы прысвяцілі шмат часу — амаль кожны выступоўца штосьці пра гэта казаў. Але пра тое крыху пазней.

Італьянскі маркетолаг Нікола Равета лічыць, што ў рэкламе людзі павінны быць наватарамі. Але ніхто цяпер такім не з’яўляецца — усе кары-

стаюцца ўжо гатовымі метадамі. Бо навошта ствараць веласіпед? Менавіта таму ўся рэклама хоць і падаецца нам рознай, але, калі прыгледзецца, нічога ўнікальнага з сябе не ўяўляе.

Галоўнае ў рэкламным ролiку — сам яго стваральнік, асоба чалавека, які можа прыдумаць арыгінальную ідэю. І такія людзі яшчэ не зніклі. Адзін з іх — вядомы ўкраінскі рэжысёр Юрый Мотрыч. Ён шмат гадоў займаецца анімацыйнай рэкламай, і яго ролікі — сапраўднае мастацтва.

Творчасць Юрыя Мотрыча заснавана на тым, што ён, здавалася б, дзякуючы простаму — дзіцячай анімацыі, стварае ўнікальны новы свет і вобразы герояў, якіх глядач абавязкова запомніць. Канешне, канцэпцыя не новая — яе прыдумаў яшчэ Уолт Дыснэй, які зрабіў з анімацыі канвеер.

Прыводзячы прыклады добрых анімацыйных ролікаў, Юрый Мотрыч не можа спыніцца — іх наўпрост сотні, можа, і больш.

А першая рэклама ў СССР? Яе памятаюць? Сёння яна б, напэўна, стала хітом у інтэрнэце — гэта быў ролік пра кукурузу, якая спявае. Для тых часоў вельмі наватарскае рашэнне, але сёння выглядае псіхадэлічна.

Юрый Мотрыч кажа, што анімацыйная рэклама таму папулярная, што ў жыцці людзі хочуць дасягнуць чагосьці, чаго хацелі ў дзяцінстве. А мультфільмы ў гэтым плане — рэч сур'ёзная, бо марым мы пра тое, што бачылі на экране.

Разам з тым занадта прыгожага мы бачыць не хочам — вобразы ідэальных сем'яў, жанчын, якія гатуюць у вялізных кухнях, усе прыгожа апранутыя нават дома, выглядаюць так, быццам толькі з цырульні. «Чалавек такому ніколі не паверыць. А рэклама павінна быць шчырай», — кажа Мотрыч.




## Пад іншым вуглом

У Аргенціне апошнюю параду Юрыя быццам пачулі, і пачалі выпускаць серыю ролікаў пра жанчыну, якая не выглядае як супермадэль. Больш за 100 відэа (а гэта, дарэчы, рэклама макаронаў) пра жанчын рэальных — якім надакучыла хадзіць у крамы па прадукты і мыць посуд. Кожная б тут пазнала сябе.

У відэа, лічыць Мотрыч, не трэба шукаць персанажа ўніверсальнага — ён не можа ўсім спадабацца, што б стваральнікі ні спрабавалі. У анімацыі гэта зрабіць значна лягчэй — мы любім мультфільмы.

Добры прыклад — сетка ўкраінскіх крамаў «Сельпо», якая не змяняе канцэпцыю рэкламнай кампаніі ўжо сем гадоў — яны знайшлі свой ідэальны вобраз, які стварыў Юрый Мотрыч.

Рэжысёр распрацаваў серыю ролікаў пад назвай «Так не бывае», і яны паспяхова працуюць. Напрыклад, у рэкламе можна заўважыць, як сланечнікавы алей ратуе планету, быццам супермен, ці тушонка ажывае і ходзіць па горадзе. Кожны вобраз ствараецца ў выніку руплівай працы, але стварыць ролік Мотрыч можа і за тыдзень, у той час як Coca-Cola робіць рэкламу амаль два гады.

Галоўнае для рэкламшчыка — глядзець на рэчы пад іншым вуглом. І многія так могуць. Таму і мы ўсё часцей углядаемся ў білборды і рэкламу ў вагонах метро. Але некаторым і гэтага недастаткова...

Сетка амерыканскіх піцэрый «Papa Johns» стварыла адмысловы для сваёй прадукцыі эмадзі з кавалачкам піцы — цяпер кожны з нас бачыць яго і ў сацсетках, і ў сваіх тэлефонах. А таму што гэта папулярна.

Беларусы ў рэкламе таксама атрымалі поспех — хто не ведае пра Арцёма Ставенку і Кірыла Чыкеюка? Праект хлопцаў «Kino-mo» перамог у 2015 годзе на брытанскім конкурсе «Pitch to Rich». Тэхналогія дазваляе дэманстраваць вывы ў паветры, хлопцы ж паказалі рэкламу на колах веласіпеда. Цяпер іх рэкламным праектам карыстаюцца Samsung, Intel, Aston Martin і іншыя вядомыя кампаніі.

Пра рэкламу можна разважаць бясконца — яна вабіць, яна прымушае нас штосьці рабіць, яна ўздзейнічае і працуе. Але робіць гэта так, каб мы не адчувалі яе. All rights reserved.

**Зміцер Юркевіч**

# Калі нарадзіўся Рэйтан

Мінула ўжо 235 гадоў з дня смерці Тадэвуша Рэйтана[1], якая наступіла «8 жніўня 1780 года»[2]. Адбылося гэта ў той самай грушаўскай сядзібе[3] , дзе ён нарадзіўся і адкуль, як дэпутат Наваградскага ваяводства ВКЛ, выехаў на варшаўскі сойм[4], маючы пры сабе Інструкцыю[5], згодна з якой быў абавязаны коштам уласнага жыцця не дазваляць адняць ад краіны ніводнай, нават дробнай часткі тэрыторыі… Тут прайшлі апошнія гады чалавека, які яшчэ пры жыцці стаў легендай. Пахавалі яго у старым Ляхавіцкім касцёле, згодна з інфармацыяй, пададзенай Юльянам Урсын-Нямцэвічам[6], «першым афіцыйным біёграфам Тадэвуша Рэйтана», як трапна заўважыў беларускі гісторык Уладзімір Емяльянчык.

Нягледзячы на такую часавую адлегласць і культавы статус асобы, жыццярыс Тадэвуша Рэйтана і да гэтага часу, насуперак меркаванням некаторых даследчыкаў, уяўляецца амаль tabula rasa. Калі выключыць з найбольш змястоўнага біяграфічнага артыкула ў Польскім біяграфічным слоўніку[7], напісанага яшчэ ў 1988 годзе, першыя дні сойма (19—22 красавіка), некалькі згадак у 1773, 1775, 1776 і 1780 гг., то раптам акажацца, што навукоўцы так і не адказалі на пытанні, калі ён нарадзіўся, дзе вучыўся, хто з братоў быў старэйшым — Тадэвуш ці Міхал-Ксаверы, дзе знаходзіўся Тадэвуш да сойма, чым займаўся ў Варшаве пасля таго, як быў адхілены ад удзелу ў сойме, калі вярнуўся ў Грушаўку і чым далей займаўся. Атрымліваецца, што з 39 гадоў ягонага жыцця намаганнямі дзясяткаў пісьменнікаў, публіцыстаў і даследчыкаў XIX—XXI стагоддзяў, у тым ліку і на падставе дакументальных крыніц, трохі асветлены толькі каля 5—6 гадоў.

У нашу задачу не ўваходзіць раскрыць у публікацыі ўсе таямніцы жыцця Тадэвуша Рэйтана. У межах дадзенага артыкула мы паспрабуем паставіць кропку толькі ў першым па чарзе пытанні — КАЛІ нарадзіўся наш нацыянальны герой. Для адказу на яго мы сабралі не толькі меркаванні папярэднікаў, але (і гэта галоўнае) і датычныя гэтага пытання дакументы. Некаторыя з іх друкуюцца ўпершыню.

Аўтар выказвае падзяку беларускім гісторыкам і архівістам спсп. Алесю Жлутку, Фёдару Чарняўскаму, Змітру Яцкевічу, Яўгену Анішчанку і Змітру Драздзу за дапамогу ў напісанні артыкула.

## З гісторыі пытання

У г. зв. «рэйтаназнаўстве», асабліва польскім, няма адзінай думкі на гэты конт. Існуе некалькі датаў (1741, 1742, 1746), а лік прыхільнікаў кожнай з іх ідзе на дзясяткі. Таму з некаторай доляй гумару можна назваць гэта «канцэпцыямі». Але толькі да нядаўняга часу іх было тры. У 2014 годзе дадалася чацвёртая, да заснавальнікаў якой адносіцца аўтар артыкула.

## Канцэпцыя Нямцэвіча

Найстарэйшай і пануючай з'яўляецца тая з канцэпцый, якую запачаткаваў у 1820 годзе берасцеец Юльян Урсын-Нямцэвіч. У першым невялічкім прысвечаным Тадэвушу Рэйтану нарысе ён напісаў, што Рэйтан нарадзіўся 20 жніўня 1742 года ў Грушаве, і што маці яго

[1] Тадэвуш Рэйтан (1740—1780) — пасол Наваградскага ваяводства ВКЛ на Надзвычайны сойм Рэспублікі Абодвух Народаў — Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага, які рашуча выказаў нязгоду на Першы падзел краіны. Нацыянальны герой Беларусі.

[2] «Zywot Tadeusza Reytena» aut. Julian Ursyn Niemcewicz , «Portrety wsławionych Polaków» rysowane na kamieniu przez Walent. Sliwickiego, z opisem ich życia przez Alex. Chodkiewicza. Str. 20—23 , Warszawa, 1820.

[3] Грушаўка — вёска ў Ляхавіцкім раёне. Вядома з сярэдзіны XVI ст. З 1695(?) да 1910 г. належала роду Рэйтанаў, пазней Грабоўскім. У 1944 г. сядзіба Рэйтанаў нацыяналізавана. Захавалася да нашых дзён. Існуе прапанова стварыць у ёй дзяржаўны мемарыяльны музэй Тадэвуша Рэйтана.

[4] Надзвычайны сойм РАН 1773—1775 гг. Скліканы каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім пад націскам трох дзяржаў — Расіі, Прусіі, Аўстрыі. За галоўную мэту меў зацвердзіць Першы падзел РАН (1772). У ВКЛ былі анэксаваны ўсходнія землі з такімі гарадамі як Полацк, Невель, Віцебск, Мсціслаў, Магілёў, Гомель з насельніцтвам амаль 1 500 000 чалавек.

[5] НГАБ, ф. 1730, воп. 1, спр. 41, с. 950—951адв. «Інструкцыя Наваградскага ваяводства Тадэвушу Рэйтану і Самулю Корсаку». Гл. таксама Я. Анішчанка. Абывацелі правінцыі. Т. 5., с. 342—344, 2009, Выд. В. Хурсік.

[6] Юльян Урсын-Нямцэвіч (1757—1841) — пісьменнік, гісторык і грамадскі дзеяч. Паходзіў са старабеларускага шляхецкага рода Урсын-Нямцэвічаў, вядомага на Берасцейшчыне.

[7] Polski Słownik Biograficzny (PSB). Str. 231—237, t. XXXI, 1988.

звалася Вераніка Валадкевіч[8]. З пункту гледжання нашых дзён можна бачыць, што ў першым жа сказе Нямцэвіч зрабіў тры памылкі. Маёнтак, у якім нарадзіўся Тадэвуш, вядомы з сярэдзіны XVI стагоддзя як Грушаўка. Маці ягоную звалі Тэрэза. Ну, а што датычыцца памылкі ў даце, то яна і з'яўляецца тэмай артыкула. Усіх тых, хто ішоў утроп Нямцэвічу, можна вызначыць менавіта па гэтых памылках. Былі сярод іх не толькі публіцысты і гісторыкі, але і прадстаўнікі Віленскай мастацкай школы — Людвік Горват, які ў 1829 годзе стварыў літаграфію з выявай Тадэвуша Рэйтана, а праз дзесяць гадоў — Францішак Смуглевіч. Сярод найбольш вядомых «адэптаў» ліцвіна Нямцэвіча ў XIX—XX стагоддзях можна назваць польскіх гісторыкаў, навукоўцаў і публіцыстаў Войцаха Шыманоўскага, Леана Вегнера, Казіміра Сталыхвы, Ежы Міхальскага, а таксама сваякоў Рэйтанаў — Антонія і Стэфана Кяневічаў, ды і шмат каго іншых. У дадзены момант мы разглядаем польскую гістарыяграфію пытання.



Манумент Тадэвушу Рэйтану ў Кракаве.

Аўтарытэтнасці біяграфіі Тадэвуша Рэйтана, створанай ягоным земляком, у пазнейшыя часы надалі словы пляменніцы Тадэвуша, Ганны Герычовай[9], успаміны[10] якой упершыню выйшлі ў свет у 1858 годзе, праз год пасля яе смерці. У гэтых успамінах згадваецца, што Нямцэвіч звярнуўся да ўладальніка Грушаўкі, наймалодшага брата Тадэвуша Станіслава, каб атрымаць інфармацыю аб жыцці героя, і дыярыуш, які вёў падчас сойма сам Тадэвуш Рэйтан. *«Аднойчы звярнуўся да нас Нямцэвіч з просьбай пазнаёміцца з Дыярыушам Тадэвуша, а таксама для азнаямлення з падрабязнасцямі жыцця Рэйтана, што было звязана з праектам выдання жыццяпісаў знакамітых палякаў. Але існавала ў гэтай справе вялікая перашкода, і была яна ў наступным. На гэты час быў жывы яшчэ малодшы брат Тадэвуша, Станіслаў Рэйтан, і як спадкаемцу яму належалі ўсе паперы, якія былі складзены ў згаданай мураванцы і знаходзіліся выключна пад яго даглядам. Ён там спаў, праводзіў шмат часу, паліў тытунь, штодзённа праглядаў і вывучаў сямейны архіў. Наколькі я памятаю, не было там ніякага парадку, усе паперы ляжалі ў кучы ў беспарадку, але барані божа было дакрануцца да іх! І хоць быў ён па характары ветлівым і вясёлым чалавекам, на жаданне, каб штосьці з тых папер дастаць, прачытаць, паглядзець, адразу бег за дзядзькам і не даваў магчымасці паўтарыць просьбу. Не найлепшым чынам быў успрыняты таксама і зварот Нямцэвіча. Дарма было распавядаць дзядзьку пра гэта, бо на ўсе аргументы ён адказваў, што ўсе падзеі, звязаныя з пасольскай справай, павінны быць апісаны ў тагачасных варшаўскіх газетах. Нарэшце, пасля працяглых нашых настойванняў і просьбаў, ён пагадзіўся перадаць Дыярыуш, але пад умовай, што гэта будзе копія, а арыгінал вернецца назад у архіў у Грушаўку. Дыярыуш быў давераны ўнуку Тадэвуша, сыну майго старэйшага брата Казіміра»*[11]. Даволі цікавая рэакцыя на звычайны зварот, магчыма, была выклікана наступнай акалічнасцю. Станіслаў Рэйтан[12] не мог не ведаць, што дзядзька Юльяна, Францішак Урсын-Нямцэвіч, берасцейскі суддзя і пасол ад Берасцейскага ваяводства[13] (разам з Міхалам Радзівілам), ад самага пачатку стаў на бок Адама Панінскага. Не мог ён не ведаць, што сын Францішка, Станіслаў, быў прызначаны ў камісію ад Рэспублікі Абодвух Народаў , якая разам з расійскімі афіцэрамі займалася правядзеннем

[8]Гл. зноску 2.

[9]Ганна Герычова (1782—1857) — дачка Міхала Рэйтана, жонка Караля Герыча.

[10]Z pamiętników Anny z Rejtenów Geryczowej zmarłej w Paryżu roku 1857. Lwów, 1858.

[11]Вольга Гарбачова. Ганна Герыч з роду Рэйтанаў. Тэксты №5, с. 146—155.

[12]Станіслаў Рэйтан (1781—1867?) — сын Міхала Рэйтана. Пляменнік Тадэвуша. Вайсковец, ураднік і аўтар шэрагу літаратурных твораў.

[13]Францішак Урсын-Нямцэвіч (1718—1795), суддзя земскі берасцейскі, пасол ад Берасцейскага ваяводства на Сойм 1773—1775 гг.

новай мяжы паміж ВКЛ і Расіяй[14]. Як напісаў у сваім рапарце расійскі афіцэр, Нямцэвіч быў сярод тых, хто за дробныя падарункі пагаджаўся акругляць мяжу на карысць Расійскай імперыі. Таму можна часткова зразумець адносіны Рэйтанаў да Нямцэвічаў, а таксама і тую цікавасць, якую выказаў Нямцэвіч да «Дыярыуша» непасрэднага ўдзельніка. Магчыма, ён баяўся, што ў ім адлюстравана ганебная роля яго сваяка ў падзеле краіны, што магло непрыемна ўдарыць па рэпутацыі роду. І гэта не галаслоўнае сцвярджэнне, бо ў кнізе «Нямцэвічы. Сапраўдная гісторыя роду»[15] ўдзел Францішка Урсын-Нямцэвіча ў сойме 1773—1775 гадоў абыдзены ўвагай.

Версія Нямцэвіча ў наш час лічыцца асноўнай, бо слушнасць яе «зацвердзілі» сваякі Рэйтанаў[16], змясціўшы ў 1928 годзе на памятнай дошцы ў гонар Тадэвуша Рэйтана ў новай грушаўскай капліцы-пахавальні[17]. Дарэчы, вышэйзгаданыя Кяневічы — сваякі Рэйтанаў «па кудзелі».

## Канцэпцыя Шуйскага

Падобна, што да стварэння новай канцэпцыі-даты спрычыніўся Юзаф Шуйскі, кракаўскі гісторык і публіцыст, які сябраваў з вядомым мастаком Янам Матэйкам. У 1866 годзе апошні ўпершыню прадэманстраваў публіцы свой новы твор «Рэйтан»[18], які выклікаў шырокі рэзананс і новую хвалю цікавасці да асобы Тадэвуша Рэйтана. Юзаф Шуйскі напісаў для твора своеасаблівае тлумачэнне, якое назваў «Рэйтан. Заняпад Польшчы». Пазней, праз шэсць гадоў Шуйскі напіша тэкст «Тадэвуш Рэйтан на сойме 1773 года»[19], у якім, безумоўна, абапіраючыся на тэкст Нямцэвіча і Генрыка Жавускага, пра ўзрост Тадэвуша Рэйтана напіша так: «падчас сойма (красавік 1773 года. — Заўвага аўтара) меў 32 гады». Магчыма, гэта была звычайная памылка. Тым не менш шмат хто палічыў, што Тадэвуш Рэйтан нарадзіўся на пачатку 1741 года. Напрыклад, у 1938 годзе ў Баранавічах




Алесь Родзін. Дзіцячыя гады Тадэвуша Рэйтана. 2012—2016. З графічнага цыклу «Род Рэйтанаў. Асобы. Падзеі». Гісторык-кансультант Зміцер Юркевіч.

быў выдадзены шляхаправоднік па міцкевічаўскіх і рэйтанаўскіх мясцінах Навагрудскага ваяводства, аўтары якога ўпісалі новую старонку ў гісторыю пытання. Аказалася, што Тадэвуш Рэйтан нарадзіўся 20 жніўня 1741 года[20]. Пасля Другой сусветнай вайны колькасць аўтараў, якія згадалі новую дату ў рознага кшталту энцыклапедыях і артыкулах, вырасла шматкроць. Напрыклад, так лічылі наступныя польскія публіцысты і гісторыкі: Габрыель Чаховіч, Богдан Сухадольскі, Ян Марцынкевіч, Стэфан Майхроўскі, ужо згаданыя Стэфан Кяневіч і Ежы Міхальскі і іншыя.

[14]Яўген Анішчанка. Акоп уздоўж мяжы // Спадчына. 1992. № 3. С. 14—15.

[15]Анатоль Гладышук. Нямцэвічы. Сапраўдная гісторыя. Мінск, 2009.

[16]Генрык Грабоўскі (пляменнік Язэпа Рэйтана, апошняга прадстаўніка роду) і Аліна з Гартынгаў Рэйтанова (жонка Язэпа Рэйтана).

[17]Капліца «ў гонар усіх святых», пабудавана ад 1911 да 1914 г. Захавалася да нашага часу, але ў аварыйным стане. Знаходзіцца за 1 км ад сядзібнага комплексу.

[18]«Рэйтан» — арыгінальная назва твора.

[19]Памылкова назву гэтага тэксту таксама часта выкарыстоўваюць у якасці назвы карціны Я. Матэйкі.

[20]Przewodnik po okolicach mickiewiczowskich i rejtanowskich ziemi nowogródzkiej: z ilustracjami. Baranowicze: Polskie Tow. Krajoznawcze, Oddział w Baranowiczach, 1938. C. 89—90.

## Канцэпцыя Невядомага

Калі лёгка можна пагадзіцца з Нямцэвічам, бо ён нібыта меў дакладную інфармацыю ад сваякоў, і з Шуйскім, які мог памыліцца на адзін год, то з наступнай датай — 1746 — прымірыцца даволі складана. Цалкам не зразумела, на што мог абаперціся той, хто першым увёў яе ў жыццё, і, што больш цікава, чым кіраваліся паваенныя аўтары. Першым знойдзеным намі аўтарам, які згадаў яе ў сваім творы 1916 года, быў Адольф Навачынскі[21]. Што цікава, менавіта ў гэтай даты бадай, што самая шырокая бібліяграфія. Ізноў сярод аўтараў — публіцысты і навукоўцы: амерыканец Норман Дэвіс і палякі Ірэна Гейштарава, Анджэй Загорскі, Еджэй Кітовіч, Чэслаў Саецкі, Марэк Баруцкі, Марцэлі Косман, Януш Тазбір, Раман Афтаназы, Юліуш Бардах, Дарота Надграбска (20 жніўня 1746) і іншыя. Патрапіла гэтая дата і ў энцыклапедыі, а таксама на помнік Тадэвушу Рэйтану на кракаўскіх Плантах. У 2007 годзе копію помніка, які стаяў на вуліцы Баштовай, стварыў скульптар, прафесар Чэслаў Дзвігай. На думку пана Дзвігая, адлітую ў бронзе, менавіта 1746 год з'яўляецца годам нараджэння пана Тадэвуша.

Як кур'ёз можна разглядаць дату 20.8.1752 г., якую невядомы аўтар расчытаў на фотаздымку памятнай дошкі ў капліцы, і якая была змешчана ў дадатках да артыкула Рамана Калеты «Тадэвуш Рэйтан» 1992 года[22].

Цікавым з'яўляецца факт, што сваякі Тадэвуша Рэйтана — Генрык Жавускі[23], Станіслаў Рэйтан[24] і Ганна Герычова ў сваіх творах, дзе згаданы Тадэвуш Рэйтан, не прыводзяць даты яго нараджэння. Адсутнічае яна і ў родавай справе Рэйтанаў, якая захоўваецца ў НГАБ[25].

## Сучасная беларуская гістарыяграфія

Яе бібліяграфія значна больш сціплая за польскую, хоць, як мы бачым, менавіта наш зямлякі — Нямцэвіч і Жавускі стварылі першыя два жыццярысы Тадэвуша Рэйтана.

Сярод нашых даследчыкаў таксама няма адзінай думкі, калі дакладна нарадзіўся адзін з самых знакамітых ліцвінаў-беларусаў. Анатоль Кулагін і Анатоль Федарук у 1989 годзе выказалі думку, што год яго нараджэння — 1741[26].

Гісторык Уладзімір Емяльянчык у верасні 1993 года ў сваім першым артыкуле «Пан Тадэвуш з Грушаўкі»[27], прысвечаным Тадэвушу Рэйтану, згадвае дату 20 жніўня 1742 года. Краязнаўца Міхась Турыянскі, чый артыкул у часопісе «Мастацтва»[28] выйшаў у канцы таго ж года, прытрымліваецца гэтай жа версіі. У 1996 годзе Емяльянчык яшчэ раз прыводзіць 20 жніўня ў якасці даты нараджэння[29]. Праўда, у новай публікацыі «Слова пра ўдзельніка Венскай бітвы»[30], прыводзячы «метрыку хросту» (насамрэч — даваршэнне хросту) Тадэвуша, ён абыходзіцца без даты. Цікава, што артыкул прайшоў незаўважаным, хоць потым двойчы перадрукоўваўся.

У 1999 годзе выйшаў чарговы нарыс жыцця, аўтарам якога быў Алесь Марціновіч[31], ён літаральна паўтарыў словы Емяльянчыка, сказаныя ў 1993 годзе. «Нарадзіўся ён 20 жніўня 1742 года ў маёнтку Грушаўка ў нейкіх шасці кіламетрах ад гэтага мястэчка. Паходзіў з заможнай шляхецкай сям'і.» Хоць Уладзімір Емяльянчык ужо ведаў, што 20 жніўня 1742 года не з'яўляецца датай нараджэння.

Праз два гады гісторык і супрацоўнік НГАБ Валеры Пазднякоў у сваім артыкуле такімі словамі

[21] Адольф Навачынскі (1876—1944) — польскі пісьменнік, эсэіст, публіцыст.

[22] Раман Калета (1924—1989) — гісторык польскай літаратуры, нарыс «Tadeusz Rejtan» змешчаны ў зб. прац «Zyciorysy historyczne, literackie i legendarne». Warszawa, 1992.

[23] Генрык Жавускі (1791—1866) — пісьменнік, публіцыст, палітык. Унук Марты-Марыяны Рэйтан, сястры Тадэвуша, аўтар знакамітага твора «Pamiątki JPana Seweryna Soplicy, cześnika parnawskiego» («Успаміны яснавяльм. пана Севярына Сапліцы, чашніка парнаўскага»). Т. I—IV. Парыж, 1839. (Пераклад твора на беларускую мову М. П. Кенькі: «Успаміны Сапліцы». Менск, «Лімарыус», 2005. 366 с.

[24] «Papiery Pana Ambrozego» (Станіслаў Рэйтан пад псеўд. «Wada»), альманах «Athenaeum»,1845.

[25] НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 2716 «Дело Минского дворянского депутатского собрания о дворянском происхождении рода Рейтенов».

[26] Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Ляхавіцкага раёна. Мінск, 1989.

[27] Емяльянчык, У. Пан Тадэвуш з Грушаўкі / Уладзімір Емяльянчык // Культура. 1993. 14 верасня. С. 6—7.

[28] Турыянскі М. Расколіна гісторыі прайшла праз яго сэрца // Мастацтва. 1993. № 12. С. 41—46.

[29] Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. Мінск, 1996. С. 203—205.

[30] Емяльянчык У. Слова пра ўдзельніка Венскай бітвы // Дыялог. 1998. № 2; Емяльянчык У. Забраны край: Слова пра ўдзельніка Венскай бітвы // Наша Слова. 1998. № 34(368); Слова пра ўдзельніка Венскай бітвы // Ляхавіцкі веснік. 1998. 15 жн. С. 2, 6.

[31] Пан Тадэвуш з-пад Ляхавіч: Тадэвуш Рэйтан // Марціновіч, А. У часе прасветленыя твары / Алесь Марціновіч. Мінск, 1999. С. 167—187.



Уладзіслаў Барвіцкі. Тадэвуш Рэйтан. 1917 год.

згадае тую метрыку: «…Тут чакаюць сапраўдныя адкрыцці. Яскравы прыклад — падрыхтоўка артыкула пра знакамітага палітычнага дзеяча XVIII стагоддзя, нацыянальнага героя Беларусі і Польшчы Тадэвуша Рэйтана, самага актыўнага барацьбіта з узаконьваннем першага падзелу Рэчы Паспалітай на сойме 1773 года. Здавалася, яго біяграфія распрацавана дасканала, асабліва польскімі даследчыкамі. У старых даведніках падаецца дата нараджэння нашага земляка — 20 жніўня 1742 года. Але знаўца генеалогіі беларускай шляхты У. Вяроўкін-Шэлюта адшукаў у метрычнай кнізе аднаго з прыходаў Навагародскага ваяводства запіс пра хрышчэнне Т. Рэйтана. Атрымліваецца, 20 жніўня 1742 года Рэйтан не нарадзіўся, гэта дата яго хрышчэння, да таго другога па ліку абраду. Першае хрышчэнне і нараджэнне адбыліся раней гэтай даты. Каштоўнае ўдакладненне адразу трапіла ў ЭГБ»[32].

Сапраўды, гэта інфармацыя адразу патрапіла ў дзве энцыклапедыі: ЭГБ і БелЭН[33]. Тут хацелася б спыніцца на словах, што «біяграфія ТР распрацавана дасканала, асабліва польскімі гісторыкамі». Гэта не адпавядае рэчаіснасці. Дастаткова зазірнуць у ПСБ, дзе змешчана ўсё, чым валодаюць на дадзены момант польскія гісторыкі.

У 2006 годзе выйшаў другі том Энцыклапедыі ВКЛ[34], які паўтарыў інфармацыю з ЭГБ (БелЭН). Нягледзячы на тое, што дата нараджэння аўтарамі артыкула была пастаўлена пад сумнеў на падставе знойдзенай метрыкі давяршэння хросту, тым не менш беларускія аўтары працягваюць паўтараць «нарадзіўся 20 жніўня».

Новае слова ў гэтай справе было сказана прадстаўнікамі **чацвёртай школы**. У 2014 годзе выходзіць наш артыкул «Калі і дзе нарадзіўся Тадэвуш Рэйтан»[35], у якім даводзіцца, што той нарадзіўся ў канцы кастрычніка або ў самым пачатку лістапада 1740 года, што вынікае з лістоў Дамініка Рэйтана (бацькі Тадэвуша) да Міхала Радзівіла Рыбанькі. На падставе гэтай інфармацыі Арт-суполка імя Тадэвуша Рэйтана абвясціла годам 275-й гадавіны з дня нараджэння Тадэвуша Рэйтана 2015 год і правяла некалькі буйных мастацкіх выстаў і фестываляў у Мінску, Навагрудку, Пружанах і на радзіме героя — у Грушаўцы.

## Дакументальныя крыніцы

У 1998 годзе Уладзімір Емяльянчык ужо ведаў «метрыку хросту» Тадэвуша Рэйтана і нават працытаваў яе, але без пазначэння даты. Чаму сп. Емяльянчык вырашыў, што гэта «метрыка хросту» (калі насамрэч «метрыка давяршэння хросту»), застаецца пытаннем. Праз некалькі гадоў «сенсацыйную знаходку» зробіць У. Вяроўкін-Шэлюта. На жаль, даследчык не звярнуў увагу, што кожны месяц у кнізе «аднаго з прыходаў Ляхавіцкага ваяводства» пазначаецца асобна, і у гэтай кнізе ляхавіцкага касцёла за 1742 год адсутнічаюць запісы за жнівень. Затое ў ліпені хросты ідуць дзень за днём увесь месяц. Таму, на наш погляд, выпадае казаць пра «давяршэнне хросту 20 ліпеня».

Пераклад метрыкі і іншых лацінамоўных дакументаў зроблены сп. Алесем Жлуткам. Згаданыя «сведчанне пра шлюб» Дамініка Рэйтана

[32]Пазднякоў В. С. «Беларуская Энцыклапедыя» і архівы: здабыткі і праблемы супрацоўніцтва. 121 с. // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 2 / Рэд. кал.: Р. П. Платонаў (гал. рэд.) і інш. Мінск, 2001. 360 с.

[33]Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Мінск, 2001. С. 169; Беларуская энцыклапедыя. Т. 13. Мінск, 2001. С. 567.

[34]Энцыклапедыя ВКЛ. Т. 2. Мінск, 2006. С. 528.

[35]Калі і дзе нарадзіўся Тадэвуш Рэйтан? // Краязнаўчая газета. 2014. № 7(504) (частка I).

і Тэрэзы з Валадковічаў, лісты Дамініка Рэйтана да Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі, метрыкі ляхавіцкага касцёла, датычныя Тадэвуша, Ганны-Уршулі і Міхала-Ксаверыя **ў навуковы ўжытак уводзяцца ўпершыню.**

Першым па храналогіі дакументам з'яўляецца запіс у кнізе рэгістрацыі шлюбаў мінскага езуіцкага касцёла аб шлюбе бацькоў Тадэвуша Рэйтана. Дата шлюбу (1 кастрычніка) была ўпершыню згадана польскай даследчыцай Вандай Канчыньскай у 1935 годзе[36]. На жаль, даследчыца не згадала, дзе менавіта адбыўся шлюб, таму пытанне было дыскусійным. Кропку ў пытанні паставіла выпадковая знаходка даследчыка Змітра Дразда. Напрыканцы восені 2014 года ён натрапіў у кнізе рэгістрацыі шлюбаў мінскага езуіцкага касцёла на запіс аб шлюбе Дамініка Рэйтана і Тэрэзы з Валадковічаў.

## Шлюб бацькі Тадэвуша

Дамінік Рэйтан, харунжы гусарскі харугвы Вялікай булавы Вялікага гетмана літоўскага і віленскага ваяводы Міхала-Казіміра Радзівіла Рыбанькі, ажаніўся з Тэрэзай з Валадковічаў, дачкой менскага стольніка Лявона-Паўла Валадковіча. Ванда Канчыньска піша пра Тэрэзу так: «з багатага рускага роду, крэўных Радзівілаў. Слыла з цнот ў Літве і шчырай набожнасці»[37]. Адбылося гэта 1 кастрычніка 1739 года[38]. Да нядаўняга часу немагчыма было праверыць дакладнасць гэтай даты, бо Ванда Канчыньска спаслалася на крыніцу, якая цяпер знаходзіцца ў Вільні. Не пазначыла яна месца, дзе гэта адбылося. Улічваючы, што род Валадковічаў быў шчыльна звязаны з Міншчынай і Мінскам[39], а Дамінік Рэйтан двойчы з Мінска пісаў лісты сваім патронам Радзівілам, літаральна за некалькі дзён да шлюбу, мы лічылі, што шлюб адбыўся ў Мінску, хоць альтэрнатывай мог быць і Нясвіж. Бо і Рэйтаны, і Валадковічы былі радзівілаўскія прыхільнікі. А бацька Дамініка, Міхал-Казімір, быў пахаваны ў 1706 годзе ў нясвіжскім касцёле бернардзінцаў[40].

Усе пераклады з лаціны выкананы сп. Алесем Жлуткам.

***Метрычны запіс***

***praemissis denuntiationibus scilicet 1-ma [27] 2-da [29], 3-tia, 4-ta octobris bene|dixit matrimoni[o] admodum reverendus pater Antonius Woyniłowicz, rector collegii Minscensis | [so]cietatis Iesu inter perillustrem magnificum dominum Dominicum Reytan prae[…] palatinatus Novogro|densis | cum perillustri virgine Teresia Wołodkowiczowna dapiferida palatinatus Minscensis, adstant[ibus] … perillustri magnifico domino Ladislao Wankowicz prae[…] palatinatus Minscensis et perillustri Andrea Woyniłowicz [incisore] | palatinatus Novogrodensia et aliis plurimis.***

*пасля папярэдніх зашлюбінаў, а менавіта першых [21], другіх [29], трэціх, 4-га кастрычніка правялебны айцец Антоній Вайніловіч рэктар мінскага калегіума з Таварыства Езусавага пабла(славіў) сужэнства паміж найяснейшым вяльможным панам Дамінікам Рэйтанам …[41] Наваградскага ваяводства і найяснейшай паннай Тэрэзай Валадковічаўнай стольнікаўнай Менскага ваяводства у прысутнасці найяснейшага вяльможнага пана Ладзіслава Ваньковіча… Менскага ваяводства і найяснейшага Андрэя Вайніловіча крайчага Наваградскага ваяводства і шматлікіх іншых асоб[42].*

Згаданы ў запісе Антон Вайніловіч, у той час рэктар езуіцкага калегіума, па ўсёй верагоднасці, брат Дамініка Рэйтана. Маці Дамініка, Ганна Людавіка з Цяльшэўскіх, першым шлюбам была за Людвікам Вайніловічам, падчашым мсціслаўскім, другім за Стэфанам Трыпольскім, падстолім кіеўскім, трэцім —за Міхалам-Казімірам Рэйтанам[43] мазырскім скарбнікам. Пазней Антон Вайніловіч будзе пераведзены рэктарам у гарадзенскі калегіум, а ў 1742 годзе будзе забіты. Пагроза, відаць, была вялікая і для Рэйтанаў, бо Дамінік Рэйтан піша Радзівілам аб забеспячэнні апекі. Уладзіслаў-Тадэвуш Ваньковіч — продак

[36]Wanda Konczyńska. Rejtan, Korsak i Bohuszewicz na sejmie 1773 roku. Wilno, 1935.

[37]Wanda Konczyńska. Rejtan, Korsak i Bohuszewicz na sejmie 1773 roku. Wilno, 1935, s. 15.

[38]Гл. Краязнаўчая газета.

[39]Фёдар Чарняўскі. Нарыс пра Валадковічаў, продкаў Тадэвуша Рэйтана з боку яго маці. Тэксты № 5. 2014. С. 119—127.

[40]Kasper Niesiecki (1682—1744). Korona polska przy złotey wolnosci starożytnemi rycerstwa polskiego y Wielkiego Xięstwa Litewskiego kleynotami ... ozdobiona ... podana przez X. Kaspra Niesieckiego. T. 3. Lwow, 1740. Str. 860.

[41]Стражнікам наваградскім Дамінік Рэйтан стаў у 1737 г. (PSB, c. 230).

[42]НГАБ, ф. 741, воп. 1, спр. 2, с. 47аб.

[43]Metryka Litewska. Rejestry podymnego WKL Wojewodztwo nowogrodzkie 1690. Warszawa, 2002. Str. 71.


Ц 20. Suplevi Ceremonias Baptizmi Supra Infantem nomine Tadeum (qui prius ex sola aqua erat Baptizatus) filium M.D. Dominici Reyten Excubitoris Nowogrodensis et Teresiae Wołodkowiczowna conjug. leg. Assist. M.D. Leo Wołodkowicz Dapifer Minsc cum M.D. Joanna Gintylina M.D. Martinus Ratomski Sub Dapifer Orszan cum M.D. Constantia Wołodkowiczowa M.D. Stanislaus Wołodkowicz cum M.D. Marianna Woynitowiczowna


Метрыка давяршэння хросту Тадэвуша Рэйтана 20 ліпеня 1742 года.

вядомага мастака Валянціна Ваньковіча, сваяк Валадковічаў. Андрэй Вайніловіч, таксама, блізкі сваяк, магчыма яшчэ адзін брат Дамініка Рэйтана.

У запісе адсутнічаюць згадкі пра бацькоў Тэрэзы — Лявона-Паўла і Францішкі з Быкоўскіх Валадковічаў.

Пасля шлюбу маладыя пасяліліся ў грушаўскай сядзібе, якую Дамінік пабудаваў для сваёй сям'і. Палац гэты, у стылі класіцызму, добра вядомы са знешняга выгляду. У сярэдзіне XIX стагоддзя Напалеон Орда, які неаднаразова быў у Грушаўцы, намаляваў акварэль, на якую патрапіў не толькі палац, але і «мураванка»[44]. Палац, мажліва, драўляны і атынкаваны, а не мураваны, як некаторымі лічылася раней, да нашага часу не захаваўся. У канцы XIX стагоддзя стары спарахнелы будынак быў дэманціраваны Язэпам[45], апошнім з роду Рэйтанаў, і падбудаваны новы, у стылі англійскай вілы.

## Нараджэнне

У 1740 годзе, праз год пасля шлюбу, Тэрэза нарадзіла першынца. Неўзабаве, як гэта звычайна бывае, у немаўляці пачаліся праблемы са страўнікам. Недасведчаны яшчэ ў бацькоўстве і занепакоены станам сына, Дамінік піша ліст Міхалу Казіміру Радзівілу, у якім просіць парады і лекаў. Ліст напісаны лацінаю, што ў ліставанні паміж Рэйтанам і Радзівілам амаль выключэнне.

***Magnifice ac excellentissime Domine, | patrone mi singularissime***

***Tamquam ad singularem meum recurro protectorem | in moderna infantis filii mei valetudine, hic | tantam patitur ventriculi obstructionem, [ut] vix iam non hebdoma tota, quam [sedem] [habuit] | pro hac tam gravi constipatione , rogo magnificam do-| minationem vellet aliquam ordinare medici-| nam, cum informatione quo modo ea utendum, | apoteca[e] autem quid debuerit solvet presenti-| um dator. Ad interim cum tedio expecto eius | gratiam et maneo veteri affectu | Magnificae dominationis vestrae |***

***humillimus | servus | Dominicus Reyten.***

***[...] assignationis |***

***[...] vellem libenter cum |***

***[...] conferre oretenus et [...]|***

***[...] [...] [...] orninare da[...] |***

***[informationem]***

***z Hruszowki [...] 10 [9bris] | 174[0] do Malera[46]***

*Яснавяльможны і найдастойнейшы Пане, адзіны мой патроне.*

*Звяртаюся як да адзінага майго дабрадзея дзеля здароўя майго немаўляці сына. Ён пакутуе на такі вялікі запор страўніка, што ўжо цэлы тыдзень не можа аблегчыцца, дзеля такога цяжкага запору я прашу Вашу Яснавяльможнасць паклапаціцца пра якія-небудзь лекі з указаннем як іх ужываць. Калі нешта трэба будзе ў аптэцы, аплаціць падаўца гэтага ліста. А між тым з трывогаю чакаю яго ласкі і застаюся з даўняй любоўю*

*найніжэйшы слуга Дамінік Рэйтан.*

*З Грушаўкі 10 лістапада 174[0] г.*

Як мы бачым, ліст датаваны 10 лістапада. Вядома, што на 28 кастрычніка прыпадае свята святога Тадэвуша Юды. Як правіла, усім хлапчукам, якія нараджаліся за некалькі дзён да і пасля 28 кастрычніка давалі імёны ў гонар святога Тадэвуша. Калі ад 10 лістапада адняць час хваробы, то выснова напрошваецца сама сабой — Тадэвуш нарадзіўся ў канцы кастрычніка або першымі днямі лістапада, быў ахрышчаны адной вадой і названы быў у гонар святога Тадэвуша[47]. У сувязі з хростам адной вадой, а таксама каб паказаць, што працэдура давяршэння хросту магла адкладацца на працяглы час, не лішне будзе прывесці наступную вытрымку. У дыярыушы Міхала Казіміра Радзівіла за 3 і 11 верасня 1738 года занатавана:

[44]Несцярчук Леанід. Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны. Мінск, 2009. С. 157.

[45]Язэп Рэйтан (1857—1910), сын Стафана, унук Дамініка і праўнук Міхала-Ксаверыя Рэйтана. Ажаніўся з Алінай з Гартынгаў. Памёр ад сухотаў. Беспатомны.

[46]AGAD, AR. Dz. V, sygn. 13025, str.74.

[47]Святы Юда Тадэвуш — хрысціянскі святы, які з'яўляўся сваяком Езуса Хрыстуса. Яму належыць аўтарства адной з кніг Новага Запавету — Пасланне святога Апостала Юды. Здавён святога Юду Тадэвуша ўшаноўваюць як апекуна ў безнадзейных справах.

*«3. Ужо пэўна смяротнаю была жонка мая, усё ж праз старанне жанчыны адной, Пашкоўскай, войтавай Нясвіжскай, і пана Маклера, дохтара medicinae, а найбольш за ўсё з ласкі Божае а гадзіне 12-й і мінуце 1-й з палу дня павіла жонка мая дачку, каторай я паводле хросту толькі, без цырымоніі, якую на далейшы час адклаў, даў імя Тэафіля Канстанцыя Тэкля Эўфімія і Тэрэза…*

*11. Зранку адправіліся хрэсьбіны Ульрыка Радзівіла, канюшага В. К. Літ., каторы да 26 гадоў веку свайго не быў ахрышчаны, толькі вадою; цырымонію тую ад часу да часу аддалялі...»*[48]

Паўстае пытанне, чаму ў кнізе рэгістрацыі хростаў Ляхавіцкага касцёла адсутнічае запіс аб хросце Тадэвуша. Адказу на яго мы пакуль што не маем. Мажліва, нарадзіўся Тадэвуш не ў Грушаўцы, і той запіс яшчэ знойдзецца ў кнізе іншага касцёла.

Або яго проста не было, і бацька Тадэвуша ахрысціў яго дома г. зв. засцерагальным хростам «адной вадой».

Другі ліст Дамінік напіша праз год, ізноў лацінаю. Цікава. І зноў ён будзе датычыцца стану здароўя сына, бо ў адрозненне ад Рэйтанаў, Радзівілы — Міхал Казімір і Францішка Уршуля мелі ўжо багаты досвед — былі на той час бацькамі некалькіх дзяцей.

***Magnific[e] Excellentissime Domine***

***Felicem in nostras oras adventum gratulor Magnificae Dominationis | vestrae, non minus et mihi gaudeo, quod sub | hoc mihi oportunum tempus eius hic exis-| tentiam habemus. Videlicet misericordia Do-| mini Dei mei dedit nobis filium, sed huic ul-| [cus] [grandis] in ipsa dextra mamilla inventus est. | Ad meum ergo singularem benefactorem et pa-| tronum recurro [ut] huic egritudini magno | consilio et experta praxi subesse dignetur: | iterando ergo quam humillimam expostula-| tionem maneo cum omni submissione | Magnificae Dominationis vestrae |***

***humillimus servus | Dominik Reyten |***

***Si [eius] erit gratia aliquid|***

***[mitendi] rogo informationem |***

***quibus [...dum] [...] modis***

***z Hruszowki [...] 17 [... bris] | 1741 do Malera***[49]

*Яснавяльможны, найдастойнейшы Пане.*

*Віншую Яснавяльможнага Пана са шчаслівым прыездам у нашы краі, не менш радуюся я і таму, што пад гэты спрыяльны для мяне час мы маем яго тут. А менавіта ў сваёй міласэрнасці Пан Бог мой даў нам сына, але ў яго быў знойдзены вялікі нарыў на правай смочцы. Таму я звяртаюся да майго адзінага дабрадзея і патрона, каб ён дазволіў парадзіць гэтай хваробе вялікай парадаю і апрабаваным лячэннем: паўтараючы як найпакорнейшую просьбу застаюся з усёй адданасцю*

*найніжэйшы слуга Вашай Яснавяльможнасці Дамінік Рэйтан.*

*З Грушаўкі [17 верасня] 1741 г.*

Цікава, што паміж гэтымі двума лістамі Дамінік Рэйтан больш нічога Радзівілу не пісаў.

## Давяршэнне хросту

У наступным, 1742 годзе, як сведчыць запіс метрыкі, адбылося давяршэнне хросту Тадэвуша Рэйтана. Гэты запіс быў вядомы даследчыку У. Вяроўкіну-Шэлюту, але пададзены быў з памылкай. Запіс датаваны не жніўнем, але ліпенем, бо кожны месяц у гэтай кнізе пазначаецца асобна. Той ліпень быў увогуле багаты на хросты. А вось запісаў за жнівень — аніводнага.

**1742 ліп. 20 — [Ляхавічы]**

*Метрыка дапаўнення хросту Тадэвуша Рэйтана, якое адправіў Ляхавіцкі пробашч Пётр Рэзан.*

Тэкст з А

***20. die. Supplevi ceremonias baptizmi supra infandema) nomine Ta|deum (qui prius ex sola aqua ereatb) baptizatus) filium magnifici domini | Dominici Reyten excubitoris Novogrodensis et Teresse Wolodko-|wiczowna coniugum legittimorum Assistentes magnificus dominus Leo Wolodkowicz dapifer Minscensis cum | magnifica domina Ioanna Gintylina, magnificus dominus Martinus Ratomski subdapifer Orszanensis | cum magnifica domina Constantia Wolodkowiczowa, magnificus dominus Stanislaus Wolodkowicz | cum magnifica domina Marianna Woyniłowiczowna.***[50]

*a) Так у ркп. трэба чытаць infantem.*

*b) Так у ркп. трэба чытаць erat.*

---

[48]Дыярыюш Князя Міхала Казімера Радзівіла, Ваяводы Віленскага, Гетмана Вялікага В.К.Літ. // Спадчына. № 4. 1995. С. 35—60.

[49]AGAD, AR. Dz. V, sygn. 13025, str. 75.

[50]НГАБ, ф. 937 (Мінская рыма-каталіцкая кансісторыя), воп. 4, спр. 207, арк. 243адв. (А).

*20 ліпеня. Дапоўніў абрад хросту над дзіцем на імя Тадэвуш (які раней быў ахрышчаны з адной вады), сынам законных сужэнцаў яснавяльможнага пана Дамініка Рэйтана, Наваградскага стражніка, і Тэрэзы Валадковічаўны. Прысутнічалі: яснавяльможны пан Леў Валадковіч, Мінскі стольнік, з яснавяльможнай пані Янай Гінтылінай, яснавяльможны пан Марцін Ратомскі, Аршанскі падстолі, з яснавяльможнай пані Канстанцыяй Валадковічавай, яснавяльможны пан Станіслаў Валадковіч з яснавяльможнай пані Мар'янай Вайніловічаўнай.*

Згаданы Лявон Павал Валадковіч, стольнік мінскі, — бацька Тэрэзы. Станіслаў-Пётр — ягоны брат, які ў 1731 годзе ўжо быў прэорам мінскім і вікарыем беларускім[51]. Мар'яна Вайніловіч — як можна меркаваць, дачка Станіслава Корсака і Кацярыны дэ Раес (кальвіністка, прыняла каталіцтва пасля шлюбу з Корсакам), харунжых наваградскіх[52], першым шлюбам за Геранімам Жабай, падкаморым наваградскім, другім за Антоніем Вайніловічам, войскім наваградскім. Падобна, што і Яна Гінтаўна, як і Мар'яна Вайніловіч, таксама была сваячніцай Валадковічаў.

## Метрыкі хростаў Ганны-Уршулі і Міхала-Ксаверыя Рэйтанаў

У кантэксце дадзенага даследавання маюць пэўную цікавасць яшчэ два дакументы, якія датычацца хростаў ягонай сястры і брата.

Хрост Ганны Уршулі адбыўся 28 лістапада 1742 года. Хрост звычайны, таму, хутчэй за ўсё, яна нарадзілася незадоўга да яго. Хросным яе стаў Георг Абрамовіч, харунжы пяцігорскай харугвы Міхала Казіміра Радзівіла, сябра Даменіка Рэйтана. Асісціравалі дзед Ганны — Лявон-Павал Валадковіч і ўжо вядомая нам Яна Гінтаўна.

У наступным, 1743 годзе, 5 снежня ў Грушаўцы сабралася больш прадстаўнічая грамада. Як сведчыць запіс, у прысутнасці Міхала Радзівіла[53], Юстыны Рдултоўскай, Георгія Сапегі, Францішкі Радзівіл настаяцель касцёла ў Ляхавічах Бенедыкт Нарніцкі імем Міхал-Ксаверы ахрысціў другога сына Даменіка і Тэрэзы Рэйтанаў. Гэты запіс перакрэслівае меркаванне тых, хто лічыў, што Міхал быў найстарэйшы з сыноў Даменіка Рэйтана, таму і названы быў у гонар дзеда Міхала Казіміра, напрыклад Ванды Канчыньскай. Як мы бачым, паміж Тадэвушам і Міхалам розніца ва ўзросце складала больш за тры гады. Вядома, што Язэп нарадзіўся перад Антонам, а той у 1754 годзе. Яшчэ пазней, але перад 1760 годам нарадзіўся Станіслаў. Таму дзіўна выглядае інфармацыя, якую падаў стрыечны ўнук Тадэвуша Рэйтана, вядомы пісьменнік Генрык Жавускі. Згодна з ёй, усе сыны Даменіка Рэйтана — Тадэвуш, Міхал, Язэп, Антон і Станіслаў вучыліся ў наваградскім езуіцкім калегіуме разам з галоўным героем твора «Успаміны Сапліцы». Як мы бачым, розніца ва ўзросце паміж братамі была вельмі вялікая, каб ім усім разам вучыцца ў адзін час. Што да месца вучобы Тадэвуша, то найбольш верагодна, што ім быў нясвіжскі езуіцкі калегіум, бо наваградскі ў 1750 годзе разам з паловай горада «пайшоў дымам».

Цікава, што хросны бацька Міхала, Міхал Казімір Радзівіл, насамрэч у гэты час знаходзіўся па-за межамі ВКЛ. Юстына Рдултоўская, верагодна, з Хлусевічаў, жонка Антона Юрыя Рдултоўскага, наваградскага гродскага суддзі. Яны мелі сыноў Яўхіма і Хрызастома. Яўхім у 1775 годзе ажэніцца з Мартай Марыянай Рэйтан. Менавіта іх унукам і будзе Генрык Жавускі.

## Высновы

У святле новых фактаў, да з'яўлення новай інфармацыі, можна з высокім адсоткам упэўненасці сцвярджаць, што дата нараджэння Тадэвуша Рэйтана прыпадае на канец кастрычніка або самы пачатак лістапада 1740 года. Больш дакладна адказаць на гэта пытанне пакуль што не ўяўляецца магчымым.

[51] Чарняўскі Фёдар.Ураднікі Менскага ваяводства XVI—XVIII стст. Выпуск III. Мінск, 2009. С. 95.
[52] Чарняўскі Фёдар. Ураднікі Менскага ваяводства XVI—XVIII стст. Выпуск II. Мінск, 2009. С. 190.
[53] Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька (1702—1762)— ваявода віленскі і гетман вялікі літоўскі, муж Францішкі Уршулі Радзівіл (1705—1753), пісьменніцы, драматурга, заснавальніцы тэатра ў Нясвіжы, і бацька Караля Станіслава Пане Каханку (1734—1790).

**Кірыл Мяцеліца**

# Камунар

Адной з галоўных славутасцей парыжскіх могілак Пер-Лашэз з'яўляецца ўчастак каменнай сцяны, вядомы як «Сцяна камунараў». Тут, у іх паўночна-ўсходняй частцы, 27 мая 1871 года былі расстраляны 147 абаронцаў Парыжскай камуны. З тых часоў гэтае месца ператварылася ў самую сапраўдную Мекку для левaрадыкальных «паломнікаў», якія ладзілі тут «маёўкі», мітынгі і спявалі рэвалюцыйныя песні. З часам побач сталі вырастаць магілы рэвалюцыянераў, сацыялістаў і камуністаў. Тут жа знайшоў свой апошні прытулак і наш зямляк Валерый Урублеўскі, які быў не толькі бліжэйшым паплечнікам Кастуся Каліноўскага, але і актыўным удзельнікам Парыжскай камуны.

Урублеўскі апынуўся ў Парыжы ў канцы 1864 года. Пасля паражэння студзеньскага паўстання і пакарання яго правадыроў Кастуся Каліноўскага і Рамуальда Траўгута царскімі катамі значная частка паўстанцаў разышліся па ўсёй Еўропе. Многія, у тым ліку і сам Урублеўскі, выбралі месцам эміграцыі сталіцу Францыі. У той час Парыж імкліва мяняў сваё аблічча. Натхнёны падтрымкай імператара Напалеона III, барон Асман праводзіў работы па перапланіроўцы горада. Нягледзячы на пратэсты французскіх інтэлектуалаў, накшталт Заля і Гюго, на месцы брудных трушчоб, старадаўніх цэркваў і могілак пачалі ўзнікаць бульвары і паркі. Там, дзе раней быў хаос, запанавала правільная геаметрыя — усё ў поўнай адпаведнасці з моднай тады ідэяй «свабоднай цыркуляцыі паветра». Наўрад ці будзе вялікім перабольшаннем сказаць, што сучасны Парыж з яго шырокімі вуліцамі і завіткамі на дамах — гэта дзецішча Асмана.

Нягледзячы на пратэсты французскіх інтэлектуалаў, накшталт Заля і Гюго, на месцы брудных трушчоб, старадаўніх цэркваў і могілак пачалі ўзнікаць бульвары і паркі. Там, дзе раней быў хаос, запанавала правільная геаметрыя



Валерый Урублеўскі.

Зрэшты, Урублеўскаму было не да ўсёй гэтай прыгажосці. Пакуль на яго радзіме лютавалі царскія рэпрэсіі, ён ледзь зводзіў канцы з канцамі ў Францыі. Так, Урублеўскі ўдзельнічаў у жыцці розных эмігранцкіх арганізацый накшталт «Аб'яднання польскай эміграцыі» ці «Дэлегацыі Літоўскай», але трэба было неяк зарабляць сабе на хлеб. А з гэтым якраз былі праблемы, таму што ніхто не хацеў браць на працу чалавека, які, па сутнасці, быў інвалідам — з-за ранення, атрыманага ў адной з сутычак з казакамі, левая рука Урублеўскага бездапаможна матлялася ў паветры. Сябры неаднаразова прапаноўвалі дапамогу свайму таварышу, але гонар не дазваляў яму браць у іх грошы. У рэшце рэшт Урублеўскі змог уладкавацца ліхтаршчыкам. У спякоту і холад, у дождж і снег ён выконваў адну і тую ж працу — нязграбна ўзбіраючыся па лесвіцы, вечарам ён запальваў ліхтары на парыжскіх вуліцах, а раніцай гасіў іх. Неўзабаве, праўда, Урублеўскі змог уладкавацца на больш прэстыжную працу ў друкарні.

Пад уплывам свайго эмігранцкага сябра Ярaслава Дамброўскага (яшчэ аднаго героя 1863 года) Урублеўскі пачаў сур'ёзна цікавіцца ваеннай

справай і нават праслухаў курс вышэйшай ваеннай школы ў Парыжы ў якасці вальнапісанага. Нічога дзіўнага ў гэтым няма, калі прыняць да ўвагі наступнае: многія з эмігрантаў лічылі, што барацьба з царскай Расіяй яшчэ не скончана і новае паўстанне можа разгарэцца ў бліжэйшы час. Хто б мог тады ўявіць, што ваенныя таленты Урублеўскага, Дамброўскага і іншых спатрэбяцца ў зусім іншым месцы. Урублеўскі даўно ўжо быў уцягнуты ў палітычнае жыццё Другой французскай імперыі. Свабода, роўнасць і братэрства не былі для яго пустым гукам. Як чалавек ультралевых поглядаў, ён без праблем знаходзіў агульную мову з арганізацыямі парыжскіх рабочых, якія прымыкалі да І Інтэрнацыянала. З часам Урублеўскаму нават атрымалася перацягнуць на свой бок многіх больш памяркоўных эмігрантаў. У ліпені 1870 года выбухнула Франка-пруская вайна, за якой Урублеўскі сачыў з вялікай цікавасцю. Першапачаткова яму было, па вялікім рахунку, усё роўна, хто возьме верх у гэтым супрацьстаянні дзвюх манархій, аднак далейшыя падзеі прымусілі яго змяніць меркаванне. Нягледзячы на ўвесь свой гераізм, французская армія цярпела адно паражэнне за другім. Пад кіраўніцтвам геніяльнага Хельмута фон Мольтке добра адладжаная ваенная машына Прусіі знішчала ўсё на сваім шляху. Становішча Францыі стала проста катастрафічным, калі 1 верасня 1870 года пад Седанам здаліся каля 100 тысяч французскіх салдат разам з Напалеонам ІІІ. Праз тры дні ў Парыжы была абвешчана рэспубліка. У спешным парадку сфарміраваўся «ўрад нацыянальнай абароны» на чале з ваенным губернатарам сталіцы генералам Трушо. Меркавалася, што новы орган улады будзе дзейнічаць аж да склікання Устаноўчага сходу.

У гэтай сітуацыі вялікая частка былых паўстанцаў вырашыла прыняць удзел у вайне на баку Францыі. Матывацыя была простая — абарона французскай дэмакратыі ад нямецкіх рэакцыянераў. «Аб’яднанне польскай эміграцыі» звярнулася да Трушо з просьбай дазволіць фарміраванне польскіх вайсковых часцей з эмігрантаў. Перамовы вёў асабіста Урублеўскі. Нягледзячы на катастрафічную сітуацыю на фронце (да гэтага часу немцы ўжо ўстанавілі блакаду Парыжа), асцерагаючыся дэмаршаў з Санкт-Пецярбурга, Трушо адмовіў палякам. Праўда, пры гэтым генерал дазволіў усім ахвотным уступаць у шэрагі Нацыянальнай гвардыі. Урублеўскі з таварышамі пагадзіліся і на гэта. На працягу чатырох месяцаў яны мужна абаранялі Парыж нароўні з французамі.

Гэта было цяжкае выпрабаванне. Парыжане пакутавалі не столькі ад артылерыйскіх абстрэлаў прусакоў, колькі ад голаду і зімовага холаду. Дрэвы з выбудаваных Асманам бульвараў і паркаў ішлі на дровы разам з антыкварнай мэбляй часоў Бурбонаў. З ежай было яшчэ складаней. Калі харчовыя запасы ў горадзе амаль скончыліся, на талерках простых парыжан усё часцей сталі з’яўляцца сабакі, каты і пацукі. Неўзабаве сякера мясніка дабралася і да заапаркаў. Былі з’едзены нават усеагульныя ўлюбёнцы — сланы Кастар і Палукс. Ужо ў студзені 1871 года на аднаго жыхара Парыжа выдавалі не больш за 300 грамаў хлеба. Прамысловасць замерла, крамы зачыніліся. Мільённы горад быў паралізаваны. Адзінай магчымасцю зарабіць для многіх была служба ў Нацыянальнай гвардыі, дзе плацілі 1,5 франка ў дзень. На гэтым фоне ўсеагульную незадаволенасць выклікала раскошнае жыццё насельнікаў багатых кварталаў, якія маглі сабе дазволіць купляць усё, што ім захочацца на «чорным рынку». У горадзе спеў сацыяльны выбух.

У студзені 1871 года паміж Францыяй і Германіяй было падпісана перамір’е. Паралельна на выбарах у Нацыянальны сход перамаглі прыхільнікі заключэння міру любой цаной. Новы ўрад узначаліў Адольф Цьер, які не карыстаўся асаблівым даверам. Каб не раздражняць парыжан сваёй прысутнасцю, ён разам з дэпутатамі Нацыянальнага сходу пераехаў у Версаль. Такія непапулярныя крокі Цьера, як роспуск большасці батальёнаў Нацыянальнай гвардыі (адзінае месца заробку для многіх парыжан) і адмена ўведзенага ў самым пачатку вайны мараторыя на выплату пазык па вэксалях, выклікалі ўсеагульнае абурэнне. Тады яшчэ ніхто не думаў пра тое, што меры гэтыя былі змушанымі, і напружанне расло. У нейкі момант Нацыянальная гвардыя ператварылася ў аплот апазіцыі версальскаму ўраду.

Сітуацыя дасягнула крытычнай кропкі вясной, калі ўрадавыя войскі паспрабавалі абяззброіць Нацыянальную гвардыю. Усё скончылася тым,

што 18 сакавіка 1871 года ўладу ў сталіцы Францыі захапілі гарадскія нізы, а праз дзесяць дзён была абвешчана Парыжская камуна, якая ўвайшла ў савецкую гістарыяграфію як «першае ў гісторыі чалавецтва ажыццяўленне дыктатуры пралетарыяту». Калі дзеячы правага крыла польскай і беларускай эміграцыі сімпатызавалі Цьеру, то Урублеўскі, Дамброўскі, а разам з імі і яшчэ каля 600 былых удзельнікаў паўстання 1863 года адкрыта ўсталі на бок камунараў. Тут варта зрабіць невялікую рэмарку: да ўдзелу ў гэтай авантуры іх падштурхнула не столькі салідарнасць са «справай пралетарыяту», колькі думка пра далёкую радзіму. Дамброўскі пісаў, што сацыяльная рэвалюцыя ў Францыі павінна была змяніць парадак рэчаў ва ўсёй Еўропе і такім чынам прывесці да вызвалення іх айчыны. На цэлыя 73 дні (з 18 сакавіка па 28 мая 1871 года) Парыж стаў аўтаномным. Тэадор Зелдзін пісаў, што на гэты час горад «паўстаў агаленым». Раптоўна апусцелі міністэрствы, казармы, паліцэйскія ўчасткі, банкі, суды. Зніклі нават найменшыя прыкметы буржуазнай улады.

Сацыяльны склад «камунараў» быў неаднастайны. Тут можна было сустрэць і мануфактуршчыка Шарля Белэ, які вадзіў сяброўства з Прудонам, і пераплётчыка Эжэна Верлена, і мастака Густава Кюрбэ. Ва ўсіх гэтых людзей былі зусім розныя погляды — ад даволі ўмераных да такіх, якім пазайздросціў бы нават Пол Пот. У палітычным жыцці Парыжа панаваў хаос, які лепш за ўсё ілюструюць словы, кінутыя адным «камунарам» другому: «Лепшым днём у маім жыцці будзе той, калі я арыштую Вас». Зрэшты, нават у такім становішчы дзеячы Камуны спрабавалі праводзіць нейкія рэформы. Была забаронена праца ў начную змену, устаноўлена мінімальная аплата працы, зменена пенсійная сістэма, аднак усе гэтыя спробы нешта змяніць былі стыхійнымі і часта нерашучымі. У многіх узнікала пачуццё, што «камунары» баяцца ўлады, якая трапіла ў іх рукі. Баяліся і не ўмелі з ёй абыходзіцца. Што можна чакаць ад урада, членамі якога былі людзі накшталт Жуля Алікса, які распрацаваў альтэрнатыўную тэлеграфу сістэму «сімпатычных слімакоў». Па ідэі гора-вынаходніка слімакі павінны былі поўзаць шчыльнымі радамі па краіне і пасылаць адзін аднаму сігналы з дапамогай антэн, то-бок іграць ролю гэтакіх семафораў.

Для Урублеўскага ж уся гэтая гісторыя з Камунай пачалася з таго, што адзін знаёмы «камунар» прывёў яго ў ваенную камісію і прадставіў як выдатнага стратэга. Калі Урублеўскага папрасілі выказаць свае думкі пра вядзенне баявых дзеянняў супраць урадавых войскаў, то выявілася, што яго словы адзін у адзін супадаюць з прапановамі аднаго з членаў камісіі Фелікса Піа. Высветлілася,

Урублеўскі, Дамброўскі, а разам з імі і яшчэ каля 600 былых удзельнікаў паўстання 1863 года адкрыта ўсталі на бок камунараў. Тут варта зрабіць невялікую рэмарку: да ўдзелу ў гэтай авантуры іх падштурхнула не столькі салідарнасць са «справай пралетарыяту», колькі думка пра далёкую радзіму



Магіла Урублеўскага на могілках Пер-Лашэз.

што за некалькі дзён да гэтага Урублеўскі даслаў яму свой план. Былога паўстанца адразу ж узвялі ў чын генерала Камуны і даручылі абараняць паўднёвы сектар Парыжа. Ужо ў красавіку ўсё «пярэстае» рэвалюцыйнае войска з беднякоў, люмпенаў, валацуг і дробных буржуа было падзелена на дзве арміі, якія ўзначалілі Урублеўскі і Дамброўскі. Трэба сказаць, што абодва яны і сапраўды праяўлялі цуды адвагі і мужнасці на полі бою. Урублеўскі адразу ж заслужыў усеагульную павагу як умелы і дасведчаны камандзір, які клапоціцца пра сваіх падначаленых. Нягледзячы на адчайнае становішча Камуны, Урублеўскі не аднойчы вёў сваіх салдат у шалёныя штыкавая атакі. Часта толькі яго неўтаймоўная воля ратавала становішча. Тым не менш сілы былі відавочна няроўныя. У канцы мая ўчастак абароны Парыжа пад кіраўніцтвам Урублеўскага быў, па сутнасці, адзіным агменем супраціву версальскім войскам. Неўзабаве не стала і яго. Справа тут не толькі ў перавышаючай колькасці ўрадавых войскаў, але яшчэ і ў з’яве, якая пасля будзе названая «квартальным шавінізмам». Калі першыя часці «версальцаў» толькі ўвайшлі ў Парыж, многія абаронцы Камуны папросту разбегліся для абароны сваіх вуліц. Менавіта таму самыя крывавыя баі ішлі на гарадскіх барыкадах. Наваяўлены генерал толькі цудам пазбег палону і яшчэ нейкі час, нягледзячы на тое, што быў завочна прысуджаны да смерці, заставаўся ў Парыжы, спакойна разгульваючы па бульварах і наведваючы кафэ. Так, сын Адама Міцкевіча Уладзіслаў пазней успамінаў, што аднойчы сустрэў Урублеўскага і стаў угаворваць яго з’ехаць у Лондан, аднак генерал Камуны рашуча адмовіўся, заявіўшы, што не хоча пакідаць парыжскіх рабочых, якія так сардэчна да яго ставяцца. Тым не менш неўзабаве Урублеўскаму ўсё ж давялося пакінуць Парыж. Дапамог яму ў гэтым Карл Маркс, які даслаў у якасці «інтэрнацыянальнай дапамогі» пашпарт на імя прусака В. Вальдэмара. Ён жа дапамог былому паўстанцу і «камунару» ўладкавацца ў бальніцу Лонданскага ўніверсітэта, дзе той змог бы падлячыць свае баявыя раны. Удзячны Урублеўскі стаў частым госцем у доме тэарэтыка камунізму, які ўключыў яго ў работу Генеральнага савета І Інтэрнацыяналу ў якасці сакратара па польскіх справах.

> Сацыяльны склад «камунараў» быў неаднастайны. Тут можна было сустрэць і мануфактуршчыка Шарля Белэ, які вадзіў сяброўства з Прудонам, і пераплётчыка Эжэна Верлена, і мастака Густава Кюрбэ

Іншым удзельнікам Парыжскай камуны пашанцавала менш: 12 000 з іх (у тым ліку і Дамброўскі) загінулі ў баях, а яшчэ каля 9 000 былі асуджаны на смерць. У апошнім акце гэтай трагедыі «камунары» адважыліся на крок, які не можа выклікаць нічога, акрамя агіды. Калі 22 мая ўрадавыя войскі падышлі да Трыумфальнай аркі, паўстанцы вырашылі падпаліць палац Цюільры, які быў рэзідэнцыяй усіх французскіх манархаў, пачынаючы з Людовіка XVI. Гэты пазбаўлены ўсякай матывацыі ўчынак быў толькі праявай тупой злосці. У якасці кнота «камунары» вырашылі выкарыстаць мэблю і творы мастацтва, скрадзеныя з дома Цьера. Да справы падышлі грунтоўна — газай і алівай былі замазаны сцены ўсіх залаў. П’яныя салдаты Камуны падкацілі некалькі бочак з порахам. Ноччу Цюільры ўзляцеў у паветра. Генерал Бержэрэ, які камандаваў гэтым актам вандалізму, заявіў, што хацеў бы, каб падобны лёс напаткаў усе парыжскія будынкі. Сказана — зроблена. Раніцай 24 мая гарэлі міністэрства фінансаў, Пале-Раяль, Палац юстыцыі, Палац Ганаровага легіёна, Музычны тэатр і бібліятэка Луўра, у якой захоўвалася каля 40 000 унікальных кніг і манускрыптаў. Так бясслаўна скончылася першая спроба пабудаваць «дыктатуру пралетарыяту».

Што да Урублеўскага, то ў яго жыцці пачалася новая старонка. Цяпер яго ведалі не як жабракаэмігранта, а як аблашчанага славай героя двух паўстанняў. Калі ў 1885 годзе французскі ўрад аб’явіў амністыю ўдзельнікам Парыжскай камуны, Урублеўскі не раздумваючы вярнуўся ў Францыю, дзе пасяліўся ў Ніцы. Тут ён перажыў некалькі замахаў і пад старасць перабраўся жыць у адно з Парыжскіх прадмесцяў, дзе і памёр 5 жніўня 1908 года. Прах яго быў перавезены ў Парыж і пахаваны побач з магіламі іншых камунараў. Пахавальная працэсія прайшла па тых вуліцах і плошчах, на якіх ён змагаўся ў 1871 годзе.

Мікалай Анісавец

# Графіня Кацярына Бараноўская

**Стагоддзе таму гэтую жанчыну ведалі не толькі на Лоеўшчыне, чуткі аб яе жыцці і дабрачыннасці шырока распаўсюдзіліся на ўсім паўднёвым усходзе Беларусі. Жанчына вялікага розуму, з моцным характарам, дзелавітая і настойлівая, прыстойная і справядлівая, яна карысталася павагай не толькі мясцовых памешчыкаў, але і сялян. Невыпадкова, што яе імя захавалася ў мясцовай тапаніміцы, аб ёй яшчэ і цяпер расказваюць легенды.**

Размова ідзе аб уладальніцы Суткоўскага маёнтка і прыгожага палаца на маляўнічым беразе Дняпра. Шмат хто і цяпер лічыць, што менавіта яна — графіня Кацярына Васільеўна Бараноўская — пабудавала гэты цудоўны палац. Але гэта не так.

## Ад вытокаў

Заснавальнікам Суткоўскага маёнтка быў адзін з найбагацейшых шляхцічаў Міншчыны, уладальнік Лоеўскага зямельнага ключа, генерал-лейтэнант граф Юзаф Міхайлавіч Юдзіцкі, род якога валодаў гербам Радван. Менавіта ён абраў на пачатку 90-х гадоў XVIII стагоддзя гэтую цудоўную мясціну для свайго палацава-паркавага комплексу і распачаў будаўніцтва. Пасля смерці графа недабудаваны маёнтак з землямі і сялянамі вёсак Суткоў, Ісакавічы, Казіміраўка, Міхалёўка дасталіся сям'і яго сярэдняга сына Станіслава, удзельніка паўстання Тадэвуша Касцюшкі. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху Станіслаў зазнаў пажыццёвую царскую катаргу з канфіскацыяй усёй нерухомай маёмасці. Суткоўскае памесце мела 9514,7 дзесяціны (10 371 гектар) зямлі, у тым ліку 1221 дзесяціну ворыва, 170 дзесяцін сенажацяў, 5653 дзесяціны лесу. Вядома, што Станіслаў Юдзіцкі адбыў чатыры гады катаргі, затым быў памілаваны царом Аляксандрам I і памёр у 1828 годзе. Яго дачка Юлія Ідалія была замужам за старшынёй Мазырскага два-





Васіль Мікітавіч Сабашнікаў і Серафіма Савацьеўна Скарнякова. Бацькі графіні Бараноўскай.

ранскага сходу Янам Казіміравічам Рудзіеўскім, род якога меў герб Равіч. Пасля смерці бацькі яна перапісала памесце Суткоў на свайго мужа. Ян Рудзіеўскі на пачатку XIX стагоддзя закончыў будаўніцтва Суткоўскага палацава-паркавага комплексу. Юлія Юдзіцкая памерла ў 1839 годзе. Яе сын Генрых Рудзіеўскі па невядомых нам прычынах прадаў маёнтак у 1870 годзе Чайкоўскім.

На пачатку 80 гадоў XIX стагоддзя Суткоўскае памесце выкупіла ў Чайкоўскіх сям'я Аляксандра Іванавіча і Кацярыны Васільеўны Бараноўскіх, якія тады толькі пажаніліся. Напэўна, набыць прыгожы маёнтак маладым парэкамендаваў сам Пётр Ільіч Чайкоўскі, бо вядома, што Бараноўскіх у Маскве асабіста пазнаёміў са славутасцю брат кампазітара Сяргея Танеева Віктар.

Аляксандр Бараноўскі (5.04.1836—1898 г.) паходзіў з беларускай шляхты, якая мела польскія карані і валодала графскім тытулам і дзедзічнымі землямі ў Аршанскім павеце і належала да герба Ястрабец. Ён скончыў Пецярбургскае вучылішча правазнаўства, дзе атрымаў вышэйшую адукацыю, і працаваў міравым суддзёй у Санкт-Пецярбургу. Яго старэйшы брат, Ягор Іванавіч Бараноўскі (1821—1914 гг.), быў у 1853—1857 гадах Арэнбургскім віцэ-губернатарам, у 1857—1861 гадах займаў пасаду Арэнбургскага, а ў 1861—1862 гадах — Саратаўскага губернатара. Пасля выхаду ў адстаўку займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю. Браты Бараноўскія прытрымліваліся поглядаў, блізкіх да ліберальных.

Кацярына Васільеўна нарадзілася ў сям'і купца і золатапрамыслоўца Васіля Мікітавіча Сабашнікава ў гарадку Кяхта на мяжы Расіі і Манголіі. Род Сабашнікавых выйшаў з сялян Валагодскай губерні, іх продкі ўдзельнічалі ў асваенні Сібіры. Дзед будучай графіні, Мікіта Піліпавіч, служыў павераным Расійска-Амерыканскай гандлёвай кампаніі. Ён пасяліўся ў Кяхце, ажаніўся, набыў дом, тут у яго нарадзілася дзявяцера дзяцей: чатыры сыны і пяцёра дачок.

Яе бацька, Васіль Мікітавіч, нарадзіўся ў 1820 годзе. Ён быў з тых моцных рускіх мужыкоў, якія здольныя былі разбагацець дзякуючы сваёй працы і прыроднаму розуму. Спачатку сумесна з братамі займаўся аптовым гандлем кітайскім чаем. Затым разам з кампаньёнамі пачаў пошукі залатарудных радовішчаў і ў вярхоўях рэк Аноа і Зеі знайшоў залатыя россыпы, што паклала пачатак дзейнасці Зейскай золатапрамысловай кампаніі. Да 38-гадовага ўзросту ён змог набыць значны капітал і ажаніўся з карэннай сібірачкай Серафімай Савацьеўнай Скарняковай, якая была на 19 гадоў за яго маладзейшай.


Муж і жонка Клумавы. 1900 г.

Серафіма Савацьеўна, нягледзячы на маладосць, паспела атрымаць добрую адукацыю — скончыла Смольны інстытут шляхетных дзяўчат.

17 сакавіка 1859 года ў Васіля і Серафімы нарадзілася першае дзіця. Дзяўчынку назвалі Кацярынай. У Кяхце нарадзіліся таксама Антаніна (1861 г.), якую родныя заўсёды звалі Нінай, і хлопчыкі Аляксей і Васіль, якія памерлі ў раннім узросце. У 1864 годзе сям'я пераехала на жыхарства ў Маскву, дзе ў 1871 годзе пабудавала сабе на Арбаце вялікі дом у стылі барока па праекце архітэктара А.С. Камінскага (цяпер у гэтым доме размяшчаецца тэатр імя Вахтангава) і купіла для летняга жыцця дачу з невялікім паркам у Жукаўцы, паміж Кунцавам і Сетунню, і маёнтак у лясной вёсцы Косціна Уладзімірскай губерні.

У Маскве ў сям'і нарадзіліся яшчэ дзеці: Фёдар (1869—1929 гг., пахаваны ў Турыне ), Міхаіл (1871—1943 гг.) і Сяргей (1873—1909 гг.).

Кацярына атрымала добрую хатнюю адукацыю. Вядома, што яе і сястру Антаніну вучыла гувернантка-француженка мадэмуазэль Бесон. Затым з сястрой яны наведвалі Жаночыя курсы ў Політэхнічным музеі. Яна добра ведала французскую і англійскую мовы. З дзіцячых гадоў захаплялася маляваннем, вучылася ў майстэрні маскоўскага мастака Мікалая Неўрава. Сястра Антаніна займалася музыкай і мела ў гэтай справе поспехі.

У 1876 годзе сям'ю Сабашнікавых напаткала вялікае гора — пасля родаў мёртванароджанага восьмага па ліку дзіцяці памерла маці, Серафіма Савацьеўна. Гора падкасіла і бацьку: ён меў добрае здароўе і ніколі не хварэў, аднак пасля смерці жонкі вельмі сумаваў, і гэта стала прычынай яго хуткай смерці — 8 верасня 1879 года ад інсульту.

Пасля смерці бацькі Кацярына засталася ў сям'і старэйшай. Яна ўзяла на сябе ўсе клопаты аб гаспадарцы і адказнасць за малодшых сястру і братоў. Адпаведна з законамі таго часу, над малымі братамі Сабашнікавымі было ўсталявана апякунства, якое ўзначаліў брат бацькі Міхаіл Мікітавіч Сабашнікаў. Ганаровым апекуном дзяцей быў таксама і сябар сям'і Сабашнікавых Ягор Іванавіч Бараноўскі. Яго брат, Аляксандр Іванавіч Бараноўскі, пасля смерці Васіля Мікітавіча стаў праяўляць павышаную ўвагу да Кацярыны. Ёй толькі што мінуў 21 год. Кацярына не была прыгажуняй, але мела выразны твар і моцны характар. Яна адпавядала таму тыпу жанчын аб якіх паэт Баратынскі пісаў:

Красавицей её не назовут...
Но поражён бывает мельком свет
Её лица необщим выраженьем,
Её речей спокойной простотой.

Аляксандр Бараноўскі быў старэйшы за Кацярыну на 23 гады і меў значны жыццёвы вопыт. Розніца ў гадах не паслужыла перашкодай для іх сувязі, бо Кацярына ў тых абставінах лічыла, што ёй неабходны такі чалавек, які б мог стаць для яе і сям'і апорай. Грамадская дзейнасць Аляксандра Іванавіча, апавяданні аб удзеле ў руска-турэцкай вайне 1877—1878 гадоў і кругасветным падарожжы вылучалі яго на фоне маладых людзей, рабілі значным і цікавым. Да таго ж, ён быў прыкметным мужчынам з прыгожым тварам і мажной постаццю, і Кацярына прыняла прапанову Аляксандра Бараноўскага. 11 чэрвеня 1880 года ў царкве Спаса ў Сетуні, каля Жукаўкі, адбылося іх вянчанне.

## На жыццёвым уздыме

Маладыя сталі жыць у доме Сабашнікавых на Арбаце, а затым набылі ў Рэчыцкім павеце Мінскай губерні маёнтак Суткоў з вялікай плошчай ворнай зямлі, сенажацяў і лесу. Цэнтрам маёнтка быў двухпавярховы сядзібны белы дом на высокім беразе Дняпра з чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі — помнік архітэктуры позняга класіцызму. Яго Г-падобна выгнутыя галерэі-пераходы злучалі цэнтральную частку дома з невялікімі, сіметрычна размешчанымі аднапавярховымі флігелямі, якія выступалі на-

Бараноўскія на прыступках Суткоўскага палаца. 1908 г.



перад. Ад ракі да дома прымыкаў разведзены з вялікім густам парк, у якім ліпа, дуб, граб, ясень, таполя і клён аздабляліся сакавітымі палянкамі. З дома адкрываўся від на раку і луг і векавыя дубравы ўдалечыні. Каля самага домараслі раскошныя дэкаратыўныя кусты, шыпшына і белая акацыя, у час цвіцення якіх дом напаўняўся іх водарам. Усё гэта было некалі створана Юдзіцкімі, што называецца, «на шырокую нагу», умела і прыгожа, але да таго часу трапіла ў заняпад і мела патрэбу ў неадкладных радыкальных пераўтварэннях. Бараноўскія напачатку прызначылі гаспадарлівага аканома М.І Пыткоўскага, які быў дасведчаным аматарам сельскай гаспадаркі, вопытным аграномам. Ён удала спраектаваў і адбудаваў новы фальварак, сплянаваў севазварот збожжавых культур, бульбы і траваў. З цягам часу Кацярына ўсё больш і больш стала аддавацца справе вядзення гаспадаркі памесця, зрабіла яе па-сапраўднаму шматпрофільнай. Пад яе кіраўніцтвам у маёнтку Суткоў былі пабудаваны паравы млын, лесапільня, вінакурны завод. Быў пасаджаны вялікі пладовы сад. Удасканальвалася сельская гаспадарка: пашырылася плошча пад ворыва, укараняўся шматпольны севазварот, была закуплена буйная рагатая жывёла і створана малочная гаспадарка. Змены закранулі і лясную гаспадарку памесця. Былі пракапаны каналы для асушэння лясных балот і пашырэння плошчы лясоў. Надзейным і разумным памочнікам ва ўсіх гаспадарчых справах графіні Бараноўскай з 1885 года па кастрычнік 1917 года стаў новы аканом маёнтка Георгій Ігнатавіч Беляцкі, якога ёй парэкамендаваў вядомы практык сельскай гаспадаркі, прафесар і пісьменнік Іван Аляксандравіч Сцебут.

Хутка ў сям'і Бараноўскіх адно за адным нарадзіліся пяцёра дзяцей: чатыры сыны і дачка. Першага сына Кацярына нарадзіла 27 мая 1881 года і назвала Васілём у гонар свайго бацькі, а дачку, якая нарадзілася 12 мая 1882 года, назвалі Серафімай — у гонар маці. Затым нарадзіліся Аляксандр (16.4. 1884 г.), Юрый (6.4 1885 г.) і Мікалай (1.12.1886 г.). У канцы 1880-х гадоў пачаліся канфлікты з мужам. Прычынай сталі розныя погляды на вядзенне гаспадаркі і выхаванне дзяцей. Да таго ж, Аляксандр Бараноўскі меў



Школа ў вёсцы Суткоў. Пабудавана графіняй К. В. Бараноўскай у 1904 годзе. Здымак 1950-х гадоў.

цяжкі характар, які ў выніку дзелавых і службовых няўдач пагоршыўся. Муж і жонка Бараноўскія вырашылі часова пажыць паасобку. Але гэта прымірыла іх толькі на кароткі час.

У 1889 годзе Аляксандр Бараноўскі купіў маёнтак Баклань у Мглінскім павеце Чарнігаўскай губерні (цяпер Почапскі раён Бранскай вобласці) і без згоды жонкі забраў туды дзяцей. Кацярына зрабіла спробу памірыцца з мужам, паехала ў Баклань, каб застацца з дзецьмі і выхоўваць іх. Але муж ёй такой магчымасці не даваў. Гэта яшчэ больш пагоршыла адносіны ў сям'і. І тады ў красавіку 1890 года Кацярына пайшла на беспрэцэдэнтны па тых часах у дваранскім асяроддзі крок: яна падала заяву на развод.

У лютым 1892 года пасля працяглага суда Бараноўскія разышліся. Рашэннем суда дзеці засталіся з Кацярынай Васільеўнай. Аляксандр Бараноўскі на гэтым не супакоіўся і хадайнічаў аб пераглядзе справы ў трацейскім судзе. Новы суд у маі 1894 года пасля працяглага разгляду справы пакінуў папярэдняе рашэнне ў сіле, толькі па патрабаванні бацькі ён вынес пастанову, па якой старэйшыя сыны павінны былі вучыцца ў вучылішчы правазнаўства, а малодшым дзецям быў вызначаны для навучання ліцэй. Судовае рашэнне было выканана ўжо пасля смерці Аляксандра Іванавіча ў 1898 годзе. Сыны Васіль і Аляксандр закончылі Імператарскае вучылішча правазнаўства адпаведна ў 1903-м і 1905-м гадах і атрымалі юрыдычную адукацыю, а Юрый і Мікалай закончылі Імператарскі Аляксандраўскі ліцэй, адпаведна ў 1906-м і 1908-м гадах і атрымалі ваенную адукацыю. Дарэчы, Юрый закончыў ліцэй са срэбраным медалём.

Пасля разводу графіня Бараноўская з падвоенай энергіяй займалася гаспадаркай і выхоўвала дзяцей. Гэта была яе ўласная, сапраўдная, жывая справа, якая цалкам захапіла яе, у якой яна была поўнай гаспадыняй і якая, да таго ж, мела вялікае грамадскае значэнне. Заўсёды турбавалася аб людзях, імкнулася палегчыць іх быт. За свае сродкі пабудавала ў Суткове бальніцу. Па запрашэнні Кацярыны Бараноўскай спраектавала бальніцу і арганізавала ў ёй працу масквічка з вышэйшай медыцынскай адукацыяй Кацярына Паўлаўна Касмінкова. Папрацаваўшы ў Суткове пяць гадоў, яна па сямейных абставінах вярнулася на працу ў Маскву. Затым урачамі Суткоўскай бальніцы па запрашэнні графіні працавалі высокакваліфікаваныя ўрачы Дырмунт і, пазней, Караваеў. Аляксандр Львовіч Караваеў вядомы тым, што ў 1906 годзе быў абраны ў ІІ Дзярждуму, узначальваў фракцыю і быў забіты чарнасоценцамі ў Екацярынаславе.

У 1906 годзе графіня запрасіла на працу з Масквы свайго знаёмага — маладога таленавітага ўрача Яўгена Уладзіміравіча Клумава, які прыехаў у Суткоў з жонкай Галінай Мікалаеўнай, дачкой ганаровага міравога суддзі Масквы М. Андрэева, пляменніцай пісьменніка Уладзіміра Караленкі. За дзевяць гадоў працы на Лоеўшчыне Клумаў набыў вялікі аўтарытэт і павагу жыхароў рэгіёна. У далейшым Клумаў доўгі час працаваў у Мінску, стаў доктарам навук, прафесарам, зоркай беларускай медыцыны першай велічыні ў галіне гінекалогіі. Падчас фашысцкай акупацыі Беларусі ён уключыўся ў барацьбу з ворагам у Мінскім антыфашысцкім падполлі (меў псеўданім Самарын), але быў схоплены гестапа, вытрымаў усе допыты і катаванні. 13 лютага 1944 года фашысты атруцілі прафесара разам з жонкай у душагубцы лагера смерці Трасцянец. У 1965 годзе Яўгену Уладзіміравічу Клумаву было пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Шмат намаганняў зрабіла Кацярына Бараноўская, каб палепшыць стан адукацыі ў рэгіёне. Спачатку яна за свае сродкі адкрыла школу граматы ў вёсцы Казіміраўка і наладзіла навучанне сялянскіх дзяцей. Вучыць запрасіла маладую настаўніцу Марыю Аляксееўну Чуйкову, якая закончыла вышэйшыя педагагічныя курсы ў Маскве. Чуйкова працавала ў Казіміраўцы некалькі гадоў. Некаторыя з яе вучняў здолелі атрымаць пасля сярэднюю адукацыю. Адзін з іх — Архіп Акімавіч Чысцік — закончыў Горы-Горацкае землеробчае вучылішча і па запрашэнні М.В. Сабашнікава працаваў у Падмаскоў'і інструктарам сялянскіх плантацый. На пачатку XX стагоддзя ў Казіміраўскай школе працавалі ўжо два настаўнікі — Раман Пятровіч (загадчык) і Вера Драздоўская.

Другую школу графіня пабудавала і адкрыла ў 1904 годзе ў вёсцы Суткоў, у ёй ужо ў першы год навучалася 30 сялянскіх хлопчыкаў і дзяўчынак. На працу ў школу былі запрошаны з Масквы настаўніцы Зінаіда Міхайлаўна Жукава і Антаніна Пятроўна Нікольская, якія таксама шмат паспрыялі развіццю школьнай адукацыі ў рэгіёне.

Сам лад жыцця Бараноўскіх у Суткове садзейнічаў развіццю культуры на Лоеўшчыне. Частымі іх гасцямі былі сястра Кацярыны Антаніна і браты Міхаіл і Сяргей, сябры сям'і, золатапрамыслоўцы, мецэнаты, заснавальнікі Маскоўскага народнага ўніверсітэта Альфонс і Лідзія Шаняўскія, філолаг, гісторык і настаўнік Мікалай Спяранскі і яго браты, настаўнікі Аляксандр і Сяргей, мастак Мікалай Мартынаў, паэт Максіміліян Валошын, артыст Мікалай Арбенін, эканаміст Аляксандр Чупроў і многія іншыя. Суткоў прываблiваў вялікімі магчымасцямі для адпачынку: багаццем на лясныя ягады і грыбы, разнастайнай рыбалкай на Дняпры,


Графіня Кацярына Васільеўна Бараноўская напярэдадні выезду за мяжу.

паляваннем на птушку, зайца, лісу, воўка, лася і нават мядзведзя. Звычайна госці ехалі з Масквы чыгункай да Гомеля, затым плылі параходам да Лоева, адтуль дванаццаць кіламетраў дабіраліся падводай кацярынінскім шляхам па правым узвышаным беразе Дняпра ў Суткоў, а калі навігацыя па рацэ закрывалася — чыгуначным транспартам да Рэчыцы, а затым паштовай карэтай.

Са з'яўленнем Бараноўскіх у Суткове сталі наладжвацца літаратурна-мастацкія вечары, лекцыі, канцэрты, званыя абеды, балі і імпрэзы. На іх з сем'ямі запрашаліся суседнія памешчыкі Станіслаў Лашч з Лоева, Франц Віснеўскі з Бушаціна, граф Ракіцкі з Холмеча, прадстаўнікі інтэлігенцыі з Лоева і іншых суседніх мясцін. Тады Сутkоўскі маёнтак стаў культурным цэнтрам рэгіёна, а адрэзак дарогі Лоеў—Суткоў у народзе стаў называцца «Шлях дружбы».

У канцы XIX стагоддзя лоеўская яўрэйская абшчына сабрала грашовыя сродкі, замовіла і ўсталявала на Базарнай плошчы ў цэнтры Лоева на высокім камені-валуне конную статую расійскага імператара Аляксандра II, з удзячнасці за тое, што ён заканадаўча значна пашырыў магчымасці яўрэяў займацца гандлем лесам і спрыяў развіццю іх ініцыятыў. Скульптурную выяву імператара зрабіў вядомы расійскі скульптар Паола Трубяцкой, з якім яўрэям дапамагла ўсталяваць стасункі наша гераіня — графіня Бараноўская. Гэты помнік непрацяглы час быў візітоўкай Лоева на параходным шляху з Кіева ў Гомель і Магілёў. Пасля кастрычніцкіх падзей 1917 года статуя імператара была знішчана, а камень-пастамент закапаны ў зямлю.

Па словах брата Кацярыны Міхаіла, сястра мела рэалістычнае мысленне, валодала пачуццём адказнасці, ніколі не дазваляла сабе быць прыгнечанай акалічнасцямі і лёсам. Заставалася дзелавітай і цвёрдай у сваіх рашэннях, але магла ладзіць з людзьмі, умела, калі гэта было неабходна, саступіць. Калі ў ліпені 1905 года забаставалі рабочыя маёнтка, графіня Бараноўская пайшла на кампраміс: значна павысіла ім заработную плату і скараціла працоўны дзень. Сяляне суседніх вёсак у тыя часы ішлі да яе па дапамогу. Ёсць сведчанні, што Бараноўская аказвала падтрымку сялянам-пагарэльцам лесам без аплаты або давала цялушку са свайго статка тым, хто страціў карову-карміцельку. Вядома, што графіня набыла кавалак зямлі і пабудавала дамы на чатыры пакоі ў Лоеве для сям'і свайго конюха Яфіма Ансоненкі-Царыка (дом згарэў у 1918 годзе) і сям'і кухаркі Зінаіды Сцяцко (дом захаваўся да гэтага часу).

У жыцці сястры і братоў Кацярыны да гэтага часу таксама адбыліся значныя змены. Сястра Антаніна ў маі 1885 года выйшла замуж за двараніна Аляксандра Уладзіміравіча Яўрэінава. Большую частку года яна жыла ў маёнку мужа ў Курскай губерні і толькі зімой на непрацяглы час наведвала Пецярбург або Маскву. Брат Фёдар у 1885 годзе паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт, аднак за ўдзел у студэнцкіх рэвалюцыйных гуртках быў арыштаваны. Пасля вызвалення па хадайніцтве Ягора Іванавіча Бараноўскага выехаў за мяжу, закончыў Бонскі ўніверсітэт.

Малодшыя браты Міхаіл і Сяргей закончылі фізіка-матэматычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Міхаіл абраў спецыяльнасцю біялогію, Сяргей — хімію.

У 1891 годзе, яшчэ не будучы студэнтамі, яны заснавалі выдавецтва і сталі выдаваць навуковую і навукова-папулярную літаратуру. Першую сваю кнігу «Злакі Сярэдняй Расіі» браты выдалі ад імя старэйшай сястры — Кацярыны Васільеўны Бараноўскай — у знак пашаны за клопаты яе па іх выхаванні. У далейшым пад лагатыпам «Выдавецтва М. і С. Сабашнікавых» выйшлі ў свет «Серыя падручнікаў па біялогіі», «Гісторыя», «Помнікі сусветнай літаратуры», «Краіны, вякі і народы», «Пушкінская бібліятэка» і іншыя. За час існавання выдавецтва было надрукавана больш за 600 кніжных выданняў. Усе яны вылучаліся высокай паліграфічнай і філалагічнай культурай. Сабашнікавы былі выдаўцамі па прызванні, іх праца пакінула след у гісторыі рускай кнігі.

Браты Сабашнікавы былі таксама і віднымі грамадскімі дзеячамі. У 1891—1892 гадах яны сваімі сродкамі аказвалі дапамогу галадаючым сялянам Тульскай, Саратаўскай, Варонежскай і Ніжагародскай губерняў, а ў 1902—1903 гадах былі членамі «Саюза вызвалення» — нелегальнай палітычнай арганізацыі ліберальнай інтэлігенцыі, якая імкнулася да дэмакратыі ў Расіі.

Сабашнікавы заўсёды дапамагалі тым, хто імкнуўся да ведаў. На працягу некалькіх гадоў стыпендыю са сродкаў Сабашнікавых атрымлівалі

студэнты, выключаныя з навучальных устаноў за рэвалюцыйную дзейнасць. Дапамогай Сабашнікавых нярэдка карысталіся і бальшавікі.

22 сакавіка 1909 года Сабашнікавы зведалі яшчэ адзін удар лёсу. Пасля працяглай хваробы, выкліканай раненнем у галаву, памёр самы малодшы брат Сяргей — радасць і гонар сям'і. Яго пахавалі на могілках у Сетуні каля бацькоў.

Міхаіл Сабашнікаў працягваў актыўна займацца грамадскай і палітычнай дзейнасцю, быў членам партыі кадэтаў, абіраўся гласным Маскоўскай гарадской думы і Маскоўскага губернскага земства. Працаваў ва Усерасійскім саюзе гарадоў, быў старшынёй праўлення народнага ўніверсітэта імя А. Л. Шаняўскага. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі зноў увайшоў у склад ЦК партыі кадэтаў, удзельнічаў у рабоце Дзяржаўнай нарады (Перадпарламента). Пасля прыходу да ўлады бальшавікоў прымаў актыўны ўдзел у дзейнасці падпольнай антысавецкай арганізацыі «Дзявятка», але потым прызнаў савецкую ўладу, адышоў ад палітычнай дзейнасці і займаўся выключна кнігавыдавецкай справай.

## Праз віхуру падзей XX стагоддзя

Аб жыцці графіні Бараноўскай і яе дзяцей у віхуры падзей першай паловы XX стагоддзя захавалася няшмат звестак. Вядома, што яе старэйшы сын Васіль меў грамадзянскі чын сёмага класа — надворны саветнік, жыў у Чарнігаве, меў сына Сяргея і яшчэ да кастрычніка 1917 года выйшаў у адстаўку з дзяржаўнай службы.

Сын Аляксандр да Першай сусветнай вайны дапамагаў Кацярыне Васільеўне весці гаспадарку, абіраўся членам Рэчыцкага павятовага дваранскага з'езда, затым пераехаў у Чарнігаў. Меў грамадзянскі чын восьмага класа — калежскі асэсар, быў абраны членам Чарнігаўскай губернскай земскай управы, атрымаў званне ганаровага міравога суддзі. Эмігрыраваў з жонкай Тацянай Міхайлаўнай і дачкой Нінай (1915 г. нар.) у Германію, памёр у 1942 годзе ў Берліне.

Сын Юрый служыў у расійскім войску ў званні падпаручніка лейб-гвардыі коннай артылерыі, але, верагодна, выйшаў у адстаўку. Як памешчык маёнтка Баклань абіраўся губернскім гласным чарнігаўскага земства, старшынёй Мглінскай павятовай земскай управы, у сакавіку—красавіку 1917 года быў камісарам Часовага ўрада Мглінскага ўезда. Эмігрыраваў з сям'ёй у Канаду, дзе і памёр пасля 1932 года.

Малодшы сын Мікалай пачынаў службу ў расійскім войску ў званні падпаручніка лейб-гвардыі коннай артылерыі, даслужыўся да звання палкоўніка. Эмігрыраваў у 1920 годзе з жонкай Наталляй Яўгеньеўнай (1882 г. нар.) і сынам Барысам (1912 г. нар.) у Францыю. Памёр у Парыжы ў 1957 годзе.

Першая сусветная вайна застала Кацярыну Бараноўскую ў Італіі ў гарадку Віарэджа, што на беразе Генуэзскага заліва. Тут летам 1914 года яна адпачывала з дачкой Серафімай і лячыла свой рэўматызм. Ва ўмовах вайны з цяжкасцю кружнымі шляхамі дабіралася з Італіі ў Суткоў.

Зіму 1917—1918 гадоў Кацярына Бараноўская жыла ў сына Аляксандра ў Чарнігаве. Пасля таго, як у сакавіку 1918 года Лоеўшчыну акупіравалі германскія войскі, яна з-за пагрозы канфіскацыі маёнтка акупацыйнымі ўладамі вярнулася ў Суткоў, займалася гаспадаркай памесця. Рабіла спробу разам з лоеўскімі яўрэямі скааператаваць сродкі і пабудаваць млын, у якім была вострая патрэба ў рэгіёне. Перад адступленнем кайзераўскіх войскаў графіня, асцерагаючыся рабаванняў у Сутковe, разам з дачкой Серафімай і Лідзіяй Шаняўскай 1 снежня 1918 года вярнулася зноў у Чарнігаў. Толькі восенню 1921 года яна ў суправаджэнні сына Васіля і ўнучкі Ніны, дачкі Аляксандра, прыехала ў Маскву да брата Міхаіла. Тут падала прашэнне аб выездзе за мяжу. Парадоксы лёсу: прадстаўнікі ліберальнай буржуазіі верылі ў прагрэс і падтрымлівалі рэвалюцыянераў, а рэвалюцыя пазбаўляла іх маёмасці і сродкаў існавання, стварала рэальныя пагрозы іх жыццю.

У 1922 годзе з дазволу Савецкага ўрада Бараноўская выехала ў Італію да дачкі Серафімы. Аб акалічнасцях жыцця графіні Бараноўскай за мяжой дакладных звестак няма. Вядома толькі, што яна памерла ў 1926 годзе ад раку лёгкіх у Швейцарыі ў санаторыі Мантрэ, што на беразе Жэнеўскага возера, дзе была разам з дачкой. Сын Аляксандр, выкліканы развітацца з маці тэлеграмай, ужо не застаў яе ў жывых. Яе дачка Серафіма затым жыла ў эміграцыі ў Італіі, займалася перакладчыцкай дзейнасцю і памерла ў 1943 годзе ў Неапалі.

Старэйшы сын Васіль не змог эмігрыраваць. Вядома, што ён у 1938 годзе працаваў статыстам Тарускага раённага аддзела аховы здароўя Тульскай вобласці, быў арыштаваны і асуджаны Асобай нарадай НКУС СССР па артыкуле 58, п. 10, ч. 1 КК РСФСР (антысавецкая прапаганда і агітацыя) на пяць гадоў ссылкі ў лагер. Далейшы яго лёс невядомы.

У 1922 годзе выехала ў Польшчу да дачкі Ніны і малодшая сястра графіні Бараноўскай Антаніна. Ёсць звесткі, што яна памерла ў 1945 годзе ў Варшаве.

Брат Кацярыны Бараноўскай Міхаіл пасля рэвалюцыі застаўся з сям'ёй у Маскве. Тут ён працягваў сваю выдавецкую дзейнасць у выдавецтве Сабашнікавых (да 1930 г.), затым у кааператыўным выдавецтве «Поўнач» (да 1934 г.), апошнія гады свайго жыцця працаваў у выдавецкім таварыстве «Супрацоўнік». Памёр у Маскве ў лютым 1943 года.

У яго аўтабіяграфічнай кнізе «Успаміны» ёсць сведчанне, што ён пяць разоў арыштоўваўся органамі ВЧК-НКУС і знаходзіўся пад следствам на Лубянцы: у маі—жніўні 1918 года, маі 1920 года, кастрычніку 1920 года, жніўні 1921 года, снежні 1930 — студзені 1931 гадоў. У сваіх успамінах ён не называе прычыны арыштаў і падставы для вызвалення. Але можна меркаваць, што на самай вяршыні бальшавіцкай уладнай іерархіі заўсёды знаходзіўся чалавек, а, магчыма, і не адзін, які лічыў неабходным дапамагчы аднаму з былых лідараў правых і выдаўцу, і рабіў неабходныя захады для яго вызвалення.

Выдавецкую справу бацькі прызваны быў працягваць сын Міхаіла Сабашнікава Сяргей (1898—1952 гг.), які з 30-х гадоў мінулага стагоддзя з'яўляўся тэхнічным рэдактарам выдавецтва «Супрацоўнік». Але ў 1943 годзе ён быў арыштаваны карнымі савецкімі органамі па абвінавачванні ў здрадзе Радзіме і антысавецкай агітацыі і прыгавораны Асобай нарадай НКУС СССР да 10 гадоў папраўчых лагераў. Але на гэтым карнікі не супакоіліся. У 1952 годзе ён быў дадаткова абвінавачаны ў тэрарыстычнай дзейнасці і расстраляны 26.10.1952 года. Такім чынам, савецкая карная сістэма адпомсціла сыну за сваю няздольнасць пакараць яго бацьку. 9 мая 1957 года С. М. Сабашнікаў быў рэабілітаваны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР.

Нягледзячы на трагічны лёс бацькі, дачка Сяргея Сабашнікава Алена (1936 г. нар.) стала вядомым кінакрытыкам, культуролагам і публіцыстам, доўгі час працавала рэдактарам маскоўскага выдавецтва «Мастацтва» і ўнесла значны ўклад у развіццё савецкай культуры.

Малодшая дачка Міхаіла Сабашнікава Таццяна выйшла замуж за савецкага пісьменніка Л. М. Лявонава, а сярэдняя — Ніна, па мужу Арцюхова, — стала дзіцячай пісьменніцай. У 1993 годзе ў Маскве праўнукам М. В. Сабашнікава Сяргеем Міхайлавічам Арцюховым (1955 г. нар.) было адноўлена «Выдавецтва Сабашнікавых», якое выдала рэпрынты многіх раней надрукаваных братамі Сабашнікавымі кніжак. Выдавецтва адкрыла сваё прадстаўніцтва ў Мінску і стала ўдзельнікам кніжнага гандлю ў Беларусі.

У 1991 годзе Суткоў наведала ўнучка графіні Бараноўскай Кэтлін Бараноўская-Барзадзі, якая жыла тады ў Канадзе і працавала кінарэжысёрам. У кнізе водгукаў музея Суткоўскай школы, які размяшчаецца ў былым палацы, яна зрабіла такі запіс: «15 мая — вельмі памятны дзень для мяне. Я пабывала ў старадаўнім фамільным доме. Мае бацькі правялі тут шмат шчаслівых гадоў». Яшчэ яна паведаміла, што ў ЗША і Канадзе пражываюць 11 нашчадкаў Бараноўскіх і прапанавала мясцовым уладам пабудаваць за ўласныя сродкі новы будынак школы пры ўмове, што нашчадкам Бараноўскіх вернуць радавы палац. Але, адпаведна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, тады гэта зрабіць было немагчыма. А пазней такіх прапаноў ужо не паступала.

З 1920 года на базе фальварка Бараноўскіх было створана таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі, якое ў 1922 годзе было пераўтворана ў «Дняпроўскую Камуну», апошняя ў 1931 годзе стала калгасам імя Калініна, а цяпер гэтыя землі ўваходзяць у склад КСУП «Страдубка». З 1924 года ў Суткоўскім палацы размяшчаецца школа, у 1953 годзе памяшканне было капітальна адрамантавана, замест пячнога ацяплення ўстаноўлена паравое. У 2005—2007 гадах за кошт дзяржаўных сродкаў праведзена рэканструкцыя будынка.



# Сын свайго бацькі

**Пра Арцёма Яфімавіча Баханькова літаратурныя і філалагічныя колы ведаюць шмат. Неаднаразова казалі і пісалі, якім спагадлівым, чулым, уважлівым ён быў у сям'і і на працы. Хоць так звычайна кажуць пра кожнага чалавека, туга па якім згладжвае ўсе недахопы характару. Але калі слухаеш менавіта пра яго, вeрыш: кожнае добрае слова — праўда. Шмат добрага пра бацьку казаў Аляксандр Арцёмавіч. Фізік, паэт, аўтар кулінарных зборнікаў, толькі зайшоўшы ў рэдакцыю, ён сказаў: «Не ведаю, што вы хочаце дазнацца пра мяне, не ўяўляю сабой нічога цікавага». Кацярына Захарэвіч не пагадзілася з гэтым і ў пацвярджэнне сваёй пазіцыі прадстаўляе фрагменты аповеду.**

## Мінск

Да 1962 года мы жылі ў вёсцы Гомель Полацкага раёна, бацька там працаваў настаўнікам і дырэктарам Гомельскай дзесяцігодкі, я там пайшоў у школу і хадзіў да 5-га класа. У 1962 годзе тату запрасілі (ён завочна абараніў кандыдацкую дысертацыю) на працу ў Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук. Калі мы пераехалі, мне было 11 гадоў. Пасля вёскі любы горад сельскага хлопчыка ўражвае. Такія вялікія дамы, столькі людзей, транспарт. Бацьку далі вялікую трохпакаёвую кватэру — у яго было ўжо трое дзяцей: акрамя мяне — дзве дачкі. Адна з іх цяпер жыве ў Мінску, другая пераехала ў Амерыку. Кватэра ў нас была ў цудоўным месцы, на вуліцы Акадэмічнай. Паркет быў пакладзены, як у вас у рэдакцыі, «елачкай». Ён быў з нейкай пароды дрэва, дужа добрай, яго час ад часу шліф-машынкай прачышчалі, пакрывалі лакам, і мы хадзілі босыя па такой падлозе. Уразіла, што жыць можна не так, як мы ў вёсцы жылі. Там жа зімой як завея наступіць, то замятае сенцы так, што дзверы немагчыма адчыніць. Прапіхвалі крыху, выходзілі і разграбалі сцежку да дарогі. А тут вялікі горад, вада, газ, кватэра з паркетнай падлогай, столі тры з паловай метры…

## Чатыры настаўнікі

Калі пераехалі, бацька вырашыў звадзіць мяне ў Тэатр оперы і балета на «Лебядзінае возера». Уражанне было моцнае, пасля мы з ім трохі размаўлялі аб музыцы, у яго з'явілася думка аддаць мяне куды-небудзь займацца ёй. Павёў у музычную школу пры Палацы культуры прафсаюзаў, педагог па класе скрыпкі адбіраў якраз у той дзень вучняў. Ён сказаў мне: «Хлопчык, пакажы свае рукі». Я паказаў, ён падазваў бацьку і кажа: «Ведаеце, гэтымі рукамі лепей трымаць сякеру, а не смычок скрыпкі». Сапраўды, у мяне кароткія, тоўстыя пальцы. Бацька сказаў: «А вы паспрабуйце, можа што і атрымаецца». Я скончыў гэтую школу, выкладчык быў цудоўны, ён тады іграў у Дзяржаўным аркестры ў філармоніі першую скрыпку. Міхаіл Лазаравіч Зісман. З таго часу я прывязаўся да музыкі. На другіх інструментах іграць не навучыўся, а скрыпку і паслухаць люблю.

У звычайную школу мне даводзілася хадзіць даволі далёка. З Гомеля я выехаў навучэнцам 5-га класа, тады ў 5-м класе ўжо вучылі замежную мову. Відаць, ва ўсіх вясковых школах тады вучылі толькі нямецкую, і калі прыехалі ў Мінск, бацька стаў шукаць бліжэйшую школу з нямецкай. Я на той час ведаў мала, мы прайшлі літары, просценькія словы. Але бацька вырашыў, што не трэба перавучвацца на англійскую ці французскую, і адшукаў 73-ю школу. Менавіта 73-я школа з яе выдатнымі настаўнікамі зрабіла з мяне чалавека. Юлія Барысаўна Рубенчык, наша настаўніца нямецкай, амаль што не карысталася падручнікамі. Яна прасіла нас выпісваць камуністычную нямецкую газету «Новае жыццё», дзіцячы часопіс «Барабан» і дамашнія заданні давала менавіта па гэтых

выданнях. Яна атрымлівала іх нейкім чынам раней і на ўроку казала: «У газеце, што вы сёння атрымаеце, старонка такая, артыкул такі перакласці, гэта вывучыць на памяць». Яна так добра выкладала мову, што я і зараз вершы нямецкіх паэтаў магу чытаць па памяці.

У гэтай жа школе мне пашанцавала на выкладчыка матэматыкі. Натан Іосіфавіч Дуброўскі так выкладаў яе, што мы сядзелі з разяўленымі ротамі і слухалі. Ён жа дапамог мне пазбавіцца комплексу непаўнавартасці. Да мяне, вясковага хлопчыка, ставіліся не тое каб пагардліва, але паблажліва. Ды я нядоўга быў прыніжаным вясковым хлопчыкам. У Натана Іосіфавіча была асаблівая манера выкладання: пісаў заданне на дошцы, а потым хадзіў і глядзеў, як хто рашае. Праз месяцы тры пасля таго як я пачаў вучыцца, на адным з заняткаў хадзіў, назіраў, а потым кажа: «Ідзі, Саша Баханькоў, пакажы гэтым гарадскім, як трэба рашаць задачы». Я пайшоў, перапісаў сваё рашэнне са сшытка на дошку. З таго дня перастаў адчуваць сябе непаўнавартасным вясковым хлопцам.

Некаторыя з маіх аднакласнікаў сталі матэматыкамі, але яшчэ больш сталі фізікамі. Бо фізіку выкладаў Аркадзь Саламонавіч Фрыдман. Дзякуючы яму я так палюбіў фізіку, што пайшоў паступаць на фізічны факультэт БДУ імя Леніна.

## Студэнцтва

Перад паступленнем бацька казаў: «Ідзі лепей у педагагічны інстытут на беларускую філалогію, ты яе добра ведаеш, лягчэй будзе». Але быў канец 1960-х гадоў: космас, атамныя рэактары, атамная і вадародная бомба… Так я быў гэтым захоплены дзякуючы выкладчыку, што пайшоў на фізфак. І не паступіў. Трэба было здаваць чатыры іспыты: фізіку і матэматыку вусна, матэматыку пісьмова і рускае ці беларускае сачыненне. Я атрымаў дзве «пяцёркі» і дзве «чацвёркі» — 18 балаў з 20. Быў упэўнены, што іх павінна хапіць, паехаў да бабулі ў Гомель, вярнуўся ў жніўні і не знайшоў сябе ў спісах. Пытаюся, ў чым справа — кажуць, не хапіла аднаго бала. «Як? Я ж бачыў, як і на “чацвёркі” здавалі ўсе іспыты!» Аказалася, гэта абітурыенты, якія карыстаюцца перавагай: у таго бацькі няма, у гэтага шматдзетная сям’я, гэты з глухой сельскай школы. Мне прапанавалі ці забраць дакументы, ці напісаць заяву, што згодны вучыцца на вячэрнім аддзяленні. Зразумела, я перавёўся на вячэрняе. Недзе праз год на нашу лекцыю зайшоў дэкан і сказаў: вызваліліся месцы на дзённым аддзяленні, хто хоча, пішыце заявы на перавод. Я перавёўся. Тыя, каго ўзялі «з перавагай», не паказалі належных ведаў, атрымалі «двойкі» і іх вымушаны былі адлічыць.

На першым курсе я павінен быў працаваць, бацька ўладкаваў мяне ў Інстытут фізікі. Гэта быў Божы дар, бо там я вітаўся за руку з Барысам Іванавічам Сцяпанавым, акадэмікам, дырэктарам інстытута, Міхаілам Аляксандравічам Еляшэвічам, таксама акадэмікам, спецыялістам па малекулярнай фізіцы, іншымі знакамітымі вучонымі. Я працаваў там год. Пасля атрымання дыплома мяне накіравалі ў выдавецтва «Народная асвета», там патрабаваўся рэдактар фізіка-матэматычнай літаратуры, бацька ведаў пра гэта і падказаў. Мне сказалі, што бяруць на размеркаванне. Працаваў там бадай што тры гады.

Пасля трох гадоў працы ў выдавецтве рэдактарам мне чамусьці захацелася выкладаць фізіку. Так, як выкладаў яе мой настаўнік у 73-й школе. Я пайшоў у Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, зараз агратэхнічны ўніверсітэт, на пасаду асістэнта на падрыхтоўчае аддзяленне, дзе будучыя абітурыенты «падцягвалі» веды. Мне далі магчымасць чытаць лекцыі, весці практычныя і лабараторныя заняткі. Я стараўся расказваць там так, як расказваў мне мой настаўнік. Мне, відаць, гэта ўдалося, бо калі год скончыўся і слухачы сталі абітурыентамі, яны дзякавалі і казалі: «Калі б у нас у школе так выкладалі, нам не патрэбна было б гэтае аддзяленне». Герман Віктаравіч Шышкін, дацэнт на фізфаку, сказаў: «Добры выкладчык — гэта чалавек, які можа матэрыял падаць так, каб яго ўсе зразумелі, нават калі ён сам не разумее».

## Мовы

Мовы ведаў нядрэнна, хоць толькі руская была патрэбна. Бацька ўвогуле быў паліглотам, ведаў усе славянскія мовы, ніколі не карыстаўся паслугамі перакладчыка. Але не ведаў нямецкай і англійскай. Калі былі пытанні па нямецкай, клікаў мяне, а па англійскай — сястру Люду. Мне англійскую давялося вывучыць, калі вырашыў пісаць кандыдацкую дысертацыю, бо боль-

шасць артыкулаў па тэме — на гэтай мове, а пераклад заўсёды каштуе дорага. Таму я пайшоў на курсы англійскай адразу ў два месцы. Яшчэ ведаю літоўскую. У 1980-я гады даволі часта ездзіў у Літву, у Тракай. У кавярні папрасіў неяк прынесці цэпеліны (тыпу нашых клёцак), а на мяне пагардліва паглядзелі. Потым я даведаўся, што трэба казаць «цэпелінай». Я вырашыў, што з літоўцамі трэба размаўляць па-літоўску. Падручнік літоўскай мовы нідзе не змог знайсці. Таму даў аб'яву ў газету «Вечерний Вильнюс», якая выходзіла на рускай мове: «Хачу вывучаць літоўскую мову, таму прашу, калі можна, даслаць мне падручнік літоўскай мовы на рускай і слоўнікі». Мне даслалі іх пяць штук. Без усякіх падручнікаў, маючы магчымасць размаўляць, навучыўся польскай. Балгарскую вывучыў, калі сястра ў піянерскім лагеры пазнаёмілася з балгаркай, Эвелінай Лазаравай Петкавай. Эвеліна дасылала ёй лісты на балгарскай мове, сястра прасіла бацьку, каб ён перакладаў сам ці прасіў каго на працы. Яму гэта надакучыла, ён сказаў: «Вось табе падручнік, бяры ды вучы сама». Люда не здатная да моў, таму бацька сказаў: «Прасі брата».

Бацька ўладкаваў мяне на філалагічны факультэт БДУ да Барыса Юстынавіча Нормана, які выкладаў там балгарскую.

## Фізіка

Навука, якая паглыбляе веды чалавецтва ў будове матэрыі, а з іншага боку, дае магчымасці знаходзіць спосабы найхутчэйшага знішчэння чалавецтва. Я імкнуўся на фізічны факультэт, бо быў узгадаваны на добрым кіно. Тады якраз выйшаў фільм «Яшчэ раз пра каханне», дзе згадваецца «праблема» фізікаў і лірыкаў. Быў яшчэ фільм «Утаймаванне агню», «Тры плюс два» — такая атмасфера з экранаў, радыё, газет узгадавала ўва мне імкненне быць фізікам. Фізікі — лепшыя людзі ў свеце, бо ўсё могуць, усё ведаюць і вершы пішуць! Мае ўяўленні бадай што спраўдзіліся. Я ў 29 гадоў абараніў дысертацыю «Устойлівасць па Ляпунову руху целаў у агульнай тэорыі адноснасці Эйнштэйна» на вучоную ступень кандыдата фізіка-матэматычных навук, пазней атрымаў навуковае званне дацэнта кафедры фізікі. І прыкладна 35 гадоў выкладаў фізіку ў мінскіх інстытутах.

Я лічу, што беларуская фізіка знаходзіцца на вельмі высокім узроўні. У пачатку 1960-х Пятру Міронавічу Машэраву параілі ўзяць двух звольненых навукоўцаў з Ленінграда — Антона Нікіфаравіча Сеўчанку і Барыса Іванавіча Сцяпанава, оптыкаў, на той час даволі маладых людзей — сарака гадоў яшчэ ім не было. У навуцы ж да 60 гадоў — малады навуковец. Сеўчанка, рэктар БДУ, падабраў у якасці выкладчыкаў велічыні сусветнага ўзроўню! Мне пашчасціла слухаць іх лекцыі і вучыцца на іх. Пашанцавала працаваць тады, калі вяліся даследаванні, якія пачаліся з прыездам Сцяпанава. Ён адкрыў цэлы напрамак у фізіцы — лазерная тэхніка. Лічыцца, што беларуская школа лазернай фізікі — лепшая ў свеце.

## Кулінарыя

Я пачаў збіраць рэцэпты страў з бульбы, бо вырас у вёсцы, прыгажэйшай у свеце, між трыма азёрамі, каля сасновага бору. У нас, як у любой сялянскай сям'і, на стале былі бульба, рыба, агуркі салёныя, капуста квашаная, грыбы. Маці гатавала вельмі смачныя дранікі і клёцкі велічынёй з мой кулак, з мясам — «з душамі». Таму я са студэнцкіх гадоў пачаў збіраць рэцэпты страў з бульбы. Пачалося ўсё з адной кнігі — «Стравы з бульбы». Цяпер у мяне больш за 5 тысяч рэцэптаў страў з бульбы. Яны рассартаваны па відах страў, стаяць у каробках з-пад абутку, — картатэка, якой зручна карыстацца, займае прыкладна чатыры пісьмовыя сталы. Яшчэ збіраю кулінарныя кнігі, якіх у мяне больш за 600. Сярод іх і рарытэты, якіх няма ні ў Нацыянальнай, ні ў акадэмічнай бібліятэках. Ёсць факсімільнае дарэвалюцыйнае выданне «Падарунак маладым гаспадыням» Алены Малахавец.

Можа, не сціпла будзе сказаць, што калі сябры да мяне прыходзяць, то пытаюцца: «А дранікі будуць?» Дранікі павінны быць залацістыя, светлыя. Сакрэт тут просты: у бульбу, натарканую не на металічнай тарцы, а на пластмасавай, адразу трэба дадаць натарканую цыбуліну (дзве цыбуліны на шэсць бульбін) ці апырснуць воцатам, каб не чарнелі. Яшчэ сябрам падабаецца халоднае, якое я гатую са свіных скурак. Іх вару, але каб не разварваліся, на зубах крыху хрумсцелі, наразаю, кладу часнок, кругляшы морквы, жэлацін можна не дадаваць. Сябры просяць, каб да сустрэчы таксама прыгатаваў.

**Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы прадстаўляе**

# Сачыненні пра Каложу

Шпацырую цёплым вясеннім днём па беразе Нёмана. Лёгкасць і спакой ахінаюць душу і сэрца. Любуюся пейзажамі, удыхаю чыстае паветра, лаўлю лёгкія подыхі ветрыку, слухаю спеў птушак, які закалыхвае.

Так добра! Так хораша!

Ступаю некалькі крокаў — і чамусьці хочацца зірнуць уверх. Затым зноў. І зноў жа. Зірнуць туды, дзе з вышыні васьмі стагоддзяў паглядае на мяне гісторыя. Зірнуць туды, адкуль апякаюць і абараняюць нас святыя заступнікі Барыс і Глеб. Туды, дзе жвава б'юць крыштальныя крынічкі.

Каложская царква — святое і дарагое месца. Бясцэнны помнік нашай культуры.

Нягледзячы на розныя выпрабаванні стагоддзямі была неўміручай. Не атрымалася крыжакам падчас штурмаў і асад Гародні знішчыць Цябе. Перад гарматамі маскоўскага войска Ты не прыгнулася і не здалася. Нават магутны бацька-Нёман не змог Цябе паглынуць сваім бясконца-няспынным цячэннем.

Людзі ніколі не былі да Цябе абыякавымі. Кожны раз знаходзіўся той, хто адчайна Цябе выратоўваў, хто бескарысліва Табе дапамагаў, хто падтрымліваў Цябе і аб Табе клапаціўся. Неаднойчы Ты разбуралася і неаднойчы Ты аднаўлялася. Дойлід Багуш Багутовіч, паслы Рыгор Катовіч і Зыгмунт Валя, мастак Напалеон Орда, прафесары Памераждаў і Галіцкі, архітэктар Пакрышкін — усе гэтыя людзі, бясспрэчна, паспрыялі таму, каб Ты, бясцэнная Каложа, працягвала жыць разам з намі.

Каложа, нашай удзячнасці за тое, што Ты таксама выратоўвала нас, няма меж. Дапамагалі нам Твае вузенькія акенцы, паднятыя высока ад зямлі, Твая галерэя, размешчаная зверху будынка, Твае вузенькія закрытыя хады у алтарнай частцы.

Усе выпрабаванні мы прайшлі разам.

Падымаюся па высокіх прыступках да Тваіх старажытных цагляных сцен. Так і хочацца дакрануцца да іх і ціха-ціхенька прашаптаць словы ўдзячнасці. А Ты ў адказ заззяеш уся рознакаляровай маёлікай і фігуркамі з вялікіх камянёў і керамічнай пліткі.

Радасць і гонар!

Заходжу… Адчуваю лёгкае хваляванне. Сэрца пачынае біцца з кожным крокам усё мацней.

Чыстае, святое месца!

Заварожваюць Твае збаны-галаснікі, умацаваныя ў сцены, Твая падлога з фігурных плітак, на якую нават няёмка ступаць у абутку. Успамінаю цудатворны Твой абраз Багародзіцы, становіцца крыўдна і прыкра. Спадзяюся, што ён усё ж вернецца назад, у нашу Каложу, у свой дом.

Стаю… Задуменная… Баюся нават вочы падняць… Малюся…

Шчыра малюся за сябе, за сям'ю, за беларускі народ і за ўвесь свет. І я ўпэўнена, што менавіта ў гэтым святым храме мае малітвы будуць пачутыя і мае просьбы не знікнуць у небыцці.

Лёгкасць!

Нават не хочацца пакідаць Цябе, Каложа. Тут душа супакойваецца. Тут віруюць толькі светлыя і добрыя думкі. Тут сэрца напаўняецца любоўю.

Выходжу… выходжу, напоўненая гонарам, пачуццём захаплення і любові да скарбу Беларусі, да Цябе, святы храм Гродзеншчыны.

Шчаслівая, што магу дакрануцца да сапраўднай «душы» нашага беларускага народа, да яго гісторыі і да яго сучаснасці.

***Яна Бумбуль***

Кожны год у Гродна прыязджае вялікая колькасць турыстаў, і кожны з іх абавязкова павінен пабачыць помнік мураванай старажытнай архітэктуры.

Барысаглебская царква была пабудаваная ў XII стагоддзі. Да нашых дзён захавалася паўночная і частка заходняй сцяны, тры апсіды і два заходнія падкупальныя слупы. Сваё другое імя — Каложская — атрымала ад назвы мясцовасці, калі у 1405 годзе вялікі князь Вітаўт пасяліў каля царквы палонных калажан, жыхароў горада Пскова. Лічыцца, што архітэктарам і будаўніком царквы быў прышлы дойлід Пётр Міланег, аднак існуюць версіі, што будаўніком мог быць невядомы візантыйскі ма-

Ілюстрацыя Алесі Галота.

нах, які такім чынам быў і адным з ідэолагаў і практыкаў хрышчэння Гродзеншчыны. Але гэта толькі лічыцца...

Царква некалькі разоў разбуралася. 1 красавіка 1853 года адбыўся першы яе абвал, у вадзе апынуліся часткі паўднёвага і заходняга фасадаў. На гэтым беды не скончыліся. У 1884 годзе абвалілася частка апсіды, праз пяць гадоў — наступны абвал. Храм знаходзіўся на парозе поўнага знішчэння. Царква з'явілася першым помнікам, пытанне пра захаванне якога разглядалася Імператарскай археалагічнай камісіяй у 1896 годзе. Яе захавалі. Сцены царквы ўмацоўваліся некалькі разоў аж да 2000 года.

Вялікую колькасць людзей царква прыцягвае не толькі гісторыяй, але і месцам знаходжання: побач — Стары і Новы замкі і шмат цікавага. Дайсці да царквы можна па-рознаму, напрыклад, па набярэжнай, але затым прыйдзецца падняцца на невялікую, але стромкую гару. Гэты спосаб падыходзіць таму, хто любіць фізічныя нагрузкі. А можна дайсці да яе праз Каложскі парк. Ён вельмі прыгожы, там ёсць шмат дрэў, лаўкі і нават маленькае кафэ.

Кожны год наш Гродна вітае вялікую колькасць турыстаў. Адна з прычын гэтага — наша Каложская царква, наш дар.

***Кацярына Можджэр***

У гэты дзень веснавое сонца, быццам апраўдваючыся за сваю доўгую зімовую адсутнасць, свяціла кожнаму і кожнага грэла. Старая Барысаглебская царква стаяла на ўзгорку над Нёманам, падставіўшы сцены вінаватаму сонцу і саграваючыся да апошняга каменьчыка. Мяркуючы па ўсім, вясна прыйшла канчаткова і беззваротна.

Так, царква была старая — ні многа ні мала, а васьмісотгадовы юбілей ужо быў адзначаны, але па тым, як яна выглядала, можна было без ваганняў сказаць, што прастаіць яна яшчэ столькі ж, а мо і болей. Без рэканструкцыі, што праўда, не абышлося, але вы самі паспрабуйце без рэканструкцыі столькі гадоў прастаяць!

Сонца грала блікамі на спакойнай і ўпэўненай воднай роўнядзі. Столькі стагоддзяў царква назірала гэты пейзаж — Нёман, панараму горада, акрыляючую нябесную прастору, — а наглядзецца не магла. Ды і немагчыма гэта. Часы мяняліся, мяняліся і пейзажы, а царква стаяла на сваім месцы і выконвала сваё прызначэнне. Так, даводзілася часам цяжка: напаўразбураная, людзьмі пакінутая, Каложа моўчкі цярпела і чакала. Цярпела войны і нават злосныя жарты прыроды. Аднойчы сусед Нёман, падмыўшы ўзгорак, па-здрадніцку ледзь не сцягнуў яе ў свае цёмныя воды.

Аднак гэта ў мінулым. Сёння над царквою свеціць сонца, побач спакойна шапочуць дрэвы, выгляд чыстага горада радуе пагляд, і да царквы ўвесь час цяпер ідуць людзі. Сёння яна патрэбная і важная. І заўтра так будзе. Заўсёды.

***Ксенія Ляўко***

Каложа… Святая… Вялікая… Усёразумеючае гарадзенскае Сэрца… Да Цябе імкнуцца і Сонца, і Дождж, і Чалавек… Ты дапамагаеш, Ты выратоўваеш, Ты дорыш Веру ў Бога і Жыццё…

Кожны, хто прыходзіць да Цябе, мае сваю Радасць, свой Боль, сваю Малітву. Нікому Ты не адмаўляеш, ні перад кім не зачыняецца Твая Святая Брама. Ты стаіш, нібы ў думках жанчына, над лёсам нашчадкаў. І Нёман, што нясе свае аксамітныя хвалі аж да Балтыйскага мора, паўнаводны не ад дажджу, а толькі ад Тваіх слёз. Ты плачаш, Каложа… Плачаш аб цяжкім мінулым, Твае слёзы — гэта малітва за сённяшні вясенні дзень, за тое, што чакае кожнага з нас, кожнае Тваё дарагое дзіця. Вось чаму мне хочацца прытуліцца да Тваіх дзвярэй, нібы да плячэй роднай Маці.

Каложа Барысаглебская… Тваё прозвішча Барысаглебская, бо яно дадзена Табе Богам у памяць Святых пакутнікаў Барыса і Глеба. І толькі Ты ведаеш пра іх забойцу лепш за «Аповесць мінулых гадоў» і «Эймундаву сагу»…

«Каложа, туга мая светлая!.. // Ў чорны Нёман па чорным шкле // Сіняй кропляй спадае ракета, // Быццам зорка ў ціхі Бетлем…» — шыкоўным паэтычным звароткам Цябе ўспамінае мастак слова Уладзімір Караткевіч…

Каложа… Святая… Вялікая… Усёразумеючае гарадзенскае Сэрца… Ты сапраўды нагадваеш зорку, незгасальную зорку, якая ззяе над Нёманскім краем…

***Вікторыя Смолка***



**Айцец Аляксандр (Богдан)**

**Візітовачка новага аўтара**

***Айцец Аляксандр нарадзіўся і вырас у Гродне. «У сям'і рабоча-сялянскага паходжання», — як сам піша. Свядома паверыў у Бога ў дзесяць гадоў. «У школе ўсе гаварылі, што мне трэба быць святаром. Толькі я баяўся. Ці захоча Бог бачыць мяне Сваім служыцелем?» Планаваў стаць інжынерам, але Бог павярнуў інакш. Пасля другога курса тэхнікума паступіў у семінарыю. «Цяпер служу ў Ваўкавыску ў Свята-Петра-Паўлаўскім кафедральным саборы другім свяшчэннікам». Жанаты. Гадуе дзвюх дачок.***

# Магія царкоўнай свечкі

Цяжка ўявіць праваслаўны храм, дзе не запальваюцца свечкі, нягледзячы на тое, што існуе электрычнае асвятленне. Мігценне агеньчыкаў служыць прыемным дапаўненнем да нашых малітваў, яно можа выклікаць у душы замілаванне і іншыя радасныя пачуцці. Аднак людзі вельмі часта прыпісваюць царкоўным свечкам акультна-магічны сэнс. І якіх толькі забабонаў вакол іх не напрыдумляюць!

Самы распаўсюджаны — паставіць свечку на «канун» (спецыяльны падсвечнік, на які звычайна ставяць свечкі за спачын) за жывога. А калі яшчэ яе зламаць, то можна ўжо святкаваць перамогу над тым, за каго яна пастаўлена, бо ён калі і не памрэ, дык захварэе нечым цяжкім. Якое ж глупства думаць, што нечыя жыццё або здароўе залежаць ад простай васковай свечкі, няхай і царкоўнай! Кожным з нас апякуецца Бог, і не стане Ён пасягаць на некага толькі таму, што за яго паставілі свечку не ў тым месцы.

Сустракаюцца і такія прымхі. Нельга, маўляў, ставіць свечку левай рукой. Некаторыя лічаць ледзь не самым страшным грахом падсмаліць свечку знізу. А яшчэ людзі часам пужаюцца, калі свечка пачынае патрэскваць. Правай ці левай рукой ставіць свечку — не мае аніякага значэння. Калі чалавек ляўша, яму, натуральна, зручней ставіць левай. Што да «падсмальвання» свечкі знізу, то гэта толькі для таго, каб яна стаяла больш трывала ў ячэйцы падсвечніка. Пры вырабе свечак выкарыстоўваюць ваду для ахалоджвання, і ў дрэнна спрасаваных месцах могуць затрымацца кропелькі, яны і выклікаюць патрэскванне.

Успамінаецца адзін выпадак. Калі быў яшчэ школьнікам і стаяў у храме на ўсяночнай, я ўбачыў, як да цэнтральнага падсвечніка падышла жанчына і паставіла некалькі свечак. Калі яны пачалі дагараць, дзяжурныя бабулькі, натуральна, вырашылі патушыць іх, каб дастаць агаркі з ячэек. Калі не зрабіць гэта своечасова, то пасля даводзіцца выкалупваць. Жанчына ўсімі сродкамі імкнулася схаваць свае свечкі ад бабульчыных «дзьмухаў», а калі які агарак патухаў, яна яго тут жа запальвала. Бабулькі

аказаліся не «жалезнымі», рупіцца не сталі. Тады ў справу ўмяшаўся дыякан, які з аднаго разу ўсё патушыў. Настаяцель паклікаў да сябе тую жанчыну і загаварыў з ёю. Як і меркавалася, нейкая лекарка параіла ёй спаліць у храме свечкі цалкам, і наіўная жанчына адразу пабегла ў храм.

Царкоўныя свечкі даволі часта ўжываюцца ў рытуалах розных акультыстаў, але гэта кашчунства. Падчас гэтай дзеі нават царкоўныя малітвы чытаюцца адначасова з загаворамі.

Царква заўсёды асцерагала людзей ад прыслужнікаў сатаны, і заўсёды папярэджвае, што наяўнасць у экстрасэнса царкоўнай свечкі ці нейкага іншага царкоўнага прадмета не сведчыць пра тое, што чалавек гэты — праваслаўны хрысціянін і дзейнічае з Божага блаславення. Хоць, калі што баліць, амаль кожны гатовы ісці да каго заўгодна, каб толькі вылечыцца. Прычым, пажадана, каб найхутчэй. Атрымліваецца, і Богу свечку, і чорту качаргу. Ну што ж, Гасподзь даў кожнаму вольную волю, і кожны выбірае сам — звяртацца па дапамогу да сатаны, вылечваючы цела, але наносячы шкоду душы, ці паслухмяна і з надзеяй на дапамогу Бога несці свой крыж.

Тут апісаны далёка не ўсе забабоны і прымхі. Але каб не ўзнікала лішняй зацікаўленасці да іх, давайце лепш успомнім пра сапраўднае прызначэнне царкоўных свечак. «Огонь горящих... свечей и лампад, как и само кадило с горячими углями и благовонным фимиамом служат для нас образом огня духовного — Духа Святаго, сшедшаго в огненных языках на апостолов, попаляющего греховные наши скверны, просвещающего умы и сердца наши, воспламеняющего души наши пламенем любви к Богу и друг к другу: огонь пред святыми иконами напоминает нам о пламенной любви святых к Богу, из-за которой они возненавидели мир и все его прелести, всякую неправду; напоминает нам и о том, что мы должны служить Богу, молиться Богу пламенным духом, чего у нас большею частью и нет, ибо имеем охладевшие сердца. Так в храме все поучительно и нет ничего праздного, ненужного», — павучае святы праведны Іаан Кранштацкі.



**Іераманах Агапій (Голуб)**

# Крыўды

Яны займаюць немалое месца ў прытулку пачуццяў. Бываюць вялікімі і маленькімі, такімі, якія хутка мінаюць, і такімі, якія вядуць да злапамятлівасці. Але ўсе да адной крыўды пакідаюць у душах негатыўны адбітак. Прычым не толькі мае крыўды, але і крыўды на мяне. Хто не ведае пачуцця віны перад чалавекам, якога пакрыўдзіў? І злосці на яго ў адказ, у якасці абарончай рэакцыі. Пры гэтым, напэўна, амаль што ўсе, незалежна ад рэлігійнасці, разумеюць, што крыўды — гэта дрэнна, што яны разбураюць нас. Аднак жа крыўды такія ўедлівыя, настолькі ўмешваюцца ў эмацыянальны свет, што часта лягчэй праглынуць іх, чым пазбавіцца пасапраўднаму. Але праглынутыя, яны разбураюць нас не менш, чым калі мы перажываем іх свядома. Як вернік, я ведаю, што крыўдаваць і асуджаць — грэшна, і з крыўдай іду на споведзь: «Каюсь, постараюсь не повторять грехов сих…» Ага, як жа!

Яшчэ як паўтару! З-за такіх «зрываў» узмацняецца пачуццё віны: я дрэнны хрысціянін, калі так лёгка завалодваюць мною гэтыя (як і іншыя) страсці. Ад пачуцця віны ў душы з'яўляецца маркота, якая можа стаць неадчувальнай. Мне ўжо цяжка пасапраўднаму, шчыра павярнуцца тварам да Бога і сказаць: «Даруй». Бо я ж ужо ведаю, што за гэтым «даруй» — усё паўторыцца. Канечне, фармальна я працягваю маліцца, спавядацца — але на глыбіні я перад Богам не адкрыты і не магу ўзняць вочы і паглядзець у Яго Твар. У свядомасці сядзіць упэўненасць, што мае малітвы не маюць перад Ім сілы. А калі я сам не веру ў магчымасць нармальнай малітвы, у адкрытыя стасункі з Выратавальнікам, то малітва жывою не будзе. За стратай шчырасці ў малітве нараджаецца недавер да Бога: «Не чуе, значыць, не дапаможа». І за знешнім фасадам прыстойнасці ўва мне амаль не застаецца сапраўднага жывога хрысціянскага духу.

У чым памылка? Чаму таямніца споведзі і прычашчэнне не ратуюць ад крыўды?

Прычына простая. Практыка споведзі паказала, што мы можам шчыра шкадаваць аб сваіх грахах, але рэдка імкнёмся знайсці корань страсці, прааналізаваць, як яна ўзнікае і чаму захоплівае. Натуральна, не вядзецца і праца па яе выкараненні. Але ж споведзь — не цудадзейная пігулка. Мы ведаем тэрмін «сінергія» — садзеянне: волі чалавека і Божай благадаці. Гэта ж *мая* страсць, і гэта *мая* задача — працаваць над яе выкараненнем. І Гасподзь дапаможа, і ўвянчае маю працу. Але мяняць мяне без мяне, «праграмаваць» на адсутнасць страсцей і дабрадайнасць — не будзе.

Што ж можам мы зрабіць, каб вызваліцца ад крыўды?

Гатовых рэцэптаў я не маю. Але ў мяне ёсць уласны досвед працы над сабой і досвед тых, хто побач. Няхай не заўсёды ўдалы — але досвед. Магчыма, ён акажацца карысным.

Гэты досвед можна ўмоўна ўявіць так:

- Чэсна прыняць наяўнасць крыўды, а не падманваць сябе чарговы раз, што гэта ўжо будзе апошні;
- Захацець пазбавіцца крыўды па-сапраўднаму;
- Знайсці карані, прычыны, выявіць, ці не нясуць яны акрамя відавочнай разбуральнасці яшчэ і таго, што ў псіхалогіі завецца «другаснай выгадай» (з ёю, калі яна ёсць, разбірацца трэба асобна). Такі самааналіз вядзецца праз прапісванне ў сшытак. Вельмі добра рэгулярна весці дзённік пачуццяў;
- Падчас і пасля прапісвання — прамаліць людзей і сітуацыі, з якімі звязаны крыўды;
- Пераадолець падманлівы сорам і самалюбства і адкрыць сябе, свой стан групе такіх самых людзей, якія жадаюць пазбавіцца ад сваіх грахоў і страсцей [*«Признавайтесь друг пред другом в проступках и молитесь друг за друга, чтобы исцелиться» (Иак. 5,16)*];
- На завяршэнне, як пячатка — таямніца споведзі. Толькі не «канвеернай», у нядзельным патоку. Знайсці ўважлівага і чулага святара, які зможа прыняць гэтую падрабязную споведзь. Добра, калі ў яго самога ёсць досвед такой вось працы над сабой.

Спынюся падрабязна на трэцім пункце. Дакладнае разуменне прычын і механізмаў развіцця страсці — ключ да працы над ёй.

Успомніце некалькі крыўдаў, зробленых вам або вамі. Што ў гэтых выпадках агульнае? Я бачу наступныя пабуджальныя прычыны, з-за якіх крыўдую я або на мяне крыўдуюць.

Уявіце такую сітуацыю ў працоўным калектыве, калі Васіль просіць Пятровіча «выручыць»:

— Слухай, Пятровіч, выручай, замяні мяне на змене. Ды зразумей ты — радня здалёк прыехала, рэдка бачымся. Ну, хіба ж я табе калі ў чым адмаўляў? *(Праўда, Пятровіч па сваёй сціпласці ніколі ні пра што Васіля не прасіў, але цяпер, пры такой эмацыянальнай атацы — хіба пра што скажаш? Няёмка, пакрыўдзіцца можа).* Ну, трэба мне, пазарэз, ды ў нас у калектыве, сам ведаеш, няма да каго больш звярнуцца — усе дзелавыя-занятыя. Паспрабуй да іх падысці! *(Тут адбываецца падыгрыванне самаацэнцы Пятровіча)* Ну, ты ж знойдзеш час, іншым разам з сынам у аквапарк сходзіш, ён жа не закрываецца, а сваяк мой толькі раз на год прыехаць можа. Ды няўжо ж ты не разумееш?

І Пятровіч заўважае ў Васіля ў голасе крыўду. А ў Пятровіча даўно склалася ўнутраная ўстаноўка, што ён *павінен* быць харошым і карысным, што з-за яго ніхто не павінен пакутаваць. У яго ўзнікае пачуццё віны перад Васілём, якое прымушае адкласці паход з сынам у аквапарк. Ужо другі раз адкласці. Ход думкі прыкладна такі: «А як я потым буду з Васілём сустракацца, калі ён на мяне пакрыўдзіцца? Я ж вінаваты буду, што не дапамог». Пачуццё віны

перад сынам ён пастараецца выкупіць, у прамым сэнсе слова, — падарункам або дадатковымі фінансамі на «кішэнныя расходы». Быццам гэта можа замяніць жывыя стасункі…

Калі я саступаю такім вось маніпуляцыям, бяда хаваецца ў тым, што я «ахвярую» сваім часам і сваімі патрэбамі вымушана, а не добраахвотна. І быццам не парушаю хрысціянскія нормы маралі, але ўнутры ў мяне будуць злосць, стомленасць і маркота — ад таго, што ўласныя планы парушаны. Плады відавочна не евангельскія. Бо тут не ахвярнасць, а чалавекаўгодніцтва — ад жадання мець маску чулага таварыша і хрысціяніна. Да таго ж, сапраўднай неабходнасці ў такой «выручцы» звычайна няма. І маніпулятар не перажывае сапраўдную крыўду, а толькі яе імітуе. Але ж людзі кшталту Пятровіча, не ўмеюць распазнаць такія «тонкасці».

Значыцца, ***крыўда — гэта адзін са спосабаў выклікаць пачуццё віны з мэтай прымусіць мяне здзейсніць нейкае дзеянне, патрэбнае майму суразмоўцу.*** *То бок, крыўда — гэта сродак маніпуляцыі.* Яна падзейнічае не на кожнага. Але ёсць людзі, схільныя да сузалежнасці, вартыя ролі ахвяры. Да іх часцей і прыліпаюць крыўды.

Ці трэба гаварыць, што такія «крыўды» не сумяшчальныя з хрысціянскім званнем? Яны — праявы простага, непрыкрытага эгаізму, і праца з імі можа весціся па стандартных законах аскетыкі.

Другая прычына крыўды — павышаныя патрабаванні або неадпаведнасць маіх чаканняў жаданням і магчымасцям іншага. Гэта значыць, крыўда ўзнікае, калі я чакаю ад чалавека тое, што ён не можа або не хоча мне даць. Нярэдкі выпадак: дзіця/падлетак чакае ад бацькоў цеплыні, любові, увагі, цікавасці да ўнутранага свету — і не атрымлівае. Бацькі да яго халодныя, забяспечваюць толькі фізічныя патрэбы — у ежы і прадметах для вучобы, і нават могуць «зрывацца» на ім. Не атрымаўшы самае важнае, што трэба было атрымаць, калі ішла закладка духоўна-псіхалагічнага патэнцыялу — безумоўнай любові, — гэты чалавечак усё жыццё можа пражыць з ненатоленым эмацыянальным голадам. І з крыўдаю на бацькоў. Часта яна падаўляецца, але гэта вядзе да ўзмацнення ўнутранага дысбалансу. Непрапрацаваная крыўда можа прывесці

> І Гасподзь дапаможа, і ўвянчае маю працу. Але мяняць мяне без мяне, «праграмаваць» на адсутнасць страсцей і дабрадайнасць — не будзе

да таго, што гэты чалавек і сам не будзе здольны да пабудовы цёплых сямейных адносін. Ён не быў насычаны любоўю — сасуд любові не быў сфарміраваны, і цяпер яму няма чаго даць уласнай сям'і. Але справа ў тым, што яго з дзяцінства працягнутая крыўда заснавана на патрабаваннях, якім яго бацькі не здольныя былі адпавядаць, — бо самі выраслі ў такой сям'і. Бацькі саміх бацькоў маглі быць алкаголікамі, або здраджваць адно аднаму, або проста кінуць адно аднаго, развесціся. А ў маці гэтых бацькоў усе сілы ішлі на рашэнне праблем, кантроль, істэрыкі, такія ж крыўды, на працу (каб сям'ю пракарміць), на ролю служанкі ў сваёй сям'і і г. д. І рэсурсу на дзяцей не заставалася. Дзіця/падлетак наўрад ці можа прыняць паведамленне, што яго крыўды «не па адрасе» — яму ж не лягчэй ад таго, што ён будзе ведаць прычыну халоднасці да яго. Але на дарослым этапе жыцця свайго — можа! І, узяўшы на сябе адказнасць за сваё духоўнае і эмацыянальнае развіццё, можа не толькі па-сапраўднаму дараваць бацькам, але і перапыніць перадачу эстафеты дысфункцый, навучыўшыся прымаць і даваць любоў, а перад тым — адрозніваць сапраўдную любоў ад сурагатаў тыпу любоўнай залежнасці.

Можа быць і іншая крыўда — на чалавека, які падвёў вас у важнай справе, калі вы прымалі яго за сябра. Памылка тут у тым, што вы не ведалі ўзроўню яго эмацыянальнага развіцця. Магчыма, ён здольны сябраваць і дапамагаць, калі ўсё добра, але пры небяспецы ў яго спрацоўвае інстынкт уласнага захавання, і ён «адыходзіць убок». Гэта яго асаблівасць. Чаму ён такі, мы не ведаем. Можна дапусціць, што ён некалі перажыў сітуацыю, калі яго пакінулі сам-насам з небяспекай, і з той пары «ратаванне ўцёкамі» спрацоўвае на падсвядомым узроўні. Мо ёсць і іншыя прычыны — гэта не прынцыпова. Важна тое, што крыўда *на яго* ўзнікла з *нашых* праекцый на яго *нашых жа* ўяўленняў

пра маральнасць і сяброўства. Вось толькі мы забыліся пацікавіцца, ці супадаюць яны з *яго* поглядамі на жыццё, маральнасць і сяброўства. Тое ж і ў адносінах да крыўды на начальніка на працы, да настаяцеля ў саборы з боку штатнага святара… *Мы мераем іх сваімі меркамі, у той час як яны маюць свае. Яны такія, якія ёсць, — і не абавязаны адпавядаць нашым чаканням і спадзяванням.* ***Наша ж задача — усталяваць у стасунках з імі, наколькі магчыма, такія межы, якія дапамогуць максімальна паменшыць небяспеку сутыкнення жаданага з рэальнасцю.*** І, безумоўна, вучыцца пазбягаць ацэначнага меркавання пра асоб, якіх мы сустракаем у жыцці.

Яшчэ прыклад. У маім кабінеце ў «скарбонцы» захоўвалася значная для мяне колькасць грошай. Ключ ад кабінета маюць толькі некалькі давераных асоб. Адна з такіх асоб — алкаголік на стадыі выздараўлення. Аднаго разу ён «пазычыў» гэтыя грошы. Пасля вярнуў, нават з «працэнтамі». Мог і не вярнуць. Ці быў бы ў мяне сэнс крыўдаваць на яго? Я ж ведаю, што ён алкаголік, і значыць, ён можа «сарвацца» нават пасля доўгіх гадоў цвярозасці. І калі я пакідаю грошы даступнымі для яго, значыць, я гатовы імі рызыкнуць, але праявіць давер да яго работы над цвярозасцю. Калі мой давер не апраўдаўся, хвароба перамагла — хіба я не ведаў пра такую верагоднасць? Давер — гэта быў мой выбар, і ён для мяне быў больш важным, чым тыя грошы. А калі б тыя грошы былі для мяне важней, дык навошта мне іх пакідаць там? Тут праявілася б мая неразумнасць. І замест таго, каб «накручваць» крыўду, нашмат больш карысна прапрацаваць сітуацыю, здабыць з яе на будучыню каштоўны ўрок.

Значыцца, я прапісваю сітуацыю, знаходжу прычыны крыўды. З часам, калі навык рэфлексіі разаўецца, я навучуся хутка адсочваць узнікненне крыўдлівых пачуццяў і іх карані — і працаваць з імі.

Далей важна ў іх не замкнуцца. Вось зноў прыклад. Я, захапіўшыся працай за ноўтам, не прыбраў своечасова алтар. Адказны за «выманне» прасфор — а іх перад нядзеляй поўныя карзіны — тэлефануе мне і вельмі эмацыянальна выгаворвае за пыл на алтары: як жа на ім прасфоры раскладваць? Першая мая рэакцыя — крыўда: у мяне ж пяць паслухаў! Як жа я магу ўсё паспяваць?! Ды няўжо ён не разумее, што я перагружаны?!

Але праз колькі секунд я пачынаю разумець, што проста ўключаю колішнюю падлеткавую «абарону» — з мэтай не прыняць адказнасць за свае дзеянні.

Сапраўды, я мог своечасова выканаць свае алтарныя абавязкі, але захапіўся «творчасцю». То бок, з некалькіх паслухаў выбраў тое, што мне падабаецца, але «не гарыць», а ў алтар ісці — паленаваўся. І прызнацца самому сабе, што зрабіў не вельмі адказны выбар, — не хочацца. І таму ўключаю, на ўзроўні рэфлексу, крыўду, якая вядзе да самашкадавання, а гэта мая другасная выгода. Праз крыўду і самашкадаванне я сам сябе бачу перагружаным паслухамі, якія ўзваліла на мяне начальства, нават не пацікавіўшыся, ці «пацягну». Гэта тупіковая пазіцыя, выгадная тым, што нічога не трэба мяняць. Пры маёй схільнасці да ляноты — вельмі выгадная. Вінаваты ж заўсёды не я. Жонкі, суседзі, цешчы, прэзідэнты… Супраць мяне сусветная змова, мяне не разумеюць і не любяць, не лічацца з маімі інтарэсамі і патрэбамі. Я нікому не патрэбны. І ўвогуле, нарадзіўся пад дрэнным знакам Задыяка. Вечна са мной нейкія праблемы, вечна ў мяне нічога толкам не атрымліваецца. Навошта я такі нарадзіўся?! Лепш бы памерці! Карацей, я ператвараюся ў хлопчыка, які са сваімі крыўдамі збягае на гарышча і будзе там сядзець і ганарыста плакаць, таемна спадзеючыся, што яго пашкадуюць, пагладзяць, папросяць у яго прабачэння, пастараюцца «кампенсаваць» шкоду — а ён яшчэ падумае, ці варта яму прабачаць «крыўдзіцеляў».

Толькі цяпер мне такая пазіцыя не пасуе. У ёй душна. Яна вядзе да няўмення быць шчаслівым. Што я зрабіў у гэтай сітуацыі? Як толькі заўважыў у сабе гэтую крыўдлівую ўнутраную рэакцыю, проста весела ўсміхнуўся і пасмяяўся над тым, што імкнецца ўзяць верх нада мной. А ў трубку (пачакаўшы, пакуль на тым баку выкажуць усе эмоцыі) сказаў наколькі магчыма шчыра: «Даруйце, я сапраўды не выканаў свой абавязак — забавіўся іншай справай». І крыўда з сябрам самашкадаваннем — расталі. А на бліжэйшым нашым занятку па духоўна-асобасным росце я з гумарам падзяліўся тым, як мая хворая частка імкнулася зноў мяне «спакусіць», і што ўсмешка над сабой, як аказалася, з'яўляецца моцным супраць яе сродкам.

**Ніна Лістота**

# Пагавары са мной, памаўчы

Чайкі згаладнела гойсалі над разгарачаным асфальтам. У скронях пульсавала кроў. Ехаць далей здавалася немагчымым...

Ілона спыніла свой «Шэўрале» на ўзбочыне, уключыла аварыйку. Выйшла з машыны і проста села на капот. У роспачы апусціла рукі. Сцягнула з валасоў тугую стужку — і цёмна-русыя пасмы хваляй упалі на плечы. Хацела заплакаць, ды слёз не было — выплакала ўжо, да трох гадзін ночы не могучы заснуць, шчодра паліваючы імі падушку. Бяздонныя вочы сталі пустымі.

***

Ілона тры разы была цяжарнай і тры разы страчвала дзіця. Пасля кожнага рыдала няўцешна. Спрабавала хаваць свой боль, ніяк не выдаваць яго, але не надта атрымлівалася.

Губляючы малога, яна быццам страчвала нерэалізаваны кавалак сябе — тое, што больш не здолее спраўдзіць. Унутры заставалася толькі пустата.

Новая цяжарнасць запальвала надзею, а пасля яшчэ больш апякала стратай. «За што?» — пыталася яна ў сябе. «За што?» — крычала ў неба. Але з мужам старалася гэта не абмяркоўваць. Навошта? Яму таксама балюча.

Боль нарастаў, бы снежны камяк. Ілона прывыкла несці яго адна, рабіць выгляд, што самая моцная і ёй не трэба літасцівае шкадаванне.

Часам яна хацела паплакаць на плячы ў мужа, пабыць з ім не толькі ў шчасці, але і ў горы. Аднак акурат у такія моманты ён аказваўся заняты: тэлефанавалі з працы або нейкія іншыя справы здараліся. Калі муж вызваляўся, яна ўжо не наважвалася загаварыць шчыра. «Іншым разам», — заўсёды думала яна.

Часам яе абурала тое, што ён сам не здагадваецца задаць якое-небудзь пытанне, даведацца, што яна адчувае? У такія моманты сама сабе называла яго таўстаскурым.

Ілоне не падабалася, што цяпер яны так мала кудысьці хадзілі разам. Тэатры, кавярні, рэстарацыі — усё гэта быццам засталося там, у іншым свеце першага года іх спатканняў. А пасля заключэння шлюбу стала нармальным большасць суботніх вечароў праводзіць дома. Быццам усё, што было раней, — толькі пыл у вочы. А цяпер ён настолькі прызвычаіўся, што не імкнецца здзівіць. Часам здавалася, што муж больш не кахае. І толькі калі засынала ў яго моцных абдымках, назойлівыя думкі адступалі.

Калі страціла трэцяе дзіця, боль стаў перарастаць у гнеў. Яе пачало раздражняць усё — ад паважнай паходкі мужа да невыносна роўнага выразу яго твару. Чаму ён такі спакойны?! Быццам нічога не здарылася!

Аднойчы, калі яна ўбачыла, што брудная кашуля зноў ляжыць разам з чыстай бялізнай, не змагла больш трываць. Яна ж прасіла класці ў перадапошнюю шуфляду камоды, а не ў шафу! Яна прасіла!

«Ты што, ідыёт, не можаш запомніць, куды трэба класці брудную кашулю?..» — з гэтай рэплікі пачаўся яе напорысты маналог. Лавіна, што збіралася дзень за днём, год за годам, не вытрымала і пачала абвальвацца, зносячы тое, што траплялася на яе шляху.

Ілона прыгадала мужу ўсё — і ўкрадзены па яго недаглядзе ровар, і не прыгатаваную да прыходу сяброў вячэру, і тое, як ён не паспеў на прэзентацыю, дзе яна выступала. Не шкадавала ні крыку, ні нерваў. А напрыканцы свайго эмацыянальнага спічу выпаліла: «Гэта ты вінаваты, што мы згубілі апошняе дзіця! Я так хацела паехаць на мора, мне вельмі патрэбны быў той адпачынак. Аднак у цябе, як заўсёды, работа. Ты вечна заняты, каб паклапаціцца пра мяне. Таму я і не змагла вынасіць дзіця. Гэта ты вінаваты. Ты забіў яго!.. »

Яна сумелася і паглядзела на мужа. Яго твар стаў белым, бы палатно. «Мусіць, хватанула лішку», — падумала пра сябе.

«Ты ўсё сказала? »— ціха запытаўся ён.

І сышоў, не ўзяўшы ніякіх рэчаў. Больш не вяртаўся.

Праз год патэлефанаваў і сказаў, што хоча падзяліць кватэру.

***

…Валяр'ян пакахаў будучую жонку літаральна з першага позірку. Убачыў яе на адной з культурніцкіх імпрэзаў, куды абодва любілі завітваць. Стройная, невялічкая, сімпатычная. Яна так міла смяялася, але пры гэтым заўсёды мела ўласнае меркаванне на любую тэму.

Убачыліся яшчэ колькі разоў на нейкіх імпрэзах і пачалі сябраваць. Ён вадзіў яе на лепшыя спектаклі, здабываў квіткі на рэдкія канцэрты, адзінкавыя кінапрагляды — усё, каб здзівіць сваю прыгожанькую інтэлектуалку. І яна была не супраць такой увагі.

Праз год спатканняў вырашана было ажаніцца. На вяселле прыйшлі лепшыя сябры-студэнты — з гітарамі, імправізаванымі сцэнкамі, трапнымі жартамі. Атрымалася надзвычай весела, пасля яшчэ доўга ўспаміналі гэты дзень.

Ён вельмі моцна кахаў маладую жонку. Ілоначка адказвала тым жа. Першыя тры гады сямейнага жыцця яны цешыліся адно адным. Валяр'ян быў шчаслівы ад таго, што знайшоў чалавека, з якім хацеў быць да канца, заваяваў прынцэсу і злучыў з ёй сваё жыццё. Яна адказвала тым жа, цвіла побач з ім, як свежая ружа.

Усё пачало мяняцца тады, калі Ілона першы раз страціла дзіця. Звычайна досыць гаваркая, яна стала больш маўчаць. Валяр'ян усімі сіламі імкнуўся яе падтрымаць, аднак бачыў, што жонцы ўсё адно цяжка. Яму і самому было няпроста, аднак неяк жа трэба жыць далей.

Калі Ілона другі раз страціла дзіця, гэта быў яшчэ мацнейшы ўдар. Так, яго жонка мужная, умее спраўляцца з болем, аднак нешта ўнутры яе быццам надтрэснула.

Валяр'ян спрабаваў пагутарыць з ёй шчыра. Аднак на любыя словы пра немаўлятка яна адказвала маўчаннем. Давала зразумець, каб лепш не кранаў гэту тэму. Яны ўвогуле перасталі абмяркоўваць тое, што адбываецца паміж імі, свае праблемы — гаварылі толькі пра работу і розную драбязу — крамы, надвор'е, прэзентацыі.

Ён убачыў, што паміж імі быццам з'явілася нейкая адлегласць, сцяна — з неагучаных прэтэнзій, неразабраных пытанняў. Валяр'ян спрабаваў навесці масты паразумення і даверу, аднак Ілонка звычайна адказвала дзяжурнымі фразамі і сыходзіла ад шчырай размовы.

Валяр'яну перыядычна даводзілася затрымлівацца на рабоце, а Ілону часта пасылалі ў камандзіроўкі на некалькі дзён — неяк зусім не ставала часу, каб абмеркаваць, куды можна схадзіць разам. Муж не быў упэўнены, што каханая жадае актыўных забаў — яе работа была вельмі насычанай на розныя падзеі — пэўна, Ілоне больш даспадобы расслабіцца дома. Ён не хацеў лішні раз прымушаць яе выходзіць у вялікі свет з утульнага сямейнага гнязда.

Трагедыя здарылася і трэці раз. Цяпер Ілона нават не плакала. Проста хадзіла моўчкі. На яго пытанні адказвала спакойна, аднак у гэтым чуліся нечаканыя ноткі злосці.

Прайшло пару тыдняў, і аднойчы яе прарвала, нібы тую плаціну. На Валяр'яна градам пасыпаліся абвінавачванні. Тое, пра што ён нават не здагадваўся ніколі…

Прыгатаваць хоць раз вячэру?.. Ды яму гэта было б няцяжка зусім, проста так у іх заведзена, што заўсёды гатуе яна. Усюды раскідвае свае брудныя кашулі?.. Ніколі не дорыць падарункі і кветкі проста так? Скнара, падлюга?.. Яна паўгадзіны ў самых яркіх фарбах вымалёўвала ўсё тое, у чым, аказваецца, правініўся Валяр'ян. Перад абражаным мужам нечакана пачаў вымалёўвацца ўласны партрэт, якога ён зусім не чакаў. «Аказваецца, яна мяне ненавідзіць. А я і не ведаў», — губляючы ўсякую глебу пад нагамі, падумаў ён.

Апошнія словы жонкі выбухнулі, нібы ўдар шаравой маланкі. Гэта ён вінаваты ў тым, што яны страцілі іх доўгачаканую дачушку…

«Больш не буду ёй атручваць жыццё сваёй прысутнасцю», — падумаў ён і выйшаў за дзверы кватэры.

***

Ілона сядзела на капоце свайго «Шэўрале» і разглядвала шумных чаек, што гойсалі над разгарачаным асфальтам: «Вось недарэкі! І што вам замінае жыць спакойна?..»